


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**8** (1042)

*ЖНІВЕНЬ*

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2016

# ЗМЕСТ



## Казімір КАМЕЙША

# ПАМІЖ КУБКАМ І ВУСНАМІ

*Лірычныя мініяцюры*

* * *

Цяперашнія раённыя вакзалы мала падобныя на тыя, што былі ў часы маёй маладосці. Нейкія яны занадта ціхія, малалюдныя, нават сумныя. Гэтак падумалася і зараз, калі сышоў са стаўбцоўскай электрычкі і апынуўся на аўтавакзале, адразу за чыгункай. Нехта з маіх землякоў-вяскоўцаў перад самай гэтай дарогай пераконваў мяне, што дабрацца да вёскі цяпер не так і складана, але трэба ехаць туды ў аўторак ці чацвер. У два гэтыя дні аўтобусы ходзяць да Вялікіх Навікоў. Я ехаў у аўторак. Вясёлая касірка мяне крыху засмуціла. Калі я папрасіў квіток да Навікоў (гэта, вядома ж, былі Навікі Вялікія, адкуль мне яшчэ тэпаць добрыя дзве вярсты да маіх Малых), яна, пералічваючы грошы, адразу папярэдзіла, што квіток яна дасць толькі да Рубяжэвіч.

— А як жа я дабяруся да Навікоў? — паглядзеў я разгублена ў яе вочы.

— А там, калі добра папросіце шафёра, ён вас дамчыць і да вашых Навікоў.

Я трывожліва паглядзеў на сваю цяжэзную сумку. Беручы рэшту, заўважыў, што квіток мой занадта дарагі для маёй дарогі. За такі кошт і да Мінска можна даехаць з тых жа Рубяжэвіч. Можна было б дабірацца да роднай хаты і іншым маршрутам, праз Гуменаўшчыну. Кошт квітка там ледзь не напалову таннейшы. Але ж ад Гуменаўшчыны шлях майго пешага падарожжа расцягнецца на цэлых шэсць вёрст. Ды і аўтобуса трэба чакаць добрыя тры гадзіны.

---

***Камейша Казімір Вікенцьевіч*** *нарадзіўся 4 снежня 1943 года ў вёсцы Малыя Навінкі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў у раённых газетах, на Беларускім радыё, у часопісах «Вясёлка», «Маладосць», «Полымя», «Вожык».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Восеньскія позвы» (1969), «Мембрана» (1972), «Нектар» (1974), «Тут мае вёсны прычалены» (1977), «Сябрына» (1978), «Плёс» (1982), «Галоўная вярста» (1985), «Пярэймы дня» (1988), «Кубак блакіту» (1993), «Лінія лёсу» (1996) і інш., кніг для дзяцей «Гаёўка» (1975), «Буслянка» (1985), «Дзятлава кузня» (1987), «Добры дзень, шафёр» (1988), «Крыгагром» (2001), кнігі прозы «Духмянае дзіва» (1984), «Паміж кубкам і вуснамі» (2010), «Ад Кромані да Свіцязі» (2013).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1989).*

А тут неўзабаве аб’явяць пасадку. Зноў я сумна паглядзеў на сваю дарожную сумку, а потым на гадзіннік, ды і падаўся за дзверы чакаць аўтобуса.

Можна было б і не ехаць у гэтыя перадкалядныя, да сумнага дажджлівыя дні, але ж там мяне чакаюць, не адна, а дзве жывыя душы, сабачкі Жучка і Бялянка. Ад’язджаючы ў горад, я пакінуў іх пад прыглядам майго суседа Лявона. Вось я і вязу ім зараз перадкалядны гасцінец правіянту. Невялікі аўтобусік колеру позняга лістапада хоць быў і непрыкметным знешне, але ўнутры меў усе адзнакі сучаснасці. Хай сабе і не надта мяккае сядзенне, але даволі глумная музыка, хоць і завешаны нечым жоўтым вокны, але скрозь папераджальныя надпісы: «Вядзецца відыёназіранне!» Пашукаў вачыма, адкуль жа яно вядзецца. Нейкія два шкляныя вокі заўважыў. Хай сабе глядзяць-цікуюць, падумаў я, а сам шырэй адхінуў тыя занавескі на акне і пачаў углядацца ва ўсё тое, што мы міналі, пакінуўшы Стоўбцы. Неўзабаве перасеклі старую мінскую асфальтоўку і павярнулі направа, пабеглі івянецкім напрамкам. Недзе за Ячонкай, высадзіўшы на прыпынку якогасьці мужчыну, аўтобус зноў павярнуў направа і пачаў нібыта куляцца, то рэзка ўздымаючыся на нейкую горку, то лёгка падаючы ў лагчыну. Пачалі ўзнікаць і знікаць за акном маленькія і большыя вёскі, падобныя і непадобныя на мае Малыя Навікі. На старых, недзе падноўленых сайдзінгам хатах, неяк нязвыкла тапырыліся талеркі спутнікавых тэлеантэн. Старое было падноўлена гаражамі ды цяпліцамі пры самай вуліцы. Прабягалі хмызнячкі, невялікія кудзеркі. Голыя, бязлістыя дрэвы адкрывалі вачам нейкія стыхійныя запушчаныя сметнікі, кучы ламачча. Траплялiся на шляху і старыя вясковыя могільнікі, абгароджаныя цяжкаватымі цэментовымі платамі, праз якія праглядваліся старыя і новыя помнікі, падсвечаныя яшчэ не выцвілымі вянкамі ды кветкамі. Аўтобус, як тут кажуць, кланяўся кожнаму прыпынку, але і спыняўся, калі нехта яго прасіў са старэйшых, каля нейкіх веснічак, дзе яго сустракалі ў наспех накінутых апратках родныя. Мы міналі і пакідалі за сабою вельмі падобныя адна на адну вёскі, хіба што назвы ў іх былі розныя, мне незнаёмыя. Варнавугал, Татаршчына… І раптам за горкай — Камейшы. Хацелася ў крэсле нават падскочыць. Цяпер можна будзе і жартаваць: «Маім прозвішчам ужо зараз, пры жыцці, назвалі вёску. У многіх вунь і вуліцы няма з іхнімі імёнамі». У Камейшах было сумна і ціха, як і на душы ў самога Камейшы. Ніхто з пасажыраў у гэтай вёсцы не выйшаў, не спыніўся тут і аўтобус. Былі яшчэ на тым шляху Зуі, Вараксы, рэчка Перакуль. Вось за мастком праз яе мы і выскачылі ў Рубяжэвічы. Я глянуў на гадзіннік. Аўтобусныя колы накруцілі нам больш як гадзіну сапраўды экскурсійнага шляху. Бо ў памяці і вачах адразу ж адкладваліся нейкія ўражанні. Нават гаворка пасажыраў, хоць яе крыху глушыла музыка з дынамікаў, цешыла мяне нейкімі незвычайнымі навінамі, нават прыгодамі мясцовага характару. Кожны па слове — і адразу такое вымалёўваецца ў тваіх вачах, што і самому карціць уставіць нейкае слова. Так заўсёды бывае, калі людзі збіраюцца ў адзін гурт, хай сабе і не ведаюць адзін аднаго. Дарога не здоўжылася, хоць па часе і зацягнулася. А настрой у мяне сапраўды экскурсійны.

У Рубяжэвічах аўтобус пакінулі апошнія пасажыры, а я, не спадзеючыся на лепшае, застаўся на сваім месцы. Шафёр з ненадта жвавым тварам сумна змераў мяне працяжным позіркам, але нічога не сказаў, затое выклаў я сваю просьбу, якая вярцелася ў мяне на самым языку ад самых Стоўбцаў:

— Мне б да Навікоў, і пажадана — да Малых. — І ён тут жа зачыніў дзверы, і мы паехалі ў напрамку магазіна. Ён нават не выключаў музыкі, і ўзяўшы пад паху сваю барсетку з грашыма, падаўся ў магазін. Адтуль неўзабаве выйшаў з боханам хлеба і яшчэ нейкімі прысмакамі ў пакеце. Калі сеў на

сваё кіроўчае месца, усё гэта распакаваў у нейкую сумку, і мы зноў паехалі. Усё гэта рабілася моўчкі. А напружанне маё не спадала, увесь гэты час я чакаў нечага горшага. А горшае азначала, што мне давядзецца з цяжкой сумкай тупаць пешшу цэлых дзесяць кіламетраў — гэткая адлегласць аддзяляла мяне зараз ад дому. Але вось на скрыжаванні аўтобус павярнуў направа і лёгка пакаціўся з горкі ў напрамку аптэкі, і ў мяне адлягло на сэрцы: мы едзем на Навікі. А дождж неўзабаве ўзмацніўся, дворнікі не паспявалі абмываць ветравое шкло. З дажджом набраў сілы і вецер. Ён бязлітасна выкручваў галіны прыдарожным бярозам, гнуў ды ірваў іх голыя кроны. Вось табе і снежань. Праз два дні каляды. А на дварэ амаль вясна. Дурное нешта творыцца ў прыродзе. Пра гэта мне хацелася сказаць шафёру. Але ён сумнавата маўчаў, можа, перабіраў у думках нешта сваё. І я не аджважыўся перашкаджаць яму. Так моўчкі мы і дацягнулі да самай маёй хаты, яна крайняя ў вёсцы. Я ад усёй душы дзякаваў спагадліваму стаўбцоўскаму шафёру, расплаціўся з ім. Толькі цяпер, ужо весялейшым паглядам, змераў ён маю цяжкую дарожную сумку.

А ў двары мяне з віскатам ды абдымкамі сустракалі Жучка ды Бялянка. Ах, вы, ласкавыя, родныя мае!.. Скачуць, скрабуцца на грудзі ды плечы, горнуцца-сцелюцца, шчаслівыя, вільготнымі жаласлівымі вачыма заглядаюць у вочы. Доўга не магу адчыніць набрынялыя дзверы. Хуценька распакоўваю сумку і бягу да іх з гасцінцамі. Дзве ночы і два дні мы будзем разам, а пакуль бягу ў гумно па дровы. Адным бярэмем тут не абыдзешся. Хата выстыла на восеньскіх вятрах. Не распранаючыся, запальваю ў стаяку. І вось ужо заскакаў з паленца на паленца, замітусіўся, заспяваў вясёлы агонь, светлымі зайчыкамі адбіўся на твары, грудзях, потым — на сцяне. Вясковае неба адразу пацяплела яшчэ на адзін дымок… Я дома, у роднай хаце. А што гэта значыць, думаю, вы ведаеце самі!..

* * *

Мудры пушчанскі пчаляр, пачаставаўшы мяне свежым з самога ліпавага цвету мёдам і далікатна папярэдзіўшы, што гэта ўсё ж лякарства, а лякарства калі праз меру, заўсёды шкоднае, дый каб адчуць смак мёду не трэба замахвацца на бочку, дастаткова адной лыжкі, перавёў гаворку адразу на іншае:

— Нашы пчаляры так баяцца раёў. А чаго баяцца? Па раёчку, па раёчку ўцякае нехта з кожнай сям'і. Гэта і добра. Добра для тых, хто ўцякае. Няма чаго маладую сям'ю трымаць пры старой матцы. Маладая таксама будзе некалі старой…

Гэта ён пра нашае, людское. А чаму б і не прыслухацца?..

* * *

Смешным часта выглядае чалавек, які толькі што саграшыў. Ён баіцца нават дыхнуць, нібыта наеўся часнаку, цыбулі ці рэдзькі. Але ж і без гэтага бачна, што нядаўна яму было смачна.

* * *

Бяру не рыдлёўку, а толькі нейкую чарку і пачынаю капацца ў сваёй памяці. Ах, як жа мы шмат трацім! Якія важныя прафесіі зніклі з нашага жыцця!.. Давай жа ўзгадаем: камінар, тачыльшчык нажоў, чысцільшчык абутку, прадавец газіроўкі… Той жа вясковы анучнік. Ён мне асабліва дарагі. Маладым

расказваю — не вераць. А ён на добрым кані, запржаным у воз з высокімі драбінамі, упакаваны цюкамі нейкага рыззя, смярдзючых ануч ды з вялікім драўляным куфэркам пры самым перадку вандруе з вёскі ў вёску, зачыняючы ды адчыняючы вечка таго куфэрка. А там як для беднага вока дык чаго толькі няма. Шпількі, іголкі, напарсткі, нажніцы, грабяні, нажы-сцізорыкі… Няма толькі ануч, на якія ўсё гэта прадаецца… Вось так і спрадвеку: калі нечага многа — нечага заўсёды не хапае. Заўсёды трэба ведаць і не праспаць свой час. Калі ж ануч у людзей стала многа — анучнік з пушчы з’ехаў недзе далёка-далёка, у маю памяць. Так было і з усім іншым.

Зусім нядаўна знікла, нават не развіталася са мной, мая машынка-друкаванка. Колькі я паляваў, памятаю, за ёю. А яна ўсё пад нейкім прылаўкам хаваецца, гандляру ручку просіць пазалаціць, нейкага блату патрабуе. А мне, айчыннаму пісаку, без яе як без рук. Купіў урэшце. Ну, думаю, хоць адвяду душу. Праседжваў разам з ёю і дні, і ночы, набіваў мазалі, калі, не стамляючыся, лупіў па клавішах. Прыбягалі суседзі зверху, сварыліся, што не даю ім спаць, прыходзіў участковы, кляла жонка. І ўсё раптам знікла. Няма і той старой рэдакцыйнай машыніcткі, да якой я заходзіў з дрыжыкамі ў каленях. Машыністка перш чым друкаваць тэкст, уважліва перачытвала яго, чырвоным чарнілам папраўляла ўсе памылкі, і толькі пасля друкавала, але ўжо без памылак. Чырвоны колер змушаў і самога пачырванець ад сораму ў яе вачах, каб потым больш уважліва вычытваць свой тэкст. Сёння я добра разумею тую машыністку: ёй хацелася ўсім нам даказаць, што яна ў нашым творчым гурце самы галоўны чалавек. Ну, які тут грэх?! Хай бы і было так, толькі б не знікала яна, мая машыністка.

Вось зараз сяджу за сваім пісьмовым сталом і думаю. Нешта заўтра зноў павінна знікнуць, уступіць месца нечаму новаму. І мне з гэтым усім давядзецца згадзіцца. Ужо сёння памяць мая нагадвае нейкі музей старых рэчаў. А здаецца, і мала пражыта. Чым больш у музеі тым старых рэчаў, тым больш і пражыта…

* * *

Чалавек, кажуць, у сваім характары і паводзінах не мяняецца. Кожны ёсць тым, кім нарадзіўся. Але трэба ўлічваць і час, які здольны цвічыць чалавека на свой, уласцівы яму лад. Хто мог падумаць, што адбегшыся на некалькі дзесяцігоддзяў наперад, мы будзем шкадаваць ды плакаць над тым, над чым некалі бясконца смяяліся, хай сабе праз марлю тых жа анекдотаў.

* * *

Смешна слухаць, як па радыё зусім маладое дзеўчанё так старанліва заглыбляецца ў сакрэты сямейнага жыцця і надта ж настойліва павучае, як будаваць гэту сям’ю. А сама ты, маладая, ці жыла хоць нейкі час складаным сямейным клопатам. У яе ёсць на ўсе пытанні ўжо гатовыя адказы. А я, стары, нічога гэтага не ведаю. Вось ад канфліктаў яна раіць пазбаўляцца за кошт нейкіх гульняў. Ну, гэта ўжо мы недзе чулі. І дагуляліся…

* * *

Зніклі чамусьці, не відаць у пушчы сарок. Іх месца занялі сойкі. Яны перыйкам сваім больш зваблівыя, чым сарокі. У іх уборы гараць самыя яркія

колеры: і чырвоны, і жоўты, і шэры. Ёсць здаецца крыху і таго сарочага, белага з чорным. Але сойкі больш крыклівыя. Аднак крык зусім не псуе такога звабнага, жарападобнага апярэння.

* * *

Прырода — добрая прыдумшчыца. А мы яе дзеці. Таму так многа і прыдумляем, каб нашкодзіць ёй. А прыдумляючы, часта не думаем…

* * *

Яшчэ не вырас у хама, а хамячок ужо ладны. Нешта хамячкаватае ёсць і ў твары. Вось зараз і пачнецца адгадванне: а хто гэта такі?.. Ну ён самы…

* * *

Ад былога шляхетнага засценку засталіся толькі лавачкі на вуліцы пры хаце ды звычка сядзець на іх. Сядзяць ды вядуць гавэнды, пераліваюць з пустога ў парожняе. Ды вось суседчына лавачка не вытрымала ды зламалася якраз пасярэдзіне. Выклікалі зяця з горада. Той прыехаў, але неахвотна майстраваў новую седалку. Здагадваецца, што будуць на ёй «перамолваць і ягоныя костачкі».

* * *

Замшэласць шкодная не толькі на страсе, сцяне, камлі і камені. Шкодная яна, калі ёсць у чалавечай галаве, сэрцы…

* * *

Усё ў прыродзе прагне абнаўлення. І грыбы, і ягады перастаюць расці на старых месцах і шукаюць новыя. Часам здаецца, што яны проста ўцякаюць ад дакучлівага чалавека.

* * *

Чуў, што сённяшні Палац мастацтваў жартаўнікі называюць «Мёд для пенсіянераў». Можа таму, што там увесь час гандлююць мёдам? А можа, і па якой іншай прычыне?..

* * *

«Дай я цябе абдыму, дай руку пацісну! Ды я гатовы цалаваць твае рукі, бо ты столькі для мяне зрабіў. Нават немагчымага!..»

Вось такая простая чалавечая ўдзячнасць бывае ўдвая даражэйшай за нейкую высокую ўзнагароду. Я гэта ведаю. А вы можаце са мной не згаджацца.

* * *

Гэты чалавек жыве ў пушчы, пры амшары, пры рэчцы. Ён любіць рыбу і дзічыну, але не любіць лавіць і паляваць. Няма ў гэтага чалавека сваёй

стрэльбы, хоць старая вуда з нейкім доўгім арэхавым вудзільнам недзе ў сенях спачывае.

Дзіўна, што ў дзяцінстве сваім пасляваенным ён любіў зброю, лазіў па лесе са сваімі аднагодкамі і шукаў нейкія патроны, старыя ствалы. Тады іх па лесе было шмат. А потым, ці не пасля няшчаснага выпадку, калі яго равесніку адарвала мінай руку, ён пачаў цурацца небяспечных ваенных цацак. А вось паляўнічая стрэльба яму часта снілася, ён нават збіраўся яе набыць. Але падумае-падумае, дый адмахнецца дзвюма рукамі ад сваёй задумы: «Я ж як п’яны, дык зусім дурны. Яшчэ застрэлю каго. Не, не трэба мне стрэльбы!..»

* * *

Кожную раніцу з акна свайго гляджу на магутны суседскі дуб. Нагадвае ён вялізны зялёны букет, што велічна ўзвышаецца над усёй малой вёскай. Як хто намаляваў яго для майго здзіўлення. Дуб самы старэйшы ад усяго, што ёсць у нашай вёсцы. Нават старэйшы ад тых, каго я яшчэ ледзьве памятаю. Кожны раз пры выпадку адгаворваю суседку не чапаць гэтага старога велікана-асілка, хай расце на радасць наступных пакаленняў. Можа, што і пра нас некалі расскажа. У дуба сваё доўгае жыццё, значыць, і такая ж доўгая памяць. А суседка мяне і слухаць не хоча. Дзеці яе даўно ўжо думаюць, як гэта расквітацца з волатам. А гэта не так і проста. Прыязджаюць нейкія вальшчыкі, патупаюць-патупаюць ля магутнага дуба, загнуць такую цану ды і паедуць.

А віна дуба ўсяго ў тым, што ён сее на зямлю багата жалудоў і лісця, а прыбіраць іх няма каму. З горада не наездзішся. І вось нядаўна вяртаюся дамоў, хаджу па двары і адчуваю, як быццам вакол мяне чагосьці не хапае. Павярнуўся тварам да суседчынага двара: няма майго букета. Спілавалі-такі. Пайшоў паглядзець на пустку. Замест майго былога велікана застаўся вялізны пень, падобны да велічэзнага стала. Побач ляжаць вялізныя кучы напілаваных галін. Гэта ўжо дровы.

— Колькі ж вам каштавала гэта ачышчэнне прасторы? — сумна запытаўся ў суседкі.

— Ды нічога не каштавала, — адказала яна. — Той чалавек, што пілаваў, забраў дрэва сабе. І нам во дроў хопіць.

Чалавек той, якога я не бачыў, вядома ж, ведае цану дрэву. Ды і я ведаю. Але нічога ўжо не паправіш. Суседка адшкадавала мне толькі нейкіканчур не самай тоўстай галіны, і з яго атрымалася добрая калодка. Цяпер я калю на ёй дровы. Недзе побач набірае вышыню малады дубок, які я пасадзіў пры сваім склепе зусім нядаўна. Не ведаю, ці дажыве ён да гадоў суседчынага дуба. Я ўжо гэтага не пабачу. А таго мне шкада, нават заплакаць часам хочацца.

Згадалася вось яшчэ што. Гадоў трыццаць таму расла пры тым жа суседчыным плоце, але ўжо з другога боку, вялізная бяроза. Таксама гожа букецілася ў маім акне. І вось задумаў яе сусед спілаваць. Тут ужо быў нейкі страх. Бяроза не дуб, карэннямі яна не так моцна счэплена з зямлёю. Баяўся гаспадар: чаго добрага, наскочыць якая бура ды і паваліць тую бярозу прама на хату. Раструшчыць яе, старую, у парашок.

Бярозу валілі ўсёй вёскай, падтрымлівалі на вяроўках. Тады ў мяне напісаліся радкі:

Суседзе,
Ніжэе, ніжэе наш дзень.
Стараемся жыць не пыхліва,
Цвяроза.

Сядзіць паміж намі
Якісьці там пень,
А хай бы расла паміж намі
Бяроза.

Хай бы і дуб рос. Каму ён перашкаджаў?.. Стары бярозавы пень ужо згніў. На яго месцы вырасла ўжо высакаватая бяроза-атожылак. Застаўся толькі паляністы пень старога дуба. Гэты застанецца, здаецца, надоўга. Магчыма, унукі ці праўнукі гаспадыні ператвораць яго ў добры стол для нейкіх святочных бясед ці сустрэч. А для мяне ён застанецца тым самым велічным зялёным букетам, што ўзвышаўся над усёй вёскай ды красаваўся ў маім акне.

* * *

Знаёмы мой пад чаркай можа часам насмяшыць не толькі іншых, але і сябе самога. Аднойчы са Стоўбцаў у Мінск ён ехаў адразу па двух білетах. Як гэта яму ўдалося? Проста паспяшаўся прыехаць на вакзал. А калі абілеціўся, глянуў на гадзіннік: да электрычкі заставалася яшчэ добрыя паўгадзіны. І каб прыспешыць час, падаўся ў буфет. А выйшаўшы з яго ўжо ў больш вясёлым настроі, накіраваўся зноў да касы купляць білет. Назаўтра доўга ламаў галаву, адкуль у яго кішэні ажно два білеты. Калі разабраўся, што тут да чаго, доўга потым смяяўся сам з сябе.

Тое смешнае пачало ўжо забывацца, як здарылася новае. На гэты раз прыгоды чакалі яго ў банку. Падыходзіць неяк раніцай наш герой да банкамата, адпраўляе ў гняздо сваю пластыкавую картку і пачынае набіраць патрэбную суму. І нават не малую. А банкамат выдае яму несуцяшальную інфармацыю: на рахунку недастаткова сродкаў. Да гнеўнага сумны, адчыніў ён дзверы банкаўскага начальства. Можна толькі ўявіць, што тварылася на душы ў чалавека: укралі грошы.

— Супакойцеся! — сказалі яму ў банку. — У нас нічога яшчэ не прападала. Зараз паглядзім запіс з відыёкамеры.

Пачалі пракручваць запіс. І раптам у кадры з’явілася надта знаёмая постаць.

— Гэта не вы? — запыталіся ў чалавека.

— Я! — сумна адказаў той. — Але ж дзе мае грошы?

— А гэта ўжо трэба запытаць у вас! — адказалі яму.

Тут жа, не развітаўшыся, пабег дамоў. Доўга капаўся ў шуфлядах, ператрасаў кнігі ды нейкія папкі. Нарэшце з адной, чырвонай, добра перавязанай матузкамі, паляцелі на падлогу грошы. І гэтым разам чалавек пасмяяўся сам з сябе.

* * *

І сярод горшых можна заўсёды выбраць лепшага. Можна пахваліцца і тым, што ты ўваходзіш у лік 200 лепшых, але пад тым жа двухсотым нумарам.

* * *

Вайсковыя сябры смяяліся з хлопца, калі ён асцярожна адклейваў з канверта, дзе быў ліст ад каханай, паштовую марку, а потым цалаваў яе. А ён і не крыўдзіўся — на другім баку маркі быў пацалунак яго каханкі.

* * *

Перастараўся вартаўнік: у справаздачы сваёй начальніцы ён не забыўся згадаць і пра яшчэ адно сваё добрае «дзела». Так і напісаў: «Гэтым разам я прывёў у парадак падстрэшша, рызыкуючы жыццём, знішчыў два гнязды з шэршнямі». Начальніца пасмяялася: «Хоць ты медаль яму давай за такі подзвіг. Але адкуль у студзені з'явіліся тыя шэршні?»

* * *

Жыць у крайняй хаце пры самай дарозе, як гэта атрымалася ў мяне, — не так ужо і дрэнна. Па-першае, ты заўсёды жывеш пад наглядам самой дарогі, па-другое, усе вясковыя вокны, хоць праз нейкую хату, дзве ці тры, таксама глядзяць у твой бок, усе здарожаныя людзі наталіць смагу ідуць толькі да твайго калодзежа, гэтак у цябе прыбаўляецца яшчэ больш знаёмых. А па-трэцяе, усе блудныя каты і сабакі, нават адзінокія зайцы, прыбіваюцца толькі да твайго двара. Ёсць і адна нязручнасць у мяне, крайняга: калі павее паўночны вецер, дык усё нямілапахнучае з бліжняй фермы ды сіласнай ямы самай першай хваляй прымае на сябе мой двор. Але з усімі вятрамі, з дажджамі і снегам я жыву ў згодзе. І яны мяне дужа не крыўдзяць. З чалавекам часам знайсці згоду цяжэй, чым з прыроднай стыхіяй.

* * *

Дзіцячыя творы пішуць у нас ці ўсе, ці праз аднаго, думаюць, што гэта надта ўжо лёгкая справа. Каб пісаць сапраўдныя дзіцячыя рэчы, трэба абавязкова здзяцінець. Не кожнаму гэта ўдаецца. Але сапраўдных здзяцінелых старых я сустракаў у сваім жыцці шмат. Нават сябраваў з імі. Мой сусед, дзядуля Франак, быў старэйшы за мяне на цэлае жыццё, аднак з ім у добрай згодзе мы пасвілі на выгане свіней. Я не баюся, калі кажуць: «Я з табой разам свіней не пасвіў». Я ж пасвіў іх з людзьмі найпаважанымі ў вёсцы. Але малым чытачам сваім хацелася б распавесці не толькі пра гэта.

* * *

Фальклорныя крыніцы, магчыма, і невычэрпныя, але муціць іх недаравальна. Як і любую крыніцу.

* * *

Селекцыянеры ад мовы часта выглядаюць бездапаможна і смешна. Ніяк не прыжываюцца іх словы, ці то пазычаныя ў суседняй мове, ці то адкапаныя ў старых карэнішчах ужытку. Маладыя часта ідуць да такога ўзбагачэння праз слоўнікі Насовіча, Ластоўскага. Быццам і каларытна, а не прыжываецца. А тое, што выходзіць з вуснаў самога сучасніка, часам бывае і надта прыжывістае. Згадаем тыя ж «халява», «бомж». Прыжываецца не таму, што яно надта ўжо самасеістае. Хутчэй за ўсё за кошт некага ўнутранага, патаемнага смаку.

* * *

Чалавек з галавой акунуўся ў свае справы, і ўжо нідзе не бачыш яго самога. Але ж тырчаць ногі. А справы самой не відаць. Гэта як у замежнай бясплатнай прыбіральні: увесь ты сам нібыта і схаваны, хоць галава і ногі бачныя кожнаму сустрэчнаму.

* * *

Тэхнічны прагрэс творыць сваё. У сучасных калектыўных вясковых гаспадарках сёння тэхнікі значна больш, чым людзей. Ледзь не за кожным пушчанскім хлопцам замацаваны па два трактары, а то і камбайн нейкі. У кожнага ледзьве не свой аўтагарэм. А той жа нявесткі часта і са свечкай не знойдзеш. Гарадскія, ці вяскова-гарадскія жыхары надта не квапяцца на сельскае замужжа.

* * *

Старая, старэйшая за мяне кабета, сядзіць пры хаце на лаўцы ды прыгаворвае, гледзячы на маладую траву: «Ах, травічка мая, і табе балюча. Ніхто не скубе цябе, не смакуе, не гадуе і не косіць. А раса твая халодная і чыстая, як слёзкі…»

Размаўляе як з чалавекам, як з жывым. Дык і жывое ж…

І яна чуе яго боль.

* * *

Жанчына заходзіць у чужую хату і адразу разгублена аглядаецца. У жанчыны і зрок ужо не малады, а тут і вокны, і дзверы так захутаны, зацемнены фіранкамі ды шторамі, як быццам ты трапіў у склеп нейкі. Даўшы пахвалёнага, яна пачынае ўшчуваць маладых гаспадароў:

— Ды расплюшчце вы вокны свае! Дайце вы сонца хаце! Вунь на дворы як хораша!.. Пашкадуйце сябе і хату!..

* * *

У жыцці сваім мы ўсё шукаем нейкай праматы. Любім прамыя шляхі, прамыя адказы на пытанні. Можа, па той толькі прычыне, што зямля наша круглая ды яшчэ верціцца?

## З падслуханага

* * *

(Пра дождж): «Няхай — няхай страха паплача, а потым і вокны пасмяюцца!..»

«Некалі людзі працавалі, не пакладаючы рук, а цяпер працуюць, іх не прыкладаючы. Працуюць часцей за ўсё — языком».

* * *

(Пра жанчыну): «З такой паходкай збан на галаве не панясеш ды і паднос ці ўтрымаеш».

* * *

«Ён з тых майстроў, якія б’юць адзін раз па цвіку, і два — па пальцы».

* * *

Вузкая паласа ўзлесся перад колішнім балотам, а цяпер сенакосным лугам тутэйшага калгаса, дзе-нідзе перасыпана маладым хвайнячком і асіннікам, нават ядлоўцам, густа пацягнута казіной і папараццю. Зноў у верасні яна наабяцала мне шмат рыжыкаў. Трэба добра прыглядацца, каб у гэтай рыжай гушчэчы заўважыць крывяністы жар вухападобных шапачак. Асцярожна выкалупваю іх сцізорыкам амаль кожны раз на адным і тым жа месцы. Зрэжу ножку — а на ёй адразу нахопліваецца медны кружочак, што таксама пасуе рыжай крывяністасці шапкі. Ёсць са́ма смаката ўжо ў адным збіранні рэдкіх, самых дарагіх грыбоў у родным абшары. Перад рыжыкам і баравік схіліць сваю ганарыстую чорную шапку.

На той самай паласе кожны раз натыкаюся вачыма на старую іржавую дзіцячую каляску, ужо без верху, якая невядома як тут апынулася. Ужо з дзясятак гадоў цешыць яна мяне сваімі прыгнутымі коламі ды цёмнай дужкай ручкі. Той, хто апошні раз ляжаў у гэтай калясцы, ужо, напэўна, і сам стаўся грыбніком. Думаю, мяркую, якая б гэта магла быць сустрэча з гэтымі даўнімі коламі. Можа, і са слязьмі…

* * *

Уразіў мяне гэтым разам незвычайна грыбнік на сваім старэнькім чырвоным «Масквічы». Ён старанна аглядаў хваёва-асінавую кудзерку пры дарозе, дзе ніколі не раслі нават мухаморы. А праз гадзіну бачыў яго ўжо ў ляску пры Малінніку — так здаўна называлася гэта мясціна. Багажнік быў адчынены, і я здалёк заўважыў, як штосьці цяжкое ён пакуе ў яго. Во, думаю, грыбнік. У мяне за гэты час толькі пару нейкіх казлякоў у кошыку, а ён багажнік піцуе. Калі падышоў бліжэй, дык убачыў, што ён шпурляе ў машыну нейкі металалом. Збіральнік, значыць, жалеза. Ёсць і такія грыбнікі ў нашым краі. Кажуць, на гэтым маюць нядрэнныя заробкі. Да дзіцячай калясцы, пра якую я згадваў вышэй, незнаёмец не даехаў. Але і дзякуй яму варта сказаць — няхай дабро не прападае!..

* * *

З выскачкамі, хамамі, незгаворлівымі гарлапанамі можна змагацца і сваёй ціхасцю. Толькі трэба быць перакананым у яе правамоцы. І тады, хай і не публічна, а ўнутрана ты абавязкова пераможаш. Ніхто не забярэ і не прысвоіць тваёй унутранай ціхай перамогі. Перамога сябе і перамога ў сабе — дзве вельмі важныя перамогі чалавека.

* * *

Мова наша настолькі багатая, наколькі ты яе ведаеш. У гэтым я яшчэ раз пераканаўся, перакладаючы вялікага туркмена Махтумкулі. Мне трэба было знаходзіць безліч рыфмаў да аднаго слова. І я іх знаходзіў, не паўтараючыся.

* * *

Старая хата, як і стары чалавек, мае сваю памяць. Ужо і кручок на дзвярах, гайдаючыся сюды-туды, калі іх адчынялі і зачынялі, прарэзаў такую глыбокую канаўку. Толькі мне гэты дзвярны паўкружак можа нагадаць, якія важныя госці заходзілі ў гэтыя дзверы і адышлі з іх назаўсёды.

* * *

Трэцяе лета любуюся на гэтай утульнай паляне старой, але дужа стромістай і высокай бярозай, якая, падобна эўкаліпту, скінула долу ўсю сваю белую кару і цяпер свеціцца голым ствалом. Бессаромніца? Ды не, хутчэй — гаротніца. Падчас навальніцы стрэльнуў у дрэва пярун. Ад самай макаўкі да карэння пашчапаў ствол і агаліў яго. Бяроста, як белая сукня, як разлітае малако, яшчэ доўга ляжала ля карэнішча, а потым учарнела. Па гэтай бярозе у хмурныя дні я і знаходжу сцяжыну да дому.

* * *

Па звычцы старога радыйца, слухаючы словы з радыёэфіра, лаўлю і чарговыя «ляпы» вядучых. Вось ёсць і чарговы. Нашы землякі «асвоілі выпуск новага аўтобуса. Неўзабаве ён з’явіцца на прылаўках». Цікава было б уявіць тыя прылаўкі, на якія можа ўзабрацца цэлы аўтобус. Можа, ён лялечны?

* * *

Вясковыя хлопцы ў большасці сваёй гаваруны. Яны і слова не дадуць сказаць табе, гарадскому, спяшаюцца самі выгаварыцца. Бо тое, што яны ведаюць, не ведаеш ты, а тое, што ты ведаеш, ім нецікавае. А гавораць кожны раз ці ў чарку, ці ў цыгарку. Гэта — як своеасаблівы іх мікрафон. Інакш слова не кажацца.

* * *

Калі хавалі паэта Рыгора Няхая, на могілках хтосьці сумна прамовіў:

— Цяпер няхай адпачне.

Нехта адразу падхапіў:

— Няхай адпачне, а мы яшчэ памучымся.

* * *

«Я вырасла на гэтых песнях», — расхвальвае сябе ў эфіры модная маладуха. І ў што ж яна вырасла, хочацца адразу даведацца. А калі заспявала, дык і надта было далёка ад таго, на чым яна «расла».

* * *

У літаратуры трэба прыслухоўвацца да парад, але ісці заўсёды сваім шляхам. Воз не павінен паўтараць усе выбрыкі каня, які яго цягне, воз павінен сам адчуваць сваю дарогу.

* * *

Добра раскручаны вакол сябе на вяроўцы-гудалцы камень ляціць далёка, але часам і зрываецца, і падае не там, дзе трэба. Так бывае і з творцам, калі яго ўпарта і настойліва раскручваюць на старонках і экранах, рыхтуючы яму далёкую і высокую трэкторыю лёту. Але якім сумным бывае пасля ўсяго гэтага падзенне!..

* * *

Дні летнія бягуць, як чэрці з асушанага балота. Не бягуць, а ўцякаюць.

Дык хай і бягуць, іх ужо не дагоніш і не пярэймеш. Але ж колькі іх і сам я дубчыкам свавольства, забаў ды простага часагубства гнаў прэч са свайго жыццёвага луга!.. Што цяпер каяцца ды шкадаваць?! Тое, што аддаў чорту, у Бога ўжо наноў не выпрасіш.

* * *

Вёска вымірае… Колькі разоў даводзілася чуць гэтыя словы. Колькі разоў, напэўна, і сам прамаўляў іх, то згаджаючыся, то не згаджаючыся з гэтым. Аднак і тое праўда, што старыя людзі адзін за адным адыходзяць, а маладзейшыя, хто яшчэ застаўся ў вёсцы таксама не берагуць сябе

Нечаканай для мяне была і гэта смерць. Памёр чалавек, зусім недарэчна. Выйшаў уночы з хаты, у якой жыў адзінокім бабылём, ды і паваліўся каля ганка ва ўсім споднім. Невядома і колькі праляжаў. Бо спахапіліся вяскоўцы не адразу. Хавалі ўсёй невялікай вёскай, з'ехаліся далёкія і блізкія сваякі, прыехаў адпяваць ксёндз. Балела не толькі сваім, але і чужым. Сама бяда ў вёсцы ніколі не бывае адзінокай. Бедавалі, што толькі нейкі месяц, бедалага, не дажыў да сваёй сціплай пенсіі. А адна бабуля нібыта сабе, а можа, і каб усе чулі, нібыта прастагнала: «Няма во ні маці, ні бацькі, ні жонкі, ні дзяцей… Няма і паплакаць каму». Не хацелася згаджацца з ёю. Мы ўсе тут, не толькі родзічы, хай і без слязы на вачах, а ўнутры сябе дзесьці плакалі.

І толькі прамовіла яна тыя словы, як лінуў дождж. Лінуў на ўсю сваю восеньскую моц. Не дождж, а лівень. І ліў ён цэлы дзень і вечар. Крыху перастаў толькі назаўтра раніцой. Як прагаварылася жанчына. Уся прырода аплаквала чалавека. І ўжо іншыя казалі:

— Відаць добрым быў чалавек, бо вунь як аплаквае яго неба.

У мяне і сёння яшчэ ў вушах гучыць перашэпт таго дажджу, не знікла і адчуванне, што я стаю пад ім ды мокну. Парасона тады ў мяне з сабой не было.

* * *

Заглыбіцца ў сябе? Што гэта такое? Усё тая ж прыдумка нашых братоў, крытыкаў. Але ж трэба яшчэ ведаць сваю глыбіню. А калі яе ў цябе няма?

У суседаву глыбіню не заглыбішся.

* * *

Крыўды паэтаў часам называюць капрызамі паэтаў. Можна, вядома, хлусіць і на споведзі. Але ж сапраўдны паэт заўсёды спавядаецца не святому айцу, а самому Богу.

* * *

Згадзілася і старая песня, якой я ніколі не спяваў, але пад яе прачынаўся. Сёння, адпраўляючы да разеткі свой мабільны тэлефон, я спяваю:

— На зарадку, на зарадку, на зарадку станавісь!!!

* * *

А нядаўна, вяртаючыся гарадскім аўтобусам дамоў, нацешыўся песняй трохгадовай дзяўчынкі. Тая раз за разам, паглядаючы на мяне ды ўсміхаючыся, заводзіла адно і тое ж:

О, Боже, какой мужчина!
Я хочу от тебя сына,
А может быть, дочку —
И точка!..

«Точку» малая і не збіралася ставіць. Заводзіла зноў і зноў знаёмы матыўчык. Дзіўна, што дачушку ніяк не сунімала яе мама. Слухалі гэта, пасміхаючыся, усе пасажыры ў аўтобусе, ажно пакуль паважаная спявачка разам з матуляй не выйшла на прыпынку.

Ах, шлягеры-шлягеры!.. Што ж мы будзем спяваць заўтра? Усё ж гэта ракою ліецца бясконца з тэле- і радыёэфіраў.

* * *

Не цярплю, калі вершы пераказваюць. Іх трэба чытаць і разумець. Не будзеце ж вы пераказваць музыку, ці тыя ж мукі чалавека ў пасцелі.

* * *

Чытаў у нейкага аўтара, як герой яго, замярзаючы на марозе, каб ўратавацца, пачынае спяваць. Дык тое гэтак жа недарэчна, як і размахваць кулакамі ў цесным аўтобусе. Там не дадуць табе нават кулакі сціснуць.

* * *

Калі ты адзін, сам-насам, ты можаш рабіць усё, што табе захочацца, нават абняць цэлы свет. І паэтам часта гэта ўдаецца. Чаму ж ты такі бездапаможны, калі разам мы? Хай гэта будзе дакорам і самому сабе.

* * *

У даўніх вясковых размовах, калі гаворка ад ісцін жыццёвых пераходзіла да разважанняў пра будучыню, мой бацька заўсёды спасылаўся на Сыбілію: «А Сыбілія прадказвала…» І тады ўсе, хто яго слухаў, адразу замаўкалі. Адкуль, думаю я сёння, ён, сірата, якому за польскім часам і аднаго класа не далі скончыць, ведаў імя вялікай антычнай прадказальніцы. Мне і самому толькі тое і вядома, што «Сібілінымі кнігамі» зачытваліся ў старажытным Рыме. Гэты вядомы зборнік выказванняў і прадказанняў, кажуць, доўгі час быў настольнай кнігай і многіх выратоўваў.

* * *

«Мы, людзі практычныя, — жартаваў ён, — мы з той жа запалкі зробім зубачыстку, мы нават з галёша зладзім мухабойку». Ну а сам ён сканструяваў даволі-такі цікавы і дужы аўтамабіль, нешта сярэдняе паміж трактарам і грузавой машынай. Сабраў з усяго таго ламачча, што даўно ржавела, валяючыся на сметніку. Хай сабе і не народны, але аўтамабіль з народа. Гляджу часам, як ён,

пакрэктваючы, ледзь не рохкаючы, бяжыць па новай асфальтоўцы за хатай, ды жагнаю яго, а яшчэ прыгаворваю, як гэта робяць сучасныя «вадзілы»:

— Ні цвіка табе, ні жазла, ні ямы!

* * *

Жонка знаёмага збіраецца за мяжу, праведаць сваю дачку, якая «выскачыла замуж ажно ў Гішпанію». Цяпер вось бегае па магазінах, купляе нейкія сувеніры. Трэба, каб яны былі з саломы. Пра гэта ён і распавядае свайму сябру.

— А што, там салома наша ў цане? — пытаецца той.

— Будзеш ехаць да капіталістаў, дык і за саломінку схопішся, — жартуе знаёмы.

Трэці, што панура маўчыць, дадае сваё:

— Гледзячы за якую саломінку. Калі за макаваю — то, лічы, ты патануў ужо.

* * *

У вёсцы купіла сабе хату ды летуе разам з усімі адмысловая дантыстка. Кажуць, ужо сяму-таму з вяскоўцаў нават зубы не толькі падлячыла, а і паставіла. Пра гэта даведваюся ад тутэйшага ўсёведа, які гаварыць звыкся толькі іншасказальна:

— Раней у нашых Навіках зубы толькі выбівалі, а цяпер нават і ставяць…

* * *

У старой папцы адшукаўся вясёлы верш без даты. Пачаў напружваць памяць. Напісалася тое восеньскай ноччу ў Доме творчасці «Іслач». Адразу згадаліся дзённыя і вячэрнія вогнішчы на стромым беразе Іслачы. На самым версе шуміць ужо не надта густы лес, а па нізе берага прыземістыя вербы ўперамеж з арэшнікам, неглыбокая бруістая плынь варушыць збуцвелае лазовае палена і луг, увесь усыпаны чорным кратавіннем. А пры самым вогнішчы, куды ўвесь час падкідваюць сушняк, падвясёлены гурт са старэйшымі ды маладзейшымі «пісакамі», як мы самі называем сябе. Мільгаюць у вачах знаёмыя твары Алеся Савіцкага, Уладзіміра Скарынкіна, Авяр’яна Дзеружынскага, блукае па беразе напару з жанчынай Артур Вольскі. Здаецца, і сам я — напару. А з маладзейшых памятаю Алеся Асташонка. Жыў ён у суседнім з маім пакоі, які злучаўся адзіным балконам. Надта хітраватая архітэктура была ў тым доме. І памятаю, што я неаднойчы блудзіў, шукаючы свой пакой. З Асташонкам пешшу хадзілі мы ў Ракаў, блукалі па яго ваколіцах, падоўгу сядзелі на занядбаным яўрэйскім могільніку. Потым Асташонак знік, з тыдзень адсутнічаў, а заявіўся ноччу з кампаніяй. Разбудзілі і мяне. Спаць ужо мы да раніцы не клаліся, вось тады і напісаліся гэтыя радкі:

Люблю я ранішні хмялёк —
Душа трымціць, як матылёк.
А дзённы хмель
Гудзе, як чмель.
Густы ў яго мядовы бас.
Ён, дзённы хмель, бунтуе нас.

Крычыце, біце у званы,
Калі даймае хмель начны.
Там — ноль і градусы, і грамы.
Начны ён небяспечны самы.
Бо п’еш ты мераю сляпой.
Так нараджаецца запой.

* * *

Часам з дакументаў архіўных вынікаюць і зусім пацешныя гісторыі, гэтым самым яшчэ больш цікавыя для нашага сучасніка. Гэты дакумент высвеціў мне аблічча самога Янкі Купалы. І я адразу ўявіў яго за шахматным столікам. У біяграфіі песняра яго захапленне шахматамі рэдка дзе згадваецца. Адбылося гэта ў 1928 годзе. Неяк, трапіўшы ў Дзяржаўны музей, аглядаючы яго цікавыя рарытэты, заўважыў Іван Дамінікавіч і даволі прываблівы столік з мармуровай шахматнай дошкай. Доўга стаяў ля яго, любаваўся, потым адышоўся і зноў вярнуўся і ўсё ніяк не мог налюбавацца. Ну а далей хай кажа адзін з дакументаў Народнага камісарыята асветы БССР, з якім я пазнаёміўся, дзякуючы даследчыкам Вячаславу Селяменеву ды Віталію Скалабану:

«Акт

1927 года студзеня 19 дня камісія ў складзе А. Ляўданскага, Ф. Выхадцава і Л. Барсуковай злажылі гэты акт у тым:

Грамадзянін Янка Луцэвіч (Купала) запрапанаваў абмен на столік з устаўленай мармуровай шахматнай дошкай, запісаны ў кнігу паступленняў музею пад № 17 (па кнізе аддзелу № 286), за які прапануе: 1) сярэбраны крыжык вылажаны туркусамі (біруза); 2) шкляное баккара цыліндрычнай формы, на якім на малінавай асноведзі маюцца класічныя выабражэнні фаўнаў і інш.; 3) жалезны замок трыкутнай формы мясцовай старасвецкай работы.

Камісія згадзілася зрабіць такі абмен, прызнаючы прапанаваныя рэчы раўнацэнныя століку, які добры як мебель, але музейнай каштоўнасці не мае і, акрамя таго, мае расклееныя і разбаўтаныя ножкі.

Камісія

Ляўданскі

Выхадцаў

Барсукова

Памета: Зацвердзіць 31.1—28. С. Некрашэвіч».

Навуковы сакратар Сінякоў пацвярджае рэзалюцыю старшыні Галоўнавукі на такі абмен. Асабіста мяне, сённяшняга чытача, крыху засмуцілі гэтыя «расклееныя і разбаўтаныя ножкі». Іх жа, напэўна, давялося клеіць і ўмацоўваць самому Івану Дамінікавічу. А, можа, хто і дапамог. Але яшчэ гэты факт кажа мне і пра іншае. Вы паглядзіце, якая павага была да народнага песняра! Хто б вам сёння памяняў музейную рэч на нейкую рэч з вашай хаты?! Тыя самыя расхістаныя ножкі хутчэй за ўсё былі хітрай чыноўнай прыдумкай, каб апраўдаць той абмен.

* * *

Божая кароўка на тваёй руцэ выглядае даражэйшай, чым з яркім бляскам залаты пярсцёнак.

* * *

«Шануйце музыкаў!» — хочацца сказаць мне заўсёды, калі слухаю іх зладжанае, а то і віртуознае ігранне. Мы мала думаем пра тое, якіх намаганняў гэта ім каштуе. Адзін «духавік», што доўгі час іграў на трубе, неяк прызнаўся мне:

— Пакуль я дзьмуў у тую трубу, лёгкія мае сталіся зусім цяжкімі. З гэтым цяжарам я і дажываю свой век.

* * *

Падручнік па гісторыі — гэта яшчэ не сама гісторыя, а толькі запрашэнне ў яе і прычына для спрадвечных здагадак, сумненняў ды спрэчак.

* * *

Як часта замест малатка нам даюць у рукі інструкцыю пра гэты малаток. У выніку цвік так і застаецца незабітым.

* * *

Пачаў вычытваць свой нядаўні чарнавік і, заблытаўшыся ў ім, узгадаў раптам даўнія ўрокі чыстапісання. Дрэнным я быў вучнем, і маё чыстапісанне часта нагадвала бруднапісанне, як я ні стараўся. Потым ад чыстапісання мяне адвучвалі студэнцкія канспекты, а яшчэ пазней — журналісцкія запісоўкі. Мае чарнавікі палохаюць мяне самога, у іх чорт і ногі, і рогі зломіць. Але ж гэта ўсё пішацца ад самага сэрца, без перабольшвання і пераменшвання. А бруднапісанне гэта нешта іншае. Гэтага слова вартыя хіба нейкія даносы, кляўзы, нагаворы. Можа, гэтаму таксама дзесьці вучаць?

* * *

Сама што скончыліся доўгія навагоднія святы. Сёлета яны зацягнуліся. Тры дні людзі дзесьці адседжваліся па хатах, бо двары і вуліцы былі пустыя. Людзі святкавалі і гулялі. А гуляць, як і кахаць, ніхто нікога не вучыць. Гэта ўсё адбываецца само па сабе.

А я люблю, калі гуляе завея, сячэ ў твар белай калючай сечкай, прыпякае твар крапак-мароз, а сам ты, адольваючы гэту свету нябачную стыхію, ці ў абдымку з ёю, спяшаешся дамоў. Добра, калі ў цябе ёсць дом і калі ў ім цябе чакаюць. Тады павінна быць і свята. Хай і не ўсе тры дні…

* * *

Мой вясковец сказаў мне некалі, малому, і такое: «У кожным вартаўніку жыве да пары прыхаваны злодзей». У жыцці гэтыя ягоныя словы было што і спраўджваліся.

* * *

Птушкі спяваюць сваё, а паэты — сваё. Добра яшчэ, што мы слухаем адны другіх, хай сабе і не заўсёды ўсё разумеем.

* * *

Малако ў каровы на языку. Гэта я ведаў яшчэ з маленства. Папрацаваўшы нейкі час у «раёнцы», як мы тады называлі раённую газету, і паездзіўшы ўдосталь па калгасах, я вывеў для сябе зусім іншую формулу: малако не ў каровы, а ў старшыні калгаса на языку. Карова і далёка не давала таго, што часта абяцаў мне, газетчыку, язык старшыні.

* * *

На Дзяды за сталом з намі заўсёды сядзяць і цені нашых далёкіх і не надта далёкіх продкаў. Яны не маўчаць, і трэба змусіць сябе іх выслухаць.

* * *

Калега папракнуў мяне аднойчы во як: «Нешта ў творах тваіх зашмат кубкаў: “Кубак блакіту”, яшчэ нейкі кубак».

— Ну, кубак — не вядро, — адказаў я яму. — Галоўнае, каб гэтым кубкам я не пераліваў з пустога ў парожняе.

* * *

Я шмат пісаў і пішу пра дзяцінства. Але найлепш за ўсё пра яго сказаў мой незнаёмы генерал:

— Вы знаете, детство — это всё. Вот теперь у меня три именных пистолета, две сабли, но если б вы знали, как иногда хочется пострелять из рогатки.

* * *

Яму, адзінокаму і п’янаму, не было да каго прычапіцца. І ён прычапіўся да насценнага гадзінніка. Пачаў круціць яго за стрэлкі, цягаць за ланцуг, тузаць за гіркі. Памуштраваў-памуштраваў, і… гадзіннік не пайшоў. А хто за п’яным пойдзе?!.

* * *

Дождж, праліўны, абложысты напаткаў мяне ў цёмным ранішнім лесе. Я зашыўся пад густыя ніжнія галіны прыземістай яліны, але гэта выратавала мяне толькі на некалькі хвілін. Пацякло, а потым палілося ручаямі і з ніжніх галін і адседжвацца далей не мела сэнсу. Я падхапіўся і, прыгінаючыся ад макраты, падаўся з лесу. Усё, на мне апранутае, пацяжэла, вада сцякала па твары, хлюпала ў гумовіках. Калі хочаце пакрыўдзіцца на лес, адпраўляйцеся ў яго якраз у вялікі дождж.

І вось каля мокрай, срэбрам акропленай ялінкі падняў я нечакана птушынае гняздзечка. Цэлы вяночак крылатага непаўторнага майстэрства. Як пяшчотна звіта, вымудравана, кругла-гладзенькае ўнутры!.. Нёс яго ў руцэ і адчуваў на ёй ужо далекаватае, яшчэ не выветранае птушынае цяпло. Пачаў сціхаць і дождж.

* * *

З цяжкасцю пацягнуў касой па сухім ужо староатраўі, і з пераспелага шчаўя сыпануў пад ногі белы, снежысты пылок. Гэтага хапіла і на ўспамін, і на самасейку, якая потым тут зноў вырасце, і на плач мой таксама… Так бывае заўсёды там, дзе даўно не ступалі ногі чалавечыя. Трэба будзіць і гэтыя мясціны, каб яны зусім не здзічэлі.

* * *

Сабе, старому, я шмат наабяцаў яшчэ ў маладосці і амаль нічагусенькі з таго абяцанага не ажыццявіў. Проста тады быў час абяцанняў. Кожны стараўся нешта абяцаць. Быў абяцаны нават камунізм праз дваццаць гадоў. Абяцанкі-цацанкі, а астатняе… вы самі ведаеце... Але ўсім гэтым я не апраўдваю сябе маладога. Нельга ж апраўдаць абяцанае толькі адным узростам.

* * *

Нашы тры ўстановы падзяляў толькі нейкі цемнаваты цесны калідор. У адным з пакояў працавала і яна, наша гаманкая Анфіса. Пакурыць выходзілі на высакаваты ганак, што выбягаў проста на праспект. У цесным мужчынскім гурце добра пачувалася з цыгаркай і яна, жанчына і начальніца. Пад цыгарэтны дым дзяліліся ўсімі сакрэтамі ды абмяркоўвалі розныя навіны. Яна не саромелася расказваць маладзейшым пра нейкія свае сямейныя ўвязкі і няўвязкі, распавядала нават нешта смешнае пра свайго мужа, які, як мы зразумелі, у яе раўнівец. У рабочы час яна любіла збегаць у краму, якіх у нашым абсягу было аж залішне. І як і кожная жанчына, перабярэ там цэлыя горы ўсяго ўсялякага, а нейкую абноўку і набудзе для свайго жаночага ўжытку.

А нейяк, вясёлая ды ўзбуджаная, забягае ў калідор:

— Ой, хлопчыкі, што я купіла!.. Ідзём — пакажу.

І павяла нас у пакой, увесь гурт, і вымае з сумкі невялікі пакунак. А ў пакунку тое самае, што ў вёсцы называюць «майткамі». А па-гарадскому гэта гучыць і надта прыцягальна — трусікі. Мужчыны зніякавелі. А самы смялейшы і жартаўлівы з нас не разгубіўся:

— А давайце, Анфіса Іванаўна, зараз і прымерым!..

На гэтым смешнае скончылася.

— Яшчэ чаго?! — пасуровела яна і тут жа засунула дарагую абноўку зноў у сумку. Мы выйшлі з пакоя, апусціўшы галовы.

* * *

Даўно вярнуўся я ў родную вёску, добра пачуваюся на ціхім бацькоўскім гародзе, вырошчваю нават сякія-такія ўраджаі да свайго сціплага стала. Радуюся, што не кармлю яго ніякай хіміяй, а заадно не тручу і сябе. Гарод мой, што хачу, тое і раблю ў ім. Але, як казалі калісьці, «наряду с успехами», ёсць у мяне і ён, злыдзень-крот, які знізу ўверх пераварочвае ўсе мае земляробчыя планы. Штораніцы прачынаюся — і бягу ў двор, а там ужо дзве-тры новыя выспачкі чорнага кратавіння. Накапаў, зладзюга!..

Ох, і стараецца гэты нябачны шахцёр. Я і плугам за лета столькі не прайду, колькі ён, нястомны, наварочае за дзень І ніякай рады ад яго няма. Што я толькі ні рабіў: і вадой заліваў, і пастку ў форме нейкай трубы ставіў, і саляркай палохаў, а потым яшчэ нейкімі ветракамі выкурваў — усё дарэмна. Кожную раніцу разводжу рукамі: я — бездапаможны!..

Часам думаю, за што мне такое падземнае насланнё? Пачынаю шукаць прычыну. А ці не ў тым яна, што я, працуючы ў «Вожыку», друкаваў нейкую сатыру Ганада Чарказяна на таго самага крата, нават перакладаў яго твор з курдскай мовы. Чытач пасмяяўся з таго крата, а мне не да смеху.

Знайшоў і яшчэ адну прычыну. Сусед мой, што праз плот, меў некалі мянушку — крот. Але суседа даўно ўжо няма на гэтым свеце, ды і жылі мы з ім у згодзе. Чаго ты прычапіўся да мяне, крот, чуеш?

Сёння зноў загладжваў лапатай некалькі новых кратовых горак-норак, а суседка кажа: «Не чапай ты іх. Толькі больш злуеш крата. Ён яшчэ больш шалее». Жыве пад зямлёй мой зацяты вораг, няўлоўны шахцёр і дакучальнік. І чарговае лета я завяршаю з сумнаю думкай: а што ж ён натворыць у маім дварышчы за зіму, ад якой я ўцякаю ў горад?.. Вясна пакажа.

* * *

Надыходзіў Новы год, а мы сядзелі за сумным сталом і памінalі блізкага чалавека. Дзень быў па-сапраўднаму зімовы, з добрым марозам ды яшчэ завеяй, мы добра ўкалелі, але як патрабуе звычай, развіталіся з чалавекам, сыпанулі на века труны тыя тры сумныя жмені жаўтапёсу, і цяпер вось сядзім за сталом, бяром за яго чарку дый заадно саграемся пасля дзённай халадрыгі. І як заўсёды здараецца ў такіх выпадках, паступова пераходзім на весялейшы тон. Прыспешвае нас і Новы год, які ўжо недзе ступае па абсягах пушчы і праз пару гадзін будзе тут. Па ўсходнім календары ён называецца годам Казы. Тут мяне нібыта штурхае хто, каб павіншаваў тутэйшы люд з годам той Казы. Я ўжо і чарку падняў дзеля гэтага і тут своечасова стрымаў сябе: а іх жа, жыхароў гэтай вёскі, некалі дражнілі козамі, на што тыя крыўдавалі. І невядома яшчэ, як бы яны сустрэлі маё тое віншаванне. Можа, уцякаў бы з хаты без аглядкі.

Я абмежаваўся звыклым «З Новым годам!» За гэта выпілі, і мы пачалі разыходзіцца.

А цяпер пару слоў пра саму дражнілку. Мянушка казіная да тутэйшых жыхароў прыляпілася таму, што многія з іх трымалі коз, у той час, як ва ўсіх суседніх вёсках гэтых жывёлін не прызнавалі, гадавалі толькі кароў.

* * *

Золата не баіцца іржы, але само яно, як тая іржа, так раз’ядае душы тых, хто да яго сквапны.

* * *

Як узнікаюць мянушкі? Ды часам проста выпадкова. Але прычына іх узнікнення заўсёды відавочная. Колькі іх узнікала на маёй памяці. І сам я быў аўтарам не адной мянушкі, якія потым прыжываліся. Аднаго свайго сваяка яшчэ ў дзяцінстве, зачытаўшыся Якубам Коласам, назваў ягоным героем Барутам. І прыжылося. Думаю, і ў кожнага з нас ёсць свая, падораная камусьці, мянушка. Мянушка — не прозвішча. Узнікненне прозвішчаў — амаль заўсёды вялікая таямніца. Хоць можна здагадвацца, што многія прозвішчы пайшлі ад тых жа мянушак. Мноства здагадак ёсць у мяне і наконт майго асабістага прозвішча Камейша. Але гэта толькі здагадкі. А яны могуць быць і не зусім справядлівымі.

На адной з творчых вечарын вядучы ўрачыста аб’явіў: «Выступае паэт Мікола Маляўка!» Жанчына, якая сядзела са мною побач, усміхнулася:

— Які ж ён Маляўка? Вунь які мажны мужчына…

Я таксама ўсміхнуўся і запярэчыў ёй:

— Калі вы маеце на ўвазе маленькую рыбку, дык памыляецеся.

І я выклаў ёй сваю этымалагічную версію прозвішча свайго земляка. А больш правільна — гэта версія маёй маці. Неяк у сямейнай размове мы чамусьці згадвалі Міколу, дык вось мама раптам і кажа:

— Нейкі далёкі продак Маляўкі, напэўна, маляваў.

І я пагадзіўся з ёю. Маляўка — ад слова маляваць. Так часам пушчанцы называлі самадзейных вандроўных мастакоў. Мая суседка па той вечарыне пахваліла тады маю здагадку. Я ўсё збіраўся расказаць пра гэта самому Міколу. Ды ўсё забываўся. А нядаўна расказаў-такі. Яму, здаецца, спадабалася. А то — маленькая рыбка… Самі вы…

* * *

У даўнейшых фінагентаў быў свой жарт. Падыходзячы да хаты заможнага гаспадара, яны казалі:

— Порткі мы з яго яшчэ не спусцілі, а лупцаваць ужо можна пачынаць.

* * *

Маладая вядучая гэтай літаратурнай вечарыны даволі смешна памылілася, называючы маю дзіцячую кнігу. У мяне было «Духмянае дзіва», а тут сталася, — «Духмяны дзівак».

— Як гэта? — Доўга не мог апамятацца я. — З перагарам ён ці што, той дзівак?

Я ўзлаваўся, але не паказаў гэтага.

* * *

Спяваць некаму хвалу, калі той яе не варты, — сумна і нудна. Гэта — як з кульгавым танцаваць.

* * *

Сумна глядзіцца будынак маёй першай школы (былы панскі маёнтак) пад высокай, з тоўстым, у тры абхваты ствалом, лістоўніцай. Ужо не школа, а толькі сцены. А там, унутры, дзе былі класы, калідоры, усё пакалечана, згвалтавана і ператворана ў друз.

— Няўжо гэта ёй так адпомсцілі былыя двоечнікі? — здзіўляецца мой унук. Я маўчу — сапраўды, як далёка мы зайшлі, калі помсцім нават школе.

* * *

З вершанят нашага дзяцінства — а любілі рыфмаванне! — засталося ў памяці і гэта пра тутэйшую Зосю:

Калі з пугаю Зося,
Тады свінні ў гаросе,
А каровы ля рэчкі,
А у грэчцы авечкі,
Ну а конь у аўсе,
Калі Зося пасе.

Скажыце, што гэта не паэзія?..

* * *

Лес чуе, а поле бачыць, а неба цікуе ды ўсміхаецца, а чалавек усё гэта ведае і думае, што ўсюды ён тут галоўны. Ці ні гэта і ёсць самая найпростая ў свеце мудрасць?

* * *

Мой даўні рэдактар, вяртаючы «зарэзаны» ім твор нейкага аўтара, казаў так:

— Вярні гэты твор паважанаму аўтару, але так, каб ён табе яшчэ дзякуй сказаў.

Я доўга думаў і ламаў галаву, як гэта можна зрабіць, але так нічога не прыдмаўшы, казаў проста:

— Не пойдзе!

— Чаму гэта? — станавіўся той на дыбкі.

— А на гэта пытанне я адкажу вам пазней, калі не буду тут працаваць, — адказваў я. Яму пашанцавала — доўга там я не затрымаўся.

* * *

Мой даўні сябра доўга шукаў працу ў сталіцы. Хацеў — каб лёгкую. Нарэшце ўладкаваўся ў клубе глуханямых. Калі я прыйшоў аднойчы праведаць яго, ён хадзіў па пакоі, дзе былі акрамя яго яшчэ нейкія людзі, дужа раззлаваны і крыў такімі мацюкамі, хоць вушы затыкай.

— Ціха! Ты што? — спрабаваў я супакоіць яго.

— Ат, — махнуў ён рукой, — усё роўна яны нічога не чуюць. А мне так лягчэй…

* * *

Спяваць можна і без голасу, калі спяваеш для самога сябе. Можна, напэўна, і іграць без слыху, калі іграеш толькі для сябе. А многія ж, не маючы ні слыху, ні голасу бяруцца пісаць творы. І зусім не для сябе.

* * *

У хаце чалавек дыхае тым, чым дыхае хата. І хаце патрэбна чыстае дыханне.

* * *

Гадзіннікавых спраў майстра, якому шкляная лупа, здавалася, урасла ў правае вока, за што і мянушку меў «Залуплены» і ў глыбокай старасці не ведаў спачыну. Нават калі тое вока заплюшчвалася, беглі, хапаліся зубчык за зубчык, тыя выштуковістыя шасцярэнькі, беглі то роўна, то падбрыкваючы, звычайныя хвіліны жыццёвага часу. Так і павінна быць, калі ты майстра.

* * *

«Мы — людзі цёмныя», — казалі некалі пра сябе мае пушчанцы. Нагаворвалі на сябе. Я ж і праз гады добра бачу, якімі светлымі і чыстымі былі іх вочы і душы.

* * *

Мой пушчанскі зямляк-аднагодак рос бязбацькавічам і распустай, але ўмеў звярнуць на сябе ўвагу. У любую хвіліну ён мог утварыць такое, да чаго іншыя і не дадумаліся б. У школе ён не даваў жыцця нашай сціплай настаўніцы. За двойкі свае ён і помсціў ёй па-свойму. Настаўніца мела звычку здымаць у класе свае галёшы, ставіла іх пры стале, а сама хадзіла ў лёгкіх валёнках, як у тапачках. Аднойчы на перапынку, калі тая пакінула клас і пайшла ў канцылярыю, ён злаўчыўся і прыбіў тыя галёшы цвікамі да падлогі. Аднакласнікі нават не заўважылі, калі ён тое зрабіў.

— Вось зараз празвініць званок, — сказаў ён, расплываючыся ва ўсмешцы, — і вы ўбачыце цырк.

Цырку ніхто з нас дагэтуль не бачыў, і ўсім не цярпелася яго пабачыць. Цырк здарыўся не адразу, а як толькі скончыўся ўрок. Усе дружна падымаліся з-за партаў, а настаўніца пачала ўсоўваць свае валёнкі ў галёшы — тут жа грымнулася аб падлогу. Клас грымнуў ад смеху, а настаўніца заплакала. Яго спрабавалі выключыць са школы, але да гэтага не дайшло. Было каму заступіцца за непаслушэнца.

А яшчэ аднойчы ён змайставаў шыкоўнейшы самапал і дужа ганарыўся ім. Гладкая, цёмнай сталі трубка была замацавана на прыгожа аздобленай драўлянай рукаяці. Самапал зараджаўся сярнічкамі з прымессю дзеразовага пылку і пораху. Самапал страляў з добрым рэхам, як тая гармата, нават пасма агню вылятала са ствала ўслед за стрэлам. Але аднойчы самапал ледзьве не адарваў яму руку, добра параніўшы яе.

Меншыя яго баяліся, а большых ён баяўся сам. А калі грахоў у хлопца набралася пад завязку, ён развітаўся з намі. Іх сям’я ад’язджала ў Польшчу. Яшчэ доўга за рэчкаю бялеў іх высокі дом, які яны назаўсёды пакідалі. Дом называлі «панскімі пакоямі». Можа, тыя пакоі і не давалі спакою нашаму герою? Не ведаю, як склаўся яго далейшы лёс, там, у Польшчы. Можа, перарос сваю распусту. Здараецца ж у жыцці такое.

* * *

Пакуль зямлянін не сядзе за адзін стол з іншапланецянінам і не вып’е з ім чаркі, сусвет так і застанецца існаваць на ўзроўні загадкі.

* * *

Трэба вучыцца слухаць — тады будзе менш крыку. Крыкуноў часта спараджае звычайная глухата.

* * *

У вёсцы Лунін на Брэстчыне мяне ўразілі бусліныя гнёзды на слупах электралініі. Гнёзды і гнёзды праз усю доўгую вуліцу… Заўсёды, калі глядзіш у неба і бачыш там тое, што цябе здзівіла, пачынае кружыцца галава. Так было са мною калісьці ў Яраслаўлі, калі галаву закружылі залатыя купалы цэркваў. А тут — гнёзды. Было перадзім’е ўжо, і ніякіх крылаў навокал не з’яўлялася. Але закружыліся думкі…

Хата да хаты — вялікая вёска хат. Гняздо да гнязда — цэлая вёска гнёзд… А вясной жа і летам: крыло да крыла — і вялікая вёска птахаў. Вось

ужо і думкі пацягнуліся самою вёскай. Нешта тут ёсць загадкавае і ад прыроды, і ад самой паэзіі.

* * *

Са сваёй даўняй эпісталярыі выпадкова выцягнуў нядаўна і гэты ліст ад сябра Рыгора Семашкевіча, датаваны 7 красавіка 1978 года і пісаны трасянкай. Настрой у Рыгора, відаць, быў яшчэ першакрасавіцкі, гумаровы, і на гэтай хвалі ён адпраўляў мне на радыё, дзе я тады працаваў, свае новыя вершы. Памятаю, што былі яны не новыя, ужо друкаваныя. Але для радыёслухача часам і вядомае гучыць як новае. Ды і ў сапраўдных вершах, колькі іх не чытай, заўсёды знаходзіш штосьці новае. А гэта былі сапраўдныя вершы.

А чаму на трасянцы? Ды таму, відаць, што тады, як і сёння, мы абураліся трасянкаю, якую часта чулі вакол сябе. Пісьмо аддрукавана на машынцы і падпісана псеўданімам Рыгор Ракасоўскі. Жыў тады паэт па вуліцы Ракасоўскага ў Мінску. Гэта — Серабранка. Здаецца, гэты псеўданім больш нідзе аўтар не выкарыстоўваў. Вось ён, той ліст:

«Здраствуй, Казік-радыёмагнат! (Слова вялюгінаўскае. — *К. К.*) Хаця мне і саабшчалі, што магнацкая гаспадарка вашай мосці прыходзіт в непапраўімый упадак (імеецца ввіду хранічаская нявыплата ў паложанныя срокі палагаюшчыхся ганарараў), усё ж я думаю, что з помашчу божанькі і яго намесніка на зямлі для аб’ектаў Вашага многатруднага дзела тав. Бураўкіна фсё уладзіцца і гаспадарка пойдзёт — сэрцам чуўствую. Будзеш ты як на сем коней адразу ўссеўшы.

А цяпер бліжэ к целу. Мне аж страшна пісаць — замець, какія бальшыя абзацы дзелаю. Можэт быць, ты перадал бы па какіх-нібудзь валнах маі сціхі, паскольку я, как і твой радзіокаміцет, сейчас паіздзержался німножка. Но ведзь, сам панімаіш, у радзіокаміцета есть гасударсцвенные датацыі. А ў мяне якога чорта ёсць? Што тут і гаварыць, сціхі прэкрасныя. Трудна сказаць севодня, у какой фонд — залатой ілі алавянный — ацечэсцвеннай паэзіі ані войдут, но прэлесць эціх сціхов асобенно подчёрківает мая жена, еслі я адвалю ей какую-нібудзь дохлую дзесятку з ганарара.

Кароча гавара, ты, можа, выбераш што-небудзь і перадасі. Это разагнало бы маі мрачные мыслі нашчот брэннасці зямнога сушчэствавання. Собственна гавара, ты можаш іспользаваць і перадаваць іх как угодно вашым взглядам. Можаш хоць увязаць вяроўкамі Фіндлея альбо асколка татара-мангольскага нашэсця на радную старану (гэта твае супрацоўнічкі, каб ім ні дна, ні пакрышкі) і крычаць ім эці сціхі на вуха, но пра ведамасць рашчотную не забудзь!

Шчыра дзякую! Рыгор Ракасоўскі».

* * *

За зіму пры самай шашы узнік дабраваты штабель маладога стрункаватага яловага бярвення. Усё гэта было добра складзена, але дрэнна ляжала. А тое, што дрэнна ляжыць, ляжыць нядоўга. Штабель з кожнай ноччу рабіўся ўсё меншым, нібыта высыхаў. Нарэшце засталося толькі некалькі камлёў. Тое, што прыстаралася зіма, забрала вясна. Па паленцу разбрылося ўсё па вясковых дварах. А кажуць, цудаў не бывае.

* * *

Маіх вясковых аднагодкаў, з кім мы дзялілі адны радасці, забавы ды прыгоды, разам раслі і падрасталі, няма ўжо, на жаль, на гэтым свеце. Часта я думаю, што б я сказаў ім, калі б здарыўся раптам цуд і нам выпала сустрэцца. А сказаў бы я, напэўна тое, што раслі мы ўсе паэтамі. І я тут нічога не перабольшваю. Не абавязкова кожнаму браць у рукі сампіску ды аркуш паперы і пісаць нейкія там радкі. Можна і не пісаць іх, а быць паэтамі. Яны, мае дзіцячыя сябры, імі былі. А тое, што я сам сёння пішу, — гэта даніна іх памяці і не больш. Тады, і праўда, без паэзіі нідзе не абыходзілася. Вось мы носімся, расхрыстаныя, па гумнішчы, гулям у хованкі. Толькі мільгаюць у вачах кароткія, замурзаныя кашулькі, ды штонікі да калена, з завязанымі вузлом шлейкамі, а насустрач ляціць вершанё дзядзькі Адася:

Гэй, вы, хлопцы-галапупцы,
Хай з вас дзеўкі не смяюцца!
Мы рамені распяражам,
Хто такія — ім пакажам!...

На кожнага з нас нават была свая babershavanka. Як здагадваюся я сёння, ёю дапякалі яшчэ нашых бацькоў, а, можа, і дзядоў. Вось чым даймалі мы суседскага Петруся:

Пятрусь злавіў гусь,
Петрусіха — качку
Пасадзілі на паліцу,
Цалавалі ў с…

Пятруську вельмі крыўдзіць апошні радок. Але ж з песні слова не выкінеш.

У старэйшых быў свой фальклор, свае прыпеўкі. Частушкі на матыў славутай Сямёнаўны на вечарынках сыпаліся, як гарох з рукава. Мы, малыя, падхоплівалі:

Ой, Сямёнаўна, баба хітрая —
Любіла Сталіна, а потым — Гітлера.

Пазней спявалі гэтую:

А самалёт ляціць —
Адкрыта фортачка,
А ў калгасніка
Збоку торбачка.

Як тут не будзеш паэтам?! Я яшчэ ніводнай літары не ведаў, не трымаў у руцэ ніводнай кнігі, а ўжо ля пастушынага вогнішча на астраўскім грудзе, адзін са старэйшых чытаў нам такія «свае» радкі з нейкага невялікага томіка.

— Дай хоць у руках патрымаць! — прасілі мы наперабой. Ён даваў, але ўзамен нешта прасіў за гэта — ці яблык які, ці грушу. Як пазней я даведаўся, быў гэта томік Францішка Багушэвіча. Вунь калі пачыналася наша школа!

Недзе побач былі вайна, бясхлеб’е, няшчымніца, але была і паэзія. І яна была мацней ад усяго гэтага. Вось таму і сумна, і цяжка мне, калі бачу, як яе крыўдзяць. Але яна мужная! Яна не дасць сябе ў крыўду!..

* * *

У адрозненне ад многіх сумнавядомых паэтаў, Антон Бялевіч слыў паэтам шумнавядомым. Мог і пашумець, часам і там, дзе не дазвалялася. Сёй-той з маладзейшых потым спрабаваў паўтарыць, ім аднойчы пройдзенае, і цярпеў фіяска. У Антона Пятровіча яго добрая шумлівасць зыходзіла з яго добрай натуры. Вядомы карыкатурыст намаляваў паэта ў форме «антона наліўнога». Такі ўсмешлівы атрымаўся яблычак. Галоўнае, што спелы. Тады ў паэта быў поўдзень веку, і быў ён, як тады казалі, «у росквіце творчых сіл». Сіл тых сапраўды хапала і на вершы, і на паэмы, і на рэцэнзіі, ды і нарысы.

Ён быў чалавекам адкрытым, мог сказаць праўду ў вочы, некага сагнаць нават з трыбуны. Збоку гэта ўсё было падобна на нейкі хітраваты досціп ці добразычлівы жарт. Нават калі здараліся сумныя пісьменніцкія сходы, з'яўляўся Антон і падкідваў у гэта сумоцце жменю вясёлага жару.

На ўрадавы прыём у Вайсковым завулку пасля з'езда пісьменнікаў, які праходзіў у толькі пабудаваным Доме літаратара, запрашалі не ўсіх. Я, малады, трапіў туды, як член падліковай камісіі. У вузкія варотцы шаноўнага двара прапускалі два плячыстыя дзяцюкі ў цывільным. Яны і самі глядзеліся на добрыя варотцы пры дзяржаўным будынку. Антон Пятровіч ішоў да іх услед за мною.

— Ваша запрашэнне? — прыпынілі яго.

— А мяне Пятро Міронавіч Машэраў запрасіў, — скорагаворкай адказаў Антон Пятровіч і ўслед за мной пайшоў да ганка.

Потым мы стаялі з ім побач пры акне, справа. Самая выгадная пазіцыя, бо побач быў і столік, за якім шчыравала афіцыянтка. Стол жа прыёму быў выстраены літарай Т, і ў канцы, на завяршэнні літары, размясцілася вышэйшае начальства на чале з П. М. Машэравым. Антон Пятровіч раптам схапіў свой келіх і, адсунуўшы астатніх, падаўся ўперад. Там раптам павесялела, адчуўся нейкі незвычайны рух, які пераходзіў у рогат. А потым я Антона Пятровіча згледзеў ужо недзе ў дзвярах.

— Мяне пасадзілі ў чорную «Волгу», адвезлі дамоў і аддалі маёй Ані, — расказваў ён назаўтра ў нас у рэдакцыі.

Мала што з майго першага ў жыцці з'езда засталося ў памяці, а вось гэта я запомніў добра.

Калі Антон Бялевіч «шумеў» на поўную моц, спыніць яго мог не кожны, ды і не кожны адважыўся б на гэта. Яно было пад сілу толькі аднаму з нас. «Я ведаю, як Антошу супакоіць», — казаў яго лепшы сябра Анатоль Вялюгін. Калі Антон «узрываўся», падыходзіў павольна да яго Вялюгін, браў яго за руку і, усміхаючыся, цытаваў:

— Ціха, мора, чаго ты шуміш?
Я і сам бушаваць умею!

Антон Пятровіч адразу лагоднеў, святлеў вачыма і абдымаў свайго сябра. Такое бачыў я неаднойчы.

* * *

У грыбным лесе, дзе ты сам-насам, пакуль вочы тваё шукаюць тое, што, магчыма, яшчэ і не вырасла, за табой неадступна ідуць твае думкі. Задумаешся, ды пачнеш згадваць тых, хто мог бы, блізка ці далёка, падумаць і пра

цябе самога. Слаба мне верыцца ў тыя самыя сустрэчныя біяхвалі ці токі, але ў думках сваіх дапускаю ўсялякае, нават нерэальнае.

У лесе я часта згадваю і тое, за што мне дасюль яшчэ сорамна. Хай сабе яно і даравалася, але ж не забылася. У лесе я і крычу, і малюся, і каюся, і караю сам сябе ўсялякага. Словамі маці і бацькі, якія яшчэ не зніклі з памяці, дакараю, хвашчу, прабіраю. Так пранікліва і бязлітасна. І потым — лягчэе на сэрцы. Мне не проста, калі я вяртаюся з лесу, бо я нясу з сабой не толькі гэты кошычак, але яшчэ і рай, і пекла свае.

* * *

Ладзячы ў сваім двары цяпліцу пад новы ўраджай, старэйшы папракнуў маладзейшага, якому яшчэ ўсё балела галава пасля ўчарашняга:

— Ты чаму нічога не робіш?

— А што рабіць?

— А ведаеш, што сказаў філосаф Скаварада?

— Не ведаю.

— А сказаў ён так: калі вы не маеце чаго рабіць — рабіце хоць дзяцей.

— Дзяцей я ўжо зрабіў. Але паглядзеў бы я, што б сказаў твой філосаф Скаварада, каб не меў чаго на скавараду тым дзецям пакласці.

Паўсміхаўся старэйшы: «Ну чым не філосаф?!» І пачаў думаць, ці не пахмяліць яму гэтага маладога, не слабага на язык? Дзе хто вам так скажа?..

* * *

Мне ён пахваліўся такім чынам:

— Добра робіць гэты наш мінскі халадзільнік. Нават не гурчыць, калі ўключаецца і адключаецца. Добра і марозіць. Вось каб яшчэ мог замарожваць і цэны.

* * *

Гляджу з акна на шумлівы ды гуллівы ранішні дождж, што танчыць на лістах нядаўна адквітнелага язьміну, як ён упарта выбівае дарожку-равок пад капелюшом страхі, бяжыць па градах ды поўніць вадою лужыну каля суседскай хаты. Нібыта свежа, нават весела на душы. «А пастаяў бы ты пад гэтым дажджом недзе там, дзе няма нічога, каб ад яго схавацца!» — гэта кажа мне той другі я. І мушу з ім згаджацца. Прыемна на ўсё глядзець, калі ты глядзіш на яго з-за акна.

* * *

Вельмі ўхвальнае правіла ў мовазнаўстве: як чуецца — так і пішацца. Але ж тут яшчэ важна ўлічваць і слых чалавека. Як, на які слых яно чуецца. У пасляваенную вёску прыйшло новае слова «дамкрат». Але вёска яго пачула па-свойму: «банкрат». Так і называлі тую прыладу для падважвання цяжкой машыны. Дамкрат узяў на сябе абавязкі рычага ці падважніка.

А яшчэ пазнейшы час прынёс з сабою слова «фестываль». Быў гэта 1957 год, у Маскве ладзіўся той вядомы фестываль моладзі, і новае слова нібы завісла на вуснах. Аднак вёска яго пачала прамаўляць на свой лад: «сасціваль».

А было ж да гэтага ў народным ужытку такое харошае слоўца «фэст». Так варта было і назваць той фестываль. Бо сэнс вельмі ж падобны.

А вось і яшчэ прыклад смешнага. Знаёмы наш прыроджана картавіў. Перадалося гэта, вядома ж, і сыну. Вось меншы знаёмага сеў за дамашнія ўрокі і пытаецца ў бацькі:

— Тата! Як пішацца слова «трансфарматар»?

— Як чуецца, так і пішацца — т-д-т-лансфалматал! — адказвае бацька.

Вось і напішы пачутае. І слухаць, і чуць, і вымаўляць, і пісаць — гэта не адно і тое ж. Гэта я не ў якасці якой-небудзь спрэчкі з мовазнаўцамі. Гэта маё, як і іх, набалелае.

* * *

За сталом, калі добра разгаманіліся і згадалі аднаго, сёння ўжо крыху вядомага, мой суразмоўца не прамінуў намякнуць і на сваю важнасць:

— Ды мы з ім некалі разам да дзевак бегалі.

Тады не ўтрымалася яна:

— Не ведаю, як вы там бегалі. Колькі я памятаю, дык ён не да дзевак, а ад іх усё бегаў, уцякаў.

Гэтым ужо нібы падвысіла і сябе, да якой якраз ніхто і не бегаў. Мужчына ўсё зразумеў і больш нічога не сказаў.

* * *

Нам трэба часцей згадваць сяброў, з якімі мы недахадзілі, недагулялі, недапілі, недапісалі, недасябравалі. Яны ж не вінаваты, што раней ад нас пакінулі гэты свет, хоць не вінаваты ў гэтым і мы. Клясціся не трэба. А трэба ўсяго — памятаць.

* * *

Маё каханне да яе чымсьці нагадвала вайну. Я ўвесь час у кагосьці яе адваёўваў. Баі ішлі з пераменным поспехам. Я выйшаў з той вайны не пераможцам, а пераможаным. А раны мае баляць яшчэ і сёння. Вайна ёсць вайна.

* * *

Мой пісьмовы стол у вясковай хаце — адначасна і ложак для майго ката «з характарам». Калі яму ўдумаецца спаць, ён прыходзіць і без ніякага дазволу кладзецца на рукапіс і заплюшчвае свае хітрыя вочы, зусім не зважаючы на маю, толькі што памакнутую ў чарніла думку. Гэтак з ім пачынаюць драмаць і мае думкі.

* * *

Гэта дзіўнаватая жанчына некалі сябравала з маёй цешчай. Я не дапытваўся, як яны пасябравалі, але была яна адзінокай і часта наведвалася да нас на вуліцу Будзённага. Без майго дазволу яна гартала нейкія кнігі на маёй кніжнай паліцы, любіла адвесці душу цікавымі размовамі, часта кранаючыся самых нечаканых тэм. І кожны раз казала адно: калі яна пакіне гэты свет, дык закопваць яе не трэба, спальваць у крэматорыі таксама.

Яна ўжо даўно вырашыла, што свой шкілет завяшчае анатамам для іх усялякіх доследаў. Мне было гэта страшна слухаць, таму я спрабаваў кожны раз звесці нашу гаворку да нейкага жарту. Праўда, у мяне гэта дрэнна атрымлівалася. Смяялася яна, калі я казаў ёй, што быў такі Жыжка, які завяшчаў сваю скуру на барабан, які б потым клікаў на змаганне яму падобных. Я тут жа дапякаў яе пытаннем:

— У таго была змагарная мэта. А ў вас якая?

— Мэты ў мяне няма, — адказвала яна. — Мэта павінна быць у тых, каму я сваё грэшнае цела завяшчаю.

Нейкая, вядома, мудрасць у гэтым была. Але страшнавата мне было ад самога ўяўлення. Цяжка ўяўляць жывога мёртвым, ды яшчэ шкілетам.

Жанчына тая даўно пакінула гэты свет, няма даўно і маёй цешчы. А нашы размовы мне дасюль помняцца. І сёння яшчэ здзіўляе такая лёгкая звычайнасць спакою, з якой яна разважала пра такія незвычайныя рэчы.

* * *

Многія, на жаль, думаюць, што ў лесе ім усё можна. Там жа ніхто не бачыць. Вось і кідаюць сабе пад ногі і нейкія паперчыны, і недакуркі, і карабкі ад запалак, словам, усё тое, што называецца смеццем. І не ведаю я ніводнага выпадку, каб хто падняў тую ж паперчыну ды аднёс на сметнік, ці ў крайнім выпадку спаліў яе. Чалавеку так і карціць пакінуць усюды свой брыдкі след. А гэта ж тое самае, што прайсці ў брудных чаравіках па свежай дывановай дарожцы.

* * *

Пушчанскі сабака брэша з паўзамі. Гаўкне — ды паслухае, што яму адкажа рэхам лясны гушчар. Брэша, як глядзіць на сябе ў люстэрка: які я там, з таго боку? Страшнейшай бывае брахня чалавечая. І калі яе падхопіць рэха, можна чакаць усяго самага горшага.

* * *

У свае маладыя гады набыў я новыя «Жыгулі». І любіў паліхачыць. Усе маладыя любяць хуткасць. Ну а гэта па-іншаму называецца: парушэннем правіл дарожнага руху. Аднойчы мяне спынілі. Даішнікаў было двое. Пакуль адзін уважліва вывучаў мае дакументы, другі дапытваўся:

— А дзе працуеце, Казімір Вікенцьевіч?

— Ды ёсць такі часопіс «Полымя». Старэйшы літаратурны. Там і працую.

— А кім?

— Ды загадчыкам, аддзела крытыкі.

— Як жа вы крытыкуеце іншых, калі самі парушаеце?

Я не сказаў яму, як я крытыкую іншых, а вінавата маўчаў. Але мне і гэтага было дастаткова, каб зразумець, што такое крытыка.

* * *

Край можа быць і левы, і правы, і пярэдні, і задні. Я хацеў бы заўсёды трымацца левага, там, дзе маё сэрца. А бальшыня люду любіць залатую сярэ-

дзіну. Вакол нас пераважаюць «сярэднячкі». Адсюль, відаць, і творы сярэднія ці пасрэдныя.

* * *

Мужчыну, што вярнуўся з замежнай вандроўкі, з усіх бакоў абступаюць з пытаннямі. А ў яго яшчэ ўсё не адляжалася ці не адстаялася. Уражанняў многа, але ніяк не ўладкаваць іх у адно нейкае рэчышча.

— Ну як там? — наступаюць землякі.

— Ну як... Прыгажосць такая ўсюды. Ціха і спакойна, як і ў нас. І п’янага там каб хоць аднаго ўбачыў, апрача хіба сябе самога…

* * *

Каго радасна сустракаюць па адзенні, часта сумна праводзяць у чым маці нарадзіла.

* * *

Гэта заўсёды непрыемна, калі словы праўды прамаўляюць шэптам, і зусім сумна — калі моўчкі.

* * *

Усё ёсць у паэта: жонка, дзеці, машына, хата, дача… А чаго няма? Няма самага галоўнага — паэта.

* * *

У сапраўднага чыноўніка мусіць быць свой загар — бела-пудравы колер чыноўнага твару. Можна — і з налётам румянцу. Адзін мой знаёмы, рыхтуючыся да нечаканай пасады, два тыдні адпойваў сябе малаком — гэтак адбельваў свой, загарэлы на чарцы ды скварцы, твар.

* * *

Падаваў ён руку для вітання, хоць і ветліва, але асцярожна, баяўся, каб моцна не паціснулі яе. Балелі далоні, бо адбіў іх, доўга пляскаючы ў ладкі тым, самым паважаным ды любімым.

Была і служба такая па арганізацыі авацыі. Ён быў самым верным у гэтай службе. Яшчэ і сёння ён шукае сябе на старонках старых газет. І знаходзіць недзе там, у дужках, дзе чорным па белым напісана: «Бурныя апладысменты».

## Свежаванне быка

Колькі б разоў я ні згадваў сваю пушчанскую вёску, мушу згадваць і яго, вартаўніка з калгаснай фермы, Лявона. А ён у нашых мясцінах, трэба сказаць, мае большую вядомасць, чым я, пісьменнік. Вядомасць — рэч непрадказальная. Двойчы на дзень: раніцой, калі вяртаецца з начнога дзяжурства,

і вечарам, калі ідзе на свой адказны пост, ён заходзіць да мяне ў двор. Незалежна ад таго, налью ці не налью чарку «для апахмельцу», Лявон абавязкова выдасць мне ўсю дзённую інфамацыю. І тую, што сам пачуў, і што па-свойму выслухаў з тэлевізара. Усе тутэйшыя навіны праходзяць толькі праз вушы і вусны Лявона.

Сёння з раніцы ля кароўніка, што не так і далёка адбегся ад маёй сядзібы, вастрылі нажы, размотвалі вяроўкі. Яшчэ ўчора начальства выдала загад свежаваць быка. Такое здараецца не часта, а калі ўжо здараецца, тады працуюць, а заадно і святкуюць не толькі работнікі фермы ва ўсіх званнях, але і тутэйшыя сабакі, і каты. А то забяжыць і прыблудная ліса з нейкага котлішча.

Дачуўся пра тое і тутэйшы ветэран-крапак па мянушцы Жмак. І яшчэ ўчора ён даваў нашаму вартаўнічаму наказ:

— Ты ж, Лявонка, глядзі там, каб не выкінулі сабакам бычыныя яйкі. Кажуць, яны нам, мужчынам, надта дапамагаюць. Табе, маладому, пра тое яшчэ рана думаць. Але я прашу. Ты ж, ведаеш, што не за так.

— Ну, што вы, дзядзька, — абрадаваўся Лявон. — Дастаўлю ў лепшым, як кажуць, выглядзе.

Недзе пад полдудзень туша бычка была ўжо гатовая для разрубу, яйкі быковы пакоіліся ў поліэтыленавым мяшэчку, які моцна трымаў у сваёй руцэ Лявон. Нават калі потым падымалі чарку за таго калгаснага волата, ён не выпускаў з рукі таго мяшэчка. Бо ён вечарам абяцаў чарку яшчэ большую. Лявон акасеў вельмі хутка. Напрацаваліся ўсё ж хлопцы, валячы і свяжуючы таго быка, а ў Лявона была яшчэ і бяссонная ноч. І калі ён паспрабаваў падняцца, каб пайсці ў канец вёскі, дзе яго ўжо нецярпліва чакаў сам Жмак, ногі яго не ўтрымалі, і ён рынуўся ў нейкую саламяную церуху пры самых дзвярах кароўніка, дзе яны свежавалі быка. Аднак і ў гэтым становішчы мяшэчак з яйкамі ў руцэ ён трымаў надзейна. Хлопцы паслалі яму крыху мякчэйшую пасцель недзе ў закутку, дзе ён салодка пахропваў з тым сакраментальным мяшэчкам у замком сціснутай левай руцэ. Такім яго ўбачыў і заатэхнік, які неўзабаве прыехаў прымаць свежую ялавічыну. Заатэхнік палядзеў на Лявона зласнавата, потым усміхнуўся і паспрабаваў забраць з рукі соннага вартаўніка мяшэчак, але Лявон рвануў яго на сябе, штосьці незразумелае прамармытаў і разам з мяшэчкам перавярнуўся на другі бок.

## Камісіёнка на Кірава

Калі я ўспамінамі пачынаю вяртацца ў сваё студэнцкае юнацтва — а такое здараецца даволі часта, — у вачах адразу ўзнікае і яна, тая камісійная крама, а па-просту — камісіёнка. Месцілася яна на вуліцы Кірава, бліз стадыёна, не так і далёка ад нашага інтэрната па Свярдлова. Пачыналіся шасцідзясятыя гады, якія неслі ў наша жыццё шмат новага, нечаканага, а жылі мы бедна, як і нашы бацькі. У Мінск я прыехаў у перашытым, пераліцаваным бацькавым касцюме. І паглядзеўшы, як апранаюцца тыя, хто жыў са мною ў інтэрнаце, якія модніцы і моднікі шпацыруюць па галоўным праспекце сталіцы, мне стала сорамна. І з адлегласці сённяшняга дня бачу, як смешна, як нікчэмна тады я выглядаў. Гэта не давала мне жыць, скрабло за жывое, а бацькі, на жаль, не маглі нічым дапамгчы. І тады я цвёрда вырашыў для сябе: трэба апранущца. У вольны час я блукаў па цесных і не цесных вуліцах горада, з канца ў канец аббягаў усю Нямігу, дзе было надзвычайнай шмат крам, у тым ліку і камісійных.

Хадзіў адзін, лясны мой характар схіляў мяне да адзіноты, хаўруснікаў аніякіх не цярпеў.

А неяк я зайшоў і ў гэту краму на Кірава. Падалася яна мне прасторнай і дужа багатай. Самае моднае адзенне, якое тады існавала, адшукаць можна было толькі тут. Я хадзіў сярод прапахлых нафталінам стэлажоў, прыглядаўся да цэннікаў і баяўся іх параўноўваць з тым, што было ў маім худзенькім, як сам я, гаманцы. Самыя неверагодныя мроі гулі-бушавалі ў маёй маладой галаве.

Я пачаў прыкідваць, дзе я магу ўзяць тыя самыя, хоць якія грошы. Хутка будзе стыпендыя — раз, а яшчэ ёсць студэнцкая каса ўзаемадапамогі — два. Папрашу ў іх, можа, які рубель пазычаць. Была яшчэ трэцяя, але надта хісткая надзея. Я пачынаў друкавацца. Мае вершы надрукавала ўжо «Чырвоная змена», узялі ў часопісе «Маладосць», абяцалі надрукаваць у «Полымі». Магчыма, якую капейку выпрашу яшчэ ў бацькі. І ўсё, больш мне ніхто не паможа. І жадалася мне тады толькі аднаго: вось каб здарыўся раптам цуд, каб ішоў я і раптам перада мною з’явіўся нейкі кашалёк з грашыма. Ах, як бы я схапіў яго, ну і адвёў бы душу. Але тут жа і рабілася сумна, бо і шкада было таго, хто яго згубіць. Не, хай здарыцца такі цуд, які нікога не пакрыўдзіць! Але прэч летуценнасць! Хіба я не ведаю, што цудаў у звычайным жыцці не бывае. Я ведаў гэта ўжо, калі толькі нарадзіўся. І ўсё ж ад мары сваёй я не адступіўся. Жыў, не даядаючы, далёка абыходзіў сталоўкі, што былі па дарозе і з якіх так спакушальна пахла смачным. У сталовай-аўтамаце на Свярдлова на сталах ляжаў бясплатны хлеб. Возьмеш за чатыры капейкі шклянку гарбаты, намажаш на хлеб дармавой гарчыцы са сподка — і ты выратаваны. Не памрэш, як мы казалі, з голаду.

Я хаджу па вялікім горадзе, ды ўвесь час мацаю свой сціпленькі гаманец. Хаця б і гэты не свіснуў які-небудзь кішэннік. Вясковага ж разяваку відаць здалёк. Ледзь не кожны дзень забягаю і ў сваю аблюбаваную камісіёнку.

У гаманцы маім крыху пацяплела, атрымаў і стыпендыю, і некалькі ганарараў. Праўда, зусім мізэрных. А абноўкі патрэбнай сабе ўсё не знаходжу. Чаму ж, дарагіх, але не па маіх грашовых магчымасцях рэчаў, тут колькі хочаш, а тое, што магу пацягнуць я, усё яшчэ не спяшаецца на склад камісіёнкі.

Як абнавіць мой ніякі гардэроб, ужо сур’ёзна падумвае і мой бацька. Неяк прыехаў ён у Мінск, і мы пайшлі з ім праведаць яго даўняга знаёмага, які жыў тады дзесьці ў раёне Юбілейнай плошчы. Я разумею цяпер, чаму ён тады павёў з сабою і мяне. Хацеў, напэўна, пахваліцца, што выгадаваў не абы-каго, а вунь якога дзецюка, які і ў самую ганаровую навучальную ўстанову без ніякага блату паступіў, ды яшчэ нейкія «вершыкі крэмзае» і нават іх друкуе.

Гаспадары, а жылі яны ва ўласным драўляным доме, накрылі амаль святочны стол. Разам з гаспадаром сеў за яго і гаспадароў сын (пазней я даведаўся, што ён — прыёмны), які быў, здаецца, маіх гадоў, і, як кажуць, зашумела застолле. Яшчэ на самым пачатку нашага знаёмства я заўважыў, што малодшы з гаспадароў увесь час кідае позірк на маё сціплае ўбранне, ды ў позірку тым праглядаецца нават нейкая нібы насмешка. А ўжо калі мы крыху больш захмялелі, Лёнік, так звалі хлопца, так прама мне і сказаў пры ўсіх:

— Ты цяпер чалавек гарадскі, а таму і апранацца адпаведна павінен.

Старэйшы гаспадар пачаў яго ўшчуваць, казаць, што гэта не тактоўна рабіць за сталом нейкія заўвагі госцю. Але маладзейшы не супакойваўся,

больш таго, падняўся з-за стала, падняў і мяне, павёў да шафы і пачаў паказваць свой гардэроб. Ён выцягваў з шафы вешакі са штанамі, самага рознага крою і колеру пінжакамі. І я аслупянеў ад убачанага. Не ведаю, што тое было — ці зайздрасць, ці разгубленасць. У мяне з яшчэ большай сілай зашчымела ўнутры тое, што шчымела ўвесь час дагэтуль. Цяпер ужо і бацька мне цвёрда сказаў: «Трэба купляць табе добры касцюм!» Але мне хацелася не гэтага. Калі купляць, цвёрда вырашыў я, дык толькі такі, як я хачу, і на мае грошы.

А дні ішлі, кіпела студэнцкае жыццё. Усё смялей і смялей мы пачыналі заглядвацца на філфакаўскіх прыгажунь, наведваць маладзёжныя вечарынкі. Не надта і брыдкія хлопцы выраcталі з нас, а каб да ўсяго гэтага ды яшчэ нейкую прыстойную адзежыну, дык можна было б і любога гарадскога за пояс заткнуць. Але пра гэта заставалася толькі марыць

Тым вечарам, калі мы развіталіся з бацькам (начаваць ён застаўся ў свайго знаёмага) на развітанне ён мне сказаў:

— Ты глядзі тут, калі што людскае з адзення знойдзеш, адразу дай знаць. Будзем глядзець.

Я па-ранейшаму бегаў у сваю камісіёнку. І вось аднойчы пашанцавала. Прадавец недзе з-пад самай столі падчапіў кійком вяшак з чорным касцюмам, на які я паклаў вока, і аднёс яго ў прымерачную. Чорнае, гладкае і тонкае сукно пры святле ажно пабліскавала ў маіх вачах. Я пачаў прымяраць. Штаны былі пашыты як на мяне, а вось пінжак не па маіх плячах, той, хто насіў яго да мяне, відаць, быў значна плячысцей. Але не бяда, суцяшаў я сябе, пінжак нават хаваў маю юнацкую танклявасць і дадаваў больш мужчынскасці, што мне падабалася. Я падлічыў тое, што ляжала ў маім гаманцы і зірнуў яшчэ раз на цэннік. Для куплі не хапала некалькі чырвонцаў. Гэта мяне не надта засмуціла — я ведаў, што абавязкова пазычу іх у маіх аднакурснікаў, потым з’езджу дамоў, вазьму бацькаву дапамогу і разлічуся з хлопцамі. Я папрасіў прадаўца на пару гадзін пачакаць з аплатай, а сам пабег у інтэрнат.

Касцюм мы прымяралі ўсім інтэрнацкім пакоем. Штаны я прымяраць нікому не дазволіў, апраналі па чарзе толькі пінжак. Самае дзіўнае, што кожнаму з нас пяцярых ён пасаваў, нібыта быў закладзены ў ім нейкі свой кравецкі сакрэт. Пазней я аб гэтым нават пашкадаваў, бо дзяліцца ім, пінжаком, выпадала не аднойчы. Калі прыспее ў некага якаясьці важная ўрачыстая нагода, трэба выйсці на людзі, тут жа бягуць да мяне пазычаць той пінжак. А адмаўляць я не ўмею.

Да касцюма я неўзабаве набыў белую кашулю і чорны гальштук, і з мяне раптам паперла гэтак званая пушчанская кавалерыстаць. Пазычыўшы плячэй у пінжака, а весялосці ў чаркі — пачаў без разбору хадзіць на вечарынкі. Неяк з сябрам забрылі ажно на Камвольны камбінат. Моладзі на той вечарыне было, як камароў летнім вечарам. Большасцю дзяўчаты, але хапала і хлопцаў. Пачалі мы «клеіць», як цяпер кажуць, нейкіх красунь, а адна потым, танцуючы, і шэпча мне на вуха:

— Уцякайце ціхенька, бо вас нашы чувакі збіраюцца пабіць…

Настрой быў сапсаваны. Мы паволі прасунуліся за дзверы і бачым, што колькі постацей падалося за намі. Памятаю добра, як мы ўцякалі адтуль. А за намі цэлая гайня. Як кажуць, толькі пяткі нашы блішчэлі. А пінжак той я на хаду зняў і нёсся, трымаючы яго ў руцэ. Ужо дабягаючы да інтэрната, азірнуліся: гайні за намі не было. Больш на чужыя вечарынкі хадзіць я не адважваўся.

Затое ўвайшло ў маю звычку заходзіць, як на нейкую паверку, у маю камісіёнку. Здаецца, ведалі мяне ў твар усе прадаўцы. Потым я купіў у той краме шыкоўны швэдар. Быў ён увесь вытканы шматкаляровымі палоскамі, не швэдар, а суцэльная вясёлка. Нідзе ў Мінску я больш такога швэдара не бачыў. На нашым студэнцкім здымку я ў ім нават увекавечыўся.

Пазней, калі я крыху разжыўся на грошы, пачаў думаць пра новы касцюм, нават шукаць яго ў крамах. Аднак такога, «як на мяне» так нідзе і не знайшоў. Нешта было ўсё не тое: то штаны шырокія, то пінжак задоўгі і мешкаваты. І тады я зноў згадаў пра маю даўнюю сяброўку, камісіёнку. Але астудзіў мой пыл бацька. Неяк ён і кажа:

— Ты разумееш, што такое камісіёнка? Гэта ж усё з чужога пляча. А, можа, яно з нябожчыка якога…

Сумна зрабілася ў мяне на душы. Я, чалавек уражлівы, схільны да самых нечаканых уяўленняў, падумаў раптам пра самае горшае. Пасля той нашай размовы не захацелася мне больш апранаць і мой некалі так упадабаны чорны касцюм. За гэты час ён здорава паднасіўся, абцёрся. Неўзабаве атрымаў я вайсковую позву. А вярнуўшыся праз тры гады з арміі, пра касцюм той і зусім забыўся. І пра камісіёнку — таксама. Усе свае пазнейшыя касцюмы я шыў толькі ў атэлье.

А неяк мы застольна сядзелі на кватэры ў Анатоля Вялюгіна. Госцем быў у яго і майстра кравецкіх спраў, які доўгі час шыў убранне для нашых вядомых артыстаў і ўсе вялюгінаўскія касцюмы былі таксама ягонай работы. Выпіўшы не адну чарку, пазнаёміліся. І я згадаў раптам, што ў мяне дома ляжыць даволі прыстойны адрэз карычневага сукна. Якраз — для мужчынскага касцюма. Мы і дамовіліся з ім, што ён пашые мне сапраўды артыстычны касцюм. Я ўжо наперад узрадаваўся, уявіў, як буду выкшталцона выглядаць перад астатнімі. Неўзабаве мы сустрэліся. Ён доўга абмяраў мяне сваім кравецкім метрам. Потым я хадзіў на прымерку. А яшчэ пазней пайшоў забіраць гатовы касцюм. Збоку заўсёды не бачыш, як на табе сядзіць тваё адзенне. Калі я апрануў тую карычневую абноўку дома, жонка мая ледзьве не зайшлася ад рогату:

— Ну, і артыст!.. Ведаеш, на каго ты падобны ў гэтым касцюме?..

І каб не распальваць ува мне ўжо відавочны гнеў, яна не сказала, на каго я быў падобны. Я і сам гэта добра ведаў. На пудзіла гароднае, вядома ж… Ледзьве стрымліваючы слёзы, я папрасіў жонку загарнуць той касцюм у пакет, і з ім у руцэ сумна паплёўся за дзверы. Вы падумаеце, што панёс я яго назад, майстру? Зусім не. Я згадаў раптам сваю сяброўку, камісіёнку, і панёс яго туды.

У камісіёнцы ўжо завіхаліся зусім іншыя людзі. Не ведаў нікога я, не ведаў ніхто мяне. А гэта для справы яшчэ лепш. У камісіёнцы хутка ацанілі мой касцюм, і неўзабаве ён ужо красаваўся на вешаку перад пакупнікамі. Доўга мне чакаць не давялося. Праз некалькі дзён зазваніў тэлефон, я зняў трубку, і прыемны жаночы галасок паспяваў:

— Ваш касцюм прададзены — прыходзьце атрымаць грошы!..

Жонка, якая чула нашу размову, цяжка ўздыхнула:

— Шкада адрэза!..

— Затое некаму пашанцавала на касцюм, — сумна адказаў я і пайшоў апранацца.

…Даўно не існуе ўжо маёй дарагой камісіёнкі. Сёння я ўжо ў тым узросце, калі не шыюць, не купляюць, а даношваюць сваё старое адзенне, а не сваё, дык неданошанае з плячэй сваіх дзяцей ды ўнукаў. Сёння як сёння…

* * *

Калі я саджуся пісаць гэту сваю «мініяцюрную прозу», заўсёды ўсаджваю з сабой побач і маіх двух хаўруснікаў — маю памяць ды занатоўнікі, якія могуць быць і ў выглядзе сшыткаў, блакнотаў, і проста нейкіх невялікіх паперчын ці сурвэтак. Напрыканцы кожны раз карціць паставіць кропку і больш ніколі не вяртацца да гэтай пісаніны. Я б мог зрабіць такое, але жыццё падкідвае цэлы россып нейкіх новых здарэнняў, навін, нечакалінак, небывалінак, сумнага, смешнага і нават трагічнага. Падобнае часта называюць мініяцюрамі, запісамі, зацемкамі. А, можа, лепш пайсці ад таго «россыпу» і назваць яго так — рассыпінкі? Трэба падумаць…

* * *

Кожная жывая істота з’яўляецца на гэты свет і ад самага нараджэння падпарадкоўваецца аднаму найгалоўнейшаму закону боскай канстытуцыі: як жыць, выжываць, і даваць працяг роду свайму.

* * *

Учора збіраўся яшчэ раз скасіць і двор, і нейкі паўзмежак, каб вясной лягчэй прабівалася свежая трава. А раніцой прачнуўся: на двары бела, усё як выкасіў снег. Зіма і вясна прыходзяць не па календары гаспадара, а па календары Бога.

* * *

Не заўсёды малыя сцяжыны і дарогі ўцякаюць на бальшак. Часта яны выконваюць ролю злучніка пры лесе, хаце, царкве, краме ды студні.

* * *

Заўвага пушчанца: «Вы думаеце, што ў той «панскай» Польшчы жылі адны паны. Нехта ж там і араў, і сеяў, і касіў, і карміў іх і сябе…»

* * *

Сын Хведара Чэрні Аляксей стаўся хакеістам, нават трэнерам маладзёжнай каманды. Маці Надзея Мікалаеўна жартуе:

— У Хведара скрозь музыкальны род. Дзед Хведара Мацей іграў на цымбалах, бацька Мікалай — на кларнеце, сам Хведар — на акардэоне, а сын Алёшка — на клюшцы.

Дарэчы, на клюшцы нядрэнна іграе і студэнт-унук.

## Фэльцін мех

Сёння, напэўна, няма вакол нас такіх жанчын, якой была ў маладыя гады мая суседка Фэльця. Яе я ўжо згадваў у сваіх занатоўках. А гэтым успамінам вярнуся ў яе маладосць.

Тады ў Адасёвым гумне, якое знаходзіцца якраз пасярэдзіне вёскі, арфавалі калгаснае жыта новага намалоту. Мужчыны ўжо з раніцы пачыналі думаць, як гэта ў полудзень узяць па чарцы. Прыдумалі такі. А тут у гумно зайшоў брыгадзір Марцін. А мужчыны якраз заспрачаліся, хто з іх найдужэйшы. Магу з сённяшняга дня пацвердзіць, што слабакоў у вёсцы не было. Кожны з малых гадоў прызвычайваўся да нялёгкай сялянскай працы. Дык вось брыгадзір паглядзеў на паўнюткі з вяршком мех, спрытна завершаны нейкай завязкай, і ні з таго, ні з сяго ляпнуў:

— Вось калі хто з вас занясе на плячах гэты мех, то ён будзе яго.

Мужчыны затупалі, нервова пачалі пераглядацца: лішні мех зерня ў гаспадарцы не пашкодзіць. Жанчыны гэту жарт-прапанову сустрэлі зусім абыякава.

— Ну, хто смелы? — брыгадзір даў зразумець, што ён не жартуе. Сам то ён зацягнуў бы гэты мех, куды хочаш. Слыў здаравяком. Мужчыны ўсміхаліся ды маўчалі. І тады недзе з-за арфы выйшла яна, Фэльця:

— Ах, ёш вашу макаўку, мужыкі! Цьфу на вас. Я занясу. Паддайце толькі!..

Брыгадзір сумеўся:

— Табе ж тры кіламетры на твой хутар трэба несці. Ты што, дзеўка?

— А не твая справа. Паддайце!..

Узвалілі ёй на спіну той мех, і яна панесла. Нават лёгка, з подбегам пайшла. І мужчыны, і ўся вёска праводзілі яе дзіўнымі вачыма. Малыя нават выбеглі на горку, каб убачыць, як яна будзе падыходзіць да свайго хутара з тым мяшком.

І данесла, і не ўпусціла на зямлю нідзе. І як уцерла насы мужчынам!

І старыя, і малыя ведаюць у вёсцы пра гэты «Фэльцін рэкорд». Нават і параўнанне існуе вясковае «Як Фэльцін мех». Ніхто з маладзейшых не паверыў бы ў гэта, каб людзі не бачылі тое на свае вочы. Жывых сведак яшчэ многа і сёння. А сёння ёй пад дзевяноста. Вось сядзім з ёй на яе вясковай лавачцы, і яна сама мне расказвае пра ўсё гэта.

— А ці цяжка было? — зусім наіўна пытаюся я.

— Няўжо ж лёгка, — адказвае яна. — Але ж які мех жыта прынесла ў хату. Дома мяне не пахвалілі. Пра здароўе сваё, кажуць, не думаеш. А каб я думала пра сваё здароўе, то сёння мяне ўжо, можа, і на свеце гэтым не было б…

* * *

Калі ў хаце бабыля ёсць люстэрка ці кот — ён ужо не адзінокі.

* * *

Нельга курыць адразу дзве цыгаркі, піць адразу дзве чаркі, а вось адну за адной — можна. Гэтага правіла і прытрымліваюцца бывалыя палюбоўнікі.

* * *

Дзе корань зла, мы як быццам даўно ведаем. А вось адшукаць бы той жаданы корань дабра. Ці адшукаеш?

* * *

Жанчына з касой… Не, гэта не смерць. Гэта — мой вясёлы ўспамін. Бачу з акна аўтобуса, з вышыні Татраў, як яна там, у нізіне, шырока размахваючы касой, хутчэй за ўсё шасцёркай, ідзе навыперадкі з мужчынам. Вядуць сабе два роўныя пракосы, нібы спрачаюцца паміж сабой. А здагадваюся, што шчаслівыя, і вясёлыя, і маладыя, і пры сене. Шчаслівы і я, што гляджу на іх зверху.

* * *

Калі тваё слова спрабуюць на зуб, дык важна, каб зуб гэты быў не металічны. Бо як яны тады адчуюць сапраўдны смак?

* * *

Страла, пасланая тысячагоддзі назад у сэрца майго продка, вярнулася ў мае рукі пяром птушкі, якім я павінен напісаць тое, што скірую праз тысячагоддзі назад у сэрца ворага майго продка.

* * *

І птушкі, і кветкі, і зоры ў сэрцы паэта павінны спяваць ягонымі словамі.

* * *

Сёння зноў, як і ўчора, над самай хатай праляцела лебядзіная пара — ён і яна, — кіруючыся, відаць, з возера ў Калатоўцы да малой азярынкі ля Галавачовага хутара. Галасамі губных гармонікаў нешта яшчэ праспявалі над хатай. Можа, казалі мне, што пахаладала. «Перад вялікаднем так бывае», — хацелася сказаць ім у адказ. Але яны і самі ўсё добра ведаюць.



Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

# ДЫ ЗАСТАЛАСЯ ВЕРА Ў КАХАННЕ...

* * *

Нібыта сэрца стук —
начнога цягніка
Стук колаў часты,
хутка-палахлівы.
Здаецца, што нябачная рука
Пульс ночы вымярае…
Пералівы
На чорным небе зорак залатых,
Нібы дыван рассцелены над намі.
Як быццам залатоўкі —
душы тых,
Хто зараз моліцца
ужо ў нябесным храме
За нас за ўсіх,
далёка не святых
Ва ўчынках нашых,
марах-спадзяваннях…
Ды кожны з нас,
старых і маладых,
Сустрэць жадае
на зямлі каханне…

---

***Пятровіч Дзмітрый Леанідавіч** нарадзіўся 29 красавіка 1971 г. у г. Заслаўі Мінскай вобласці. Скончыў музычна-педагагічны факультэт (1996), факультэт беларускай філалогіі і культуры (2009), магістратуру (2011) Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка. Працаваў настаўнікам, вядучым стылістычным рэдактарам газеты «Звязда». Цяпер — вядучы рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар кніг паэзіі «Белая квецень кахання» (першае выданне — 2010, другое, дапоўненае — 2013), «Адзіноты пажоўклыя дні» (2014), прозы «Белая Жанчына» (2-е месца на конкурсе «Лепшы твор 2012 года»), «Анёлы» (2015), а таксама — больш за 100 песень на словы беларускіх паэтаў.*

* * *

Адзарападзіцца, ўдосталь наплачацца
Неба начное, бы зорны кілім.
Будзе, бы кошка, месячык лашчыцца
Да аблачынак уранні. За ім

Выгляне сонца. У люстра рачное
Хутка зірне — і яно заблішчыць.
Я ж прыгадаю спатканне начное,
Воч тваіх стомленых бляск уначы…

Вогнішча. Познія нашы прызнанні.
Ценяў двух танец грэшна-цнатлівы…
Стук нашых сэрцаў. Стамлёнае ранне…
Божа, якімі былі мы шчаслівымі!..

Ў неба начное я зноў узіраюся:
Шчасце шматзорыцца — ў лепшае верыцца.
Што не збылося — у гэтым я каюся.
І — у мінулым, якое не вернецца…

* * *

Па снежным цаліку я крочу басанож
Да Вечнасці, якой ужо няма.
Адчаю боль, нібыта востры нож,
Душу мне рэжа. Толькі ўсё дарма…

На поўню я малюся, на святло —
Яно ліецца стыла-бессэнсоўна…
Былое адбалела, аджыло…
Чаму ж балюча так?!. Нібыта воўна,

Мне засцілае вочы золь-туман
Маіх нязбытных, прывідных жаданняў.
Той Вечнасці няма… Вакол — падман.
…Ды засталася вера у каханне…

* * *

Абарвецца зіма, як след санны, раптоўна.
Будуць плакаць, смяяцца, спяваць капяжы.
Мы на «да» і «пасля» свет падзелім пароўну.
Дзе знаходзішся ты, дарагая, скажы?

Вось прарвецца праз воўну аблокаў праменне
Сонца яснага. Радасць напоўніць душу,

Але, мабыць, апошнім зімовым сумненнем
Прад табою яшчэ, бачыць Бог, саграшу…

Будуць клікаць мяне неабсяжныя далі,
Будуць вабіць пунсовыя ветразі волі.
Мы адно аднаму яшчэ не абяцалі
Санцакрылай вясны і шчаслівае долі.

Кожны дзень — бы жыццё — пражывём, як апошні,
У малітве матулі, і Богу, і людзям.
Шлях не можа быць лёгкім, бясхмарна-мурожным —
Хай заўсёды спагадлівым свет гэты будзе…

* * *

Вясновы верш, ахмелены журбою,
Абвоснена-самотліва гучыць.
Калі расстанне ў сэрцы адбаліць,
Сустрэнемся, нарэшце, мы з табою.

Святлістапромна хай душа пяе,
Калі блакіт нябёсаў я убачу
Ў тваіх вачах — нібы сваю удачу
Ізноў злаўлю… Бяда нас абміне!

Цяпер, здаецца, між табой і мною
Вялікі, не спазнаны шчэ сусвет.
Таму напіша новы верш паэт —
Вясновы верш, ахмелены любоўю…

## У КІЕВА-ПЯЧЭРСКАЙ ЛАЎРЫ

**Падземны храм**

Падземны храм.
            Нібы яшчэ учора
Першасвятар
            спраўляў тут набажэнства.
Маўкліва-спавядальна у пячорах
Час прыпыніўся.
            І Русі маленства
Першастваральна
            паўстае прад намі —
Па-хрысціянску
            велічна-ўрачыста.
Душа спявае ў старажытным храме,
Нібы ў Нябёсах —
            блаславёна-чыста…

**Святым пакутнікам**

У келлях вы шукалі новы свет,
Пакінуўшы акенца для старога,
Маліліся Ўсявышняму.
        Сакрэт
Глыбокай веры —
        прысвячэнне Богу
Свайго жыцця.
        Замураваны лёс…
Душу святую
        ўсё ж не замуруеш…
Ніхто не бачыў
        вашых шчырых слёз.
Мо толькі Бог…
        Бо толькі Ён шкадуе
Ўсіх тых,
        хто прысвяціў Яму жыццё
І быў у схіме.
        Вечнае маленне
Чакае іх…
        Астатніх — забыццё…
І толькі душы —
        ад грахоў збавенне…

*Да 100-годдзя беларускай міліцыі*



**Мікалай ЧАРГІНЕЦ**

# ВАМ — ЗАДАННЕ*

*Кніга першая*

## Таццяна Андрэеўна

Зіма 1943 года была суровай. Снежная, сцюдзёная і ветраная, яна нібы падкрэслівала беды і няшчасці, якія зваліліся на галовы людзей.

Але, здавалася, холад адступіў перад нечаканым паведамленнем. Велізарнай радаснай хваляй па ўсёй краіне пакацілася вестка пра разгром нямецкіх войск пад Сталінградам. Даведалася пра перамогу насельніцтва акупіраваных абласцей. Ад аднаго да другога перадавалася гэтая чаканая вестка і ў вёсцы, дзе жыла сям'я Мачалавых.

Таццяна Андрэеўна, не хаваючы слёз радасці, шчаслівая, прыбегла да суседкі.

— Цётка Марфа! — з парога закрычала яна. — Нашы разбілі немцаў пад Сталінградам. Гітлер жалобу аб'явіў!

Марфа Сцяпанаўна чула пра цяжкія баі пад Сталінградам. Немцы і паліцаі выхваляліся, што вось-вось савецкія войскі будуць разгромлены і пабягуць з горада на Волзе.

Яшчэ не верачы ў гэту радасць, бабулька выцерла мокрыя рукі аб ручнік, які вісеў ля печы, і недаверліва спытала:

— А ты адкуль ведаеш?

— Дзед Пятрусь прыходзіў, лістоўку партызанскую паказваў, а там усё напісана: і як фашыстаў білі, і колькі танкаў, самалётаў, гармат і салдат знішчана, колькі ў палон узялі. Вялікая перамога, цётка Марфа! Вельмі вялікая, зараз пагоняць іх назад! І ад Масквы, і ад Ленінграда! Прасіла я ў Петруся гэту лістоўку, але не даў. Кажа: «Яна ў мяне адна, а мне трэба многім людзям яе паказаць». Ох і адважны дзед! Яму хадзіць, беднаму, цяжка, а ён, як хлапчук, носіцца. Рады да слёз.

— Ну, дзякуй богу, — Марфа Сцяпанаўна перахрысцілася, — дайшлі, значыць, да Бога нашы маленне і просьбы.

— Што вы, цётка Марфа. Які там бог. Бог — гэта наша Чырвоная Армія. Сабралася з сіламі і дала немцам жару. Нават я, няверуючая, гатовая на такога бога маліцца. Чуе маё сэрца, што там і мой Пеця, і ваш Міша гадаў б'юць.

Яны яшчэ доўга абмяркоўвалі радасную вестку, потым Мачалава пайшла.

---

* Часопісны варыянт. Працяг. Пачатак у № 7 за 2016 г.

Але дома ёй не сядзелася. «Людзі жыцця не шкадуюць, ваююць з ворагам, — папракала яна сябе і цяпер у думках не знаходзіла сабе апраўданняў. — Колькі людзей з нашай вёскі на фронце ці ў партызанскіх атрадах ваююць. А я, дурная, думала адседзецца ў сваёй хатняй шкарлупіне. Вось нават дзед Пятрусь, хворы, кульгавы, і той дапамагае партызанам, — зараз Таццяна дакарала сябе за тое, што раней яна бачыла свой абавязак толькі ў тым, каб захаваць сваіх дзяцей. — Не, хопіць, я таксама павінна ваяваць супраць ворагаў!»

Таццяна задумалася, што б яна магла зрабіць для перамогі. Дзяцей жа не кінеш. «У атрад з імі падацца нельга, — думала яна, — гэта будзе партызанам у цяжар, у іх і так з харчам дрэнна, а я яшчэ лішніх два раты з сабой прыцягну».

Таццяна вырашыла, што ёй неабходна з кімсьці параіцца. Яшчэ не прыняўшы рашэння, яна пачала апранацца. Дзеці, занепакоеныя дзіўнымі паводзінамі маці, падышлі да яе. Юля, прыціснуўшыся, трывожна спытала:

— Мамачка, ты куды, на вуліцы ж цямнець пачынае?

Таццяна Андрэеўна зірнула ў акно: і сапраўды ўжо вечар наступіў, але ў гэты момант яна зразумела, хто ёй патрэбен. Абняла дзяцей і ласкава сказала:

— Пасядзіце, дзеткі, трохі адны, я хутка прыйду, толькі на некалькі мінут у вёску збегаю.

— А раптам там Грышка Руды цябе ўбачыць?

— Не бойцеся, міленькія. Нічога ён мне не зробіць. Вось толькі давай, сынок, з табой дамовімся, што, калі ён сюды да нас зойдзе, ты адразу да бабулі Марфы неўпрыкметку бяжы і кліч яе. Мы з ёй пра гэта дамовіліся. Удзвюх нам лягчэй яго адвадзіць будзе.

Нездарма Таццяна дамаўлялася так з сынам. У апошні час паліцай не толькі пагражаў ёй, але і стаў прыставаць. Яна з агідай успомніла, як яшчэ перад Новым годам ён сустрэў яе недалёка ля хаты і, дыхаючы ў твар перагарам, палез цалавацца. Таццяна адштурхнула яго і ўцякла ў хату Крайнюкоў. А калі прыйшла дахаты, ад крыўды і страху прагаласіла ўсю ноч.

Дзеці, вядома, нічога не ведалі пра гэта. Яны проста бачылі і адчувалі, як ненавідзіць іх Грышка, і баяліся яго.

Таццяна Андрэеўна супакоіла дзяцей, выйшла з хаты і, хутаючыся ад марозу і лёгкай, але сцюдзёнай замеці ў цёплую вязаную хустку, пайшла да дзеда Петруся. У гэтую хвіліну яна чамусьці не сумнявалася, што толькі ён можа даць ёй правільную параду.

Калі праходзіла міма хаты Мірэйчыка, то, здавалася, нават не дыхала, баялася, што ён вось-вось выскачыць да яе насустрач. Але абышлося, Грышка не сустрэўся, і, з палёгкай уздыхнуўшы, яна паспяшалася далей.

Не ведала Таццяна Андрэеўна, што Грышка праз акно ўсё-такі ўбачыў яе і прасачыў, куды яна ішла.

Ля хаты дзеда Петруся Таццяна на ўсякі выпадак азірнулася. Нікога не заўважыўшы, увайшла ў двор. Дзед адчыніў дзверы на стук адразу ж і здзіўлена прагаварыў:

— Вучыцелька? Вось ужо каго не чакаў! Ну, уваходзь, уваходзь, госцяй будзеш.

У хаце было няўтульна, холадна і амаль цёмна. Таццяна села на лаву і адразу ж перайшла да справы:

— Дзядуля, я хачу дапамагаць партызанам, — і, убачыўшы, як у дзеда Петруся ад здзіўлення палезлі ўгару бровы, пачала пераконваць яго: — Зразумейце, я больш не магу, у мяне няма сіл сядзець дома без справы, калі людзі гінуць за Радзіму. Я і так колькі часу страціла.

Стары, хаваючы ўсмешку, хітра паглядаў з-пад густых броваў на маладую жанчыну.

Калі яна замоўкла, дзед Пятрусь сур'ёзным тонам сказаў:

— Правільна думаеш, дачка. І вось што я табе скажу. Ты ідзі дахаты, а я параюся з сім-тым.

Супакоеная і шчаслівая, пайшла дамоў. Нарэшце яна зрабіла крок, да якога ў душы імкнулася даўно.

Дома паклала дзяцей, а сама амаль усю ноч не спала…

Прайшло тры дні. І раптам Таццяна праз акно ўбачыла, што да хаты накіроўваецца Грышка.

Пахаладзела ўсё ў душы, задрыжалі рукі. Павярнулася да сына:

— Ванечка, збегай, сынок, да бабулі Марфы. Скажы, каб яна хутчэй да нас прыйшла. Бачыш, Грышка ідзе!

Ваня ўсё зразумеў. Ён схапіў з цвіка шапку і выскачыў у сенцы.

Вычакаўшы, пакуль паліцай пройдзе міма яго ў хату, выбег на вуліцу і з усіх сіл проста па снежнай цаліне панёсся да Крайнюкоў.

Грышка, як заўсёды, быў п'яны. Не здымаючы шапкі і кажуха, які толькі расшпіліў, паставіў ля дзвярэй вінтоўку і гучна сказаў:

— Ну, здарова, удава!

— Дабрыдзень! — адказала Таццяна.

Яна хацела сказаць, што не лічыць сябе ўдавой, але раздумала, вырашыла п'янаму паліцаю не пярэчыць.

— А чаго гэты ты не абураешся, што цябе ўдавой абазваў?

— Слова «ўдава» пра гора чалавечае гаворыць і не абразу, а смутак яно ў людзей выклікае.

— Бач ты, як мудрагеліста са мной гаворыш, — усміхнуўся Мірэйчык, — быццам на ўроку перад мальцамі сябе паводзіш. А я ўжо чалавек сталы, пры становішчы, пры пасадзе. Ты мне лепш скажы, чаго гэта тры дні таму да Петруся хадзіла? Ці не шашні са старым хрычам завяла? Дык ты лепш са мной у любоўныя ды грахоўныя справы пагуляй. Я, паглядзі, мужык хоць куды, пастараюся для цябе, не падвяду, — ён працягнуў да яе рукі і схапіў за плечы. Таня паспрабавала вырвацца, але Грышка прыціснуў яе да сябе.

Адкуль толькі сілы ўзяліся ў Мачалавай. Здавалася, лютасць і крыўда зацямнілі яе розум. Рэзка прысеўшы, яна вырвалася з яго рук і схапіла сякеру, што стаяла ля печы:

— А ну, пачвара, адыдзі, а не то як шалёную гадзюку засяку!

Мірэйчык адступіўся ад яе і схапіўся за вінтоўку:

— Ты што, зараза чырвоная, хочаш, каб я цябе ўраз знішчыў? — і ён перавёў затвор.

— Мамачка, мамачка, — закрычала, злазячы з печы, Юля, — ён жа цябе заб'е!

Яна прыціснулася маленькім, худзенькім целам да мамы:

— Не дам у маму страляць! Страляй лепш у мяне!

Невядома, чым усё гэта скончылася б, калі б у хату не ўвайшла Марфа Сцяпанаўна. Яна адважна схапілася рукамі за ствол вінтоўкі:

— А ну перастань зараз жа дзяцей палохаць! Чаго з іх здзекуешся? Паглядзі, якія яны худзенькія, а ў цябе морда ў бакі як раздалася!

— А ты, старая, мне ў морду не тыкай! — злосліва адгыркнуўся Грышка. — Не ад тваіх харчоў яна такая, — ён апусціў прыклад вінтоўкі на падлогу і ўжо спакайней звярнуўся да Таццяны: — Нічога, мільтонша, я з табой рахунак звяду, не турбуйся, Грышка крыўд не забывае. Наступіць час, калі сама пра-

сіцца ў мяне будзеш, але я табе сённяшняе не забуду. А зараз адкажы мне, як прадстаўніку ўлады, чаго да дзеда хадзіла?

— Дзяцей карміць няма чым, вось і хадзіла бульбачкі ды мукі папрасіць.

— Бульбачкі кажаш?

Марфа Сцяпанаўна разумела, што варта Грышку толькі зазірнуць у пограб, як ён убачыць, што ў Мачалавай там мяшкі чатыры бульбы набярэцца, і каб ён не здагадаўся зрабіць гэта, зноў пайшла ў атаку:

— І чаго гэты ты Грышка шкодны такі, да сваіх жа людзей чапляешся?

— Я да сваіх не чапляюся, а ў вёсцы амаль нікога за свайго не лічу. Навядзём мы хутка тут парадак, вось тады толькі адны свае і застануцца.

— Вось ты выпіў сёння, — міралюбна прагаварыла Крайнюк, — а закусіў, відаць, дрэнна і нясеш абы-што…

— А ты мяне не вучы, баба, не вучы! Ведаю, чым мне закусваць, — і раптам усміхнуўся нейкай брыдкай усмешкай, — а ці ведаеш ты, чаму ў мяне морда ў бакі раздалася? Не, не ведаеш! А ўсё таму, што пры Саветах усе і, у першую чаргу яе Пецька, мяне па галаве білі зверху, вось пыса… ха-ха, у бакі і раздалася.

— Ніхто цябе пальцам не чапаў. Я дык ведаю.

— Нічога ты не разумееш, цёмная старая. Я маю на ўвазе, што маральна білі, разумееш, — і ён пакруціў каля яе твару пальцам. Ну, добра, забалбатаўся я тут, пайду прагуляюся. Пакуль, мільтонша, сякеру я табе ўзгадаю, ох узгадаю! — і Мірэйчык выйшаў з хаты.

Таццяна, дрыжучы ўсім целам, павольна апусцілася на лаву і, закрыўшы твар рукамі, заплакала. Юля і Ваня абступілі яе і моўчкі гладзілі па валасах.

Марфа Сцяпанаўна села побач:

— Ну, ну, не хвалюйся. Адпіў ён мазгі, вось і брэша, што на язык патрапіць. Проста табе трэба быць з ім асцярожней, радзей на вочы трапляцца гэтаму быку. Я схаджу да яго бацькоў яшчэ раз і пагавару. Хоць ім і не падабаюцца такія гутаркі, але павінны ж яны ведаць, што ён вытварае…

У гэты дзень Марфа Сцяпанаўна затрымалася ў Мачалавых дапазна, а калі сабралася ісці, Таня папрасіла:

— Цётка Марфа, пераначуйце ў нас. Я, далібог, баюся, што ён уначы прыйдзе.

— Ну, добра, добра, я пераначую, ды і самой мне будзе весялей, толькі схаджу параюся з Петрусём. — Яна пайшла, але хутка вярнулася, і яны адразу ж ляглі спаць.

Пад раніцу ў іх акенца хтосьці пастукаў. «Няўжо Грышка?» — адначасова падумалі жанчыны.

— Калі гэта ён, больш не вытрымаю, заб’ю яго! — дрыготкім ад лютасці голасам сказала Таня. Узяла на стале вялікі кухонны нож і выйшла ў сенцы:

— Хто там?

— Гэта я, Пятрусь! Адкрый, дачка.

Ён моўчкі ўвайшоў у хату і толькі тады загаварыў:

— Так, кажаш, гэты руды скулаварот цікавіўся, чаго ты да мяне хадзіла? Шпіёніць, зараза.

Таццяна здагадалася, што дзед Патрусь ведае пра тое, што здарылася, са слоў Марфы Сцяпанаўны, і ціха сказала:

— Так, пытаў. Я адказала, што бульбы хадзіла да вас прасіць.

— Гэты правільна сказала, але бульба ў цябе ёсць.

— Ну і што ж? — не зразумела Таццяна.

— А тое, што ён можа прыйсці і праверыць, ці ёсць у цябе бульба. Тым больш што ўвечар да яго на трох санях прыехалі паліцаі. Ён паказаў ім хату, у якой Косця Старадумаў жыве. Яны забралі хлопца, пасадзілі ў сані і павезлі. Можа, што вынюхалі пра лістоўку. Двое апранутых у цывільнае засталіся. Іх Грышка вадзіў у гэты бок, і я ўпэўнены, што ён паказваў тваю хату, толькі пасля гэтага яны з’ехалі.

— Што ж гэта значыць? — разгублена спытала Таня.

— А тое, што табе неабходна быць гатовай да ўсяго. Па-першае, трэба, як мне здаецца, дзяцей у Марфы трымаць. Калі раптам прыедуць па цябе, то Марфа іх можа паціху да каго-небудзь адвесці, а па-другое, трэба ўсю бульбу зараз жа да Марфы ў склеп перанесці. Калі Грышка, ці яго сябрукі, ці немцы праверацць твой склеп, то пераканаюцца, што ў цябе бульбы няма, значыць, ты і сапраўды да мяне прыходзіла бульбы прасіць.

Жанчыны не спрачаліся і, накінуўшы на сябе, што патрапіла, узялі мяшкі і разам з Петрусём насыпалі ў іх бульбу і насілі ў хату Крайнюкоў. Да світанку праца была скончана.

Прайшло яшчэ тры дні. У вёсцы ўсё заставалася па-ранейшаму, калі не лічыць асцярожных гутарак сярод жыхароў пра Косцю Старадумава, сямнаццацігадовага хлопца, які адважыўся абараніць ад п’янага Мірэйчыка суседскую дзяўчыну Аню Лапатку. Мірэйчык убачыў Аню, калі яна праходзіла міма яго хаты. Выскачыў і пачаў цягнуць яе да сябе ў двор. Дзяўчына стала крычаць. Гэта пачуў Косця. Ён падскочыў да Грышкі і на вачах у суседзяў адабраў дзяўчыну. На шчасце, у паліцая пры сабе не было вінтоўкі, і Косця з Аняй уцяклі. І вось Старадумава схапілі і павезлі ў райцэнтр.

Яго маці плакала і прасіла Грышку дапамагчы сыну, але ён не стаў яе слухаць і выгнаў з хаты. Тады Старадумава паехала ў райцэнтр, але так нічога і не даведалася пра лёс Косці.

І раптам усю вёску абляцела страшная вестка. Косцю за тое, што ён нібы быў партызанам і распаўсюджваў лістоўкі, немцы павесілі на цэнтральнай плошчы раённага цэнтра.

Напалоханыя людзі стараліся абыходзіць бокам Мірэйчыка і яшчэ двух паліцаяў, якія жылі ў вёсцы.

А Грышка хадзіў з вінтоўкай за плячамі і выхваляўся: «Нічога, навядзём мы тут парадак. Зацягнем дзясятак-другі на шыбеніцу, адразу астатнія нашу ўладу паважаць стануць».

А на наступную ноч, перад світанкам, у хату Мачалавай пастукаўся дзед Пятрусь:

— Збірайся, дачка, аднясеш партызанам скрутак, а то ногі падвялі мяне, ісці не могуць, а раніцай у лесе будзе чакаць мяне чалавек. Я мінулы раз дамовіўся, што калі я не змагу, то прыйдзеш ты.

— А як я знайду яго?

— Вельмі проста. Ведаеш, дзе да вайны вузкакалейку да тарфянішча будавалі?

— Гэта тую, што не паспелі дабудаваць? Ведаю.

— Падыдзеш да месца праз раўчук і чакай. Да цябе падыдзе Антон ці хто-небудзь з хлопцаў, якія разам з ім былі. Скажаш, што я прыхварэў, аддасі скрутак і вернешся ў вёску. На ўсякі выпадак перад тым, як выйсці з лесу, наламай галля. Калі і сустрэнецца хто-небудзь, то скажаш, па дровы хадзіла.

— Я ўсё зразумела. Зараз апрануся і пайду.

Таня радавалася, што дзед стрымаў слова і даручыў ёй справу.

Марфа Сцяпанаўна зачыніла за ёй дзверы, і Таня выйшла на вуліцу. На вуліцы было цёмна і віхурна. Вецер ледзь не збіў яе з ног, калі ішла праз поле да лесу. «Гэта добра, што такое надвор’е, — думала яна, — снег і вецер адразу ж замятуць сляды».

Ісці было кіламетраў пяць, але дарогу Таццяна памятала добра. У тым боку звычайна расло шмат грыбоў і ягад, і яна да вайны разам з мужам хадзіла туды. А калі пачалі будаваць торфапрадпрыемства і цягнуць да яго вузкакалейку, вадзіла туды на экскурсію вучняў. Яна вырашыла на дарогу не выходзіць і падалася напрасткі.

Ісці было цяжка. Валёнкі амаль цалкам правальваліся ў снег. Таня ўжо і не памятала, калі ёй даводзілася ісці вось так, патанаючы ў снезе. Яна разагрэлася, змакрэла і калі нарэшце дабралася да месца сустрэчы, то валілася ад стомы. Перад ёй у цьмяным ранішнім святле быў недабудаваны мост, а чыгуначнай каляіны не было відаць. Усё засыпаў снег. У абодва бакі ішла роўная прасека, якая была і высечана для вузкакалейкі. Таццяна, прагна хапаючы ротам марознае паветра, агледзелася. Вецер сціх, снег таксама перастаў ісці, і вакол стаяла цішыня: ні крыку птушкі, ні свісту ветру, ні трэску сучка, і раптам у гэтай цішыні зімовага лесу пачуўся голас:

— Дабрыдзень! Даўно чакаеце?

Мачалава рэзка абярнулася. Каля велізарнай хвоі яна ўбачыла хлопца і адразу пазнала яго. Гэта ён разам з Антонам прынёс свайго параненага таварыша ў вёску. Таццяна Андрэеўна паспрабавала ўспомніць яго імя, але так і не змагла.

— Добрай раніцы! Я толькі што прыйшла.

— А дзед Пятрусь захварэў, ці што?

— Ды адчувае штосьці сябе не вельмі, таму і даручыў мне перадаць вам вось гэта, — яна працягнула хлопцу скрутак. — Скажы, ты не вучыўся ў школе, дзе я працавала?

— Не, я ў горадзе жыў.

Таццяна хацела спытаць яго прозвішча, але раздумала, пабаялася, як бы хлопец не палічыў яе цікаўнай.

Праз некалькі хвілін яны развіталіся і разышліся ў розныя бакі.

Мачалава ішла па сваім яшчэ не засыпаным снегам следзе, разважаючы над тым, дзе яна магла раней сустракаць гэтага хлопца. Ведала б яна, што гэта быў Валодзя Славін — стрыечны брат яе мужа. Але яна бачыла яго толькі тройчы, прычым апошні раз, калі Валодзю было дванаццаць гадоў. Хлопец за гэты час не толькі вырас, але і моцна змяніўся. Не ведала Таццяна Андрэеўна і таго, што ў скрутку, які яна перадала Славіну, акрамя лекаў была запіска дзеда Петруся. У ёй ён паведамляў камандзіру атрада дадзеныя пра нямецкія войскі, а таксама прасіў засцерагчы Мачалаву ад паліцая Мірэйчыка.

Недалёка ад ускрайку лесу яна набрала сухіх галін, зламала некалькі сухіх тоненькіх дрэўцаў і накіравалася да вёскі.

Неўзабаве Мачалава была дома. А праз два дні ў вёсцы пайшоў слых: знік паліцай Мірэйчык. Яго бачылі напярэдадні як заўсёды п’яным, а потым ён знік. Жыхары маглі толькі здагадвацца, што ён апынуўся ў руках партызан. Так яно і было. Грышку выкралі партызаны і аддалі суроваму суду…

## Баец партызанскага атрада Уладзімір Славін

Наступіла лета 1943 года. Гітлераўцы ўзмоцнена рыхтаваліся да новай аперацыі ў раёне Белгарада і Курска. Аднак становішча ў тыле акупантаў было неспрыяльным. Партызаны не давалі ім жыцця ні днём ні ўначы. Пачасціліся дыверсіі на чыгуначных вузлах. Народныя мсціўцы ўзрывалі

масты. Пад адхон ляцелі эшалоны з гаручым, ваеннай тэхнікай і жывой сілай рэйха.

Для знішчэння партызан гітлераўскае камандаванне накіравала рэгулярныя войскі, у тым ліку танкавыя, артылерыйскія і авіяцыйныя злучэнні.

Партызаны тым часам вялі знясільваючыя блакадныя баі.

Атрад, у якім знаходзіўся Славін, таксама апынуўся ў цяжкіх умовах. Да гэтага часу Уладзімір ужо асвоіўся ў атрадзе. Сціплы і ціхі, ён зусім мяняўся ў баявой абстаноўцы. Валодзя быў падрыўніком, але ў апошні час яго сталі часта пасылаць і ў разведку. Хлопцу гэта падабалася.

Аднойчы, у перапынку паміж баямі, да Уладзіміра падышоў сакратар камсамольскай арганізацыі Косця Царык:

— Славін! Час табе ў камсамол уступаць!

— Мне? — ад нечаканасці Уладзімір збянтэжыўся.

— Табе. Ваюеш ты адважна, іншым добры прыклад падаеш. Сам жа казаў, што ў школе не паспеў уступіць у камсамол, вайна перашкодзіла. Ну, а цяпер мы лічым, што ты цалкам заслужыў гэта. Так што бяры рэкамендацыі і пішы заяву.

— Дзякуй, — толькі і мог прагаварыць Уладзімір, а сам падумаў пра бацькоў. Як бы яны ўзрадаваліся!

Праз некалькі дзён група Крайнюка накіравалася выконваць новае заданне. Партызаны павінны былі падарваць у некалькіх месцах чыгуначную магістраль, а затым ісці на новую стаянку атрада, куды ён атрымаў загад перадыслакавацца.

Для Валодзі ўдзел у новай аперацыі быў не проста баявым заданнем, а як бы іспыт на вытрымку, вынослівасць, на права звацца камсамольцам.

Ішлі амаль увесь дзень. Нарэшце падышлі да чыгункі.

Крайнюк загадаў усім адпачываць, а сам, узяўшы з сабой Славіна, накіраваўся ў разведку. Да дарогі яны дабраліся з боку зарослага хмызняком балота. Міма іх на вялікай хуткасці пракаціўся бронецягнік, затым цяжка гружаны таварняк, праз дваццаць хвілін бронецягнік прайшоў назад. Крайнюк уважліва вывучаў падыходы да дарогі. Разгарнуў карту, штосьці адзначыў на ёй.

— Давай паглядзім, як ахоўваецца дарога паўднёвей, — прапанаваў ён Уладзіміру.

Яны зноў паглыбіліся ў лес, падышлі да дарогі кіламетры праз два лявей. Чыгуначная каляіна пралягла ў гэтым месцы па высокім насыпе, і Крайнюк быў задаволены:

— Глядзі! Калі ў гэтым месцы рванём, то будзе куды вагонам скочвацца. Давай пройдзем далей, за паварот. Там павінен быць невялікі мост.

Яны адышлі ў глыбіню лесу і, зрабіўшы крук, зноў апынуліся каля насыпу. Сапраўды, як і меркаваў Антон, у гэтым месцы дарога праходзіла па невялікім мосце, які быў перакінуты праз рэчышча маленькай рачулкі. Рака даўно высахла, і зараз пад мостам мясцовыя сяляне свабодна праязджалі на падводах. Крайнюк разумеў, што немцы не маглі пакінуць гэты ўчастак без аховы, і таму вырашыў высветліць, ці няма тут паблізу засады. Міма іх на малым ходзе зноў прайшоў бронецягнік. Ствалы гармат і кулямётаў панура глядзелі ў бок лесу. Браняваная махіна пхала перад сабой тры адкрытыя платформы. Першыя дзве былі загружаны пяском, на трэцяй размяшчаліся шасціствольныя мінамёты, абкладзеныя з двух бакоў мяшкамі з пяском.

— Так-а, справунькі, — збянтэжана прагаварыў Крайнюк, паглядаючы на дарогу.

Праз дзесяць хвілін пранёсся таварняк. Неўзабаве бронецягнік пайшоў назад. І раптам яны ўбачылі, як да моста падкаціла мотадрызіна. З яе вый-

шла шасцёра салдат — пяць аўтаматчыкаў, адзін кулямётчык. Усе схаваліся ў хмызняку метрах у пяцідзесяці ад месца, дзе стаіліся партызаны. Дрызіна прастаяла з хвіліну, затым рушыла назад.

Крайнюк даў знак Славіну адпаўзаць назад і сам вужом праслізнуў за куст. Уладзімір папоўз за ім.

Крайнюк сказаў:

— Давай адыдзем за паварот, перасячом дарогу і з таго боку паглядзім, дзе размясцілася засада.

На другім боку дарогі разведчыкі хутка выявілі немцаў. Тыя якраз устанаўлівалі кулямёт, ламалі галінкі для падсцілкі.

— Бач ты! Камфорт любяць, гады, — прабурчаў Антон, — зямля сухая, а яны ўсё адно галінкі пад пуза.

Неўзабаве ў Крайнюка выспеў план. Ён падаў знак Славіну адыходзіць. Ужо сцямнела, калі яны вярнуліся да сваіх.

У групе было трыццаць чалавек, і Крайнюк вырашыў неадкладна правесці інструктаж. Сабраліся на невялікай паляне. У цемры людзі не бачылі адзін аднаго, хоць і сядзелі побач. Камандзір разбіў атрад на тры групы. Першыя чатыры чалавекі павінны былі выйсці да таго месца, дзе дарога праходзіла па роўным нізкім участку.

— Пра вашу задачу я скажу крыху пазней, — растлумачыў Крайнюк, звяртаючыся да першай групы. — Другая група, у складзе дзевяці чалавек, адправіцца да высокага насыпу. Старшым прызначаю Славіна. Валодзя, ты добра запомніў тое месца?

— Вядома! Перад паваротам, за якім масток, засада.

— Правільна. Усе астатнія ідуць са мной. План нашых дзеянняў такі. Паколькі чыгуначнае палатно ахоўваецца бронецягнікам, а мост — шасцёркай немцаў, узброеных ручным кулямётам і аўтаматамі, дзейнічаць пачнём ранкам. Як толькі бронецягнік пройдзе мост і схаваецца з вачэй, частка маёй групы, а ў ёй будзе дзесяць чалавек, з тылу атакуе засаду. Пажадана абысціся без стральбы ці ж, у крайнім выпадку, страляць толькі з блізкай адлегласці, каб справу скончыць праз пару мінут. Пасля гэтага другая частка групы пачне мініраваць мост. Вы ж, — Крайнюк звярнуўся да Славіна, — пасля таго, як пройдзе бронецягнік, адразу ж замініруеце ўчастак дарогі на самым высокім месцы і рваняце яе, калі пойдзе таварны састаў. Састаў, зразумела, — пад адхон, а нам застанецца толькі падняць на паветра мост. Такім чынам мы не дамо бронецягніку вярнуцца назад. Пасля настае чарга першай групы, якая перад гэтым прапусціць таварняк і мініруе ў некалькіх месцах рэйкі. Пачуўшы нашы выбухі, вы падрываеце свае зарады.

Антон казаў не зусім выразна, але партызаны зразумелі яго задуму. Старэйшыя групы дамовіліся пра ўзаемадзеянне, і Крайнюк назваў месца сустрэчы ў лесе пасля выканання задання.

— А зараз усім спаць. Пад’ём у дзве гадзіны ночы. Да світання трэба выйсці на зыходныя пазіцыі.

Нарэшце наступіў час дзеяння. Партызаны, як і было дамоўлена, трыма групамі рушылі да чыгункі. Толькі-толькі замігцеў світанак, як усе занялі свае месцы. Першай павінна была прыступіць да справы група Крайнюка. Антон падвёў дзясятак сваіх байцоў амаль ушчыльную да салдат, якія заселі ў засадзе. Праз кусты ён бачыў, што не спаў толькі адзін кулямётчык і адзін з аўтаматчыкаў, астатнія, накрыўшыся плашч-палаткамі, спалі цеснай групай.

Крайнюк распарадзіўся:

— Чацвёра павінны бясшумна зняць кулямётчыка і аўтаматчыка, астатнія ліквідуюць спячых гітлераўцаў. Але пакуль трэба пачакаць, калі пройдзе бронецягнік.

«А што, калі бронецягнік сёння не пойдзе ці, прынамсі, затрымаецца? Значыць, прачнуцца астатнія фрыцы. Паспрабуй тады абысціся без шуму!» Ён вырашыў пачакаць яшчэ паўгадзіны, паколькі час трываў.

Пачаўся пакутлівы адлік хвілін. Кулямётчык павярнуўся на бок, дастаў з кішэні папяросу, накрыўся плашч-палаткай, запаліў. А світанак браў сваё. Але вось удалечыні пачуўся знаёмы шум, ён паступова нарастаў, і сумнення не было — ідзе цягнік. Толькі які? «А раптам немцы пусцілі вайсковы эшалон, і мы праваронім яго? — з трывогай падумаў Крайнюк. — Трэба было Славіна папярэдзіць, каб падрываў».

У гэты момант немец-аўтаматчык штосьці сказаў свайму таварышу і пайшоў да чыгуначнага палатна. З-за павароту не спяшаючыся выпаўз бронецягнік. Аўтаматчык памахаў рукой немцу, які высунуўся з акенца браняванага паравоза. Той таксама адказаў яму ўзмахам рукі, і аўтаматчык пакрочыў на ранейшае сваё месца. Бронецягнік перасек мост і, ледзь павялічыўшы хуткасць, схаваўся.

Крайнюк уявіў, як гэта махіна цяпер спыніцца на запасным пуці, прапусціць цягнік, які ідзе следам, а затым кранецца назад, пагражаючы ляску сваімі гарматамі і кулямётамі. Калі аўтаматчык вярнуўся на месца і, расцягнуўшыся на зямлі, пачаў глядзець у бок дарогі, Антон падаў умоўны сігнал. Байцы кінуліся наперад. Усё было скончана імгненна, толькі кулямётчык паспеў ускрыкнуць.

Антон скаціўся з пагорка, кінуўся да моста. Тут жа падбеглі астатнія байцы з яго групы.

Замініравалі ў двух месцах мост і чакалі падыходу тых, хто збіраў трафеі і дакументы знішчаных гітлераўцаў. Вось і яны. Хутка працягнулі провад да хмызняка, заляглі. Толькі паспеў камандзір размеркаваць паміж партызанамі груз, а яго аказалася нямала, як з таго боку, адкуль прайшоў бронецягнік, паказаўся цяжкі састаў. Ён імчаўся на вялікай хуткасці. «Ну, Валодзя, не падвядзі!» — у думках усклікнуў Крайнюк.

А Славін у гэты момант ляжаў побач з партызанам, які павінен быў крутануць ручку магнета, напружана прыслухоўваўся да шуму надыходзячага цягніка. Састаў цягнулі два паравозы.

«Напэўна тэхніку вязуць», — падумаў Славін. І сапраўды, на платформах стаялі танкі, накрытыя брызентам. Акрамя таго, да саставу было прычэплена каля дзясятка цыстэрнаў з гаручым.

Уладзімір добра ведаў, што магнета трымае ў руках дасведчаны падрыўнік. Тым не менш, на нейкае імгненне яму здалося, што паравозы паспелі праскочыць фатальную кропку і ніякага выбуху не адбудзецца. І раптам пад пярэднімі коламі галаўнога лакаматыва ўскінулася полымя, неверагоднай сілы грукат аглушыў мясцовасць. Паравозы, а за імі платформы разам з грузам на велізарнай хуткасці, пераварочваючыся, панесліся пад адхон. Далей Славін не глядзеў. Ён ускочыў на ногі, махнуў байцам рукой, і ўсе рынуліся ў глыб лесу. Ззаду чуліся аглушальныя выбухі, языкі полымя прагна пажыралі каштоўны груз, які так і не патрапіў на фронт. Славін нават не чуў, як злева, дзе знаходзіўся Антон са сваёй групай, і справа, у размяшчэнні першай групы, грукаталі новыя выбухі. Уладзімір, спачатку паглыбіўшыся ў лес, прыняў крыху лявей, каб хутчэй сустрэцца з астатнімі падрыўнікамі. І гэта было яго памылкай, бо да падарванага моста падышоў бронецягнік і адразу ж адкрыў шалёны агонь

па лесе. На партызан абрынуўся шквал артылерыйскага і кулямётнага агню, але самую вялікую непрыемнасць прычыніў шасціствольны мінамёт. З ім Славін пазнаёміўся ўпершыню. Міны рэдка дасягалі зямлі. Яны, удараючыся аб верхавіны дрэў і буйныя галіны, выбухалі ўгары. Гэта быў першы выпадак, калі фашысты ўжылі ў такіх умовах шасціствольны мінамёт. Вакол ірваліся міны і снарады, віскаталі буйнакаліберныя кулі — было сапраўднае пекла, у якім вельмі цяжка захоўваць стрыманасць і вытрымку. Уладзімір нырнуў у першую ж варонку, што трапілася яму, і ўсім целам прыціснуўся да зямлі, яшчэ дымнай ад выбуху.

Так, у гэты момант Славін упершыню спазнаў, што такое страх. Колькі высілкаў каштавала, каб утрымацца ў варонцы і перачакаць, пакуль супакоіцца агністы шквал!

А немцы, відавочна, вырашылі, што ў гэтым квадраце нікога жывога не засталося, і перакінулі агонь у глыб лесу. Партызаны, аглухлыя і прысыпаныя зямлёй, пачалі выпаўзаць са сваіх хованак і, сяк-так атросшыся, пабеглі далей. Славін страціў лік часу. Ён ужо не мог арыентавацца і проста імкнуўся не адставаць ад вопытных таварышаў.

Нарэшце ім удалося сысці з зоны агню, і яны змаглі трохі перавесці дух. Група Славіна не далічылася чатырох байцоў, траіх не стала і ў групе Крайнюка. Пасля кароткай нарады вырашылі як мага хутчэй ісці да вызначанага месца сустрэчы ўсёй групы.

Ішлі па лесе доўга і толькі да вечара злучыліся са сваімі.

Крайнюк быў рады, убачыўшы цэлага і не параненага Славіна. Як пусцілі цягнік пад адхон, яму ўжо расказалі, і ён паціснуў Валодзю руку.

— Ну што, падрыўнік? Віншую з першым эшалонам! Як перанёс «канцэрт», які арганізаваў бронецягнік?

— Слухаў, скамянеўшы. Не мог заду ад варонкі адарваць, — сумленна прызнаўся Уладзімір і спытаў: — А як ты?

— У мяне жывот быў намазаны смалой. Прыліп да зямлі пад тоўстай хвояй, ледзь падняўся, — адказаў пад рогат таварышаў Крайнюк.

Наступіў момант, калі байцы нарэшце зразумелі, што ўсё ўжо ззаду, знікла вялікая нервовая напруга. Адышлі, пацяплелі душы. Усе цешыліся, што зноў блакітнее неба, ззяе сонейка, а вакол — цішыня. Жыццё працягвалася! Але гэты настрой змяніўся сумам і гаркатой страт.

Партызаны пайшлі шукаць сваіх таварышаў. Неўзабаве знайшлі траіх. Яны былі паранены, прычым адзін ад кантузіі аглух. Аказалі ім дапамогу і працягвалі пошук. Лазілі па пуцях доўга.

Нарэшце адшукалі астатніх чацвярых. Усе яны былі мёртвымі.

Параіўшыся, вырашылі забітых не хаваць, а несці ў атрад.

Толькі ўвечары, калі ўжо сцямнела, Крайнюк вырашыў зрабіць прывал, а ранкам рушыць на злучэнне з атрадам.

Прывал у летні час — не праблема: пара яловых галінак, зверху плашчпалатка ці пінжак. Крайнюк і Славін уладкаваліся побач. Уладзімір адкрыта расказаў сябру пра хваляванні, якія ён перажыў, пра страх, які ахапіў яго падчас артылерыйскага абстрэлу. Крайнюк слухаў, успамінаючы свае першыя крокі ў партызанскім атрадзе. Ён ямчэй уладкаваўся на галінах, даверліва заўважыў:

— Ведаеш, Валодзя, мне таксама гэта знаёма. Па-мойму, кожны чалавек павінен прайсці праз такое выпрабаванне. Зараз ты разумееш, што такое страх. Калі ён не спыніць, як зноў пойдзеш у бой, значыць можаш лічыць сябе байцом. — І раптам спытаў:

— Што чуваць пра бацькоў?

Славін, трохі памаўчаўшы, хмурна адказаў:

— Нічога. Камандзір атрада спрабаваў высветліць — безвынікова.

Яны змоўклі. Валодзя ў думках быў у акупіраваным Мінску: «Што там? Дзе бацька і маці? Ці жывыя? Ці давядзецца калі-небудзь сустрэцца? Эх, калі б тата і мама былі цяпер тут, у атрадзе!»

Неўзаметку для сябе Уладзімір заснуў, а калі прачнуўся, ужо світала.

Крайнюк пачаў будзіць людзей, і неўзабаве іх група, несучы забітых і параненых, рушыла да месца стаянкі атрада…

Сустрэча была цяжкай. Хавалі загінулых у гэты ж дзень.

Крайнюк падрабязна далажыў камандзіру аб праведзенай аперацыі. Выслухаўшы яго, Глазкоў моўчкі прайшоўся па зямлянцы і, спыніўшыся насупраць Антона, сказаў:

— Дзейнічалі вы правільна і граматна. Шкада вельмі загінулых таварышаў. Але што паробіш, Антон, страты непазбежныя. Дзякуй за службу, ідзі адпачывай. Наперадзе яшчэ шмат у нас з табой спраў.

Крайнюк выйшаў з зямлянкі і адразу ж убачыў Славіна. Ён сядзеў на звaленым дрэве і разглядаў трафейны аўтамат.

— Валодзя, ты чаму не спіш?

— Я цябе чакаў, — адказаў Славін і, падняўшыся са свайго месца, ускінуў аўтамат за плячо, — пайшлі...

Прайшло два дні. Сябры сядзелі на невялікай палянцы, акружанай хмызняком. Славін прасачыў вачамі за палётам птушкі, якая пырхнула з дрэва, што стаяла недалёка, і павярнуўся да Крайнюка:

— Ты ведаеш, мне здаецца, што з пачатку вайны прайшло не два гады, а прынамсі дзясятак.

Ззаду пачуўся шоргат. Антон і Уладзімір азірнуліся і ўбачылі Панчанкава Сяргея. Той напрамую праз маліннік прабіраўся да іх:

— Вось вы дзе схаваліся. А я вас паўгадзіны ўжо шукаю. Антон, бяжы да камандзіра, ён цябе чакае.

Крайнюк устаў і накіраваўся праз гэты ж маліннік, дзе толькі што прабіраўся Сяргей, да камандзірскай зямлянкі.

Глазкоў быў адзін. Ён адразу ж перайшоў да справы:

— Антон, возьмеш Славіна ці Панчанкава і пойдзеш на сустрэчу з Мачалавай. Яна павінна перадаць ад нашых медыкаменты і данясенне. Паспрабуй пераканаць яе, каб сыходзіла ў атрад. Пагавары з ёй сур’ёзна. Скажы, што атрад хутка пойдзе ў іншае месца і сувязь з ёй на некаторы час будзе перапынена.

— Ёсць, — дакладна, па-вайсковаму адказаў Крайнюк і спытаў: — Калі адпраўляцца на сустрэчу з настаўніцай?

Глазкоў ледзь прыкметна ўсміхнуўся: ох ужо гэтыя вясковыя звычкі. Даўно павялося ў вёсцы настаўнікаў, старшыню калгаса ды і брыгадзіраў не па імені зваць, а па пасадзе.

— Пойдзеце ўначы. Сустрэча прызначана на тры гадзіны, як звычайна, ля закінутай вузкакалейкі. Дарогу ты ведаеш добра, не заблудзішся, — і нечакана спытаў: — Па маці не занудзіўся?

— Занудзіўся, — прастадушна адказаў хлопец. Яму падумалася, што цяпер камандзір скажа: «Наведай яе», але камандзір мякка прагаварыў:

— Вядома, занудзіўся, але хадзіць туды не трэба. Нельга дапусціць, каб паліцаі пранюхалі, што ты бываеш у маці. Сам ведаеш — не мінуць тады бяды.

Выйшаўшы з зямлянкі, Крайнюк знайшоў Славіна і прапанаваў пайсці з ім.

Яны вырашылі крыху раней легчы спаць, а апоўначы пайсці на сустрэчу з сувязной…

## Таццяна Андрэеўна

Мачалава вярталася пасля сустрэчы з партызанскімі пасланцамі Антонам Крайнюком і яго сябрам Валодзем са змешаным пачуццём выкананага задання і трывогі.

Хлопцы перадалі Таццяне Андрэеўне прапанову Глазкова ісці да партызан, тым больш што атрад збіраўся перабазіравацца ў іншае месца. Але Мачалава ніяк не магла рашыцца на гэта. І ў яе былі на гэта свае прычыны. Яна была рада, што нарэшце і для яе знайшлася справа, і, выконваючы абавязкі сувязной, адчувала сябе патрэбнай людзям.

Таццяна чула пра зверствы фашыстаў, але ў душы цяплілася надзея, што бяда міне яе сям'ю. Пасля таго як партызаны судзілі і пакаралі смерцю паліцая Грышку Мірэвіча, да яе больш ніхто не прыставаў і не пагражаў.

Чым далей адыходзіла яна ад месца сустрэчы, тым спакайней станавілася на душы. Набліжаўся світанак, і калі яна выйшла з лесу, на ўсходзе запунсавела палоска святла.

Мачалава спынілася пасярод шырокага поля. Спявалі птушкі, было цёпла. Глыбока ўдыхаючы настаялае на траве і кветках паветра, яна глядзела наперад на невялікую вёсачку, якая раскінулася перад ёй. Калі абысці вялікі калгасны хлеў, дзе раней, да вайны, захоўвалася сена, адразу будзе бачна хата Крайнюкоў. Астатнія хаты стаяць далей, уздоўж нешырокай вуліцы. Зрэдку цішыню парушала пеўневае «кукарэку». Таццяна пазнала крык пеўня Марфы Сцяпанаўны і ўсміхнулася, успомніўшы, як яна хавала яго ад немцаў, калі тыя стаялі ў вёсцы. «Трэба ісці, — падумала Мачалава, — пакуль людзі спяць». І яна, прымінаючы высокую росную траву, пайшла да вёскі. Праходзячы міма велізарнага хлява, паглядзела на дзверы і ўбачыла вялікі іржавы замак. «Цікава, ці захаваўся ад яго ключ?»

Падышла да сваёй хаты, азірнулася і хутка праслізнула ў веснічкі. Не падыходзячы да дзвярэй, паціху пастукала ў акенца. У ім адразу ж з'явіўся твар Марфы Сцяпанаўны. «Не спіць, перажывае», — падумала Таццяна, накіроўваючыся да дзвярэй. Так павялося ўжо ў іх: калі Мачалава ішла да партызан, Марфа Сцяпанаўна начавала ў яе хаце.

Ціха бразнула клямка, і дзверы адчыніліся. Марфа Сцяпанаўна спытала:

— Антона бачыла?

— Бачыла, бачыла. Жывы, здаровы, кланяцца загадаў.

Яны ўвайшлі ў хату, Таццяна сцісла расказала пра сустрэчу і адразу ж легла спаць. Яна не чула, як прачнуліся дзеці. Марфа Сцяпанаўна пакарміла і выправадзіла іх у двор.

А Таццяне прысніўся муж. Ён стаяў недалёка ад калгаснага хлява, міма якога яна нядаўна праходзіла, і ўсміхаўся. Яна захацела падбегчы да яго, але Пётр раптам нейкім зусім незнаёмым голасам гучна спытаў:

— Хто ёсць дома?

«Няўжо ён мяне не пазнае?» — здзівілася Таня і вырашыла паклікаць мужа, але тут прачнулася ад моцнага штуршка ў плячо. Хтосьці груба сказаў:

— Ну чаго разляглася? На дварэ ўжо дзень даўно, а яна ў ложку валяецца! Падымайся!

Мачалава здрыганулася і адкрыла вочы. Над ёй стаяў паліцай Юшэвіч. Ён быў сябрам Мірэвіча, але пасля знікнення Грышкі крыху прыцішэў і паводзіў сябе больш асцярожна. Таня села і адразу ж убачыла, што, акрамя паліцая, у хаце знаходзяцца двое немцаў з аўтаматамі. У куце, прыціснуўшыся да Марфы Сцяпанаўны, — Юля і Ваня. Яны моўчкі сачылі спалоханымі вачамі за тым, што адбываецца ў хаце.

Адзін немец рэзка сказаў: «Шнель, шнель!» Паліцай зноў груба штурхнуў Таню ў плячо:

— Ну, чаго чакаеш? Хочаш, каб я цябе за кудлы выцягнуў? Апранайся і выходзь са сваёй кодлай на вуліцу. Немцы з вамі гаварыць хочуць.

Таццяна дрыготкімі рукамі пацягнулася да спінкі ложка, узяла сукенку і, нацягваючы яе на сябе, падумала:

«Што здарылася? Няўжо высачылі мяне? Госпадзі, калі гэта так, то тады канец! Як жа дзяцей выратаваць?» На ўсякі выпадак спытала ў паліцая:

— Скажы хоць, што здарылася?

— Убачыш, шкура чырвоная! Выходзь, а то прыкладам дапамагу!

Дзеці падскочылі да Таццяны Андрэеўны.

— Мама, мамачка, мне страшна, ён заб'е нас! — са страхам сказала Юля і прыціснулася да матчынай рукі.

Мачалава абняла дзяцей і стала супакойваць іх:

— Ну што вы, дзеткі, не хвалюйцеся, усё будзе добра.

Яны пайшлі да дзвярэй, а паліцай пхнуў у бок Марфу Сцяпанаўну:

— А ты, старэбіна, чаго сядзіш? Марш з хаты!

Яны выйшлі ў двор, немцы падштурхоўвалі іх прыкладамі — на вуліцу.

Таня, убачыўшы, што па вуліцы міма яе хаты гоняць і іншых жыхароў вёскі, трохі супакоілася: «Значыць, не высачылі мяне. Усіх гоняць у поле».

Яна адшукала вачамі суседку і паклікала яе:

— Цётка Марфа, ідзіце да нас, — і, пачакаўшы, калі яна падыдзе, дадала: — Будзем разам трымацца. Не разумею толькі, адкуль немцы ўзяліся?

— На машынах прыехалі, вунь іх колькі, паглядзі.

Таццяна азірнулася і на другім канцы вёскі ўбачыла пяць ці шэсць грузавікоў.

Немцы строілі людзей у калону і гналі пасярэдзіне вуліцы, а самі з аўтаматамі напагатоў ішлі па баках уздоўж платоў. Мачалавых і Крайнюк заштурхалі ў калону. Людзі неспакойна перагаворваліся, круцілі галовамі, імкнуліся, выцягнуўшы шыі, паглядзець наперад, дзе на чале калоны ішлі з немцамі чацвёра паліцаяў.

Непадалёк ад Мачалавых да суседскага чатырнаццацігадовага хлопца Толі Лазебнага падбег дварняк, у яго на шыі боўтаўся абрывак вяроўкі. Відавочна, ён сарваўся з прывязі і, адшукаўшы ў натоўпе гаспадара, радасна павіскваючы, заскакаў каля яго. Але тут у натоўп уварваўся здаравенны з закасанымі рукавамі немец. Ён штосьці люта пракрычаў і моцна стукнуў падкаваным ботам сабаку. Той з віскам адляцеў да плота і зваліўся на спіну. Немец, не даючы яму падняцца, ускінуў аўтамат, і ў нечаканай цішыні злавесна грукнуў стрэл. Сабачка, падскокнуўшы на лапы, тут жа зваліўся на зямлю. З яго галавы на пыльную дарогу пацякла кроў, якая здавалася чорнай.

Людзі застылі ад гэтай вар'яцкай жорсткасці, а Толя рвануўся да немца:

— За што ты яе, фашыст пракляты!

Добра, што побач апынуўся дзед Пятрусь. Ён схапіў хлопца за рукі:

— Толечка, цішэй, супакойся, а то ён і цябе! Бачыш, ён ужо ў цябе цаляе. Для яго ж што сабака, што чалавек — адно і тое ж. Што возьмеш з гада?

Пачуліся крыкі. Гэта немцы падганялі людзей, патрабуючы, каб яны ішлі наперад. Неўзабаве калона была ў полі, і Таня ўбачыла, што іх вядуць да хлява, міма якога яна праходзіла перад світанкам. Тых, хто прыпыняўся ля шырока расчыненых дзвярэй, немцы бесцырымонна падштурхоўвалі прыкладамі.

Яны апынуліся ў вялікім хляве, які хутка запаўнялі людзьмі. Неўзабаве ўсе жыхары вёскі знаходзіліся ў ім. Са скрыпам зачыніліся дзверы. Тыя, хто знаходзіўся бліжэй да выхаду, праз невялікія шчыліны ўбачылі, што немцы павесілі на дзверы замок і сталі падпіраць іх тоўстымі доўгімі каламі.

Людзі яшчэ больш занепакоіліся, выказваючы розныя здагадкі:

— Навошта яны нас сюды сагналі?

— Можа, дабро наша хочуць забраць, дык і так ужо ўсё адабралі?..

— Напэўна, дапытваць будуць… А вось паліцэйскія сем'і не кранулі.

— А можа, спаліць нас жыўцом хочуць…

Хлапчук гадоў сямі разам са сваімі такімі ж светлавалосымі аднагодкамі прабраўся да дзвярэй і зазірнуў у шчыліну. Адзін з немцаў заўважыў яго блакітнае вока, якое з цікаўнасцю выглядае са шчыліны, і з усёй сілы стукнуў прыкладам па дошках:

— Цурук!

Хлапчук у спалоху адскочыў, тут жа пачуўся трывожны голас маці:

— Андрэйка, Андрэйка, адыдзі ад дзвярэй. Немцы злыя, не бачыш? Стрэльне які.

А ў куце старэйшыя хлопцы дапамагалі таварышу падняцца па бярвеністай сцяне вышэй, туды, дзе пад самым саламяным дахам віднелася невялікая шчыліна.

І вось ён ужо застыў поруч яе. З хвіліну глядзеў моўчкі ў бок вёскі, а затым голасам, які змяніўся, нібы ў горле штосьці затрымалася, сказаў:

— Яны хаты нашы паляць.

Загудзела і рынулася людская маса да дзвярэй, і ў першых шэрагах Андрэйка і іншыя дзеці. Зарыпалі дзверы, запішчалі дзеткі, прыціснутыя да дошак. І раптам знадворку, прама праз дошкі, прабіваючы роўным радком дзіркі, стукнуў аўтамат. Людзі ўраз адрынулі, а на падлозе засталіся ляжаць дзеці, затуляючы русыя галоўкі далонямі, як быццам маленькія худзенькія ручкі маглі закрыць іх ад смерці. Да іх з крыкамі кінуліся маці, адрывалі іх бледныя твары ад земляной падлогі, абмацвалі.

Усе дзеці аказаліся жывыя, а вось ледзь далей ад іх, ззаду на падлозе засталіся ляжаць чатыры жанчыны і дзед Пятрусь. Аўтаматная чарга прашыла іх. Не паспелі людзі агледзець забітых, як ва ўсіх чатырох вуглах успыхнуў саламяны дах.

— Людзі-і добрыя! — гучна закрычала пажылая жанчына. — Што ж гэта робіцца, яны ж нас жывымі спаліць хочуць!

Хлеў пачаў хутка запаўняцца дымам. Закрычалі дарослыя, заплакалі дзеці, усе разумелі — гэта канец!

Таццяна Андрэеўна стаяла ля процілеглай сцяны і шырока раскрытымі вачамі глядзела, як языкі полымя ўсё шырэй ахаплівалі сухі саламяны дах. Яна не бачыла, што знадворку хлеў, абліты бензінам, гарэў увесь, і немцы, якія акружылі яго, адышлі крыху далей, бо жар станавіўся невыносным. Таццяна зразумела, што вось і скончылася яе жыццё, жыццё яе дзяцей. Яна павярнула плачучых ад страху дзяцей тварыкамі да сябе і шчыльна прыціснула іх носікамі: «Бывай, Пеця каханы, не зберагла я табе дзяцей! Прабач! І адпомсці!»

А вакол дзеялася невытлумачальнае. Хтосьці са старых маліўся, хтосьці, прыціскаючы дзяцей, стараўся закрыць іх сабой ад агню. І раптам усіх перакрычаў малады і звонкі голас Толі Лазебнага. Голас быў хлапечы, але гучаў пераканана і патрабавальна, як загад:

— Людзі, мы ж цяпер згарым. Давайце кінемся на дзверы, а раптам каму-небудзь пашанцуе і ён уцячэ!

Усё разумелі, што гэта рабіць бескарысна, але ўсё ж — гэта шанец, хай маленькая, але нейкая надзея. А старыя і дзеці старэйшыя ўжо прабіваліся да дзвярэй. Кожны думаў: калі не атрымаецца ўцячы, то лепш загінуць вось так.

Разгайдаўшыся, натоўп стукнуў у дзверы. Яны не вытрымалі такога націску і разляцеліся на кавалкі.

Для немцаў гэта было нечаканым. Яны спахапіліся, калі першыя дзясяткі людзей у падпаленай адзежы кінуліся ў розныя бакі. І толькі тады насустрач пырснулі смяротным агнём аўтаматы. Таня, моцна трымаючы за рукі дзяцей, бегла ў сярэдзіне натоўпу, які хутка радзеў. На імгненне яна разам з дзецьмі апынулася паміж дзвюма групамі немцаў, і тыя на нейкі момант, баючыся пацэліць адзін у аднаго, спынілі агонь. Людзі кінуліся па высокай траве да лесу, што віднеўся недалёка. А ззаду з новай сілай загрымелі стрэлы. Таня паставіла дзяцей наперадзе сябе:

— Бяжыце да лесу, не аглядайцеся і не спыняйцеся! — А сама падумала: «Можа, я іх ад куль сваім целам закрыю».

Таня ні на секунду не сумнявалася, што яна загіне. Але перад ёй, нібы тоненькая палоска святла, з’явілася надзея выратаваць дзяцей.

Божа, калі б гэта здарылася! Яна гатовая была сама памерці, абы яны выратаваліся! Толькі б яны жылі!

Мачалава, не азіраючыся і не гледзячы па баках, бегла за дзецьмі, якія, амаль цалкам хаваючыся ў высокай траве, нesліся з усіх сіл да лесу.

І вось яны ў лесе. Яна бегла за дзецьмі, якія былі так напалоханы, што ніяк не маглі спыніцца. Ужо даўно не былі чутны стрэлы і перасталі віскатаць вакол кулі, а яны ўсё беглі. І раптам Таня зразумела: яны выратаваліся! Яны жывыя!

Яна спынілася, паклікала дзяцей, яны таксама сталі і павярнулі да яе вымазаныя сажай твары. Дзеці глядзелі на яе і шырока адкрытымі ратамі прагна лавілі паветра. Таццяна звалілася на траву і гучна заплакала. Цяжка нават сказаць, якія гэта былі слёзы: радасці ці гаркаты. Перад вачамі стаяла страшная карціна: «Усіх жыхароў вёскі! За што?» Яна ляжала, уткнуўшыся тварам у вільготную пахкую траву, і ніяк не магла прымусіць сябе паверыць, што яе дзеці і яна сама засталіся жывыя.

Не ведала ў гэты момант Таццяна Андрэеўна, што, акрамя яе сям’і і аднаго пятнаццацігадовага хлопца, не выратаваўся больш ніхто. У той час, як яна, знясіленая і прыдушаная горам, якое звалілася на вёску, рыдала, немцы адшуквалі ў густой траве, мёртвых і параненых, цягнулі да хлява, што яшчэ працягваў гарэць і кідалі ў агонь.

І толькі пазней, калі пройдзе нямала часу, успамінаючы гэты жудасны малюнак, Таццяна Андрэеўна будзе заўсёды памятаць чатырнаццацігадовага хлопца Толю Лазебнага, які нават у безнадзейнай сітуацыі знайшоў у сабе незвычайныя сілы, каб заклікаць людзей да супраціўлення. Гэта яму заўсёды будзе ўдзячная сям’я Мачалавых і іх аднавясковец Міша Лукашэвіч за выратаванне, за тое, што яны працягвалі жыць на ласкавай, асветленай сонцам зямлі.

## Капітан Мачалаў

Капітан Мачалаў напружана аглядаў праз бінокль мясцовасць перад пазіцыямі яго роты. Поле было роўнае, і, вядома, да сустрэчы з танкамі трэба быць гатовымі.

Ззаду роты, на невялікім узвышшы, у рэдкім хмызняку размясцілася процітанкавая батарэя, а крыху лявей, таксама за пазіцыямі роты, у невялікай лагчыне, ля раўчука, пад маскіровачнымі сеткамі, схаваліся ў засадзе пяць «Т-34». Мачалаў ужо каторы раз прыкідваў, ці правільна ён размясціў свае сілы.

Упершыню за доўгія месяцы вайны ён меў амаль цалкам укамплектаваную роту.

Салдаты былі нядрэнна ўзброены, у многіх замест вінтовак — аўтаматы. Некалькі дзён назад на полі сапёры ставілі процітанкавыя і проціпяхотныя міны. Гэта ўсё ўлічваў камандзір роты.

У цэнтры, на невялікім аддаленні адзін ад аднаго, былі ўстаноўлены «максімы» — гэта для таго, каб сустрэць пяхоту ворага шчыльным агнём. Не забыў ён і флангі, разумеючы, што флангавым агнём лепш за ўсё адсякаць пяхоту ад танкаў. Бранябойшчыкам ставіў задачу сам. Мачалаў быў упэўнены, што калі першыя танкі немцаў напоруцца на міны, то наступныя за імі, напэўна, паспрабуюць прайсці ў іншым месцы, а гэта значыць, павернуцца бартамі да нашых пазіцый. Вось тады бранябойшчыкі не павінны драмаць.

Мачалаў адарваўся ад бінокля і зірнуў па баках. Байцы працягвалі трывожна глядзець наперад, і ўжо не ўпершыню Пётр падумаў пра навабранцаў: «Толькі б не завагаліся, не спалохаліся!» Колькі часу ў яго самога і камандзіраў узводаў пайшло на навучанне і гутаркі з тымі, хто быў упершыню на перадавой.

Жахлівая машына вайны перамолвала велізарныя сілы. Колькі людзей ужо страціў за час баёў ён, камандзір роты! А колькі батальён, полк, дывізія, уся армія!

Праўда, яму самому пакуль шанцавала. Пасля вяртання са шпіталя, ужо больш як паўгода, — ні драпіны. Паспеў атрымаць ордэн Чырвонай Зоркі, а два дні назад прыйшоў загад аб прысваенні яму звання капітана.

Мачалаў задумаўся і не адразу заўважыў, што злева і справа ад пазіцый іх батальёна пачаўся бой. Толькі тут пакуль было ціха. Лёгкі ветрык прыносіў з палёў пах кветак, сена і яшчэ начную прыемную свежасць.

Раптам ён пачуў, як мацюкнуўся Кісліцкі. Пасля свайго любімага выразу ён тут жа звярнуўся да камандзіра роты:

— Таварыш капітан, зірніце, ідуць, сволачы!

Удалечыні ў шахматным парадку рухаліся квадратныя каробкі танкаў. За імі, нібы зялёныя «аловачкі» — пяхота. Танкаў было шмат, і чым бліжэй яны падыходзілі, тым станавіліся ўсё большага памеру. Мачалаў паднёс да вачэй бінокль. Ён упершыню бачыў гэтыя машыны. Яны былі велізарныя, вуглаватыя і нязграбныя. Калі танкі наблізіліся, Мачалаў зразумеў, што такімі іх робіць трывалая і тоўстая бранявая абарона.

«Вось яны якія — «тыгры»!» — падумаў Мачалаў, спрабуючы вызначыць, колькі машын прыйдзецца на яго роту.

За «тыграмі» рухаліся аўтаматчыкі. Ішлі ўпэўнена, падкасаўшы рукавы, — якраз як у сорак першым.

Мачалаў перадаў па ланцугу, каб без каманды не стралялі.

А немцы ўсё бліжэй і бліжэй. І тут ззаду грукнуў залп. Гэта процітанкавая батарэя адкрыла агонь. Нібы чорныя грыбы, выраслі выбухі. Але ніводзін танк не быў пашкоджаны. Стукнуў другі залп — і зноў ніякіх вынікаў.

— Гэй, мазілы, акуляры надзеньце! — закрычаў Кісліцкі, звяртаючыся да танкістаў.

А тыя, напэўна, «акуляры надзелі», таму што пасля трэцяга залпу адзін танк раптам аказаўся без вежы, а ў другога была перабіта гусеніца. Ён тут жа павярнуўся бокам і адразу ж атрымаў у яго снарад, задыміўся.

«А што, Зісы «тыграў» б'юць цудоўна!» — захоплена падумаў Мачалаў пра новыя гарматы, якія нядаўна пачалі паступаць на фронт. Танкі таксама адкрылі агонь. Зараз ужо капітан мог сапраўды вызначыць — на яго роту насоўваецца дзевяць танкаў. Дзевяць бранiраваных крэпасцей на гусенічным ходу, ведучы агонь з гармат і кулямётаў, ішлі на пазіцыі роты. Мачалаў даў каманду: «Агонь!» Доўга і злосна страчылі кулямёты, у іх грукаце танулі кароткія чэргі аўтаматаў і стрэлы вінтовак, чуліся звонкія і выразныя стрэлы процітанкавых ружжаў.

Танкі ўвайшлі ў міннае поле, і амаль адразу ж два з іх закруціліся на месцы. Астатнія на імгненне прыпыніліся, а затым пачалі распаўзацца ў абодва бакі.

«У абыход міннага поля хочуць пайсці», — здагадаўся Мачалаў і крыкнуў па ланцугу:

— Бранябойшчыкі, вядзіце агонь па бартах танкаў!

А тыя і самі разумелі, што для іх наступіў самы спрыяльны момант, і адразу ж вызначыўся Кісліцкі. Ён першым жа стрэлам падпаліў найбліжэйшы да яго танк і тут жа жорстка вылаяўся ў яго адрас. Мачалаў не вытрымаў і засмяяўся. Грубае, але ўжо вельмі ж дакладнае вызначэнне знайшоў для танкістаў падбітай машыны сяржант.

Пяхота, паліваючы нашы акопы агнём з аўтаматаў, працягвала рухацца наперад. Ужо нават няўзброеным вокам былі добра бачны іх перакошаныя ад крыку твару. З'явіліся і першыя страты ў роце. Прамым пападаннем снарада забіла двух аўтаматчыкаў. Замоўк адзін з «максімаў», яго пашкодзіла асколкам снарада. Мачалаў бачыў, як да першага ўзвода, прыгінаючыся, беглі санітары. «І там ёсць страты», — падумаў ён і зноў прыпаў да аўтамата. Старанна прыцэльваючыся, ён біў кароткімі чэргамі па цэлях, што насоўваліся. Немцы, якія аказаліся без падтрымкі танкаў, залеглі, але злева і справа ад лініі абароны роты яны працягвалі атакаваць. Мачалаў тут жа перадаў каманду флангавым кулямётам перанесці агонь і ўдарыць па надыходзячых. Неўзабаве і на іншых участках абароны нашы войскі прымусілі немцаў залегчы, а затым і адступіць.

Першая атака ворага батальёнам была адбіта. Немцы страцілі пяць танкаў і каля сотні салдат. Падбітыя танкі працягвалі гарэць, па полі слаўся чорны задушлівы дым, як акінуць вокам валяліся трупы знішчаных фашыстаў.

Усе разумелі, што першая атака — выпрабавальны крок. Немцы прамацалі нашу абарону, разабраліся з яе сістэмай агню, і цяпер трэба было чакаць яшчэ мацнейшы націск.

Толькі Мачалаў вярнуўся да свайго акопа, як да яго падбег капітан-артылерыст. Гэта быў камандзір процітанкавай батарэі. Мачалаў пачаў дзякаваць за ўмелую падтрымку, але той яго перабіў:

— Выбач, браток, пакідаю цябе. Нямецкія танкі дзесьці справа прарваліся, і мне загадана адысці назад і заняць новыя пазіцыі, каб не дапусціць удару па вас з тылу. Так што трымайся!

І ён, лёгка выскачыўшы з акопа, пабег да сваёй батарэі, якая хутка згорталася, рыхтуючыся да пераходу. «Хоць бы танкі не прашмыгнулі», — з трывогай падумаў Пётр пра пяцёрку «Т-34», якія схаваліся ў невялікім яры ў засадзе. Яны пакуль удзел у баі не прымалі і чакалі свайго часу.

Раптам пачуліся крыкі:

— Паветра! Паветра!

Капітан убачыў, як з боку лесу, куды адышлі немцы, насоўваюцца самалёты. Іх было больш як дзясятак. Самалёты, зрабіўшы паўкруг, паляцелі ўздоўж траншэй, кідаючы бомбы і страляючы з гармат і кулямётаў.

Але тут жа побач з імі з’явіліся нашы знішчальнікі. Кісліцкі, убачыўшы іх, радасна закрычаў:

— Усё, браткі, вяселля больш не будзе, жаніху цяпер пад хвост перцу падсыплюць!

І сапраўды, у небе завязаўся бой. Нямецкія бамбардзіроўшчыкі пачалі скідаць бомбы і адыходзіць на захад. Адразу ж задыміліся два варожыя самалёты, адзін з іх падарваўся і, развальваючыся на часткі, каменем пайшоў да зямлі, другі паляцеў у бок нямецкіх пазіцый.

Праз гадзіну немцы зноў падняліся ў атаку, але зноў былі адкінуты назад. Так працягвалася да самага вечара. Артылерыйскія і авіяцыйныя налёты чаргаваліся з атакамі пяхоты. Але сістэма абароны была добра прадумана і загадзя падрыхтавана. І вораг не прайшоў. Мачалаў быў задаволены: маладыя байцы раўняліся на бывалых і не завагаліся.

Пётр Пятровіч у перапынку паміж атакамі, калі даведаўся, што танкі «Т-34» сышлі з лагчыны, загадаў замініраваць поле на левым флангу. І цяпер можна было не баяцца танкаў у гэтым месцы.

Дзень ужо хіліўся да вечара, калі чарговы раз немцы пабеглі назад, і наступіла цішыня. Па ўсім было відаць, што новай атакі сёння не будзе. У акопах пачуўся смех. Даставілі запознены абед, і брудныя, з пакрытымі сажай тварамі, салдаты прагна пачалі есці, не забываючы пры гэтым перакінуцца вясёлым слоўцам.

Мачалаў чакаў, калі камандзіры ўзводаў далажаць яму пра страты. Ён слухаў, як непадалёку хтосьці даймаў Кісліцкага, каб той расказаў што-небудзь вясёлае. Кісліцкі адзываўся жартамі. Усё той жа голас сказаў:

— Ну выдатна ты, Эдуард, пекануў таго «тыгра»! Трэба ж кропля ў кроплю ў матор патрапіць!

— Умець трэба, — важна адказаў Кісліцкі і раптам спытаў: — А ці ведаеш ты, што такое «кропля ў кроплю»?

— Не, не ведаю.

— Гэта штосьці з інтымнага жыцця ліліпутаў, — растлумачыў пад смех таварышаў Кісліцкі і дадаў: — Ды табе не ліліпут, а навальніца фашысцкіх танкаў. Запомні!

— Таварыш капітан, — пачуў Мачалаў голас тэлефаніста, — вас камандзір палка выклікае.

Пакуль Мачалаў ішоў да паўразбуранага бліндажа, паспеў падумаць пра тэлефаніста. «Замучыўся ён сёння, небарака, бадай раз дзесяць, не менш, давялося сувязь аднаўляць».

Узяў трубку і тут жа пачуў голас камандзіра палка. Грыдзін сказаў: «Мачалаў, пакінь за сябе Севярынава і прыходзь да мяне!»

Да штаба палка ісці было недалёка, і Мачалаў не спяшаючыся ішоў па вузенькай сцяжынцы. Пасля гарачага напружанага дня добра дыхалася свежым астываючым паветрам, прыемна было слухаць цішыню, якую, праўда,

парушала далёкая артылерыйская кананада. Дзесьці там, за гарызонтам, ішоў бой. Мачалаў не ведаў, што немцам у многіх месцах удалося ўклініцца, а дзе-нідзе і прарваць нашу абарону. Капітан падняўся на невысокі пагорак і, зірнуўшы ў бок невялікай вёсачкі, дзе размяшчаўся штаб палка, здзіўлена прысвіснуў. Амаль уся вёска была знішчана.

«Як жа штаб палка ацалеў?» — падумаў ён, спускаючыся з пагорка.

На ўскраіне вёскі насустрач Мачалаву ішлі дзве жанчыны. Пётр, не зважаючы, хацеў прайсці міма, але тут адна з іх спынілася і ціха спытала:

— Мачалаў? Пётр Пятровіч?

Капітан здзіўлена зірнуў на жанчыну. Перад ім стаяла Васілеўская. Схуднелая, са стомленымі і сумнымі вачамі, яна глядзела на яго, нібы баючыся, што памылілася.

— Вольга Ільінічна, — узрадаваўся Мачалаў, — адкуль вы? Як тут апынуліся?

Яна працягнула яму руку:

— Дабрыдзень, Пётр Пятровіч! Як я рада, што сустрэла вас!

Апошняя фраза вылецела ў яе нечакана. Вольга Ільінічна, збянтэжыўшыся, пачырванела, але тут жа растлумачыла:

— Наш шпіталь за вёскай у лесе размясціўся.

Разгаварыліся. Васілеўская расказала і пра сваё новае гора: амаль тры месяцы назад пад Ленінградам загінуў муж. Імкнучыся схаваць у вачах страшны боль, які душыў яе, яна паспешна спытала:

— Ну, што ў вас чуваць? Пра сям'ю нічога не даведаліся?

— Не, пакуль нічога. Камандзір палка напісаў у штаб партызанскага руху, папрасіў высветліць праз партызанскія атрады, але пакуль адказу няма.

Пётр спахапіўся, успомніў пра выклік да камандзіра палка. Яны абмяняліся нумарамі палявой пошты і дамовіліся, што будуць пісаць адно аднаму. Развітваючыся, Вольга Ільінічна сказала:

— Вы мне абавязкова напішыце, калі даведаецеся пра сям'ю, абавязкова! — і, зрабіўшы невялікую паўзу, дадала: — Мне так хочацца, каб у вас усё было добра…

Мачалаў ішоў па пыльнай вуліцы вёскі, амаль цалкам знішчанай варожай авіяцыяй. Радасць сустрэчы з Васілеўскай змяшалася з панурымі, трывожнымі думкамі пра дзяцей і жонку.

А на зямлю апускалася ноч. Мачалаў увайшоў у цудам ацалелую хату, дзе знаходзіўся штаб палка.

Грыдзін буркліва заўважыў:

— На валах ты, Мачалаў, дабіраўся сюды?

Капітан моўчкі зірнуў на падпалкоўніка і адвёў вочы. Яму не хацелася тлумачыць прычыну затрымкі. Дый Грыдзін не стаў чакаць тлумачэнняў. Ён запрасіў яго прысаджвацца і адразу ж перайшоў да справы:

— Прымай, Пётр Пятровіч, батальён.

— Як гэта прымаць? — не зразумеў Мачалаў.

— А вось так, — Грыдзін на імгненне горка ўсміхнуўся: — На вайне так і прымаюць. Загінуў камандзір, малодшы прымае камандаванне.

— Хто загінуў?

Мачалаву было страшна назваць прозвішча Тарасава.

— Так, Іван Іванавіч загінуў, — ціха растлумачыў Грыдзін і, адчуўшы, што боль па загінулым таварышы ўзмацняецца, грубавата сказаў: — Ты прызначаны камандзірам батальёна замест яго. Камандаванне прымай неадкладна. Раніцай бой…

## Уладзімір Славін

Атрад атрымаў новае заданне. Уначы трэба было ўварвацца ў невялікае мястэчка, размешчанае ў сарака кіламетрах ад Мінска, знішчыць нямецкі гарнізон, захапіць здраднікаў Радзімы. Гэта былі паліцаі і старасты, якія беглі з вызваленых партызанамі вёсак і схаваліся пад крыло сваіх гаспадароў. Стала вядома, што нямецкае камандаванне мае намер блакіраваць мясцовыя лясы і знішчыць партызан. Вось тут і адводзілася галоўная роля здраднікам Радзімы як праваднікам. Яны добра ведалі навакольную мясцовасць.

Камандзір атрада даручыў Валенту і Славіну пад выглядам сялян паехаць у мястэчка і выведаць, як размясціліся карнікі.

Разведчыкам далі падводу, запрэжаную заезджанай кабылай. Яны паклалі ў воз саломы, сена, паставілі пару збаноў малака, кошык яек і крануліся ў дарогу.

Дзед Міхась кіраваў канём, а Славін, уладкаваўшыся за яго спінай, уважліва глядзеў па баках.

Гітлераўцы абнеслі ўсё мястэчка калючым дротам, дзе-нідзе замініравалі падыходы. Немцаў тут было нямала, выставілі пікеты. І хоць вакол быў лес, яны адчувалі сябе даволі ўпэўнена.

Валента і Славін заязджалі ў мястэчка з боку Валожына.

Нямецкія вартавыя перад шлагбаўмам агледзелі воз, жэстам дазволілі праезд.

Уладзімір заўважыў недалёка ад шлагбаўма кулямёт, далей на вуліцы стаяў бронетранспарцёр. Калі воз, падскокваючы на камянях маставой, заехаў у цэнтр мястэчка, разведчыкі ўбачылі казарму. У ёй, відавочна, знаходзіліся асноўныя сілы немцаў. Казарма таксама была абнесена калючым дротам, уздоўж агароджы хадзілі два аўтаматчыкі. Пад'язджаючы да плошчы, дзе звычайна збіраўся кірмаш, партызаны заўважылі ствалы дзвюх зенітак, якія тырчаць з-пад даху. Іх, па ўсёй верагоднасці, прывезлі сюды нядаўна, таму што артылерысты размясціліся ў армейскіх палатках.

Прабылі ў мястэчку дзед Валента і Славін гадзіны дзве. Выязджалі праз прапускны пункт па дарозе ў бок Мінска. Кіламетры тры яны ехалі па шашы. А потым, выкарыстаўшы момант, калі шаша апусцела, звярнулі на ледзь прыкметную лясную дарожку. Дзед Валента добра ведаў мясцовыя лясы, спрытна кіраваў канём і нейкім цудам умудрыўся выехаць прама да часовай стаянкі атрада.

Глазкоў адразу ж запрасіў разведчыкаў да сябе ў шалаш. Тут жа быў начальнік штаба. Ён разгарнуў карту і схему мястэчка. Валента і Славін, дапаўняючы адзін аднаго, падрабязна расказалі аб усім, што ім удалося выведаць.

Начальнік штаба старанна наносіў на схему, дзе знаходзяцца кулямёты, гарматы, казарма, пасты праціўніка.

Уначы атрад накіраваўся да мястэчка. Ішлі асцярожна. К тром гадзінам выбраліся на шашу, што была ў кіламетры ад гарнізона. Тут пакінулі заслон з адзінай у атрадзе гарматай, якую разгарнулі ў бок Мінска, каб затрымаць варожае падмацаванне, калі з'явіцца адтуль. Асноўныя сілы атрада рушылі да мястэчка. Але не ведалі партызаны, што праз тры гадзіны пасля таго, як з мястэчка выехалі дзед Валента і Славін, туды прыбылі дзве аўтамашыны з гітлераўцамі. Яны размясціліся ў хатах. Фашысты рыхтаваліся ранкам пачаць карную аперацыю ў бліжэйшых вёсках.

Партызанскі атрад, разбіты на некалькі груп, павінен быў пракрасціся ў мястэчка з розных кірункаў. Адным групам даручалася блакіраваць казарму ворага, другім — знішчыць яго тэхніку, трэцім — захапіць здраднікаў і нямецкіх афіцэраў.

Відавочна, даволі працяглы спакой, у якім знаходзіліся акупанты, падтупіў іх пільнасць, і партызанам удалося зняць пасты і ўвайсці ў мястэчка непрыкметна.

Вось і казарма. Зняць вартавых бясшумна не атрымалася. Адзін з іх паспеў стрэліць ва ўпор у партызана, які падбег да яго. Глазкоў чаргой скасіў вартавога, і партызаны кінуліся да казармы. У вокны паляцелі гранаты. Усё адбылося так хутка, што фашысты, якія спалі, не паспелі выскачыць з памяшкання.

Справіліся партызаны з гітлераўцамі і там, дзе стаялі нямецкія зенітныя гарматы. Але тут здарылася неспадзяванае. Стральба спудзіла немцаў, якія прыехалі ў мястэчка напярэдадні, і яны адкрылі па партызанах моцны агонь з вокнаў і гарышчаў хат.

Група, у якой быў і Славін, прарвалася да цэнтральнай плошчы, дзе знаходзілася некалькі грузавікоў. Паўдзясятка гранат, кінутых у іх, і некалькі кароткіх аўтаматных чэрг па бензабаках зрабілі сваю справу: машыны загарэліся. Аднак партызаны, апынуўшыся на адкрытым месцы, трапілі пад моцны агонь гітлераўцаў, што заселі ў хатах. З'явіліся забітыя. Трэба было ў што б там ні стала выбіць фрыцаў з крайняй хаты.

Немцы, якія знаходзіліся ў ёй, трымалі пад прыцэльным агнём усю невялікую плошчу. Камандзір групы Панчанкаў падпоўз да Славіна і Крайнюка, якія ляжалі недалёка адзін ад аднаго:

— Хлопцы, паспрабуйце дабрацца да хаты з боку агарода!

Славін кінуўся да плота і адным махам пераскочыў яго. Затым агародамі дабраўся да хлява, які стаіць недалёка ад хаты і ў ім фашысты занялі кругавую абарону. У акне, што выходзіла ў двор, можна было заўважыць чалавечыя постаці. Адзін гітлеравец выбіў з рамы шкло і прасунуў вонкі ствол вінтоўкі.

Разважаючы, як хутчэй выбіць ворага з хаты, Уладзімір вызірнуў з-за хлява, і тут жа ў тоўстае бервяно ўпілася куля. «Дакладна б'е, чорт!» — падумаў ён і кінуўся ў другі вугал, каб паспрабаваць з таго боку наблізіцца да хаты. У гэты момант прыбег Крайнюк.

— Чаго ты тут затрымаўся?! — злосна крыкнуў ён. — Не бачыш, як нашых паліваюць! А ты скачаш каля сценкі!

— Якія скокі? — пакрыўдзіўся Славін. — Яны кругавую занялі. Падыходы з гэтага боку таксама пад прыцэлам трымаюць.

— З чаго смаляць? — трохі астыўшы, спытаў Крайнюк.

— З вінтоўкі, праз акно. Высунуў я было галаву, дык ледзь без яе не застаўся.

Антон прылёг на зямлю, асцярожна вызірнуў з-за вугла. Яго не заўважылі. Аднак было зразумела, што бегчы ад хлява да хаты — значыць патрапіць пад кулю. Крайнюк павярнуўся да Славіна:

— Надзень на аўтамат пілотку. Падражні. А я паспрабую дастаць яго з гарышча, толькі дапамажы мне.

Славін упёрся рукамі ў бярвеністую сцяну, ледзь прысеў, падставіў Антону спіну. Той спрытна дабраўся да невялікага акенца, ледзь праціснуўся праз яго і схаваўся на гарышчы. Славін надзеў на ствол аўтамата пілотку і вярнуўся да вугла, з-за якога выглядаў. Ён трохі вычакаў, пакуль Крайнюк паспее прайсці да процілеглага канца хлява, і хацеў высунуць пілотку, але раптам хутчэй адчуў, чым пачуў, ззаду нейкі рух і рэзка абярнуўся. Да яго спяшалася старая.

— Сынок! Асцярожна! Там немцы.

— Гэта я паспеў ужо заўважыць, — усміхнуўся Славін. — Вы лепш скажыце, хто тут гаспадар хаты.

— Я — гаспадыня, галубок. Толькі сцеражыся — застрэляць.

— Акрамя немцаў, яшчэ хто-небудзь ёсць там?

— Адны яны там, адны. Ды паліцаі яшчэ. Мяне і дачку выгналі ўчора. У хлеў перабраліся.

— Гэта, вядома, дрэнна, што выгналі. А, з іншага боку, можа, і добра, — сказаў Уладзімір. — Вы, бабуля, хуценька бяжыце адгэтуль у агарод. Толькі старайцеся, каб хлеў затуляў вас, а то шалёная куля незнарок закране.

Толькі паспеў Уладзімір высунуць з-за хованкі пілотку, як куля прабіла яе наскрозь. У тое ж імгненне зверху дробна ўдарыў аўтамат. Славін выскачыў з-за хлява і накіраваўся да хаты. Ён разумеў, што Крайнюк прыкрые яго агнём.

Праз некалькі імгненняў Уладзімір апынуўся каля хаты, аббег яе, аўтамат павесіў на шыю, у рукі ўзяў па гранаце і вызірнуў з-за вугла: з вокнаў, якія выходзяць на вуліцу, фашысты бесперапынку стралялі па плошчы. Уладзімір злаўчыўся і кінуў лімонку ў тое акно, адкуль сыпаліся кулямётныя чэргі. Ён зрабіў яшчэ некалькі скачкоў, запусціў гранату ў іншае акно, дзе засела некалькі аўтаматчыкаў, а затым аббег хату і падскочыў да сенцаў. Прама на яго вылецеў мужчына. На ім была толькі даматканая ніжняя кашуля. Уладзімір ускінуў аўтамат:

— Рукі ўгару!

— Не страляйце! Я — свой.

— Марш да хлява! — загадаў Славін.

Яны падышлі да вугла хлява. Уладзімір гучна паклікаў гаспадыню:

— Бабуля, гэты чый будзе?

Бабулька зірнула на палоннага:

— Цьфу ты, бессаромнік! Хоць бы порткі надзеў! Паліцай ён. Старшы паліцай. Учора, нягоднік, суседскага хлапца лупцаваў пад п'яную руку. Прычапіўся, што той яму боты не захацеў чысціць.

— Ясна, бабуля, — Уладзімір паварушыў аўтаматам, — а ну, рукі трымай вышэй!

Падбег Крайнюк. Ён акінуў грэблівым поглядам палоннага:

— Гані яго да нашых. Там разбяромся.

Славін пхнуў аўтаматам паліцая:

— А ну, давай! Руш наперад, зануда галазадая!

Яны абмінулі хату і праз веснічкі выбраліся на вуліцу. Перастрэлка перанеслася ў глыб мястэчка. На плошчы ўсё яшчэ гарэлі нямецкія машыны. Злева, метрах у сямідзесяці пяці, Уладзімір убачыў чатырох партызан, якія спешна грузілі на калёсы трафейную зброю. Толькі загадаў ён здрадніку бегчы да гэтай групы, як той, войкнуўшы, паваліўся на зямлю. Ці то партызанская, ці то фашысцкая куля прабіла лоб паліцая. Так і застаўся ён ляжаць паўапрануты. «Сабаку — сабачая смерць!» Славін сплюнуў і кінуўся да сваіх байцоў, якія пачалі адводзіць у хованку загружаную фурманку.

А ў мястэчку працягваўся ўпарты бой. Нягледзячы на тое, што фашыстаў аказалася значна больш, чым меркавалася, партызаны вымусілі іх адступіць. Адстрэльваючыся, яны адыходзілі да ўскраіны мястэчка. Партызанам удалося захапіць сямёра здраднікаў. Праследаваць немцаў не мела ніякага сэнсу. Вось-вось гітлераўцы маглі атрымаць падмацаванне.

Партызаны загрузілі некалькі фурманак, захопленых у ворага, зброяй і боепрыпасамі, паклалі на павозкі параненых, забралі загінулых таварышаў і

рушылі ў лес. Заданне, хоць і з вялікімі стратамі, было выканана. Зараз трэба было хутчэй сыходзіць ад пагоні, якую, напэўна, раніцай арганізуюць немцы. Камандзір загадаў падрыўнікам замініраваць у некалькіх месцах мінскую шашу, а таксама закласці пару фугасаў на прасёлкавай дарозе, па якой пайшоў у лес атрад. Да ўзыходу сонца ён быў ужо далёка…

І вось ужо трое сутак атрад ішоў не спыняючыся, імкнучыся вырвацца з блакады. Немцы, сцягнуўшы ў гэты раён велізарныя сілы, акружылі ўсе бліжэйшыя лясы. Людзі стаміліся, коні знясілелі, і камандзір вырашыў зрабіць прывал на адной з запасных баз. Тут было некалькі зямлянак, патаемная студня, выкапаная яшчэ ў першае лета вайны. Вакол гэтай базы ляжала балота, і партызаны разлічвалі, што гэта спыніць карнікаў. Камандзір выставіў заслоны, і атрад размясціўся на адпачынак.

Прайшлі яшчэ суткі, і над базай нечакана закружыў нямецкі самалёт. Усе замерлі, але самалёт не адлятаў, а ўсё кружыў, потым скінуў лістоўкі: гітлераўцы заклікалі партызан кідаць зброю, выходзіць з лесу.

— Пранюхалі, сцервы! — заклапочана прагаварыў Глазкоў і тут жа загадаў выслаць разведку.

Да вечара яго горшыя здагадкі пацвердзіліся. Разведка далажыла: вакол лесу — немцы, шмат аўтамашын, ёсць танкі і бронетранспарцёры. Адчувалася, што фашысты старанна рыхтаваліся да аперацыі.

Камандаванне партызанскага атрада сабралася на нараду. Весці працяглы бой партызаны не маглі. У іх было мала боепрыпасаў і харчу.

Карнікі, узброеныя артылерыяй і авіяцыяй, хутка маглі захапіць невялікі востраў, на якім размясціўся атрад. Ісці на прарыў было б вар'яцтвам. Камандзір вырашыў бой з сіламі праціўніка, якія мелі вялікую перавагу, не прымаць, а ўначы выходзіць з акружэння невялікімі групамі.

Неўзабаве лагер апусцеў. У ім засталося ўсяго толькі трынаццаць чалавек, сярод іх Славін і дванаццацігадовая Надзя Панчанкава. Гэта група павінна была дачакацца двух партызан, якія знаходзіліся ў сакрэце на далёкіх подступах да базы, а затым прабрацца праз фашысцкія кардоны.

Старшы групы Тамкоў накіраваў Славіна прыспешыць таварышаў.

Валодзя імчаўся па лесе. Вось і месца, дзе павінен знаходзіцца сакрэт. Але што такое? Вакол цішыня. Байцоў няма. Валяюцца стрэляныя гільзы. На пяньку ляжыць скрываўлены падсумак, а побач — мноства слядоў ад нямецкіх чаравікаў. Уладзімір адразу зразумеў, што адбылося тут напярэдадні. Тым не менш, у яго душы яшчэ цяплілася слабая надзея, што, можа быць, параненыя партызаны знаходзяцца дзесьці паблізу. Ён уважліва агледзеў усю мясцовасць вакол, абышоў кожны куст, але нікога не знайшоў.

Славін вярнуўся да сваіх і расказаў пра ўбачанае старшаму групы. Тамкоў вырашыў неадкладна сыходзіць, асцярожна прабірацца да першай базы атрада. У бой вырашылі ўступаць толькі ў самым крайнім выпадку. «Бо на нашай апецы знаходзіцца дзіця», — заўважыў Тамкоў. Бацька Надзі і тры іншыя партызаны напярэдадні не вярнуліся з разведкі. Усе турбаваліся за іх лёс. Славін імкнуўся ўвесь час быць побач з дзяўчынкай.

Ішлі асцярожна, прытрымваючыся густых хмызнякоў, уважліва прыглядаючыся да навакольнай мясцовасці. Кіламетры праз тры, партызан, які ішоў наперадзе, сказаў, што бачыць групу людзей, чалавек дзесяць, якая, відавочна, адпачывае на беразе невялікага раўчука. Тамкоў вырашыў абысці іх, але потым падумаў: «А раптам свае?» Узяўшы з сабой пяцярых байцоў, сярод якіх быў і Славін, ён пайшоў у разведку. Падпаўзлі да групы, ахапілі яе кальцом. І тут убачылі некалькі знаёмых твараў. Гэта была група з суседняга атрада.

Высветлілася, што, вяртаючыся з задання, партызаны разышліся са сваім атрадам, які змушаны быў зняцца і сысці з базы, каб не апынуцца ў акружэнні. Байцы ўжо трэці дзень блукалі па лесе, выбіліся з сіл, галадалі. Зараз яны вельмі ўзрадаваліся, убачыўшы сяброў па зброі. Вырашылі аб'яднацца і выходзіць з акружэння разам. К вечару наблізіліся да шашы. Выслалі разведчыкаў. Але нічога суцяшальнага не даведаліся. Немцы выставілі моцныя заслоны, і прадрацца скрозь іх было немагчыма.

Старшыя груп вырашылі ісці лесам уздоўж аўтамагістралі і шукаць пралом у ачапленні фашыстаў. Праз кожны кіламетр разведчыкі асцярожна набліжаліся да шашы, прыглядаліся, дзе можна перайсці яе.

Да вечара яны выйшлі да скрыжавання з Валмянскай дарогай. Тут партызаны змаглі па адным перабегчы шашу і працягвалі ісці ў бок былой базы. Туды і павінны былі памкнуцца ўсе групы атрада. Паглыбіліся на кіламетры два ў лес і спыніліся на начлег.

Досвіткам партызаны сабраліся ў дарогу. Нечакана з боку аўтамагістралі, якую яны ўчора перасякалі, пачуліся аўтаматныя чэргі, брэх сабак. Тамкоў паклікаў да сябе Славіна:

— Вазьмі яшчэ аднаго чалавека, разбярыцеся, што такое, і даганяйце нас. Мы пойдзем прама, так што арыентуйцеся па сонцы.

Славін і яшчэ адзін баец, узброены вінтоўкай, рушылі на шум. Праз нейкія паўгадзіны над імі, зразаючы галінкі, засвісталі кулі. Разведчыкі, нізка прыгінаючыся да зямлі, перабягаючы ад дрэва да дрэва, узялі крыху лявей і працягвалі ісці. Неўзабаве яны ўбачылі немцаў. Выцягнуўшыся ў доўгі ланцуг, яны наўздагад стралялі з аўтаматаў і рухаліся ў тым кірунку, у які адыходзіла група партызан. Немцы ішлі павольна, ведучы на ланцужках сабак, часта спыняліся і аглядалі хмызнякі.

Было ясна, што гітлераўцы чарговы раз прачэсваюць лес. Валодзя рукой падаў сігнал напарніку адыходзіць. Яны адпаўзлі ў гушчар, ускочылі на ногі і кінуліся даганяць сваіх. Група ішла хутка, і нагнаць яе разведчыкам удалося дзесьці апоўдні. Выслухаўшы разведчыкаў, Тамкоў нядбайна махнуў рукой:

— Ну, гэтыя нам не страшныя. Калі бесперапынку «паляць у малако», значыць далёка не пойдуць. Патронаў не хопіць.

І сапраўды, хутка стала ціха. Абвясцілі прывал, а двух партызан накіравалі наперад, разведаць абстаноўку каля вёскі, дзе жылі сувязныя атрада дзед Пятрусь, Мачалава і маці Крайнюка.

Было горача, хацелася піць. Уладзімір аблізваў сухія вусны. Ён адшукаў партызана, якому перад адыходам у разведку перадаў рэчмяшок, але ў пакінутай там пляшцы вады не было. Побач, пад кустом, на разасланы пінжак прысела Надзя. Валодзя спытаў:

— Піць хочаш?

Дзяўчынка мімаволі аблізала вусны:

— Дык вады ж няма.

— Нічога, — усміхнуўся Славін. — Цяпер паспрабуем адшукаць.

Уладзімір сабраў у рэчмяшок з дзясятак пляшак і накіраваўся на пошукі.

Ён стараўся выйсці на нізкае месца, натрапіць на раўчук ці хоць бы лясное балотца. Хадзіў Славін доўга, пакуль не знайшоў на шляху даволі глыбокі ярок. Спусціўшыся ўніз па стромкім абрыве, ён спачатку расчараваўся — суха. Але, кінуўшы погляд направа, заўважыў кроках у дваццаці ад сябе жоўты пясок. З-пад яго прабівалася вада. Валодзя падышоў бліжэй. Так, гэта была крыніца. З якім задавальненнем хлопец спаталяў смагу! Ад

холаду дранцвелі зубы, зводзіла сківіцы, але ён піў, затым напоўніў усе пляшкі, паскладаў у рэчмяшок і, ускінуўшы яго на спіну, заспяшаўся да сваіх таварышаў.

Першую пляшку Славін працягнуў дзяўчынцы. Тая прагна прыпала вуснамі да рыльца. Потым раздаў астатнія пляшкі. Усе падбадзёрыліся, павесялелі. Пасля гэтага Славін прылёг у цені пад кустом і адразу ж задрамаў. Але спаць не давялося. Вярнуліся разведчыкі. Яны былі чымсьці ўсхваляваны, штосьці ціха паведамлялі старшым абедзвюх груп. Тыя, перамовіўшыся паміж сабой, падалі каманду адпраўляцца ў шлях. Тамкоў голасам, які змяніўся, глуха прагаварыў:

— Таварышы! Мы накіроўваемся да вёскі. І вы ўбачыце сваімі вачамі, на што здольныя фашысцкія каты.

Да самай вёскі партызаны ішлі моўчкі. Тое, што яны неўзабаве ўбачылі, сапраўды ледзяніла душу. На месцы вёскі чарнелі папялішчы, сіратліва стаялі абгарэлыя печы. Ацалела толькі некалькі хат, але людзей у іх не было. Не ведалі партызаны, што гэта хаты паліцаяў, гаспадары якіх перабраліся ў райцэнтр. Жудасна скуголілі сабакі. Партызаны моўчкі хадзілі па спаленай вёсцы, і кожнага мучыла адна і тая ж думка: «Дзе людзі? Што з імі?» І вось перад імі адкрылася карціна больш страшная за папярэднюю. Партызаны спыніліся ля спаленага хлява. На папялішчы ляжалі дзясяткі спаленых і паўспаленых чалавечых трупаў. Доўга стаялі партызаны ля гэтага месца. Поўнымі слёз вачамі глядзеў Славін на рэшткі загінулых людзей. «Няўжо і мама Антона, і настаўніца загінулі? Як пра гэта паведаміць Антону?» З яго грудзей вось-вось гатовы быў вырвацца крык: «За што? Якім зверам трэба быць, каб пайсці на такое!» Рукі юнака міжвольна сціскалі аўтамат: «Адпомсціць! Адпомсціць за смерць гэтых людзей!» Уладзімір глуха сказаў:

— Колькі жыць буду — столькі буду помсціць!

— Пойдзем, Надзечка. Пайшлі, Валодзя, — паклікаў Тамкоў, хочучы хутчэй адвесці іх ад гэтага страшнага месца.

Моўчкі ішлі партызаны, ціха плакала дзяўчынка…

## Старшы лейтэнант Купрэйчык

Савецкія войскі пасля перамогі пад Курскам разгарнулі наступленне на шырокім фронце.

Старшы лейтэнант Купрэйчык радаваўся разам з усімі вялікай перамозе. Была ў яго і яшчэ адна вялікая радасць. У пачатку верасня паштальён прынёс яму пісьмо. Аляксей, які зрэдку атрымліваў лісты толькі ад Мачалава, зірнуў на зваротны адрас і павольна апусціўся на вільготную пасля роснай ночы траву. Гэта было пісьмо ад Надзі.

Дрыготкімі рукамі разгарнуў ліст і скрозь слёзы пачаў чытаць: «Мілы, каханы, дарагі мой Лёша, дабрыдзень! Нарэшце гадзіну назад я атрымала адказ на свае лісты. Мне паведамілі нумар тваёй палявой пошты. Пішу табе, а сама не веру, што ліст дойдзе да цябе, што ты сапраўды дакранешся да гэтых лісткоў, будзеш трымаць іх у руках!

Лёшачка, каханы, калі б ты ведаў, як пакутліва я перажываю нашу сустрэчу на тым паўстанку, калі цябе параненага павёз цягнік. Я зразумела, што гэта быў ты, толькі пасля таго, як ты з’ехаў. Вось і цяпер, успомніўшы пра гэта, плачу, як дурніца! Як жа я цябе тады не пазнала? Думала, што паранены жэстамі патрабуе хутчэй пагрузіць яго ў вагон.

Пасля гэтага да маіх пакутлівых чаканняў дадаўся пякучы боль за цябе. Куды я толькі не пісала! І вось, сёння, я ведаю твой адрас. Я нічога ў жыцці не хачу, акрамя аднаго — каб гэты ліст дайшоў да цябе…»

Далей Надзя апісвала, дзе яна, чым займаецца, прасіла падрабязней напісаць пра сябе.

Купрэйчык, скончыўшы чытаць, паднёс пісьмо да твару. Яму здавалася, што ён адчуваў пах яе рук. «Родная, ты аказалася шчаслівейшая за мяне! Колькі я пісаў з просьбай паведаміць мне твой адрас, а адказалі табе! Якое шчасце, што ты жывая і кахаеш мяне!»

Да яго падышоў, ледзь накульгваючы, Чыжык. Яшчэ адчувалася раненне ў нагу, але разведчык не змог вылежаць да канца і раней часу выпісаўся са шпіталя. Ён трывожна спытаў:

— Камандзір, што здарылася?

Купрэйчык, нібы ачнуўшыся, устаў з зямлі:

— Нічога, Ваня, усё ў парадку. Жонка знайшлася. Вось ліст атрымаў.

— Ну і як, жывая, здаровая?

— Так. Увесь гэты час шукала мяне і вось, бачыш, знайшла.

— Ну і дзякуй богу. Цябе камандзір палка выклікае.

Купрэйчык схаваў ліст у кішэню і праз хмызняк, напрасткі, пайшоў да штаба палка. Ён быў упэўнены, што атрымае новае заданне, але Васільеў, убачыўшы яго, сказаў:

— Паехалі, камдзіў збірае камандзіраў палкоў і начальнікаў разведак.

Яны селі ў патрапаны «віліс» і неўзабаве былі ў вёсцы, дзе размяшчаўся штаб дывізіі. Аказалася, што напярэдадні за лініяй абароны немцаў нечакана сутыкнуліся дзве групы разведчыкаў, якія былі пераапрануты ў нямецкую форму і належалі розным палкам. Завязалася перастрэлка. Двое былі забіты і трое паранены. Гэта было ЧП. Начальнік разведкі дывізіі быў пакараны, і цяпер кожны полк атрымаў указанне накіроўваць сваю разведку толькі ў паласу сваіх дзеянняў.

Пасля нарады Васільеў і Купрэйчык вярталіся ў полк тым жа шляхам. Па прыбыцці на месца Васільеў не адпусціў Купрэйчыка, і неўзабаве яны апынуліся ў прасторным, моцна складзеным бліндажы.

Ардынарац, маленькі вёрткі чырвонаармеец, разумеў Васільева з аднаго кіўка. Праз некалькі мінут на стале былі нарэзаная вялікімі кавалкамі каўбаса, адкрытыя нажом слоікі з кансервамі, хлеб.

Васільеў наліў у гранёныя шклянкі гарэлку:

— Ну, давай, Аляксей, за нашу перамогу!

Яны выпілі і пачалі закусваць. Раптам Купрэйчык успомніў пра ліст: «Трэба ж хутчэй даць адказ. Надзя, напэўна, гадзіны лічыць, калі яго атрымае, а я засеў, як у рэстаране». Апетыт адразу ж знік, і Купрэйчык пачаў шукаць падставу, як яму сысці. Праўда, і ў Васільева былі справы. Яны выпілі яшчэ па сто грамаў, і той, папярэдзіўшы Купрэйчыка, каб ён быў гатовы да вечара наступнага дня ісці на заданне, адпусціў яго.

Купрэйчык ледзь не подбегам накіраваўся да сябе, дзе адразу ж узяўся за ліст. Пісаў доўга, але калі скончыў, то зразумеў, што не напісаў нават паловы таго, што хацеў. Пастаяў у роздуме і вырашыў, што ўвечар напіша другі ліст. Склаў ліст у трыкутнік, працягнуў старшыне і загадаў неадкладна адправіць.

Усе разведчыкі ва ўзводзе ведалі, што ў камандзіра знайшлася жонка. Байцы радаваліся за Аляксея, асабліва «старыя», якім былі вядомыя яго перажыванні і нечаканыя сустрэчы з жонкай.

Ганчар адказаў «ёсць!», але перш чым сысці, сказаў:

— Камандзір, вас капітан Мухін пытаў. У полк прыбыло папаўненне, ён хоча з вамі і нам людзей падабраць.

Аляксей, паправіўшы на рэмені кабуру з трафейным «вальтарам», накіраваўся да Мухіна.

Такая паспешнасць была выклікана тым, што падчас апошніх баёў узвод страціў амаль палову людзей, і Купрэйчык ужо даўно патрабаваў папаўнення. І вось яно прыбыло, цяпер трэба спяшацца, каб першаму адабраць больш вопытных салдат.

Неўзабаве Купрэйчык і Мухін былі ў некалькіх кроках ад байцоў, якія стаялі на паляне ў дзве шарэнгі. Ішоў невялікі дождж. Было волка і прахалодна. Байцы, якія нядаўна здзейснілі па раскіслай дарозе шматкіламетровы марш, былі брудныя і панура маўчалі.

Купрэйчык моўчкі разглядаў іх. Галоўным чынам маладыя, нядаўна прызваныя, у неразношаных чаравіках і новенькім абмундзіраванні.

Але былі тут і франтавікі, якія прыбылі са шпіталяў. Іх адразу вылучала паношаная, выгаралая на сонцы, але добра падагнаная форма.

Непадалёк стаяла група афіцэраў. Гэта былі прадстаўнікі батальёнаў і службаў палка. Але ўжо так заведзена: першай адбірае сабе папаўненне разведка, а ўсе іншыя — пасля.

Купрэйчык не спяшаючыся прайшоў уздоўж строя, павярнуўся і вярнуўся на сярэдзіну:

— Хто раней служыў у разведцы, тры крокі наперад!

З другой шарэнгі выйшаў гадоў дваццаці пяці баец.

Ён выразна і гучна далажыў:

— Сяржант Ражноў, прыбыў пасля ранення са шпіталя.

Сярэдняга росту, дужа збіты, з прамым адважным поглядам чорных вачэй. Шмат разоў мытая і цыраваная гімнасцёрка сядзела добра, на нагах немаведама як здабытыя ялавыя боты. На грудзях — медаль «За адвагу».

«Адчуваецца свой браток», — падумаў ухвальна Купрэйчык і звярнуўся да строя:

— Хто яшчэ служыў у разведцы?

Людзі маўчалі. Тады старшы лейтэнант задаў новае пытанне:

— Хто хоча служыць у разведцы — тры крокі наперад!

Шэрагі не зварухнуліся.

— Што, няма ахвотнікаў? Страшна? — усміхнуўся Купрэйчык.

— А што нас там чакае? — спытаў хтосьці з байцоў.

— На вайне ўсіх нас чакае адно і тое ж — бой, — адказаў старшы лейтэнант і, разумеючы, што людзей трэба чымсьці завабіць, дадаў: — Але ў разведцы служба асаблівая, таму і ўмовы асаблівыя: харчы лепшыя, паёк — асаблівы, у любое надвор’е, нават у такі дождж, — сто грамаў.

— А як наконт біяграфіі? — спытаў усё той жа голас.

Аляксей нарэшце ўбачыў таго, хто задаваў пытанні. Гэта быў баец у пацёртым абмундзіраванні. «Ага, значыць, франтавік». Старшы лейтэнант падышоў бліжэй і толькі пасля гэтага адказаў:

— Біяграфію мы сабе пішам тут, на фронце. І хто яе як напіша, так усё жыццё і чытаць будуць.

— Але я ў тым сэнсе… — збянтэжыўся баец, — пасля штрафной роты бераце людзей да сябе?

— Вы што, прама са штрафной роты сюды прыбылі?

— Так… дакладней, са штрафной у шпіталь прыбыў, а адтуль — сюды.

— Паранены былі?

— Так, у правае плячо.

— За што ў штрафную роту патрапілі?

Баец збянтэжыўся і ледзь выразна, панізіўшы голас, прамармытаў:

— На грамадзянцы пашухарыў крыху, па маладосці выкраў сёе-тое.

— Ну і што ж ты выкраў? — спытаў Купрэйчык, а сам падумаў: «Вазьмі такога, а ён да немцаў уцячэ».

— Мяшок аўса… ну і каня ў прыдачу.

У страі грукнуў рогат.

І Купрэчык нечакана для сябе рашыўся. Ён, усміхаючыся, сказаў:

— Добра, бяру ў разведку. Але, на ўсякі выпадак, папярэджваю, да вайны я быў оперупаўнаважаным крымінальнага вышуку.

І зноў грукнуў рогат. Смяяліся і тыя, хто стаяў у страі, і афіцэры, якія чакалі сваёй чаргі, і Мухін. З другой шарэнгі выйшаў малады, гадоў дваццаці двух, баец і сказаў, што ён былы работнік міліцыі і хоча пайсці ў разведку.

Пасля гэтага справа пайшла весялей, многія былі згодны пайсці служыць у разведку. Купрэйчык і Мухін адабралі дзесяць чалавек і адразу ж павялі іх у размяшчэнне ўзвода.

Не губляючы час, Купрэйчык пачаў бліжэй знаёміцца з папаўненнем. Першым да сябе ў бліндаж запрасіў «штрафніка».

Хударлявы, вышэй сярэдняга росту, з запалымі шчокамі, ён выглядаў кволым і слабым.

Купрэйчык зазірнуў у дакументы і ўслых прачытаў:

— «Сёмін Рыгор Іванавіч. Тысяча дзевяцьсот сямнаццатага года нараджэння». У штрафной роце спагнанні меў?

— Не! Ды вы не хвалюйцеся, таварыш старшы лейтэнант, я не падвяду. Сваю віну я крывёй змыў. Не хачу больш ганьбіць сваіх бацькоў. Ваяваць буду як след.

— Правільна думаеш, Рыгор Іванавіч. Дзе бацькі жывуць?

— Пад Масквой, у вёсцы. Там цяпер маці і дзве сястрычкі малодшыя засталіся, бацька — ваюе.

— Ведаеш яго адрас?

— А як жа! — усміхнуўся Сёмін. — Два дні назад ліст атрымаў, але адкажу сёння, паведамлю свой.

Купрэйчыку падабалася, што Сёмін адкрыты. Адчувалася, што франтавое жыццё многае змяніла ў яго свядомасці.

Аляксей спытаў у Сёміна:

— У разведцы ні разу не быў?

— Не, але ў тыле ў немцаў давялося тыдзень пабываць, калі наш батальён апынуўся ў акружэнні і нам трэба было выходзіць з яго невялікімі групамі.

Купрэйчыку ўсё больш падабаўся баец. Ён падумаў: «Так, на вайне як нідзе хутка пазнаюцца людзі. Здаецца, гэты цяпер ведае, што такое ў жыцці добра і што такое дрэнна».

А на наступную раніцу пачаў з новымі байцамі трэніроўкі. Аляксей разумеў, што чым больш ён надасць увагі навучанню навабранцаў, тым хутчэй яны стануць разведчыкамі і, самае галоўнае, тым больш у іх будзе шанцаў застацца ў жывых.

Пасля заняткаў ён стаміўся, але застаўся задаволены тым, што навічкі, усе як адзін, аказаліся кемлівымі і стараннымі.

Купрэйчык рыхтаваўся да начнога паходу. Каторы раз праверыў зброю. І раптам у галаву прыйшла думка: «А ці не напісаць яшчэ ліст Надзюшы? — Ён уявіў, як яна будзе рада, што ён адразу адказаў ёй некалькімі лістамі. — А потым Пятру напішу, — вырашыў ён, — узрадую, што Надзя знайшлася».

Аляксей лавіў сябе на думцы, што ўпершыню перад заданнем думаў толькі пра жонку. Гэтыя думкі былі мацнейшыя за трывогу хуткай небяспекі. Праўда, зараз, калі ён даведаўся, што Надзя жывая і здаровая, дзесьці ў глыбіні душы зноў заварушылася рэўнасць: «Вакол яе шмат мужчын, некаторыя напэўна паглядаюць на яе і спрабуюць пазнаёміцца». Ад гэтай думкі Аляксею стала нядобра, і клаліся на паперу не тыя словы, якія ён толькі што хацеў напісаць. Але калі ён пачаў расказваць, як ваюе, то захапіўся, пісаў доўга і скончыў толькі тады, калі з'явіўся Мухін. Капітан, верны сваёй звычцы дапамагаць сябру рыхтавацца да паходу, і гэтым разам прыйшоў да Купрэйчыка. Аляксей не вытрымаў і пахваліўся:

— Учора ліст ад Надзі атрымаў. Жывая-здаровая, сама мяне адшукала.

— Што ты кажаш! Ну, віншую, дружа, віншую! Дык гэта ты ёй адпісваеш?

— Ага, — і Купрэйчык тут жа спытаў: — Ды што нам загадана?

— Учора ўначы немцы «абнюхвалі» міннае поле, што ўздоўж вышыні знаходзіцца, гэта якраз насупраць стыку другога і трэцяга батальёнаў. Камандзір палка турбуецца, што гітлераўцы пусцяць танкі, і яны там змогуць прайсці. А ў нас сіл пакуль замала. Папаўненне маленькімі партыямі прыбывае.

— Ясна, — перабіў сябра Купрэйчык, — значыць, у тыл трэба ісці.

— Здагадлівы, — усміхнуўся Мухін. — Трэба паглядзець, што там у іх у блізкім тыле за перадавой маецца, а заадно мы табе сапёраў дамо, хай праверацы, ці не знялі немцы міны.

— Ды што, праз міннае поле ісці?

— Не ўпершыню ж, Аляксей, — Мухін усміхнуўся і дадаў: — Больш бяспечнага праходу і не знайсці.

Неўзабаве яны апынуліся ў акопах пярэдняй лініі. Наперадзе была нейтральная паласа. Усё тут было знаёма Купрэйчыку да купіны і ямкі. Але кожны раз, калі ён збіраўся ў разведку, як бы зноў знаёміўся з мясцовасцю, прадумваючы кожны крок, кожны рух. Нездарма ж кажуць, што разведчыку, як і сапёру, права на памылку не дадзена, проста не будзе каму яе выпраўляць.

Да вечара знаходзіліся Купрэйчык і Мухін у акопах і калі ўжо вярталіся да сябе, то план паходу быў гатовы.

Доўга ішлі моўчкі. Кожны думаў пра сваё. Аляксей, супакоіўшыся за жонку, працягваў з вялікай трывогай думаць пра бацькоў. Яны знаходзіліся цяпер у глыбокім варожым тыле. «Ці жывыя? Калі жывыя, то няцяжка здагадацца, як яны чакаюць часу вызвалення!»

Купрэйчык задумаўся, не заўважыў, што закрочыў хутчэй.

Мухін спытаў:

— Чаго гэты ты раптам заспяшаўся? Думаеш, Надзя другі ліст даслала?

— Ды не, — збянтэжыўся Аляксей, — проста хачу людзей падрыхтаваць да паходу…

Пазней, успамінаючы Кузьму Андрэевіча Мухіна, Купрэйчык будзе часта дакараць сябе за тое, што не спыніў яго, не затрымаў хоць бы на хвіліну.

Мухін таксама не ведаў, што на пустынным восеньскім полі, праз якое яму трэба ісці з бліндажа, яго чакае смерць…

## Баец партызанскага атрада Уладзімір Славін

Восень 1943 года падыходзіла да канца. Нягледзячы на працяглую блакаду, цяжкія знясільваючыя баі партызаны дзейнічалі актыўна, увесь час нарошчваючы сілу ўдараў па акупантах.

Атрад, у якім знаходзіўся Славін, папаўняўся за кошт жыхароў бліжэйшых вёсак і зноў ператварыўся ў грозную сілу. Зараз у атрадзе ўжо з'явіліся роты, якімі камандавалі афіцэры Чырвонай Арміі і вопытныя байцы, што прайшлі суровую школу партызанскай вайны.

Неўзабаве атрад атрымаў загад перадыслакавацца ў новы раён. Партызаны павінны былі праводзіць дыверсіі на аўтамагістралі, якая мае вялікае стратэгічнае значэнне, практычна не даваць ворагу карыстацца шашэйнымі дарогамі.

Камандзір атрада Глазкоў турбаваўся за лёс байцоў некалькіх груп, якія пасля выйсця з варожага кальца пакуль не вярнуліся ў атрад і напэўна ваююць самастойна. «Калі атрад сыдзе з гэтага раёна, — думаў Глазкоў, — то яны наўрад ці змогуць нас адшукаць». І тады ён вырашыў пакінуць на ранейшым месцы некалькіх чалавек, каб яны дачакаліся прыходу сваіх, а затым рушылі на злучэнне з галоўнымі сіламі атрада. Выбар выпаў на чацвярых — Тамкова, Славіна, Рогава і Крайнюка.

Старшым быў прызначаны камандзір роты Андрэй Лявонцьевіч Тамкоў.

Уладзімір у душы цешыўся, што патрапіў у гэту групу. Хлопец лічыў, што чым бліжэй будзе знаходзіцца да Мінска, тым больш шанцаў атрымаць хоць бы якую-небудзь вестачку пра бацькоў.

Пасля таго як Славін убачыў паўабгарэлыя трупы людзей, спаленыя хаты вёскі, жудасны малюнак так і стаяў перад вачамі. Лёс бацькоў стаў трывожыць яго мацней. А зараз яшчэ ён даведаўся страшную навіну пра тое, што настаўніца, якая жыла ў вёсцы побач з маці Крайнюка, аказалася яго сваячкай. Пра гэта стала вядома некалькі дзён назад. Справа была так: Валодзя і Антон вярнуліся з задання і зайшлі да Глазкова. У гэты момант у зямлянку ўвайшоў радыст і моўчкі працягнуў камандзіру радыдёграму.

Глазкоў прабег яе вачамі, а затым прыгнечана сказаў:

— Просяць высветліць пра лёс сям'і нашага ўчастковага Мачалава. Рука не ўздымаецца пісаць, што Таццяна Андрэеўна і дзеці загінулі.

— Як Мачалава? — бляднеючы, прагаварыў Славін.? — Яна… што… Мачалава?

— Так, а ты не ведаў? — Глазкоў, зірнуўшы ў твар хлопца, устрывожыўся: — Што з табой?

— Пеця Мачалаў — мой стрыечны брат…

— Але ты ж ніколі пра гэта не казаў! — здзівіўся Крайнюк.

— Я ж не ведаў, што яна яго жонка, — прыгнечана адказаў Уладзімір і растлумачыў: — З ёй да вайны я бачыўся толькі два-тры разы, і то апошні раз у трыццаць пятым ці трыццаць шостым. Пётр, бываючы ў Мінску, заўсёды заходзіў да нас, а яна ў горад рэдка прыязджала.

— Дык ты яе проста не пазнаў, калі тут мы з ёй сустракаліся?

— Мне ўвесь час здавалася, што я яе дзесьці бачыў. Нават хацеў спытаць, але не адважыўся…

— Так, хлопча, не шанцуе табе, — сумна прагаварыў Глазкоў. Цяжка апусціўся на табурэтку, якая стаяла ля стала, і накідаў тэкст зваротнай радыёграмы, дзе паведаміў пра гібель жонкі і дваіх дзяцей Мачалава.

Славін у душы вінаваціў сябе, што своечасова не даведаўся прозвішча настаўніцы і не ўгаварыў яе сысці ў атрад.

Лютасць і злосць перапоўнілі душу маладога партызана. Ён прасіўся на любое заданне. Таму Глазкоў, адыходзячы з атрадам, папярэдзіў Тамкова: «Ты, Андрэй Лявонцьевіч, глядзі за Славіным, як бы ён з гарачкі дурасці не напароў».

Уладзімір не заўважыў, калі да яго падышоў Тамкоў і крануў за плячо:

— Што, хлопец, прызадумаўся?

Славін падняўся на ногі, збянтэжана адказаў:

— Пра бацькоў думаю. Дый сястру даўно не бачыў.

— Ну, з сястрой, дапусцім, усё ў парадку. А бацькі… Тут ужо нічым не дапаможаш. Застаецца адно: чакаць. Чакаць і спадзявацца. Вось што я хачу сказаць: мы застаёмся на базе. Трэба як след назапасіцца боепрыпасамі, узрыўчаткай. Таму знайдзі Рогава і Крайнюка, атрымаеце ўсё гэта і схавайце ў надзейным месцы, дзе-небудзь тут, бліжэй.

— А можа, у адну з зямлянак складзём? Усё адно пустуюць.

— Нельга. У нас зараз аховы не будзе, і калі наляцяць немцы, то можаш не сумнявацца, усё перавернуць.

— Зразумеў. Іду, — і Славін, закінуўшы аўтамат за спіну, пайшоў выконваць загад.

Пасля абеду атрад зняўся з базы, а чацвёра байцоў засталося на месцы.

Дзіўным чалавекам быў гэты Тамкоў. Ён ні на хвіліну не мог заставацца без работы, заўсёды чымсьці быў заклапочаны, увесь час мітусіўся. Ужо да вечара, паклікаўшы Славіна, Крайнюка і Рогава, прапанаваў:

— Браткі, справа ёсць! Давайце зробім так, каб немцы не адчулі, што атрад сышоў адгэтуль. Будзем паціху ім шкоду чыніць. Узрыўчатка ў нас ёсць, зброя нядрэнная. Сёння нас чацвёра, а праз некалькі дзён будзе больш.

Тым часам з’явілася дзяўчына. Першым яе заўважыў Тамкоў. Ён усміхнуўся:

— Славін, да цябе госця.

Уладзімір азірнуўся і ўбачыў сястру. Партызан, якія сядзелі ў хмызняку, яна не заўважыла і здзіўлена разглядала апусцелую базу. Брат падняўся і, хаваючыся за кустамі, абышоў паляну, паціху падкраўся да госці і, прыставіўшы да яе спіны ўказальны палец, скамандаваў:

— Хенде хох!

Жэня, здрыгануўшыся, рэзка абярнулася:

— Цьфу ты, чорт! Напалохаў! Я і сапраўды падумала, што немец падкраўся. Гляджу — на базе нікога. Падазрона стала.

Яны адышлі на край паляны, прыселі на звваленае дрэва. Жэня чымсьці была ўсхвалявана і, ледзь стрымліваючы сябе, распытала брата, як ён жыве, потым сказала:

— Валодзя! Мяне ў спецгрупу перавялі. Зараз часта буду сыходзіць далёка. Ты ўжо сачы за сабой.

— У якую групу? Куды будзеш сыходзіць?

— Разумееш, гэта тайна. Табе скажу толькі адно: мая справа — разведка нямецкіх тылоў. — І перавяла гаворку: — Можа, трэба што-небудзь памыць?

— Не, Жэня, не трэба.

— Ведаеш, Валодзя, мой новы начальнік надоечы гутарыў з тваім камандзірам. Размаўлялі пра тату і маму. Абяцалі высветліць, што з імі.

— Што ён зможа зрабіць? — з горыччу прагаварыў Уладзімір. — У гестапаўскія падвалы не пракрадзешся.

— Не ведаю што. Але абяцаў, што пра іх лёс даведаецца.

— Калі ты сыходзіш? — спытаў Уладзімір.

— Заўтра.

— Надоўга?

— Дзён на дзесяць.

— А калі мне спатрэбіцца адшукаць цябе?

— Шукай праз майго былога камандзіра, — Жэня паднялася. — Ну, мне пара.

Уладзімір, крыху правёўшы сястру, вярнуўся ў лагер. У душы з’явілася трывога. Раней Жэня знаходзілася на тылавой базе. А зараз яна будзе амаль штодня адчуваць небяспеку, увесь час рызыкаваць жыццём…

Наступіў снежань. Усе чакалі марозу, снегападаў, а зямля набракала ад бесперапынных дажджоў. Па такой дарозе ісці было цяжка. Той шлях, які партызаны ў летні час праходзілі за нейкую пару гадзін, цяпер не маглі адужаць і за чвэрць, а то і за палову сутак, затое бездараж, цёмныя ночы дазвалялі ім непрыкметна набліжацца да аб’ектаў, якія ахоўвалі немцы, і наносіць нечаканыя ўдары.

Група Тамкова за паўтара-два месяцы ператварылася ў невялікі атрад. Калі яна злучылася з асноўнымі сіламі, Славіна прызначылі начальнікам разведвальна-дыверсійнай камсамольска-маладзёжнай групы. Хлопцы з задавальненнем ішлі на любое заданне. Часцей за ўсё іх накіроўвалі на шашэйныя дарогі, дзе, устанавіўшы міну, можна было не чакаць падыходу аўтамашыны, а вяртацца на базу ці прыступаць да выканання наступнага задання. Але Уладзіміра цягнула да чыгункі, і ён увесь час прасіў Тамкова, які так і застаўся яго непасрэдным начальнікам, паслаць на «жалезку». Нарэшце такі выпадак надарыўся. Славін узначаліў дыверсійную групу, якой даручалася пусціць пад адхон эшалон.

Як толькі сцямнела, адправіліся ў шлях. Разам з Уладзімірам на заданне ішлі Мікалай Церахаў, Яўген Антошын, Аляксей Бартошык і Сяргей Панчанкаў — брат Надзі.

Апоўначы група дабралася да невялікай вёсачкі. Тут жыў стары, партызанскі сувязны, які быў леснікам. Накарміўшы партызан, ён параіў:

— Мне здаецца, што вам трэба падыходзіць да дарогі не лесам, а полем. Адразу за вёскай пачынаецца невялікая лагчына. Па ёй вы зможаце наблізіцца да самай дарогі. Дый патрулі ў тым месцы ходзяць радзей.

— Не засеклі, праз які інтэрвал яны рухаюцца? — спытаў Славін.

Стары ўсміхнуўся:

— Гадзінніка, сынок, у мяне няма. Ходзікі былі, дык стараста, каб яго разарвала, забраў. Але думаю, мінут праз дзесяць з’яўляюцца.

— Ну, гэтага нам дастаткова, — махнуў рукой Панчанкаў.

Уладзімір усміхнуўся, успомніўшы, як той падчас трэніровак на базе паспеў паставіць «міну» за дзве-тры хвіліны. Аднак гэтым разам трэба было выкарыстоўваць не міну, а шаснаццацікілаграмовы зарад толу.

Падрыўнікі асцярожна прабраліся да дарогі па той самай лагчыне, пра якую казаў стары-сувязны. Яны чулі, як адзін за адным прамчаліся тры цягнікі ў бок Мінска.

Мінёры залеглі і сталі чакаць. З-за павароту вырваўся цяжкі састаў. На вялікай хуткасці ён набліжаўся да месца, дзе чакала яго «неспадзеўка». Славін разлічыў дакладна. Калі ён тузануў за канец шнура, начную цішыню ўскалыхнуў аглушальны выбух. На імгненне стала светла быццам днём, партызаны ўбачылі, як паравоз устаў на дыбы, і адразу ж наступіла цемра, толькі чуліся выбухі, лязгат металу, трэск.

У атрадзе камандзір павіншаваў усіх удзельнікаў аперацыі з поспехам, паклікаў Славіна:

— Уладзімір, цябе ў штабной зямлянцы сястра чакае. Хоча радасную вестку паведаміць.

— Якую?

— Пакуль сакрэт, — усміхнуўся камандзір, злёгку падпіхнуў хлопца ў спіну. — Ну, ідзі!

Уладзімір хуткім крокам накіраваўся да штабной зямлянкі. «Напэўна цяпер будзе выхваляцца, што фрыцам моцна нашкодзіла», — меркаваў ён.

Жэня сядзела на тоўстым цурбане і падкідала ў «буржуйку» дровы. Убачыўшы брата, ускочыла:

— Нарэшце! Я ўжо думала, што так і не дачакаюся цябе, — яна абняла і пацалавала Уладзіміра.

— Што за радасную вестку хочаш паведаміць?

Жэні хацелася трохі памучыць брата, але не вытрымала:

— Мама прыехала.

Уладзімір павольна апусціўся на лаву, збітую з жэрдак.

— Як прыехала? Дзе яна?

— У вёсцы. Гэта недалёка адсюль, кіламетраў трыццаць—сорак.

— Адкуль ты ведаеш? — недаверліва спытаў Уладзімір.

— Наш камандзір сказаў. Ох і малайчына ён! Памятаеш, я казала, што абяцаў дапамагчы нам.

— Вядома, памятаю.

— Дык вось, ён даведаўся, дзе немцы трымаюць маму, і з дапамогай падпольшчыкаў арганізавалі ўцёкі.

— А з татам што?

— Пакуль нічога не вядома. Мама таксама нічога не ведае, — сумна адказала Жэня і, заўважыўшы, што ў Валодзі дзе-нідзе парваўся пінжак, прапанавала: — Давай зашыю.

Гледзячы, як Жэня спрытна валодае іголкай, спытаў:

— Ты бачыла маму?

— Бачыла. Усяго адзін раз. Да цябе прыбегла, каб дамовіцца, калі да яе пойдзем.

— Як калі? Пайду цяпер да камандзіра і адпрашуся дні на тры. Вось і пойдзем.

Ён надзеў зацыраваны пінжак, папрасіў сястру трохі пачакаць, пабег да зямлянкі камандзіра. Той, выслухаўшы, паклаў руку на плячо хлопца:

— Ведаю, хлопча, што занудзіўся па маці. Але адпусціць не магу. Бачыш, зіма пачынаецца. Трэба сыходзіць далей у лясы. А то тут, як толькі выпадзе снег, немцы адразу выявяць нашы сляды і, як кацянят, пераб’юць. Сыходзім заўтра. Так што адкладзі спатканне на пазнейшы тэрмін. Калі ўладкуемся на новым месцы, адпушчу дзён на дзесяць. Толькі патрывай...

## Капітан Пётр Мачалаў

Ноч. Мароз. Сцюдзёны вецер паступова заносіў снегам акопы. Два ўжо немаладыя салдаты з трывогай пазіралі ў бок капітана, які стаяў непадалёку. У раскрытым шынялі, без галаўнога ўбору, ён моўчкі глядзеў туды, дзе знаходзіўся праціўнік.

Байцам было холадна, самы час згарнуць самакрутку і, хаваючы яе ў рукаве, зацягнуцца моцным тытунём. Але нельга, побач камбат. Яшчэ, чаго добрага, прабярэ за курэнне на пасту. А назіральнікам знаходзіцца на марозе яшчэ не менш як гадзіну. Адзін з іх ледзь чутна прабурчаў:

— І чаго ён тырчыць тут? Ішоў бы да сябе ў зямлянку. Там, нябось, ад спякоты хоць да сподняга распранайся.

— Не кажы, курыць так хочацца, аж у роце казыча.

— Што праўда, то праўда. Калі ў мяне ў руцэ цыгарка дыміцца, то мне здаецца, што яна нават душу адагравае.

— А яно так і ёсць. Дым жа цёплы, удыхнеш — і ўнутры цяплей становіцца.

— А камбат вось без шапкі, так і прастыць можна. Бач, як нямецкую пазіцыю вывучае, пэўна, заўтра ў атаку загад паступіць.

— Наўрад. Вось атрымаем папаўненне, тады фрыцаў далей папром.

Чырвонаармейцы, вядома, не маглі бачыць твар Мачалава, яго адсутны погляд. У правай руцэ ён сціскаў лісток паперы. Гадзіну назад да яго ў бліндаж увайшоў Грыдзін. Яго стомлены худы твар здаваўся чорным. Ён моўчкі зірнуў на ардынарца. Той накінуў на плечы шынель, нацягнуў на галаву шапку і, узяўшы для чагосьці сякеру, што ляжала на бярэмі дроў ля распаленай печы, выйшаў.

Мачалаў, нібы прадчуваючы бяду, моўчкі глядзеў на камандзіра палка. Той нейкім чужым, надтрэснутым голасам сказаў:

— Пеця, трымайся, браток, бяду прынёс табе!

Ён працягнуў Мачалаву лісток паперы і, нібы апраўдваючыся, растлумачыў:

— Толькі што з дывізіі даставілі.

Мачалаў разгарнуў лісток і напаўголасу пачаў чытаць:

«Як паведамляе штаб партызанскага руху жонка і двое дзяцей Мачалава разам з іншымі жыхарамі вёскі спалены. Гэтыя дадзеныя атрыманы ад партызанскага атрада, які дыслакуецца ў названым раёне».

Вочы Пятра завалакло смугой. Мозг не хацеў успрымаць сэнс прачытанага. Мачалаў яшчэ і яшчэ раз учытваўся ў напісанае, удумваўся ў яго сэнс. А сэрца паўтарала: «Не, не, гэта не пра іх! Гэта нейкая памылка! Урэшце, ці мала Мачалавых у арміі?» Але паступова да Пятра пачало даходзіць, што гаворка ідзе пра яго Таню і дзяцей. Ён успомніў, як яшчэ Тарасаў казаў яму, што высвятляюць лёс яго сям'і. Ох як не хацелася Пятру верыць у тое, што здарылася!

Ён як у трызненні накінуў на сябе шынель і, хістаючыся, пайшоў да пярэдняй лініі акопаў. Апынуўшыся ў размяшчэнні сваёй былой роты, Пётр спыніўся ў траншэі, дзе не было людзей, і падставіў твар марознаму ветру. Думкі былі бязладнымі і панурымі. Пётр разумеў, што ўжо больш ніколі не ўбачыць Таню, не пагладзіць пышныя валасы Юлі, не абніме далікатнае цельца сына, не прыцісне іх да сваіх грудзей. Ад усведамлення гэтага станавілася жудасна, хацелася кудысьці бегчы, крычаць. Мачалаў не бачыў ні салдат, што знаходзіліся ў дазоры, ні камандзіра палка Грыдзіна, які следам за ім прыйшоў у гэту траншэю і, сціскаючы ў руцэ шапку Мачалава, не адважваўся падысці да яго.

Пётр знаходзіўся ў нейкім страшным забыцці. Думкі змяшаліся, і ў памяці ўсплывалі то твары жонкі і дзяцей, то суровая рэчаіснасць нагадвала пра сябе асвятляльнымі ракетамі, кулямётнымі чэргамі трасіруючых куль.

Нарэшце Грыдзін вырашыўся падысці да яго. Ён моўчкі надзеў на галаву Мачалава шапку і толькі пасля гэтага ціха сказаў:

— Пойдзем, Пеця, — і пацягнуў яго за рукаў, — пойдзем.

Мачалаў, нібы ў сне, паплёўся за падпалкоўнікам.

Яны моўчкі ішлі па траншэі, пакуль не набрылі на кулямётнае гняздо. Кулямётчыкі, пазнаўшы камандзіраў, выцягнуліся па стойцы «смірна». Грыдзін скамандаваў «вольна» і, упёршыся нагамі ў процілеглую сценку акопа, вылез наверх. Працягнуў руку Мачалаву:

— Давай сюды. Тут па прамой бліжэй усяго да твайго бліндажа.

Патанаючы па калені ў снезе, яны накіраваліся да бліндажа капітана.

Грыдзін, падаўлены горам Мачалава, якога шчыра любіў і шанаваў, з трывогай думаў, як дапамагчы яму, як вярнуць яго да жыцця.

Яны ўвайшлі ў горача напалены бліндаж. Адшукаўшы вачамі пляшку, падпалкоўнік, не здымаючы паўкажушка, плюхнуў з яе ў алюмініевыя кружкі спірту:

— Давай, браток, па звычаі ўспомнім іх. Трымайся і памятай: не ў аднаго цябе гора. Многія страцілі сваіх родных, вакол зямля гарыць — вайна, брат. Мы з табой салдаты, і наш абавязак — помсціць ворагу і гнаць яго з нашай зямлі. Зразумей, цяпер не ў слёзах наша суцяшэнне, а ў смерці ворагаў нашых.

Мачалаў узяў кружку, на яго вачах блішчалі слёзы. Ён ціха, звяртаючыся да жонкі і дзяцей, сказаў:

— Прабачыце мяне, родныя! Не змог я прыйсці вам на дапамогу, але помсціць буду за вашу згубу да апошняга дыхання! — і ён залпам выпіў. Затым нягнуткімі пальцамі чамусьці зашпіліў усе гузікі на шынялі і цяжка апусціўся на самаробную табурэтку, што стаяла ля стала.

— Ты б зняў шынель, Пётр, — прапанаваў Грыдзін. Адчувалася, што падпалкоўнік разгублены і падаўлены. Ён не ведаў, што трэба рабіць, што казаць. Ён спрабаваў дапамагчы Мачалаву распрануцца, але той адвёў яго руку, зняў шынель і павесіў яе на цвік каля ўвахода, пачапіў шапку і вярнуўся да стала. Грыдзін наліў зноў. Па старадаўнім звычаі выпілі тройчы…

А раніцай пачаўся бой.

Мачалаў звязаўся з камандзірам першай роты і загадаў яму флангавым агнём з кулямётаў падтрымаць другую роту, дапамагчы ёй адсекчы варожую пяхоту ад танкаў. Зрабіць гэта было цяжка. Прайшлі тыя часы, калі немцы хадзілі ў атаку на поўны рост, расцягнуўшыся ў ланцугі па ўсім фронце. Цяпер яны трымаліся групамі бліжэй да танкаў, хаваючыся за іх браню.

Чырвонаармейцам не ўдавалася прымусіць ворага залегчы. Танкі ўзмацнілі агонь і, зменшыўшы хуткасць, асцярожна, нібы прынюхваючыся, працягвалі паўзці наперад. Нечакана ў нізкі, глухі гуд танкавых матораў, рэзкіх кулямётных стрэлаў і дроб стрэльбава-кулямётнага агню ўмяшаўся іншы гук. Мачалаў мімаволі ўвагнуў галаву ў плечы — інстынкт самазахавання апярэдзіў свядомасць. Гэта гулі самалёты. Толькі чые яны?

Пётр падняў галаву і з палёгкай уздыхнуў: «Свае!»

Звяно «ілаў» адразу ж узялося за работу. Танкі пачалі кідацца ў розныя бакі. Гэтым скарысталіся артылерысты: адзін за адным успыхнулі тры танкі, і немцы пачалі адыходзіць, пяхота, якая апынулася на адкрытым полі без танкавага прыкрыцця, панесла значныя страты. На белым полі ў шматлікіх месцах чарнелі трупы.

Самалёты, адбамбіўшыся, з ровам разгарнуліся над полем і паляцелі.

Мачалаў адарваў бінокль ад вачэй і выдыхнуў: «Ну, першую атаку адбілі, трэба чакаць другую».

Ён звязаўся з Грыдзіным і далажыў абстаноўку. Той папярэдзіў:

— На іншых участках палка нам з цяжкасцю ўдалося адбіць атаку, так што сіл у фрыцаў дастаткова. Я думаю, што трэба чакаць новую хвалю.

— Я таксама так падумаў, дазвольце рыхтавацца?

І Мачалаў накіраваўся да першай лініі абароны. Толькі ён наблізіўся да траншэі, як па ёй з канца ў канец трывожна пранёсся сігнал: «Паветра!»

Усё бліжэй і бліжэй наплываў цяжкі, густы гул матораў.

— Таварыш капітан, скачыце сюды! — паклікаў Мачалава Чубарук. Яго твар быў у сажы. Старшы лейтэнант вычакаў, пакуль камбат апынецца побач, і растлумачыў:

— Снарад побач разарваўся, вочы засыпала, ледзь працёр.

Мачалаў зірнуў угару і ўбачыў, як да лініі акопаў на развароце падыходзіць шасцёрка «юнкерсаў». Прайшло імгненне, і самалёты з нарастаючым выццём, што рвала душу, пачалі крута пікіраваць на акопы.

Зямля цяжка здрыганулася, і жахлівай сілы выбух разануў слых. Праз секунду ўсё паўтарылася зноў, і неўзабаве выбухі бомбаў зліліся ў цяжкі, аглушальны грукат, які паралізоўваў свядомасць, прымушаючы кудысьці бегчы.

Мачалаў ужо шмат разоў трапляў у такую сітуацыю, і заўсёды дзесьці ў свядомасці ўзнікаў вось такі панічны страх. Праўда, ён навучыўся намаганнямі волі душыць яго, але цалкам пазбавіцца так і не змог. На галаву, за каўнер, паляцелі дробныя камячкі зямлі і снег, па разгарачаным целе пацяклі халодныя струменьчыкі адталай вады. А вакол па-ранейшаму ўсё грукатала, зямля ходырам хадзіла. Здавалася, што гэтаму пеклу не будзе канца. Але вось бамбёжка скончылася, і Мачалаў выбраўся з паўразбуранай нары.

Чуліся крыкі параненых. Побач Мачалаў убачыў байца. Ён стаяў без шапкі, прыпёршыся спінай да цудам захаванай сценкі акопа. У яго з носа і вушэй цякла кроў.

Нечакана Пётр адчуў, што хтосьці цягне яго за рукаў. Азірнуўся — Чубарук, а побач з ім… Вольга Ільінічна Васілеўская. Яна пазнала Мачалава і, хутка набліжаючыся, трывожна аглядала яго:

— Вы паранены, Пётр Пятровіч?

— Не, быццам бы цэлы. — І, павярнуўшыся да Чубарука, загадаў: — Арганізуйце дапамогу параненым. Многіх магло засыпаць, а затым трэба як мага хутчэй аднавіць траншэю, немцы могуць у любы момант зноў у атаку пайсці

Чубарук пайшоў, і яны засталіся адны. Вольга Ільінічна дастала з сумкі марлевую сурвэтку і голасам, які не церпіць пярэчанняў, сказала:

— Давайце я вам вытру твар.

— Дзякуй, — збянтэжана прагаварыў Мачалаў.

— Калі ласка, — усміхнулася Васілеўская і спытала: — Пра сям’ю нічога не даведаліся?

Яна ўбачыла, як стомлены, бледны твар Мачалава адразу ж стаў зямліста-шэрым, і трывожна спытала:

— Здарылася штосьці?

— Так, яны загінулі…

Нібы расплаўлены свінец паліў у грудзі. Мачалаў адвярнуўся ад Васілеўскай і глуха выціснуў з сябе:

— Спалілі іх немцы, жыўцом спалілі.

Слёзы засцілі яму вочы. Пальцы ўпіліся ў рыхлы пасля бамбёжкі край акопа.

Вольга Ільінічна ледзь стрымлівала слёзы. Чужая бяда ўскалыхнула яе боль, і яна, як ніхто іншы, разумела стан Мачалава.

## Уладзімір Славін

Запасная база партызан была далёка ад усіх дарог, глыбока ў лесе. Як толькі атрад прыбыў сюды, адразу ж пачалі рыхтавацца да зімы. Партызаны рамантавалі зямлянкі, нарыхтоўвалі дровы, прыводзілі ў парадак студню. Спраў было шмат.

Славін патрапіў у адну зямлянку з камандзірам роты Тамковым, а таксама Сяргеем Панчанкавым, Антошыным, Рогавым, Бартошыкам і Антонам Крайнюком.

Прайшло чатыры дні, і ў іх лясным жытле ў жалезнай печцы ўжо весела патрэсквалі дровы. Вечарэла. Скуголіў моцны парывісты вецер. Славін зручна ўладкаваўся на нарах, збітых з тонкіх жэрдак і пакрытых яловымі лапкамі, падрыхтаваўся слухаць Тамкова. Расказваў той весела і займальна.

Нечакана расчыніліся дзверы, зазірнуў пасыльны:

— Тамкоў, Крайнюк, Славін! Да камандзіра.

Усе хутка апрануліся, выйшлі з зямлянкі. Марозны вецер залазіў пад адзежу, абпальваючы твар.

— Хутка снег ляжа, — заўважыў Тамкоў. — Трэба белыя маскіровачныя халаты даставаць.

— У немцаў пазычым.

У камандзірскай зямлянцы было цёпла, гула чыгунная печ. Пад столлю на дроце вісела газавая лямпа. Поруч стала стаялі камандзір атрада і начальнік штаба брыгады. Глазкоў запрасіў Тамкова з хлопцамі да стала:

— Вам заданне. Вось гэту дарогу бачыце? — ён паказаў на карце звілістую лінію. — Яна вядзе прама ў цэнтр партызанскай зоны. У апошнія дні нашы разведчыкі засеклі на ёй інтэнсіўны рух немцаў. Мабыць, рыхтуюцца новыя карныя паходы. Самі разумееце, што жыхарам, асабліва жанчынам і дзецям, узімку схавацца няма дзе. У лес не сыдзеш. Гэту ж дарогу можна выкарыстоўваць і для скрытай перадыслакацыі войск. Нашы суседзі, дый партызаны з нашага атрада, шмат разоў ставілі на ёй міны, але немцы нейкім чынам выяўлялі іх і здымалі. Камандзір брыгады загадвае нашаму атраду правесці некалькі дыверсій. Хачу даручыць гэта вашай роце. Так што рыхтуйцеся.

— Таварыш камандзір! — узмаліўся Славін. — Дазволіце нам узяць процітанкавыя міны. Самі ведаеце, дарога няблізкая, выбухаў давядзецца рабіць шмат, а з мінамі марокі менш.

У атрадзе мін было мала. Тыдзень назад групе партызан удалося на дарозе перахапіць нямецкі грузавік. У перастрэлцы вадзіцель і трое салдат, якія знаходзіліся ў машыне, былі забіты. У кузаве партызаны знайшлі тры дзясяткі процітанкавых мін. Прынеслі ў атрад і расходавалі іх вельмі ашчадна, толькі па загадзе камандзіра.

Але Глазкоў разумеў, што значыць дзясяткі кіламетраў несці па бездаражы цяжкія мяшкі з узрыўчаткай. Да таго ж групе трэба было паклапаціцца і пра цёплую адзежу, бо начаваць давядзецца на холадзе ў лесе.

— Добра, скажыце начальніку гаспадаркі. Хай выдасць дзясятак мін.

Партызаны тут жа адправіліся адшукваць начальніка. Аднак не паспелі яны адысці і пяцідзесяці метраў, як іх дагнаў баец з камандзірскай аховы і перадаў, што Тамкову загадана вярнуцца ў зямлянку. Андрэй Лявонцьевіч пацiснуў плячамі, павярнуў назад. Хвілін праз дзесяць ён дагнаў іх і, весяла ўсміхаючыся, сказаў:

— Парадак, хлопцы! Камандзір загадаў ехаць на конях.

— Вось гэта правільна! Ногі цалейшыя будуць, — узрадаваўся Крайнюк.

Пасада начальніка гаспадаркі перайшла да дзеда Валенты. Яго ўжо не пасылалі на заданні, але са сваёй аднастволкай ён так і не расставаўся.

Тамкоў, Крайнюк і Славін знайшлі яго ў гаспадарчай зямлянцы. Дзед адрозніваўся скупасцю. Асабліва калі справа тычылася мін. Выдаваў іх звычайна па адной, як бы ад сэрца адрываў. Партызаны, ведаючы гэта, пачалі здалёку. Уладзімір прысеў каля старога:

— Вось бы мне такія рукі. Глядзі, як зямлянку адштукаваў! Палац!

— Не, хлопец! Мала табе будзе такіх рук, — прабурчаў Валента. — Да іх яшчэ і галава патрэбна. Кажыце, што трэба?

Дзявацца не было куды, і Тамкоў сказаў дзеду, што яны ідуць на заданне. На здзіўленне партызан, той не стаў упірацца і даў міны, ды і коней выдзеліў нядрэнных. Праўда, Славіну замест сядла дастаўся кавалак старой ватовай коўдры…

Ранкам група з дзевяці чалавек адправілася ў шлях. Славін сядзеў на стройным жарабцы па мянушцы «Хлопчык», з цікавасцю слухаў расказ Грыбава. Гэты чалавек да вайны працаваў у калгасе трактарыстам. Калі пачалася вайна, яму споўнілася дваццаць пяць гадоў. Першыя цяжкія дні ён перажыў дома, лежачы ў пасцелі пасля аперацыі. Таму ў армію яго не ўзялі. Але як толькі ўстаў на ногі — адразу ў лес, адшукаў партызан, стаў ваяваць.

І вось ужо каторы раз Грыбоў не без задавальнення расказваў, як ён разам з групай таварышаў падпаліў гранатай нямецкі склад з гаручым і падчас пажару ў мітусні падабраўся да хаты, дзе кватараваў нейкі фашысцкі чын.

— Выбягаю я з-за кута, — жэстыкулюючы, гаварыў Грыбаў, — гляджу: паставыя — два фрыцы. Шаснуў з аўтамата — палажыў абодвух. Уявіце сабе, нават і не пікнулі. Тут сам «гаспадар» у афіцэрскай форме з'явіўся. Тоўсты, як парсюк, у акулярах, парабелум на ўзводзе трымае. Аднак я апярэдзіў яго. Ударыў кароткай чаргой прама па акулярах. Толькі аскепкі пырснулі! Хуценька забраў яго дакументы, вось гэту штучку, — Грыбоў паказаў на пісталет, які тырчыць за рамянём пад ватоўкай. — Дай, думаю, зазірну яшчэ ў хату. Заскочыў. Гляджу — на стале карта, партфель скураны. Сабраў усё гэта і — дай Бог ногі — агародамі, агародамі ды да лесу.

Апавядальнік вытрымаў паўзу, дастаў капшук з тытунём, згарнуў цыгарку. Усе з нецярпеннем чакалі працягу.

— А далей што? — не вытрымаў Славін.

— Што было далей, пытаеш? — Грыбоў салодка ўцягнуў у сябе дымок, уважліва паглядзеў на Уладзіміра. — Дык вось што было, дружа. Прыйшлі мы ў атрад, як і трэба, далажылі камандзіру. А ў яго зямлянцы — начальнік контрразведкі з брыгады. Нямецкую, відаць, добра ведае. Бярэ ён запісную кніжку фрыца, якая аказалася сярод іншых дакументаў, пачынае чытаць. І раптам як засмяецца! Проста пацеха. Аказваецца, натыкнуўся на даваенныя запісы немца, дзе той распісваў кожны свой дзень, літаральна па хвілінах. Там ёсць і такі запіс:

«Пад'ём — шэсць гадзін пяцьдзясят пяць мінут. Марта — сем гадзін нуль нуль мінут — сем гадзін пятнаццаць мінут».

— Бач ты! — усміхнуўся Тамкоў, які ехаў прабач. — Для жоначкі ні хвіліны менш, ні хвіліны больш.

Славін не зразумеў:

— А што ён рабіў увесь гэты час і чаму пра нейкую Марту піша?

Усе дружна засмяяліся. Рогат стаяў на ўвесь лес. Збянтэжаны Уладзімір здзіўлена глядзеў на сваіх таварышаў.

Тамкоў пачакаў, пакуль супакояцца, і, імкнучыся быць сур'ёзным, патлумачыў:

— Разумееш, Валодзя, калі ты станеш дарослым і жэнішся, у цябе таксама з'явіцца адзін абавязак: будзеш будзіць жонку, каб яна, скажам, на працу не спазнілася…

— Сняданак табе прыгатавала, — падтрымаў Грыбаў. Уладзімір, адчуваючы падвох у словах мужчын, прабурчаў:

— Не разумею, чаму абавязкова муж павінен будзіць жонку. Мая мама, напрыклад, сама бацьку будзіла…

Яму не далі гаварыць, і зноў на ўвесь лес раздаўся рогат. Грыбаў прыпаў да грывы каня і, імкнучыся не выпасці з сядла, рагатаў да слёз…

Тамкоў раней бываў у гэтых месцах і памятаў, што тут дзесьці ёсць закінутая старожка, а поруч яе, і гэта самае галоўнае, стаіць невялікі хлеў, дзе можна схаваць коней.

Пакінуўшы групу ў лесе, ён накіраваўся да дарогі, каб лепш зарыентавацца і адшукаць старожку. Вярнуўся прыкладна праз паўгадзіны, і маленькі атрад рушыў далей. Тамкоў спяшаўся. Да наступлення цемры неабходна было прыбыць на месца. Ён увесь час прыспешваў:

— Хутчэй, браткі! Калі сцямнее — не знайсці нам той старожкі і начаваць давядзецца ў лесе.

Аднак ім пашанцавала. Тамкоў сапраўды добра запомніў дарогу. Яшчэ не паспеў апусціцца змрок, а група пад'ехала ўжо да маленькай старожкі. За ёй віднеўся невялікі хлеў з дзвярыма, якія боўталіся на адной завесе, і дзіравым саламяным дахам. Тамкоў зазірнуў унутр і ўключыў кішэнны ліхтарык. Было пуста.

— Ну што, хлопцы? Ноч насоўваецца. Будзем прыстасоўвацца. Спачатку трэба заткнуць шчыліны, хоць бы самыя вялікія. А заўтра падумаем, што рабіць з гэтай развалюхай.

Не ў лепшым стане была і старожка. Земляная захламленая падлога, перавернутая ўгару ножкамі масіўная лава, павуцінне ды прэлае лісце па кутах — вось, мабыць, і ўсё, што тут убачылі партызаны. У хатцы калісьці было два невялікія акенцы. Зараз замест іх у сцяне зеўралі толькі пустыя праёмы. Дзвярэй таксама не аказалася. А на дварэ ўжо было цёмна. Усе настолькі змарыліся, што сіл хапіла толькі на тое, каб паставіць коней у хлеў, наламаць яловых галінак ды завесіць вокны і ўваход у старожку. Спаць улегліся на падлозе.

Ноч прайшла спакойна, а раніцай Тамкоў падзяліў свой нешматлікі атрад на групы. Адна з іх павінна была заняцца рамонтам, другая — шукаць корм для коней. Сам жа Тамкоў разам са Славіным адправіўся на рэкагнасцыроўку, хацеў удакладніць, дзе размяшчаюцца нямецкія гарнізоны.

Яны ішлі крыху больш як гадзіну і апынуліся ля дарогі. Па ёй сапраўды часта праносіліся калоны нямецкіх машын і адзінкавыя аўтамабілі. Адчувалася, што фашысты тут нічога не асцерагаліся. Тамкоў выцягнуў з-за пазухі карту, разгарнуў яе, уважліва паглядзеў і сказаў:

— Кіламетрах у трох адгэтуль ёсць невялікая вёсачка. Давай махнём туды, з людзьмі пагаворым.

Улучыўшы момант, калі на дарозе нікога не было, яны перабеглі на процілеглы бок. Паглыбіўшыся метраў на трыста ў лес, пайшлі паралельна шашы. Прыкладна праз кіламетр наткнуліся на прасёлкавую дарогу. Тамкоў зноў дастаў карту і, зазірнуўшы ў яе, упэўнена заўважыў:

— Гэта дарога вядзе да вёскі.

Праз паўгадзіны яны выбраліся з лесу. Наперадзе ляжала поле, за ім — вёсачка хат на дваццаць—дваццаць пяць. Схаваўшыся ў кустах, партызаны сталі назіраць.

Прайшло каля гадзіны. Нічога падазронага разведчыкі ў вёсцы не заўважылі. Уладзімір прапанаваў:

— Андрэй Лявонцьевіч, давайце я аўтамат пакіну тут, а сам туды махну, разбяруся, што да чаго.

— Не спяшайся. Пойдзеш — а там засада ці на паліцая напорашся. Бачыш, як вёска размешчана? Вакол поле. Усё як на далоні відаць. Немцы любяць у такіх месцах спыняцца. Подступы добра праглядаюцца і прастрэльваюцца.

Славін, не адказваючы, глядзеў у бок вёскі. Ён заўважыў каля крайняй хаты нейкі рух. Убачыў гэта і Тамкоў. З двара выйшаў конь, запрэжаны ў падводу. Фурманка павольна пакаціла да лесу. Неўзабаве яна праехала міма партызан. Тамкову і Славіну давялося пасунуцца крыху направа і, маскіруючыся ў хмызняку, ісці следам за ёй. Яны паспелі ўжо разгледзець, што на возе сядзяць два чалавекі: стары, які кіраваў старой кабылай, і жанчына, захутаная ў цёплую хустку. Яны зрэдку абменьваліся паміж сабой кароткімі фразамі, а конь павольна цягнуў воз. Тамкоў хацеў падысці да фурманкі, але стары тым часам тузануў за лейцы і павярнуў каня направа, на ледзь прыкметную лясную дарожку. Партызаны прыселі за кустом, каб не патрапіць на вочы. Фурманка праехала міма. Захоўваючы неабходную дыстанцыю, партызаны паціху пайшлі за ёй.

Мінут праз дзесяць—пятнаццаць пачулася: «Тпру!» Фурманка спынілася на невялікай паляне каля кучы колатых дроў. Спачатку злез з воза стары, потым саскочыла жанчына. Яна развязала хустку, і партызаны са здзіўленнем убачылі, што гэта яшчэ зусім юная дзяўчына.

Стары і дзяўчына пачалі накладваць на воз паленні.

— Ну што? Дапаможам? — шэптам спытаў Тамкоў і ступіў да паляны.

Услед за ім пайшоў і Славін.

— Памагай божа! — весела сказаў Андрэй Лявонцьевіч. Стары і дзяўчына здрыгануліся, моўчкі глядзелі на падыходзячых людзей.

— Што маўчыце? Спалохаліся, напэўна?

— Ды не так, каб вельмі, — адказаў стары і абапёрся на перадок воза, дзе, па ўсёй верагоднасці, ляжала сякера. — Проста — людзі незнаёмыя…

— Мы ідзём сваёй дарогай. Раптам чуем — шум нейкі, зазірнулі сюды. Бачым, людзі працуюць, вось і падышлі.

Тамкоў, каб не палохаць старога і дзяўчыну, не стаў да іх падыходзіць блізка, а прысеў на зваленую бярозку. Славін спыніўся за яго спінай.

— А вы хто будзеце? — пацікавіўся стары, якога трохі супакоілі паводзіны незнаёмцаў.

— Партызаны, — адказаў Тамкоў і, заўважыўшы, што стары паглядзеў недаверліва, спытаў: — Напэўна, не даводзілася бачыць нашага брата зблізку?

— Даўно штосьці не чулі пра вас, — збянтэжыўся стары. Тамкоў, як бы мімаходзь, пацікавіўся, з якой яны вёскі. Стары сказаў праўду. Тады Андрэй Лявонцьевіч пачаў распытваць, што чуваць у вёсцы і ў раёне.

— У нас немцаў няма, але прыязджаюць часта.

— Дзе спыняюцца?

— У хатах, — усміхнуўся стары. — Якія хаты лепшыя, у тых і спыняюцца.

— А калі некалькі чалавек зазірне, — дадала дзяўчына, — то ў хаце старасты ўладкоўваюцца.

— Кажаце, стараста ў вас ёсць? — зірнуў на старога Тамкоў. — Можа, конь і падвода знойдуцца ў яго?

— Вядома. Трох коней у стайні трымае.

— Што ён за чалавек?

— Стараста! — недвухсэнсоўна заўважыў дзед, даючы зразумець, што гэтым сказаў усё.

— Дзе жыве?

— Калі з гэтага краю заязджаць, то па правым баку шостая хата.

— А вы дзе жывяце? — Тамкоў яшчэ раз вырашыў пераканацца ў тым, што гэтыя людзі кажуць праўду.

— У першай хаце з гэтага краю, — адказаў стары і нечакана пацяплелым голасам дадаў: — Ды вы, сынкі, у нас не сумнявайцеся. У мяне два хлопца ў Чырвонай Арміі, у яе — бацька. Так што мы людзі свае.

Стары і дзяўчына расказалі, што недалёка ад суседняй вёскі знаходзіцца невялікі нямецкі склад з фуражом. Там жа захоўваецца збожжа, яшчэ не вывезенае ў Германію. Дзед дадаў, што перад фашыстамі стараста асабліва не выслужваецца, затое з сялян імкнецца сарваць усё, што толькі можна.

— Ён ведае, што яе бацька ў Чырвонай Арміі, — кіўнуў стары на дзяўчыну. — Абяцаў не казаць пра гэта немцам, але запатрабаваў каня. Давялося аддаць.

— А што вашы дзеці ў Чырвонай Арміі — ведае?

— Спрабаваў, ліха яго маці, і да мяне падкаціцца, ды дулю пад нюхаўку атрымаў. — Дзед усміхнуўся: — Я склаў байку, што сыны мае перад самай вайной зніклі.

— І паверыў?

— А то як жа. Паверыў.

Партызаны дапамаглі скласці ў падводу дровы, праводзілі старога і дзяўчыну ў зваротную дарогу. Тамкоў яшчэ раз удакладніў, дзе знаходзіцца нямецкі склад.

— Куды цяпер? — спытаў Славін.

— Давай склад паглядзім. Гэта недалёка, кіламетры два.

Прытрымліваючыся ўзлеску, яны неўзабаве выйшлі да шашы, на якой іх група павінна была «навесці парадак». Тут павярнулі налева. Кіламетры праз два лес скончыўся. Тамкоў дастаў бінокль, пачаў уважліва разглядаць вёску. Нарэшце ён убачыў тое, што шукаў.

— Вось ён, склад! Плот драўляны — гэта добра, — казаў Андрэй Лявонцьевіч. — Аховы не бачу… хоць, пастой, вунь салдат вылез, з вінтоўкай — факт, вартавы.

Неўзабаве Тамкоў заўважыў яшчэ аднаго фашыста:

— Атрымліваецца — склад ахоўваюць двое.

— Уначы можа быць і больш, — услых падумаў Славін.

— Магчыма і так. Што ж, давядзецца групай навальвацца.

— Антон Лявонцьевіч, але ж нам трэба не толькі склад знішчыць. Добра б перад гэтым назапасіцца фуражом.

— А хто кажа, што не?

— А як жа мы авёс павязём? На гарбу шмат не панясеш.

— Таксама правільна, — Тамкоў хітра ўсміхнуўся. — А ты не падумаў, чаму я наконт старасты пацікавіўся? Мы проста забяром падводу і на ёй прывязём корм. А калі снег ляжа, то і сена навозім.

Яны схаваліся ў хмызняку і хутка пайшлі да старожкі...

А на часовай стаянцы кіпела праца. Вокны ў хатцы партызаны заклалі дошкамі, якія знайшлі тут жа, на гарышчы, усе шчыліны запаклявалі мохам, знайшліся кімсьці раней сарваная з завес дзверы. Дзіркі ў даху былі старанна залатаны.

Грыбаў, які хадзіў з Рогавым адшукваць сена, дакладваў:

— Андрэй Лявонцьевіч! Поўны парадак. Знайшлі цэлы стог. Шкада толькі, што перавезці няма на чым.

— Добра, што знайшлі, — усміхнуўся Тамкоў. — За транспартам справа не стане. Так што можаш не хваляваацца.

Неўзабаве ўся група, усеўшыся ў кружок, пачала абедаць. Потым трэба было накарміць коней, і толькі пасля гэтага Тамкоў сказаў пра галоўнае.

— Сёння ўначы, — гаварыў ён, — трэба наведаць старасту, узяць у яго падводу і каня, адразу ж здзейсніць налёт на склад з фуражом і зернем, а да раніцы быць на месцы.

— Андрэй Лявонцьевіч! А можа, заадно і на дарозе папрацаваць трэба? — прапанаваў Крайнюк.

Тамкоў на секунду задумаўся:

— А што? Гэта, мабыць, ідэя. Ты і Грыбаў вазьміце па міне. Паспрабуем адзначыць наша з'яўленне ў гэтых краях…

Яшчэ не сцямнела, а партызаны на конях адправіліся на заданне. Пад'язджаючы да вёскі, Тамкоў паклікаў Славіна, ціха загадаў:

— Валодзя, пакінь каня і прабярыся да хаты, дзе жывуць нашы знаёмыя. Высветлі абстаноўку.

Славін полем падышоў да плота і, перамахнуўшы праз яго, заскочыў у сад. Пракраўся да хаты, намацаў дзверы, пастукаў. Пачакаў трохі і зноў пастукаў. Нарэшце за дзвярамі пачуліся крокі і голас старога:

— Хто там?

— Дзядуля, адкрыйце. Сёння мы ў лесе сустракаліся.

Рыпнула клямка, дзверы адкрыліся. На парозе ў адной ніжняй бялізне стаяў стары.

— Дзядуля, як у вёсцы? Ціха? Немцаў няма?

— Няма, сынок, няма. Ды што ты стаіш? Праходзь.

— Дзякуй. Мне некалі. Чакаюць. Да спаткання! — і ён знік у ночы.

Уладзімір хутка падбег да Тамкова і, перавёўшы дыханне, далажыў:

— Асцерагацца няма чаго. Можна ехаць далей.

Неўзабаве партызаны спешыліся ля хаты старасты. Сяргей Панчанкаў застаўся з конямі. Рогаў заняў пазіцыю ля веснічак. Антошын падышоў да вокнаў з боку агароду. Астатнія стаялі ля ганка.

Тамкоў рэзка пастукаў у дзверы. Праз хвіліну пачулася, як рыпнулі дзверы. Хтосьці выйшаў у сенцы і там сцішыўся. Тамкоў яшчэ раз моцна стукнуў кулаком.

— Хто стукае?

— Пан староста! Адкрыйце. Гэта я — старшы паліцэйскі Тамкоў.

— Які яшчэ Тамкоў? — незадаволена прабурчаў староста і пачаў адсоўваць завалу. Як толькі дзверы прыадчыніліся, партызаны кінуліся ў сенцы. Грыбаў схапіў старасту за каўнер.

Староста анямеў ад страху. Ён не сумняваўся, што да яго ўварваліся паліцаі:

— Што вы, хлопцы! Я ж свой. Я і ёсць староста. Хадзем у хату — дакумент пакажу.

Увайшлі ў хату. Іх сустрэла спехам апранутая перапуджаная жанчына. На печы ляжалі двое дзяцей. Яны таксама не спалі і, атуліўшыся даматканай коўдрай, з трывогай глядзелі на тое, што адбывалася.

Староста пакорпаўся ў драўлянай скрыні, працягнуў нейкую паперу:

— Вось, глядзіце! Тут і па-нямецку, і па-руску напісана.

Тамкоў хацеў парваць даведку, але перадумаў, склаў яе ў чатыры столкі і сунуў у кішэнь:

— Гэты дакумент мы зберажом для гісторыі, а дакладней, для суда, калі

цябе, гада печанага, як здрадніка Радзімы караць будуць па ўсёй строгасці нашых законаў.

Гаспадар яшчэ больш разгубіўся. Нарэшце ён зразумеў, што ў хату прыйшлі партызаны. Жонка заплакала. Тамкоў сеў на крэсла, спакойна працягваў:

— Цябе, як апошняга нягодніка, трэба расстраляць. Скажу па праўдзе, калі ішлі сюды, так і думалі зрабіць. Ды вось дзетак шкада. Таму на першы раз папярэджваем: калі хоць адзін чалавек у вёсцы будзе пакараны за тое, што хто-небудзь з яго сваякоў у Чырвонай Арміі, — гаворка будзе кароткай. Зразумеў?

Стараста згодліва кіўнуў галавой:

— Так-так, зразумеў. Нікога не крану. Клянуся!

— Ты, прыхвасцень фашысцкі, не толькі нікога не кранеш з савецкіх людзей, — умяшаўся Грыбаў, — але нават і не пікнеш, што мы тут былі. Інакш з-пад зямлі дастанем.

Перапуджаны стараста кляўся, што будзе сябе весці лаяльна.

Славіну ўспомнілася нядаўняя гутарка ў лесе са старым і дзяўчынай.

— І не забудзься каня вярнуць людзям, якога як выкуп забраў, — папярэдзіў Уладзімір, падышоўшы ўшчыльную да старасты.

— Добра, добра. Сам адвяду.

— Апранайся, пойдзем у двор! — загадаў Тамкоў.

Жонка старасты павалілася на калені:

— Мілыя, родненькія! Не забівайце яго!..

— Устаньце! Ніхто яго забіваць не будзе. Але вы самі чулі: калі яшчэ асмеліцца шкодзіць людзям, то як шалёнага сабаку прыстрэлім.

Яны выйшлі ў двор, прымусілі старасту запрэгчы ў падводу каня і неўзабаве з’ехалі.

Калі да склада заставалася прайсці зусім трохі, Тамкоў даў каманду спешыцца. Ахоўваць воз і коней было даручана Рогаву і Бартошыку. Усе астатнія байцы асцярожна рушылі далей. Вось паказаліся ўжо абрысы склада. Тамкоў падняў руку. Група спынілася. Камандзір падрабязна, ва ўсіх дэталях растлумачыў, што павінен рабіць кожны ў момант налёту на аб’ект. Царыку і Панчанкаву, Антошыну і Грыбаву трэба было бясшумна прыбраць вартавых. Сам Тамкоў, Крайнюк і Славін, у выпадку неабходнасці, павінны былі прыкрыць сваіх таварышаў агнём з аўтаматаў.

Пасля гэтага байцы пайшлі наперад, непрыкметна для варожых вартавых занялі зыходныя пазіцыі.

Разбіўшыся парамі, чацвёра партызан папаўзлі да вартавых. Відавочна, немцы былі ўпэўнены, што ім нішто не пагражае, па іх звестках, партызанскіх атрадаў у акрузе не было. Адзін з іх, нібы жадаючы дапамагчы Царыку і Панчанкаву, падышоў да партызан амаль ушчыльную і павярнуўся спінай. Момант сапраўды быў удалым, другі немец тым часам знаходзіўся на іншым боку склада.

Панчанкаў першым кінуўся на гітлераўца. Закрыўшы яму анучай рот, ён нанёс дакладны ўдар кінжалам.

Падбегшы, Царык падхапіў вартавога і паклаў яго на зямлю. Складаней давялося Антошыну і Грыбаву. Яны пахваляваліся, перш чым удалося падабрацца да другога вартавога. Але і ў іх усё абышлося добра…

Цяпер патрабавалася як мага хутчэй завяршыць аперацыю. Тамкоў загадаў Славіну бегчы па коней і падводу.

Уладзімір кінуўся да месца, дзе стаіліся Рогаў і Бартошык. Тыя толькі чакалі сігналу. Рогаў ірвануўся на падводзе да склада. Славін і Бартошык

ускочылі на сваіх коней і панесліся за ім. Верхавых коней іншых партызан пагналі побач з сабой.

Перад расчыненымі насцеж дзвярамі склада ўжо стаяла некалькі мяшкоў з аўсом. Імгненна пад'ехала падвода. Партызаны ўскінулі на яе трафейны фураж, а заадно паклалі зброю вартавых.

Пакінуўшы пры сабе Славіна і Панчанкава, Тамкоў закамандаваў астатнім байцам неадкладна сыходзіць у лес.

— Майце на ўвазе, — папярэдзіў ён, — роўна праз гадзіну мы падпальваем склад. Калі ж вартавая змена з'явіцца раней, значыць, і пеўня пусцім таксама раней. Таму паспрабуйце ад'ехаць далей.

Рогаў крануў за лейцы. Гружаная падвода хутка пакацiла да расчыненых варот. За ёй паскакалі вершнікі.

Славін і Панчанкаў насілі з двара сена, раскладвалі яго ўздоўж сцен склада, бярэмямі раскідвалі па-над складзенымі мяшкамі.

Тамкоў пазіраў на гадзіннік. Як павольна рухалася мінутная стрэлка! З унутранай кішэні ватоўкі ён дастаў два карабкі запалак, адзін падаў Славіну, другі — Панчанкаву:

— Падпальваць толькі па маёй камандзе. Калі немцы падыдуць раней, то я адкрыю агонь. Гэта таксама будзе сігнал.

Славін і Панчанкаў увайшлі ў склад, вобмацкам прабраліся ў самы канец праходу, да задняй сцяны, і заселі поруч яе ў процілеглых вуглах. Яны вырашылі, што адгэтуль пачнуць падпальваць сена, прасоўваючыся да выйсця.

Тамкоў штохвілінна паглядаў на гадзіннік. Яму здавалася, што спыніўся час, жыццё вакол замерла. «Як там хлопцы? Ці далёка адышлі яны ад вёскі?» — турбаваўся ён, напружана ўзіраючыся ў цемру. Але змена вартавых усё яшчэ не прыходзіла. Ён хацеў ужо ісці ў склад, каб праверыць, ці ўсё гатова ў Славіна і Панчанкава, як раптам пачуў рэзкія галасы. Ішлі немцы. Яны набліжаліся да варот, пра штосьці гучна спрачаліся.

Андрэй Лявонцьевіч слізгануў за тоўсты слуп, паціху адцягнуў затвор аўтамата на ўзвод. «Трэба падпусціць бліжэй, — падумаў ён, — і шаснуць дакладна». Трое фашыстаў з'явіліся перад ім быццам прывіды. Не даходзячы да варот метраў дзесяць—пятнаццаць, яны раптам спыніліся, мабыць, адчулі, што нешта не так.

— Ганс! Курт!? — трывожна крыкнуў адзін з іх, уважліва гледзячы ў бок склада.

«Вартавых кліча», — здагадаўся Тамкоў і, імкліва ступіўшы з-за слупа, націснуў на спускавы курок. Доўгая аўтаматная чарга распарола цішыню. Усе тры немцы як снапы зваліліся на зямлю. Пераканаўшыся, што яны забіты, Тамкоў сабраў іх вінтоўкі і кінуўся да склада. У глыбіні памяшкання ўжо скакалі язычкі полымя. Андрэй Лявонцьевіч крыкнуў:

— Коней выводжу да варот. Скончыце падпальваць — хутчэй да мяне!

Праз некалькі мінут партызаны на конях галопам панесліся даганяць сваіх таварышаў. Ззаду разгараўся пажар. Бушуючае полымя ўжо вырвалася на саламяны дах. У вёсцы пачуліся стрэлы, шум матора.

Тым часам асноўная група байцоў толькі-толькі пад'язджала да лесу. Крайнюк скакаў на кані за падводай і замыкаў рух. Прытрымаўшы каня, ён азірнуўся назад, туды, дзе засталася вёска, і ўсё зразумеў.

— Братцы, глядзіце! Гарыць! Хлопцы папрацавалі на славу. Цяпер трэба ўцякаць яшчэ хутчэй. Па-га-няй!

Партызаны заўважылі, што на ўскраіне вёскі засвяціліся фары аўтамабіля. Аднак было зразумела, што немцы ў першую чаргу кінуцца да склада, які палае, а ўжо потым наладзяць пагоню.

Як толькі заехалі ў лес, групу дагналі Тамкоў і яго памочнікі. Андрэй Лявонцьевіч загадаў спыніцца, паклікаў Славіна:

— Валодзя, міну!

Пакуль Славін выконваў распараджэнне старшага, іншыя партызаны prакапалі ўпоперак дарогі неглыбокую траншэйку. У самую яе сярэдзіну змясцілі міну, а зверху паклалі доўгую жэрдку, якая заняла ўсю шырыню праезнай часткі прасёлка. Байцы хутка засыпалі «сюрпрыз», старанна замаскіравалі ўскапанае месца.

Партызаны зноў ускочылі на коней і адправіліся далей. Тамкоў зірнуў на гадзіннік. Пасля ад'езду асноўнай групы ад склада прайшло роўна дзве гадзіны. Трохі падумаўшы, ён распарадзіўся, каб Славін, Крайнюк і Панчанкаў засталіся на месцы, пры ім, а ўсім астатнім загадаў кіравацца да старожкі.

— Хлопцы! Я вось думаю: а раптам міна не падарвецца! Значыць, ад пагоні не адарвацца. Таму трэба падстрахавацца. Зробім так: вы, — Славін і Крайнюк, — направа, у лес, а я і Панчанкаў — налева. Адкрыем агонь па галаўной машыне. Неабходна вывесці са строю, знішчыць пабольш жывой сілы. У доўгую перастрэлку не ўвязвацца. Наносім удар і тут жа — дай бог ногі. Сустрэнемся на базе, — Андрэй Лявонцьевіч працягнуў Славіну гранату, — трымай! Ты маладзец. Паспрабуй шпурнуць пад перадок.

Але гэтыя падрыхтоўкі аказаліся лішнімі. Неўзабаве далёка ззаду грукнуў выбух, пачулася бязладная стральба.

— Дзеўбанула! — радасна ўсклікнуў Андрэй Лявонцьевіч. — Уначы далей не сунуцца.

Так яно і атрымалася. Да раніцы ўсе партызаны сабраліся на сваёй часовай базе.

Неўзабаве ўсе ў акрузе ведалі, што ў гэтых месцах з'явіліся партызаны.

У групу Тамкова сталі прыходзіць мясцовыя жыхары, байцы і камандзіры, якія ўцяклі з палону. Па сутнасці яна ператварылася ў самастойны атрад. Партызаны дзейнічалі актыўна і ўжо не раз наводзілі паніку сярод акупантаў. Тамкоў быў задаволены. Праўда, у апошні час Андрэя Лявонцьевіча турбавала тое, што ніводная з пяці мін, закладзеных на дарозе, не падарвалася. Горш таго, ніводнай з іх не аказалася на месцы. Немцы адшукалі іх і абясшкодзілі. Аб усім гэтым Андрэй Лявонцьевіч даведаўся з данясення разведчыкў.

«Што такое? — думаў камандзір. — Наўрад ці гэта выпадковасць. А можа, немцы свайго агента ў атрад падаслалі? Магчыма, і так. Тады, напрошваецца пытанне, як яго выявіць?»

Тамкоў вырашыў даць людзям адпачыць адну ноч, а ў наступную зноў мініраваць дарогу.

Дзверы з рыпаннем адчыніліся, і ў зямлянку ўвайшоў Славін.

— Клікалі, Андрэй Лявонцьевіч?

— Так, Валодзя, клікаў. Садзіся, гутарка ёсць.

Славін падышоў да груба збітай лаўкі і сеў.

Тамкоў доўга вагаўся, перш чым даручыць маладому партызану такое адказнае даручэнне. Вядома, у падначаленні Андрэя Лявонцьевіча людзей было дастаткова. Можна была даручыць гэтую справу чалавеку больш вопытнаму. Але Славін падабаўся камандзіру сваёй назіральнасцю, настойлівасцю, кемлівасцю. А тое, што ён малады, разважаў Тамкоў, дык у гэтым трэба бачыць не загану, а, наадварот, — перавагу. Хто падумае, што гэты бязвусы юнак атрымаў сур'ёзнае заданне?

Тамкоў прысеў побач са Славіным:

— Разумееш, Валодзя, бянтэжыць мяне адна штуковіна. Ці невыпадкова налаўчыліся немцы нашы «сюрпрызы» абясшкоджваць. Для таго, каб прамацаць дарогу, раней трэба было пяць-шэсць гадзін, сёння — толькі развіднела і амаль адразу пайшлі нямецкія калоны. Вось я і падумаў, а ці не даведваюцца немцы загадзя, якія месцы мы замініравалі?

— Вы хочаце сказаць, што ў атрадзе з'явіўся здраднік? — здагадаўся Славін.

— Баюся, што так. Таму табе трэба прыгледзецца да тых, хто прыйшоў да нас у апошні час. Неабходна паспрабаваць высветліць, ці не сыходзіў хто-небудзь з байцоў пасля мініравання дахаты, у вёску.

— У маёй групе ніхто не адпрошваўся. Я пагавару з Панчанкавым, Рогавым і Крайнюком, хто ў іх сыходзіў, спытаю.

— Я і сам хацеў іх запрасіць. Але раз ты хочаш заняцца гэтым, то давай, дзейнічай.

Яны схіліліся над картай. Атрымлівалася, што на ўчастку ў дзесяць кіламетраў фашысты на працягу гадзіны паспелі выявіць партызанскія міны і абясшкодзіць іх.

— Андрэй Лявонцьевіч! — бліснуў чорнымі вачамі Славін. — А што, калі нам звузіць круг людзей, сярод якіх можа быць здраднік?

— Як ты хочаш гэта зрабіць?

— Глядзіце! Немцы знялі першыя дзве нашы міны калі? Два тыдні назад. Пасля гэтага і пачаліся нашы няўдачы. Значыць, трэба шукаць шпіка сярод тых, хто прыйшоў да нас незадоўга да гэтага.

— Так, мабыць, твая праўда? — задуменна прагаварыў Тамкоў. — І яшчэ, заўваж, калі на заданне хадзіла адна група, тое ўсё было ў парадку. Значыць, здраднік не трапляў у склад дыверсійнай групы, не быў на інструктажы і не ведаў, на якім участку дарогі будуць закладзены міны.

— Андрэй Лявонцьевіч! Можа, варта ўвесь наш атрад падзяліць на некалькі груп, правесці з кожнай інструктаж асобна і шукаць здрадніка ў той групе, якая не выканае заданне?

— Гэта, вядома, зрабіць можна. Аднак не забывай, што вораг таксама не дурань. Ён можа адчуць небяспеку, стаіцца. Так што пакуль ты асцярожна пачынай работу сярод байцоў.

Славін пайшоў, а Тамкоў выклікаў Антошына і ўручыў невялікі пакет:

— Бяры каня і ўначы адпраўляйся ў атрад. Пошту перадасі асабіста камандзіру.

Антошын тут жа пайшоў рыхтавацца ў далёкі шлях, а Тамкоў зноў засяродзіўся над картай. «Хаваць ад камандавання гэтыя факты нельга, хай пачытаюць», — падумаў ён пра пакет і пачаў адзначаць месцы на дарозе для закладкі новых зарадаў…

Пасля гутаркі з Андрэем Лявонцьевічам Славіну давялося нямала падумаць. Ён непрыкметна праверыў усіх людзей, якія прыйшлі ў атрад да таго моманту, калі немцы ўпершыню знялі міну. Сярод іх аказалася ўсяго чатыры мясцовыя жыхары. Такім чынам, толькі яны і маглі адлучыцца ў свае вёскі. З выхадам на гэту чацвёрку клубок пачаў размотвацца хутчэй. Неўзабаве высветлілася, што двое з чатырох навічкоў, патрапіўшых пад падазрэнне, ніяк не маглі быць датычнымі да здрады. Яны знаходзіліся ў групе Крайнюка. Усе дыверсійныя аперацыі, у якіх яны ўдзельнічалі, прайшлі паспяхова, без якіх-небудзь зрываў. Заставаліся двое: Дубасін, які да вайны быў калгасным бухгалтарам, і Сухота, які таксама да вайны працаваў у калгасе. У першага ў вёсцы жылі жонка і двое дзяцей. У другога — толькі жонка.

Сяргею Панчанкаву Дубасін не падабаўся, і калі Славін падзяліўся з сябрам сваімі меркаваннямі, той упэўнена сказаў: «Калі ёсць шпік у атрадзе, то гэта, па-за ўсякім сумненнем, Дубасін! Ты паглядзі, як ён сябе беражэ, заўсёды ўбаку, асабняком трымаецца».

Славін вырашыў параіцца з Тамковым. Толькі ён падышоў да яго зямлянкі, як пачуў ціхае ржанне. Азірнуўся і ўбачыў, што конна пад'язджае Антошын, а за ім на пышным белым жарабцу — Лапко, былы камандзір атрада. Яны прывязалі коней да дрэва і падышлі да Славіна. Лапко паціснуў Уладзіміру руку:

— Як справы, баец?

— Ідуць… А зараз, калі вы вярнуліся да нас, пойдуць яшчэ весялей.

Увайшлі ў зямлянку. Тамкоў абняў сябра.

— З вяртаннем!

— Не, Андрэй, я ненадоўга. Май на ўвазе: я цяпер — шышка, начальнік штаба брыгады, а прыехаў сюды, устрывожаны тваім лістом. — Лапко зірнуў на Славіна і Антошына: — Што, хлопцы, стаіце? Ідзіце, займайцеся сваімі справамі, а мы з камандзірам пагаворым.

Байцы выйшлі з зямлянкі. Але Тамкоў паклікаў Славіна назад.

— Ён — удзельнік гэтай аперацыі. Ад яго нічога не хаваю, — патлумачыў Андрэй Лявонцьевіч.

— Ну што, давайце пагаворым утрох. Дарэчы, вас хутка назад у брыгаду адклічам. Сюды камандаванне накіроўвае вялікі атрад, які будзе дзейнічаць у гэтых краях да прыходу Чырвонай Арміі. І калі ў вас сапраўды здраднік завёўся, то самі разумееце, пад якую пагрозу ўся брыгада пастаўлена, дый над вашым атрадам навісла сур'ёзная небяспека. Пасты выстаўляеце?

— Вядома. І на далёкіх, і на блізкіх подступах.

— Што распачалі, каб праверыць новае папаўненне атрада?

Тамкоў падрабязна расказаў пра становішча ў атрадзе, а Славін паведаміў пра свае падазрэнні. Лапко ўважліва слухаў, зрэдку пазіраў на карту на стале, потым задуменна пацёр падбародак:

— Так, штосьці трэба прыдумаць.

— А што тут думаць! — Славін устаў са свайго месца. — Давайце накіруем групу на новае заданне, уключым у яе Дубасіна і Сухоту, а потым паглядзім, ці знімуць немцы нашы міны.

Лапко і Тамкоў пераглянуліся. Славін зразумеў, што яго прапанова супадае з меркаваннем начальства.

— Добра! — пляснуў рукой па стале Лапко. — Будзем рыхтаваць аперацыю.

На наступны дзень Тамкоў сабраў у зямлянцы дванаццаць байцоў, сярод якіх былі і падазраваемыя, і пачаў гаворку:

— Таварышы! Прадстаўляю вам таварыша Лапко, начальніка штаба нашай брыгады. Ён прыбыў, каб разам з вамі ўдзельнічаць у вельмі важнай аперацыі.

Падняўся Лапко:

— Камандаванне брыгады вырашыла правесці ў гэтым раёне аперацыю супраць трох фашысцкіх гарнізонаў. Вам загадана ўзмацніць дыверсійную дзейнасць на дарозе. Што для гэтага трэба? — начальнік штаба абвёў позіркам прысутных. — Немцы прывыклі да таго, што дарога мініруецца толькі там, дзе яна праходзіць праз лес. Трэба меркаваць, гэта заўважылі і вы. Дык вось, на гэты раз будзем мініраваць яе проста ў полі, у гэтым месцы, — Лапко ткнуў пальцам у карту. — Тут, як бачыце, дарога ідзе прама, па самым высокім насыпе, а машыны прабягаюць на вялікіх хуткасцях. Міны паставім у чаты-

рох месцах. Адлегласць паміж імі прыкладна па дваццаць метраў. Падрываць будзем з дапамогай магнета, я прывёз іх разам з мінамі. Вас дванаццаць чалавек — па тры чалавекі на адно мініраванне. Ваша задача — дзейнічаць толькі тады, калі з'явіцца аўтакалона. Прычым выбухі трэба праводзіць у такім парадку: першы — у хвасце калоны, а апошні — у галаве. Неабходна, каб усе міны спрацавалі падчас руху машын. Мы разлічваем, што пасля дыверсіі частка аховы з вялікага моста будзе кінута да месца здарэння. Гэтым скарыстаецца група, якую ўзначальваю я. Мы атакуем пакінутых ля моста гітлераўцаў, знішчым мост, што дазволіць надоўга спыніць рух тэхнікі. Завяршыўшы аперацыю, усё сыдзем з гэтай базы да месца новай дыслакацыі атрада.

Затым Лапко стаў інструктаваць падрабязна кожную тройку. Славін быў прызначаны старшым групы, куды ўвайшоў і Сухота. Кіраўніцтва групай, дзе знаходзіўся Дубасін, даручалася Панчанкаву. Антошын і Бартошык узначальвалі дзве астатнія групы.

Байцы разышліся. Лапко і Тамкоў пакінулі толькі камандзіраў груп. Лапко пачакаў, пакуль Андрэй Лявонцьевіч шчыльна прычыніць дзверы, вярнуўся да стала і сказаў:

— Браткі, пра тое, што вы цяпер пачуеце, нікому ні словы. Чуеце? — нікому. Я прывёз міны з «сюрпрызам». Калі немцы пачнуць іх здымаць, яны будуць узрывацца. Таму закладваць будзеце вы самі і нікому іх не паказвайце.

Тамкоў паклаў на стол адну міну, а Лапко падрабязна расказаў, як трэба яе ўстанаўліваць.

— Зразумела? — спытаў начальнік штаба, адсунуўшы ў бок выбуховую прыладу.

Усе ў знак згоды заківалі галовамі.

— Тады разыходзьцеся. Славін і Панчанкаў, застаньцеся на пару мінут.

Антошын і Бартошык выйшлі. Лапко прысеў на лаўку:

— Вам, хлопцы, асобае заданне: з гэтай хвіліны ты, Панчанкаў, вока не спускай з Дубасіна, а ты, Славін, — з Сухоты. Хтосьці з іх адпросіцца перад аперацыяй схадзіць дахаты. Вы павінны асцярожна ісці за імі і высветліць, дзе яны пабываюць, з кім сустрэнуцца.

Уладзімір і Сяргей выйшлі.

Лапко падняўся з лаўкі, падышоў да стала:

— Ну, а зараз давай і мы з табой абмазгуем нашы дзеянні. Табе трэба паслаць групу з трох-чатырох чалавек да моста, пра які мы казалі байцам. Хай пасля выбуху абстраляюць ахову, але ў бой не ўступаюць. Я са сваімі хлопцамі прыкрыю нашых мінёраў. А ты збірай усіх пакінутых людзей, іх набярэцца, па-мойму, чалавек сорак.

— Сорак шэсць, — удакладніў Тамкоў.

— Яшчэ лепш. І рухайся вось да гэтага моста, — Лапко паказаў указальным пальцам умоўны знак на карце. — Да яго пятнаццаць кіламетраў. Трэба што б там ні стала яго падарваць. Берагі там высокія, і работа па аднаўленні зацягнецца надоўга.

— Ясна. Скажы, дзе мы сустрэнемся?

— Сюды вяртацца нельга. Калі немцы падаслалі інфарматара, то ён, па ўсёй верагоднасці, паспеў паведаміць ужо і пра месца знаходжання базы. Немцы, даведаўшыся, што пасля аперацыі мы збіраемся пакінуць гэтыя месцы, вядома, кінуць сюды свае сілы.

— Добра, я яшчэ паспею папярэдзіць людзей.

Лапко, ухваляльна кіўнуўшы галавой, спытаў:

— Цікава, спрацуе наша пастка?

— Патрывай, хутка даведаемся…

Ноч выдалася на рэдкасць непагодлівай. Па верхавінах дрэў гуляў вецер, лютавала завея. Снег сляпіў вочы. Славін ледзь адрозніваў постаць чалавека, які ішоў наперадзе. Хоць і непрыемнае такое надвор'е, але яно спрыяла Славіну. Сухота не бачыў Уладзіміра, не чуў яго крокаў. Яшчэ вечарам ён адпрасіўся ў Тамкова наведаць жонку, развітацца з ёй. Прычына выглядала вельмі ўважлівай. Бо атрад чакаў няблізкі, знясільваючы шлях, і паспрабуй здагадайся, калі з'явіцца магчымасць пабываць дома.

І цяпер, уцягнуўшы галаву ў велізарны каўнер паўкажушка, па калені правальваючыся ў снег, Сухота ледзьве выбіраўся з лесу. Адчувалася, што ён добра ведаў гэтыя мясціны, таму і ішоў па прамой.

Славін быў у ватовых штанах і ватоўцы. Але і такая адзежа не ратавала ад пранізлівага ветру.

Праз некаторы час Сухота выйшаў на дарогу, хвіліну-другую пастаяў, адсопся і адважна рушыў далей. Уладзімір, трохі пачакаўшы, пайшоў за ім. Ісці стала значна лягчэй. Хоць на дарозе вецер намёў гурбы, але пад нагамі адчувалася цвёрдая зямля. Уладзімір ведаў, што да вёскі, дзе жыў Сухота, яшчэ далекавата. Праяўляючы асцярожнасць, ён адпусціў свайго падапечнага наперад і ішоў па яго напаўзасыпаных слядах.

Ішлі доўга, перш чым апынуліся ля павароту, што вёў у вёску. Аднак Сухота не стаў зварочваць з гасцінца і пайшоў прама. У Славіна мацней забілася сэрца: «Чаму не звярнуў? Куды яго панесла?»

Уладзімір ведаў, што наперадзе, кіламетрах у чатырох, ёсць адна вялікая вёска, дзе размясціўся нямецкі гарнізон. «Ці не туды накіроўваецца ён? — падумаў хлопец. — Калі туды, то кулю ў патыліцу і — у лес».

Чым бліжэй яны падыходзілі да вёскі, тым відавочней станавілася, што Сухота ідзе да немцаў. Славін паспеў ужо абдумаць становішча, якое склалася. Ён вырашыў, што будзе лепш, калі Сухота вернецца ў атрад, дзе яго можна дапытаць, а потым усім атрадам судзіць як здрадніка.

Неўзабаве паказалася вёска, і Уладзімір паскорыў крок. Наперадзе зноў намалявалася постаць Сухоты. Славін на хаду дастаў з-пад ватоўкі белы маскіровачны халат, які ўвечары даў яму Тамкоў, нацягнуў на сябе. Зрабіў ён гэта своечасова, бо неўзабаве нечакана пачуўся рэзкі вокрык:

— Хальт! Хенде хох!

Славін зваліўся ў снег і замёр. У гэты момант ён пачуў голас Сухоты:

— Я свой. Я ёсць рускі паліцай. Я — Цёмны. Патрэбен пан обер-лейтэнант Хенікер.

Уладзімір заўважыў, як да Сухоты наблізіліся дзве постаці. Відавочна, абшуквалі. Потым пачулася каманда:

— Форбай. Шнель!

«Ясна! Павялі да Хенікера, — зразумеў Славін. — Нічога, падлюга, ідзі, ідзі. Я цябе тут пачакаю!» Ён адпоўз трохі назад, падняўся, ступіў направа і праваліўся па пояс у гурбу.

Валодзя дабраўся да першага куста, схаваўся за ім. Дарога праходзіла побач, усяго ў некалькіх метрах. Такім чынам, вяртацца назад Сухота будзе тут.

Настрой у маладога партызана падняўся. Яго здагадка аказалася дакладнай. Зараз заставалася дачакацца здрадніка і паглядзець, што той будзе рабіць далей. Доўга затрымлівацца ў немцаў ён не стане: да раніцы трэба вярнуцца ў атрад, а ісці далёка.

Прайшло мінут дваццаць. Славін адчуў, што пачынае замярзаць. Снег паваліў яшчэ гусцейшы, і дарога праглядалася дрэнна, хлопцу даводзілася

напружваць зрок да болю ў вачах. Але вось праслізнуў Сухота. Славін прыстроіўся ззаду. Ён думаў, што паліцай па дарозе заверне ў сваю вёску, але гэтага не здарылася.

До світання было яшчэ далёка, калі Сухота падышоў да партызанскай базы. Услед за ім прыбыў і Славін. Але тут усю справу ледзь не сапсаваў начны дазор. Два байцы ў белых маскіровачных халатах, відавочна, не заўважыўшы Сухоты, прапусцілі яго да стаянкі атрада, а перад Славіным выраслі як прывіды.

— Стой! Страляць будзем! — грозна, амаль у адзін голас скамандавалі яны. З цемры адразу ж пачуўся голас Сухоты, які падумаў, што звяртаюцца да яго:

— Я свой. Баец Сухота!

Прыйшлося сябе назваць і Славіну. Адзін з дазорцаў кінуўся на голас Сухоты і прывёў паліцая. Такім чынам здраднік і партызан апынуліся побач пад рулямі аўтаматаў. Сухота пазнаў Славіна, здзіўлена спытаў:

— А ты чаго тут?

— Тамкоў загадаў пасты праверыць, цэлую гадзіну вось гэтых шукаю, — і з напускной злосцю накінуўся на сакрэт: — Вам што — вочы снегам заляпіла ці пасля сну працерці не можаце? Далажу камандзіру, што спіце на пасту. Соладка не будзе.

Нарэшце дазорцы пазналі сваіх і прапусцілі.

У размяшчэнне атрада Славін і Сухота прыйшлі разам. Ці то ад холаду, ці то ад таго, што пачала спадаць нервовая напруга, Уладзіміра працялі моцныя дрыжыкі. Толькі зараз ён зразумеў, як прастыў. Ён не адчуваў ні рук, ні ног, цела стала нейкім чужым, непаслухмяным.

Сухота накіраваўся да хлява, у адной палове якога знаходзіліся коні, а ў другой — абсталявана жыллё. Тут гарэлі чатыры «буржуйкі» і было даволі цёпла. Заваліўся на вялікае бярэмя сена і амаль адразу ж заснуў. А Славін тым часам сядзеў ля распаленай печкі ў штабной зямлянцы, расціраў рукі, імкнучыся трымаць босыя ногі бліжэй да агню, і дакладваў Тамкову і Лапко пра тое, што ўбачыў.

— Так-так! — працягнуў напаўголасу начальнік штаба брыгады. — Цікава, як там Панчанкаў? Куды прывядзе яго Дубасін?

— Пачакаем да раніцы, і ўсё будзе зразумела, — адказаў Тамкоў, працягваючы Уладзіміру алюмініевую конаўку: — На, сябрук. Выпі. Толькі не дыхай, калі глынеш. Гэта — спірт.

— Я не п’ю, — збянтэжыўся хлопец.

— І правільна робіш! Але цяпер трэба. Каб не захварэць.

— Пачакай, вадзіцы зачарпну, — сказаў Лапко і, узяўшы другую конаўку, пайшоў у кут пакоя, дзе стаяў бачок з вадой. — Трымай! Як глынеш, адразу ж запівай. — Лапко, які быў нашмат старэйшы за Славіна, з гаркатой падумаў: «Хлопца даводзіцца вучыць піць спірт!»

Уладзімір зрабіў вялікі глыток і ледзь не задыхнуўся, схапіўся за конаўку з вадой. Яго паклалі бліжэй да печкі, накрылі кажухом. Хлопец адразу ж заснуў.

А раніцай адбыўся суд.

Сухота здзівіўся, калі ўбачыў у штабной зямлянцы гэтулькі народа. Акрамя Тамкова і Лапко тут сабраліся ўсе камандзіры груп.

— Таварыш камандзір! Выклікалі? — спытаў ён, гледзячы на Тамкова.

— Так, выклікаў, і пытанне адно: колькі ж сярэбранікаў заплацілі табе фашысты за здраду?

Альму з перавязанай лапай. Яна таксама маўчала, даверліва прыціскаючыся да гаспадара.

Маргун зачыніў дзверы пакоя на вісячы замок і пашыбаваў з двара. Больш яго ніхто не бачыў. А праз некаторы час прыйшлі з ЖЭСа, апячаталі дзверы, і кватэра доўгі час заставалася пустой.

А неўзабаве суседзі заўважылі, што знік і Фёдар. Пазней казалі, што нібыта ён пераехаў на другую кватэру, а нехта ўвогуле сцвярджаў, што яго звольнілі з пажаркі і ён з’ехаў з горада.

Так гэта было, ці не, але суседзі і зараз пра гэта расказваюць. Дом, праўда, паставілі на капітальны рамонт, некаторым падавалі новыя кватэры, нехта чакае сваёй чаргі ў часовым жыллі.

Але чамусьці ў суседзяў паявілася новая пагаворка:

— Не чапай ліха, а то будзе, як з Маргуновай Альмай.

## Зойка

Прыснілася вёска, куды мы, дзевяцікласнікі, ездзілі «на бульбу». Штовосень гарадскія школьнікі выпраўляліся на два тыдні капаць бульбу ў мясцовыя калгасы. Многім гэта падабалася: вучыцца не трэба, рассялялі па хатах, вольніца. Вечарам — танцы, бойкі з мясцовымі, гуляць можна да раніцы. Настаўнікі не надта сачылі за тым, як мы праводзілі вольны час, у іх былі свае клопаты.

Мы папрасіліся ў сваёй гаспадыні начаваць на сенавале. Быў канец верасня, днём яшчэ ладна прыпякала, але ночы былі халаднаватыя. Мы з Сяргеем з танцаў сыходзілі раней, біцца і піць таннае чарніла не хацелася. Толік жа, па мянушцы Сала, прыходзіў звычайна пад раніцу. Ён быў старэйшы на год, меў вагу пад сто кілаграмаў, займаўся вольнай барацьбой і ўжо меў стасункі са спелымі жанчынамі. Вось і тут, у калгасе, ён завёў нейкую паварыху і маляўніча апісваў нам іхнія гарачыя любошчы.

Слухаць пра гэта было і агідна, і цікава. «Пра гэта» не тое што гаварыць, але нават думаць было забаронена. Як казала наша хімічка Эміля Кузьмінічна — самая галоўная любоў — гэта любоў да Радзімы.

Я ж марыў пацалавацца з Зойкай Пятрушынай, якая прыехала да нас у сёмым класе аднекуль з Узбекістана. Заўсёды вясёлая, усмешлівая, яна ўжо выглядала дарослай дзяўчынай. Мы каталіся разам зімой на лыжах каля нашай хаты ў прыгарадным пасёлку, разам хадзілі ў бібліятэку...

Апошнім часам да яе стаў заляцацца Пецька Станкевіч — малы ростам, але нахабны, бо меў старэйшага брата Генку Пухіра, які нядаўна прыйшоў з калоніі.

Пецька вучыўся дрэнна, кніжак не чытаў, і я быў спакойны: не будзе ён Зойцы цікавы.

У той вечар мы леглі спаць рана. Натаміліся за дзень, ды і напярэдадні амаль усю ноч пасля танцаў рагаталі, расказвалі анекдоты, і заснулі пад самую раніцу.

Не было толькі Сяргея Лысёнка. Я пачаў ужо драмаць, як ён, падняўшыся па драбінах, тузануў мяне за плячо:

— Пойдзем, нешта пакажу, — па-змоўніцку ўсміхаючыся, прамовіў ён.

Я, хоць і без вялікай ахвоты, пасунуўся за ім.

Непадалёк ад нашай хаты, за зарослай хмызняком стромай, працякала рака.

— Глядзі, — гучным шэптам прамовіў Сяргей.

У хмызняках, у цемры, варушылася нешта белае.

— Зойка твая з Пецькам, — шаптаў на вуха Лысёнак.

Я паспеў угледзець голае Зойкіна плячо, пазнаў яе залівісты смех, але далей глядзець не хацелася. Адпіхнуўшы Сяргея, пашыбаваў з берага.

Амаль да раніцы я блукаў па зарослым калгасным садзе. Было прыкра і брыдка. Нешта ў душы абарвалася і смылела.

Назаўтра на бульбяным полі я падышоў да Пецькі і моцна штурхнуў яго ў грудзі.

— Ты што? — засіпеў ён. — Хочаш быць біты Пухіром?

Я паваліў яго на зямлю і доўга трымаў за рукі, пакуль ён круціўся як вужака, не здолеўшы вырвацца.

Папутку да горада давялося чакаць на дарозе доўга.

Дадому дабраўся амаль пад вечар.

— Адпусцілі раней, — буркнуў у адказ на запытальны мамін позірк.

У калгас я болей не паехаў, прыкінуўшыся хворым. Не паехаў і на наступны год. А Зойка пасля школы выйшла замуж за майго суседа Лёшку Скварцова, сына дырэктара нашай школы, з якім некалі пазнаёмілася на маім дні нараджэння.

## Чаканае спатканне

Мітаковіч чакаў прыезду ўнука. Вось ужо амаль месяц, як нявестка паехала з малым да бацькоў у вёску, і Мітаковіч засумаваў. Дзіўна, але нават з уласнымі дзецьмі, здаецца, такога адчування суму і чакання сустрэчы не было. Праўда была, відаць, у словах калегі, сказаных аднойчы за сяброўскім сталом: «Вось будзе ў цябе ўнук, спазнаеш, што такое шчасце!»

Унука Мітаковіч дачакаўся, калі ў аднагодкаў ужо некаторыя павырасталі, нават пазаканчвалі школы. Сын доўга не жаніўся, потым яны з нявесткай раздумвалі, чакалі, пакуль больш трывала ўладкуюцца ў жыцці, і вось з’явіўся ён, Сяргейка, блакітнавокі мацачок, які на вачах з маленькага цёплага камячка ператвараўся ў чалавечка, такога мілага і забаўнага.

— Дзядуля прыйшоў, — гаварыла нявестка, — сустракай дзядулю!

Малы з усмешкай тэпаў насустрач і чакаў, калі дзед возьме яго на рукі і звыкла прагаворыць: «Здароў, Сяргейка-салавейка!»

Мітаковіч яшчэ працаваў, хоць па гадах ужо можна было пайсці на пенсію. Невялікі завод, дзе ён дырэктарстваваў, быў, што гаворыцца на плаву, нягледзячы на ўсе крызісы і іншыя праблемы вакол. Рабочыя своечасова атрымлівалі неблагую зарплату, пры заводзе была свая прадуктовая крама і сталоўка, функцыянаваў загарадны прафілакторый, адным словам, усё было ў парадку і мяняць дырэктара ніхто не хацеў. Ды і сам Мітаковіч яшчэ адчуваў сілы, яшчэ ў галаве не прападалі задумы і праекты, яшчэ хацелася быць у гэтым штодзённым віры разнастайных падзей.

Адно толькі, што кола блізкіх сяброў звузілася, бо хто пайшоў у іншы свет, хто не вытрымаў выпрабавання вернасцю і прыстойнасцю, хто проста здрадзіў у клопаце пра ўласны дабрабыт.

Таму ў выхадныя на ягонай невялічкай дачы ўжо не накрываліся гасцінныя сталы, спыніліся сумесныя паездкі ў грыбы, нават у лазню цяпер Мітаковіч не хадзіў па суботах са звыклай кампаніяй, а прымаў гарачы душ у кватэры.

Адзінай радасцю і адхланнем стаў унук. Мітаковіч з самых першых яго месяцаў жыцця палюбіў гуляць з ім у блізкім лесапарку. Раней тут быў проста лес, але калі побач паўстаў сучасны мікраараён са шматпавярховымі дамамі і шырокімі вуліцамі, лес крыху цывілізавалі: парабілі дарожкі, дзіцячыя пля-

цоўкі з арэлямі і пясочніцамі. Па высокіх дрэвах бегалі вавёркі, нястомна недзе грукаў дзяцел, чароды птушак уздымаліся з пышных крон…

Спачатку хлапец проста засынаў у калясцы, але праходзіў час, і Мітаковіч ужо стаў вадзіць яго за руку, распавядаць яму пра ўсё, што яны бачаць вакол.

Яму цяжка было прыпомніць падобнае, калі сын быў малы, бо тады Мітаковічу проста было не да прагулак: розныя мерапрыемствы, вучоба ў аспірантуры, сябры — усё гэта займала ўсе вольныя ад працы хвіліны, пакідаючы толькі ўрыўкі, калі ён мог аддацца сямейным клопатам. Не сказаць, што ён не ўдзяляў сыну часу, але далёка не столькі, колькі мог дазволіць зараз.

І вось цяпер Мітаковіч чакаў унука. Сын з нявесткай абяцалі заехаць па дарозе да свайго новага гарадскога раёна, дзе яны нядаўна пабудавалі кватэру.

Жонка таксама завіхалася з раніцы на кухні, гатуючы розныя прысмакі, якія любяць дзеці. Яна ўжо даўно была на пенсіі, займалася толькі хатнімі справамі, часта памагала нявестцы з яе бытавымі праблемамі, і калі тая выйшла на працу пасля дэкрэтнага адпачынку, не раз заставалася з малым за няньку.

Блізілася да полудня. Мітаковіч ужо схадзіў у цырульню, прайшоўся па асенняй вуліцы. Шчодра свяціла сонца, і хоць быў ужо пачатак лістапада, лістота з дрэў яшчэ не ўся асыпалася і зіхацела амаль малінавым святлом пад яркімі праменнямі.

«Вось Сяргейку б паказаць», — падумаў Мітаковіч і ўзгадаў, як яны месяц назад збіралі ў парку каштаны і як ён расказваў унуку, як з прыгожых веснавых свечачак каштану да восені вырастаюць гэтыя карычневыя кругляшыкі, якіх прыемна ўзяць у руку.

Дзеці з малым з'явіліся ўжо надвячоркам. Ён нібыта троху адвык, спачатку куксіў з-пад ілба, потым павесялеў, стаў насіцца па пакоі.

— Прызвычаіўся маляваць, — казала нявестка. — З маёй маці разгадвалі красворд і ён распісваў узорамі ўсе часопісныя лісты.

— Вось заўтра я прывязу табе прыгожыя алоўкі і сшытак для малявання, — пачаў было Мітаковіч, але сын перабіў:

— Наступным разам. Заўтра не трэба. Будзем адпачываць.

Мітаковіч асекся было, хацеў нешта сказаць, але прамаўчаў.

— Ну паедзем, — загаварыла нявестка. — Дарога, стаміліся. Можа, у аўторак прыедзем, — звярнулася яна да жонкі.

— Прыязджайце, — адгукнулася тая. — Мы заўсёды рады.

Мітаковічу як нешта пераняло. Стала ажно цяжка дыхаць. Ён успомніў раптам свайго бацьку, як той, звычайны селянін, спяшаўся заўсёды дадому ў час рэдкіх прыездаў і як ён угаворваў яго пабыць яшчэ, часцей прыязджаць.

«А што, каб я сказаў яму "не прыязджай заўтра?" — падумаў Мітаковіч. — Няўжо такое магло б быць?»

Дзеці паехалі.

— Пацалуй дзядулю, — звярнулася ў прыхожай да ўнука нявестка.

Той прыціснуўся да дзедавай шчакі цёплымі вуснамі, і Мітаковіча ахапіла хваля нечуванай пяшчоты.

— Пакуль! — буркнуў ён і хуткім крокам пайшоў у пакой.

— Ты што? — зазірнуўшы ў пакой, сказала жонка. — Пакрыўдзіўся? Як ты не можаш зразумець: яны дарослыя людзі, у іх свая сям'я, хочуць пабыць без староннiх.

«Гэта я старонні?» — хацеў было запярэчыць Мітаковіч, але гаварыць не хацелася. Ён ведаў, што ўсё роўна размовы не атрымаецца, і дзяліцца сваімі пачуццямі дарма.

Вечар прайшоў як звычайна: жонка ў сваім пакоі глядзела тэлевізар, Мітаковіч гартаў учарашнія газеты.

Перад сном ён зайшоў на кухню, дастаў з бара пачатую ажно амаль год назад пляшку каньяку, бо роўна столькі ён ужо не ўжываў спіртное, наліў паўшклянкі і выпіў.

Ноччу яму снілася, як яны з сынам гулялі на спортпляцоўцы ў футбол і той шчасліва смяяўся, забіўшы бацьку гол…

## Васіль

Зараз яму за пяцьдзясят. А ў першы раз, калі я прыехаў у вялікае палескае сяло Кажан-Гарадок, ён быў шасцікласнікам. У майго цесця Івана Георгіевіча і цешчы Зосі Паўлаўны было шасцёра дзяцей, Васіль — малодшы. Я, полацкі малец, малады журналіст, быў упершыню на Палессі, тым больш, уліваўся ў новую сям'ю, у нязвыклы і незнаёмы для мяне свет. І Васіль стаў тым, хто прыняў мяне адразу, хто стараўся хутчэй адаптаваць мяне да новай атмасферы, па-дзіцячы горача і аддана. Ён вадзіў мяне па ваколіцах — у блізкі лясок, на бераг рэчкі Цны, да раўчукоў і каналаў, дзе мы проста рукамі выцягвалі з-пад карчоў юркіх уюноў, маленькіх сомікаў і ментузоў.

Гарачыя летнія дні былі напоўнены штодзённай работай — нарыхтоўкай сена на зіму. З раніцы старэйшы, дзевяцікласнік Міша, выцягваў з шахі (так на Палессі называецца гаспадарчая прыбудова) лодачны матор, устанаўліваў яго на носе доўгай вялікай лодкі, і мы — цесць, Васіль і я — сядалі разам з ім і правілі па вузкай, звілістай Цне праз шырокую плынь блізкай Прыпяці да выдзеленых мясцовым калгасам сенажацяў.

Назад вярталіся пад вечар з поўнай лодкай сена, а гэта практычна цэлы воз, бо на палескіх лодках нават карову можна было перавезці.

Выгрузіўшы воз, вячэралі, а ўвечары Васіль з Мішай вялі мяне ў клуб на кінасеанс. Часам Васіля не пускалі, бо фільм быў з грыфам «пасля шаснаццаці», і Васіль з равеснікамі круціўся вакол клуба, а калі кінамеханік губляў пільнасць, пранікаў у залу.

Канешне, апошні пестунок карыстаўся асаблівай ласкай, і толькі Вася мог угаварыць суровага цесця замест звычайнай вандроўкі па сена адправіцца на рыбалку. Узялі з сабой і цесцевых пляменнікаў, Васілёвых аднагодкаў Сяргея і Міцю. Лавіць рыбу на Палессі — гэта не вудачкі закідваць. Ідуць у ход сеткі, валачкі, «тэлевізары» і іншыя прыстасаванні. І ўдалай рыбалка лічыцца, калі рыбы — «повны носок» лодкі.

Пасля ўдалай рыбалкі мы выплылі на шырокую плынь, і цесць дазволіў нам пакупацца. Хлопцы проста з лодкі кінуліся ў ваду, за імі і я, хоць, шчыра кажучы, плаваю я не вельмі. Хуткая плынь адносіла ад лодкі, і я стаў хвалявацца і губляць сілы. Васіль падплыў бліжэй, здагадаўшыся пра маё хваляванне, крыкнуў бацьку, каб ён падплываў бліжэй, і ціха падбадзёрваў.

Апошнімі намаганнямі я зрабіў рывок і дрыжачымі рукамі ўхапіўся за борт. Васіль злёгку падштурхнуў мяне, і я ўзабраўся ў лодку.

— Ён добра плавае, — выгукнуў ні да кога не звяртаючыся Васіль. — Проста на новым месце нязвыкла крыху…

З таго часу прайшло амаль сорак гадоў. І Васіль заўсёды плыў побач. І калі служыў у войску ў Маскве, і калі прыехаў жыць у мой Навапалацк, і калі мы разам з ім купілі і прывялі да ладу дом у вёсцы на мяжы з Ушацкім раёнам, і калі перавезлі пасля Чарнобыля яго маці і маю цешчу, і калі пахавалі яе на полацкіх могілках, і калі яго сын Іван служыў у Мінску, ва Уруччы, і цяпер, калі я прыязджаю ў родны горад…

І я заўсёды ўпэўнены, што ён не пакіне і заўсёды падставіць плячо, пакуль мы ёсць на гэтай зямлі. І я яму плачу тым жа.

## «Аўтарытэт»

Сяргей Іванавіч Грахоўскі быў адным з тых пісьменнікаў, якія пісалі пра камсамольскую будоўлю на берагах Дзвіны, пра ўзвядзенне будучых гігантаў нафтахіміі. Тады ён быў у складзе пісьменніцкай брыгады, бо ў той час такая форма ўдзелу творцаў у стваральнай працы савецкага народа лічылася абавязкам, і газеты, часопісы ахвотна выдзялялі месца для рэпартажаў, нарысаў пра герояў працоўных будняў.

Пра тую паездку сам Грахоўскі не раз гаварыў у розных інтэрв'ю, ды і здымак яго з таварышамі па творчым цэху вісеў на ганаровым месцы ў музеі працоўнай славы горада.

Пра гэта мы часта разважалі з аксакалам беларускай літаратуры ў доме творчасці «Іслач», куды я атрымаў пуцёўку пасля ўступлення ў Саюз пісьменнікаў. Раніцой, выходзячы з сынам на зарадку, адразу на паляне бачыў высокую сутулаватую постаць Сяргея Іванавіча, які старанна прысядаў, рабіў рухі рукамі, і, нягледзячы на свой паважны ўзрост, выглядаў яшчэ даволі рухавым і падцягнутым.

— Трымацца ў форме стараўся заўсёды, — гаварыў Сяргей Іванавіч, — інакш бы не выжыў. Сёння нехта нават папракае за вочы, што не стаў «дахадзягам» у лагеры, як некаторыя сябры-паплечнікі. А я змагаўся, бо вельмі хацелася вярнуцца дадому, у сваю Беларусь.

Гэты яго лагерны ўспамін знайшоў сваё адлюстраванне падчас аднаго з яго пазнейшых прыездаў у Наваполацк.

Раніцой я зайшоў па Сяргея Іванавіча ў гасцініцу, куды мы яго праводзілі пасля доўгай і шчырай бяседы, якая зацягнулася далёка за поўнач.

Выйшлі на вуліцу, падышлі да кіёска, набылі свежыя газеты. Побач з кіёскам быў прыгасцінічны буфет, дзе можна было выпіць кубак кавы, злёгку перакусіць.

Ля стойкі круціўся нейкі падазроны тып, які адразу нібы прыляпіўся да нас, быццам незнарок штурхаючы, выглядваючы нешта за нашымі спінамі.

Раптам Грахоўскі павярнуўся і гучна выгукнуў фразу, якую я нізашто зараз не змагу паўтарыць, бо гэта была самая натуральная блатная «феня».

У тыпа вочы на лоб палезлі. Ён нібы паменшыўся ў памерах.

— Айцец, я не ведаў, што вы ў законе! Усё, знікаю. Калі што трэба, кажыце.

Грахоўскі раўнуў яшчэ раз, і тыпа змыла.

Буфетчыца таксама была ўражана. А Сяргей Іванавіч ветліва папрасіў прабачэння, і мы з ім селі выпіць кавы.

— Гэта «феня» мяне не раз ратавала, калі ў пяцьдзясят шостым вяртаўся з жонкай і маленькай дачкой з Сібіры дадому, — нібы ў адказ на маё ранейшае здзіўленне загаварыў Сяргей Іванавіч. — Я ж быў брыгадзірам у крымінальнікаў на лесапавале, там і навучыўся. Бачыце, за «аўтарытэта» адразу прымаюць. І тады — месца давалі, за кіпенем на станцыю бегалі…

Я глядзеў на гэтага сівога прыгожага чалавека і думаў: «Ён жа сапраўды аўтарытэт для нас. Не крымінальны, вядома, а прыклад сапраўднага беларуса, літаратара, мужнага і мудрага».

Пра гэта я казаў праз многа гадоў у Мінску, на могілках, калі мы праводзілі Сяргея Іванавіча ў яго апошні зямны шлях.



Андрэй ПЕРМЯКОЎ

# СКАЗАЦЬ СВАЮ ДУМКУ СУСВЕТУ

## ПАВЕРНЕШСЯ

Уздоўж качагаркі зноўку ляціць попел.
Сабака колеру попелу паўз попел бяжыць.
Адна рэчка змяльчэла, другая — амаль як раней.
Тая, што болей змяльчэла, бяжыць шпарчэй.
Бліжэй да ракі — звычайны світанак.
Тут у асноўным не хада, а слізганне:
снег на пачатку чэрвеня, снег у канцы верасня
мала спрыяюць пяшчотнаму перасоўванню.
Вось так быццам добра ўсё, і час ціха цікае.
І ты самім сабою задаволены, быццам белы ліст, які штосьці значыць:

«Згубіўся сабака: вялікі, шэры, ціхі.
Таму, хто знойдзе, просьба…» Далей тэкст страчаны.
Пэўна, трэба наракаць на недасканаласць зроку,
на пераборлівасць памяці, немажлівасць лётаць.

Тут, верагодна, трэба сказаць сваю думку Сусвету,
тут, верагодна, трэба разумнае штосьці сказаць.
Можна яшчэ вось так, ганарліва: «Дзе тваё, смерць, джала?»
Можна яшчэ вось так, ганарліва пра непераадольнасць зла.
Толькі вось вялікі шэры збег, тэлефонны нумар абарваны,
адна рака абмяльчэла, і, так: попел наўкола.

---

*__Пермякоў Андрэй (Увіцкі Андрэй Юр'евіч)__ нарадзіўся 11 ліпеня 1972 г. у горадзе Кунгур Пермскага краю. Скончыў Пермскую дзяржаўную медыцынскую акадэмію (цяпер Пермскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт) (1995), кандыдат медыцынскіх навук. Працуе ў фармацэўтычнай прамысловасці. Арганізатар літаратурных праектаў, удзельнік і адзін з заснавальнікаў таварыства паэтаў «Сибирский тракт».*

*Друкаваўся ў часопісах «Арион», «Воздух», «Волга», «Дети Ра», «Знамя», «Новый мир» і інш., а таксама ў шэрагу альманахаў.*

*Аўтар кнігі паэзіі «Сплошная облачность» (Санкт-Пецярбург, «Своё издательство») (2013).*

*Лаўрэат Грыгор'еўскай прэміі (2014).*

*Жыве ў горадзе Петушкі Уладзімірскай вобласці.*

## 1984

Жоўтыя аўтобусы. Чырвоныя трамваі.
Сінія тралейбусы. Шэрыя дамы.
Шмат анучак-бірачак на свята Першамая.
У новы год на сподачках кавалкі пастрамы.

Жлуктаў Віктар з шайбаю. Шчірлец ў тэлевізары.
Marlboro армянскае. З часам — Cabinet.
Госці каля тэлека памiналі Візбара.
Дзядзя Слава, выпіўшы, паламаў буфет.

Брат прынёс ад Шэрага нешта пра афганскую.
І «разумных» слоўцаў запомніў на гады.
Лавы паласатыя. Песні дылетанцкія.
Мішкі алімпійскія. Тата малады.

## МАЛЕНЬКАЯ ПАЭМА

**I**

— Дажыву да ста, і мяне не ста…
Ленка, страшна як.
— Спі. У бабулі, кажуць, рак.

**II**

— Даруй. Ну яшчэ раз даруй.
Дажыла ж мама да васьмідзесяці пяці?
— А вось табе кукіш, менш схлусіш.

**III**

— Ідзі на святло. Ці бачыш там святло?
— Не…
— І суда няма на «не».
— Бачу, вось там бачу, ці не так?
— Гэта не святло, а адмысловая цемень.

**IV**

— Там будзе чарвяк, што не спіць, і зорка з імем Печка.
— Гучала каманда «легчы».

**V**

…

**VI**

— Кажуць, бываюць яшчэ нейкія іншыя зоркі.
— П. 111, § 4: «Ніколі».

## МЯШЧОРА

Гэтая, іншая, тая, што пасля жыцця,
раптам вырвецца ў ягадах і болей за ўсё ў арабінах,
ноччу амаль ўсё растане, і толькі на маленькай крызе,
амаль пасяродку вялікай металічнай бочкі,
тры кругі чырвоныя. А святло калі брызне
на іх, так проста брызне, што…
А не, нічога. На печы прачнулася дачка.
Цёмнавалосая азіраецца ў дзвярах, штосьці чакае.
Хмарка занадта празрыстая, гэта, напэўна, да бабулі ехаць час.
Даўно збіраліся.
…У бочцы на дне арабіны, бружмель, яшчэ дробнае нешта.
Пер’е зверху плыве, іграе спектакль.
Цень яго — то тыгр паласаты, то дом для камара.
Такая ігра.
Вусцішна чакаю.

## СВЯТКІ

Выходзіш ля эстакады, кажаш «Зур Рахмет».
Марат кажа ў адказ: «Гуляй, самому табе Зур Рахмет».
Так усміхаецца, быццам цябе лае.
З машыны выцякае святло,
ад ліхтара выцякае святло.
Такі вось свет.
А больш ніадкуль святло не выцякае.

Калючая цемень перашкаджае ўдыхаць.
Ты такі слабы, быццам табе пяць год, на злосць
думаеш, ад воўка не ўцячэш.
А снег з ліхтара ляціць руды і вільготны.

Глядзіш на гэты снег, раптам кажаш: «Святло».
Ты разумееш пра той і гэты свет.
Ты разумееш, што снег — таксама святло. І воўк таксама святло.
І нават цемень — святло Сусвету.
Свет недасяжны.

## САБАКУ СПОЎНІЛАСЯ ШАСНАЦЦАЦЬ

Гэта будзе пах ядранага лета,
Хваляў кучаравых, смажанай цыбулі.
Будуць маракасы, і, вядома, — флейта.
Вось такая штука...

Гэта будзе восень, будуць баклажаны:
Чорныя на белым, сінія на чорным.
У зваротны бок паедуць гараджане
Ды хаваюць смецце, закрываюць дзёрнам.

Павольны гаспадар зноўку стане марным,
Кулачкі бы бруквы, плечы бы бярвенні.
Хлопне ён па плоце, пакрычыць — памане.
Час ідзе-крадзецца, толькі, ох, не роўна.
Людзі тут спяваюць, людзі не падмануць.
Я амаладзею, я ж цудоўны пёсік?

## АШАН[1]

Бываюць такія людзі — цяжарныя па-за чаргою.
Так над касай напісана: «Цяжарныя па-за чаргою».
Тата сціскае лапку сваёй трошку дарослай дачкі.
Прыгожы, не стары тата,
падобны на Гагарына, што славу сваю перажыў.
І на татавай лысіне, дзе адбіваецца лямпа,
выпарваецца незнарокам пот.
А дачка зусім не хоча трываць татаву руку,
і рука яе круціцца ў татавай лапе: лісяня у норцы.
А ззаду дачкі маленькая зусім дзяўчынка чытае па літарах:
«Ця-я-жа-рэ-нэ-цяжа…»

***Пераклад з рускай Адама ШОСТАКА.***

[1] Сетка гіпермаркетаў у Расіі.

**Людміла СІНЬКОВА**

# МЕТАДАЛОГІЯ ПАРАЎНАЛЬНАГА ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА Ў ПРАЦАХ ЕВЫ ЛЯВОНАВАЙ

Якім чынам сучасная беларуская навука вырашае праблемы кампаратывістыкі? Адказ на гэтае пытанне я заўсёды знаходзіла ў кнігах Евы Лявонавай «Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX—XX стст.» (1998); «Беларуская літаратура XX ст. і еўрапейскі літаратурны вопыт» (2002); «Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры» (2003) і інш.

Але асабліва паслядоўная, развітая і цэласная метадалагічная канцэпцыя параўнальнага вывучэння айчыннай літаратуры ў яе стасунках з замежжам выпрацавана і прадстаўлена ў манаграфіі «Беларускае мастацтва слова XX ст. у еўрапейскім літаратурным кантэксце: тыпалогія, рэцэпцыя, пераклад», 2014 г. [4]. Гэтая кніга, пра якую ў асноўным пойдзе гаворка, падагульняе шматгадовыя даследаванні прафесара БДУ Е. Лявонавай у галіне кампаратывістыкі, дзе Ева Аляксандраўна працуе з адданасцю, сумленнасцю і глыбінёй сапраўднага, высакакласнага навукоўца.

Беларуская кампаратывістыка атрымала асабліва істотны імпульс для свайго развіцця ў 1990-я гады, калі ў праграмы не толькі ВНУ, але і сярэдніх школ былі ўведзены патрабаванні вывучаць беларускую і рускую літаратуры ў кантэксце сусветнай. (І колькі ж матэрыялаў падрыхтавала тады Е. Лявонава для настаўнікаў, як шмат часу правяла ў камадзіроўках у самыя розныя раёны і аддзелы адукацыі, каб забяспечыць новае разуменне літаратуры ў школах Беларусі…) Тыя праграмы, як і ўзроўні вывучэння прадмета, неаднаразова змяняліся, але нязменнымі заставаліся і застаюцца сур'ёзныя метадалагічныя праблемы, што маюць глыбокія карані.

Кампаратывіст заўсёды мусіць вырашаць вядомую сакраментальную задачу: параўноўваць, асцерагаючыся прафанацыі — кан'юнктурнай нацяжкі, зусім выпадковых асацыятыўных ланцужкоў накшталт гіпертэкставых спасылак у Сеціве. Але ж вырашаецца названая задача проста: трэба ўсяго толькі як след ведаць той кантэкст, тую гісторыка-культурную глебу, дзе выбраныя для супастаўлення з'явы сфарміраваліся.

Гэта відавочна, але вельмі працаёмка.

Таму заўсёды існуе спакуса параўноўваць што б там ні было адразу ж, па вонкавых супадзеннях, па «ключавых словах», элімінуючы з'яву з гісторыка-культурнага кантэксту. З такой практыкай, асабліва ў працах менш вопытных, пачынаючых даследчыкаў, даволі часта даводзіцца сустракацца.

Аднак кожны вопытны філолаг ведае, што кампаратывістыка вырасла менавіта з культурна-гістарычнай літаратуразнаўчай школы. Таму паўнавартаснае параўнальнае вывучэнне мастацкіх з'яў магчымае толькі і выключна пасля добрасумленных гісторыка-культурных штудый. Кампаратывістыка патрабуе найперш выдатнага ведання таго літаратурнага працэсу, з якога выбіраюцца аб'екты для супастаўлення. Інакш прафанацыя непазбежная і, канешне, тым большая, чым меншая кампетэнтнасць даследчыка ў кантэксце.

Кантэкст жа адкрываецца літаратуразнаўцу найперш у дзвюх сваіх выявах (па вызначэнні прафесара А. Гугніна [1, с. 12]): кантэкст нацыянальны (скажам, беларускі) і рэгіянальны (для беларускага — балта-славянскі; затым — усё больш і больш аддалены...). Прытым кожны глыбока структураваны. Напрыклад, беларускі: тут можа прыцягнуць увагу даследчыка і факт з пісьменства яшчэ протабеларускага; і з выразна нацыянальнага, базавага ў традыцыі; і — зноў нацыянальна-падаўленага, маргіналізаванага, «крэалізаванага» (так сказаць, «тутэйшага» ў выніку розных асіміляцыйных уплываў, што маглі, ужо адкаціўшыся хваляй, неўзабаве паўтарацца ў беларускай культурнай прасторы); і ў сувязі з гэтым для даследчыка актуалізуюцца з'явы бі- і полікультурнасці (гетэрагеннасці) match рознага паходжання, статусу і маркіраванасці. Усё гэта непазбежна і вызначальна ўплывае на вынік працы кампаратывіста.

Разам з пералічаным, выбар аб'ектаў для суаднясення-параўнання-карэляцыі ўскладняецца тым, што літаратурны працэс трэба ўсведамляць і з пункту гледжання семіятычнага: як выяву адмысловага культурнага палілогу паміж літаратурай і філасофіяй, сацыялогіяй і г. д.

Пасля ўсяго вышэй сказанага лёгка зразумець, з якой цікавасцю я разгарнула працу Е. Лявонавай пра беларускую літаратуру XX ст. у параўнанні з іншымі літаратурамі еўрапейскага рэгіёна праз тыпалогію, рэцэпцыю ды пераклад.

Адразу ж стала відавочным: у манаграфіі Е. Лявонавай, выдатнага спецыяліста найперш па нямецкамоўных і іншых замежных літаратурах [5], а сёння — і па літаратуры беларускай [2], [3], [4], усе рэаліі сапраўды (не дэкларатыўна!) разглядаюцца з глыбокім, раскошным веданнем ды падачай нацыянальна-культурных кантэкстаў.

Такі, кантэкстуальны, падыход у манаграфіі вытрымліваецца і фармальна, і па сутнасці.

Фармальна — гэта з пункту гледжання кампазіцыі, паверхні даследчыцкага тэксту. Напрыклад, калі вы пачынаеце чытаць пра ўплыў прозы Рэмарка на творчасць В. Быкава і В. Някрасава, то спачатку атрымліваеце дакладную (г.зн. кампактную, але насычаную менавіта канцэптуальна пададзенай фактаграфіяй) інфармацыю пра феномен «страчанага пакалення», а таксама пра кантакты Быкава з Някрасавым. Або: калі суадносяцца творчасць Быкава і Сартра ў стасунках з традыцыяй Дастаеўскага, то вам падаюцца звесткі пра тое, як і пісьменнікі, і іх даследчыкі ўспрымалі ды адрэфлексоўвалі філасофію экзістэнцыялізму. Або вы пачынаеце чытаць раздзел пра біблейскія вобразы і матывы ў рамане Караткевіча, але «ўваходзіце ў тэму» праз знаёмства з тым, якім чынам увогуле класіфікуюцца наяўныя формы звароту да Бібліі ў літаратурных творах. Або: вы падступаецеся да раздзелаў з аналізам перакладаў А. Разанава з нямецкай, на нямецкую, а таксама яго ўласных нямецкамоўных вершаў, і маеце магчымасць спачатку даведацца пра цэлае «кола стасункаў Алеся Разанава з нямецкім мастацкім словам на сёння» [4, с. 230].

Я выкарыстала азначэнне «фармальна» на той падставе, што пэўныя «ўводныя» часткі, падобныя згаданым, гіпатэтычна маглі б быць рэдукаваныя без скажэння ўласна кампаратыўных фрагментаў, таму што подступы да аб'екта вывучэння — гэта тая частка айсберга (даследчыцкай кампетэнцыі), якой Е. Лявонава магла і падзяліцца, і не падзяліцца з чытачом; нібыта магла і не выводзіць дадатковыя веды з падтэксту на паверхню. Але рэч у тым, што без іх немагчымы айсберг кампаратывістыкі! Яна, паўторымся, вырастае з культурна-гістарычнага літаратуразнаўства. І якраз падрабязныя гісторыка-культурная фрагменты выклікаюць асаблівую ўдзячнасць чытача. Ён атрымлівае ў дар усе інтэлектуальныя напрацоўкі аўтара, бачачы, з якога высокага ўзроўню абагульнення ведаў па тэме ў цэлым распачынаецца ўласна параўнанне.

Форма, аднак, як мы ведаем, непарыўна звязаная са зместам. Таму кантэкстуальны падыход да параўнальнага вывучэння беларускай літаратуры — гэта якраз

не толькі бачная паверхня тэксту Е. Лявонавай, а менавіта глыбокая навуковая сутнасць усёй кнігі. Пра яе, пра даследчыцкія прынцыпы, рэалізаваныя ў манаграфіі Е. Лявонавай, неабходна сказаць спецыяльна і падрабязна.

Здавалася б, такія тэрміны, як «тыпалогія», «рэцэпцыя», «дыскурс», «кантакт», «пераклад», «кантэкст» даўно ўжо з'яўляюцца і вызначанымі, і агульнаўжывальнымі. Але як толькі справа даходзіць да канкрэтнага і надзвычай актуальнага параўнання беларускай літаратуры з іншымі, то мы сутыкаемся з тым, што гэтыя тэрміны і, галоўнае, спосабы іх выкарыстання, робяцца надзвычай плыткімі для параўнання айчыннага пісьменства з замежным. Яны патрабуюць істотнага ўдакладнення, разгортвання, каб апісваць матэрыял тых літаратур (адна з якіх — беларуская), што маюць, найчасцей, дужа адрозныя (па ўмовах існавання і эстэтычных арыентацыях) шляхі развіцця.

І галоўнае: літаратуразнаўца не можа аўтаматычна запазычыць дзесьці нейкі гатовы, універсальны метадалагічны алгарытм. Даследчык, пры ўсіх выгодах ды інфармацыйных бонусах, якімі забяспечвае карыстальніка сучаснае высокатэхналагічнае грамадства, мусіць асабіста, крэатыўна дапасаваць тэарэтычны рыштунак да свайго матэрыялу. Гэты момант крэатыўнасці вельмі важны: ён фіксуе навуковую навізну ў любым даследаванні.

Якраз наватарская метадалагічная канцэпцыя, арыгінальная і цалкам адпаведная матэрыялу, выпрацавана і пацверджана ў кнізе Е. Лявонавай. На гэтую сістэму поглядаў неабходна арыентавацца, такія падыходы засвойваць, браць за прыклад. Тут здзейснена сакраментальнае дапасаванне тэорыі да практыкі; спраўджана «сустрэча» заўсёды лагічных метадаў навукі (кампаратывістыкі) з заўсёды фенаменальным матэрыялам літаратуры (беларускай і еўрапейскіх).

І вось як здзейсненае разгортваецца перад вачыма чытача.

Частка 1 у манаграфіі адкрываецца раздзелам, названым (радком з У. Жылкі) «На зломе дзвюх эпох злавесным…». Гэты раздзел — вельмі лаканічная парафраза з вядомай і любімай выкладчыкамі і студэнтамі ВНУ аб'ёмнай працы Е. Лявонавай «Плыні і постаці» [5], у якой погляд на беларускую літаратуру першай трэці ХХ ст. скіроўваўся з пазіцый тыпалагічных: вось ёсць эпоха дэкадансу, ёсць мадэрнісцкія плыні ў еўрапейскім мастацтве (сімвалізм, імпрэсіянізм, эстэтызм, натуралізм, экспрэсіянізм), і ёсць неабходнасць вызначыць суадносіны беларускай літаратуры той жа эпохі з гэтымі плынямі, аформленымі ў канкрэтныя нацыянальныя школы.

Па той прычыне, што беларускі літаратурны працэс на пераломе ХІХ і ХХ стст. перажываў не столькі «Закат Европы» (актуальны для літаратурных традыцый многіх еўрапейскіх краін), колькі — у першую чаргу — зусім характэрнае славянскае нацыянальнае Адраджэнне, то ясна, што менавіта гэтая спецыфіка гісторыка-культурнага кантэксту патрабавала дакладнага ўліку і супраціўлялася лёгкай, аўтаматычнай тыпалагізацыі. Ім, кантэкстам, была абумоўлена вялікая розніца, featuresнавектарнасць літаратурных працэсаў, што павінен браць пад увагу даследчык. І Ева Аляксандраўна гэтую розніцу ўлічыла. Характарызуючы еўрапейскія эстэтычныя плыні, яна звязала з імі не плыні ж (школы і плыні ў беларускай літаратуры проста не паспявалі сінхронна фарміравацца), а асобныя, выбраныя імёны і творы беларускіх аўтараў, у чыім светаадчуванні і эстэтыцы выявіліся (бо не маглі не выявіцца!) тыя ці іншыя адпаведнасці, рысы дэкадансу, таксама — асобныя стылёвыя перазовы або сістэмныя праявы сімвалізму (даследчыцай тут выбраны Багдановіч, Купала, Жылка, Юхнавец, Арсеннева, Салавей), імпрэсіянізму (Багдановіч, Жылка), эстэтызму (Багдановіч, Жылка, Кляшторны), натуралізму (Бядуля, Зарэцкі, Чорны)… Важна падкрэсліць, што па метадзе гэта параўнанне з фіксацыяй сыходжанняў і — абавязкова — разыходжанняў. Па фармулёўках — надзвычай дакладнае прафесійнае маўленне, што, канешне, характарызуе ўсю манаграфію цалкам; напрыклад: «…здзейснены Багдановічам аналіз вершаў Чупрынкі па многіх параметрах ёсць карціна сімвалісцкай паэты-

кі» [4, с. 45]; М. Багдановіч, «падзяляючы агульнае для еўрапейскіх пісьменнікаў катастрафічнае светаадчуванне, увасобіў яго ў адметным паэталагічным ключы» [4, с. 58]; «У спектры канатацый, у атмасферы і паэтыцы верша [Купалы «Паяз-джане». — *Л. С.*] ёсць сугучнасць і з экспрэсіянізмам» [4, с. 64]; «Прысутнасць Бэкета і Іанеска дае аб сабе знаць і ў цыклічна-таўталагічнай пабудове «Рэпетыцыі» [А. Асташонка. — *Л. С.*], і ў «моўным кодзе» апошняй, які таксама працуе на раскрыццё алагічнасці быцця, адчужэння людзей» [4, с. 276]; «Мара аб мове», — сказаў Сартр пра тэатр Іанеска. Гэтыя словы можна дастасаваць да антыдрамы ўвогуле і да «Вопыту тэатра абсурду» Асташонка ў прыватнасці» [4, с. 276]…

Вяртаючыся да першага раздзела манаграфіі, адзначым: у ім Е. Лявонава карэктна зафіксавала своеасаблівую протатыпалогію — той дыялог (палілог) беларускай літаратуры з еўрапейскім мадэрнізмам, пра які пісалі акадэмікі В. Каваленка, У. Гніламёдаў… Беларуская адпаведнасць мадэрнізму ў часы нашаніўства была спецыфічнай, іманентнай, бо дыскрэтнай. Аднак жа адпаведнасць гэтая (хоць часцей і фрагментарная, чым эстэтычна-цэласная) ужо тады рэалізавалася, каб пазней займець яскравы працяг...

Можна сказаць, што названы раздзел у манаграфіі пацвердзіў галоўную асаблівасць беларускай літаратуры як аб’екта для параўнальнага вывучэння. Рэч у тым, што беларускую літаратуру найбольш плённа і перспектыўна суадносіць з іншакультурнымі з’явамі не праз колькасныя (квантытатыўныя) ацэнкі (бо яна часта развівалася, як алюзійна піша Е. Лявонава, «з пятлёй на шыі», і многае ў ёй было дэфармаваным), а праз якасныя; пачынаць зручней з аналізу адзінкавых беларускіх з’яў — фенаменальных і зазвычай сінкрэтычных.

Якраз з увагай да адзінкавага, убачанага ў кантэксце, пабудаваныя ўсе астатнія раздзелы манаграфіі Е. Лявонавай.

Кніга падзелена на дзве часткі па храналагічным прынцыпе: даследуецца палілог беларускай літаратуры з іншымі еўрапейскімі ў першай і другой паловах XX ст. На першы погляд, пералік асноўных беларускіх персаналій, вынесеных у загалоўкі раздзелаў кнігі, не надта доўгі: гэта Багдановіч, Купала, Колас, Гарэцкі, Жылка, Караткевіч, Алесь Адамовіч, Быкаў, Юхнавец, Разанаў, Асташонак… Але рэч у тым, што ўсе персаналіі паслядоўна актуалізуюцца як мінімум у 2-х, а часцей — у некалькіх канкрэтных нацыянальных кантэкстах. Калі кантэксты камплементарныя для тыпалагічнага аналізу літаратурных з’яў — раскрываецца тыпалогія (напрыклад, прозы Гарэцкага і Барбюса; або — лірычных герояў Купалы і Гесэ ў арыгінальных купалаўскіх вершах і яго перакладзе з Гесэ на тэму Першай сусветнай вайны); калі камплементарнасць выразна выяўляецца на ўзроўні рэцэпцыі — гаворыцца пра рэцэпцыю (эстэтызму — у творах Жылкі, заходняга асветніцтва праз Гётэ — у Караткевіча, тэатра абсурду — у Асташонка); калі ёсць аб’ектыўныя падставы гаварыць пра перазовы мастацкіх традыцый на ўзроўні пэўнага дыскурсу — то ў культурным кантэксце «прапісваецца» дыскурс (нямецкі, амерыканскі — у жыцці і творчасці Быкава; купалаўскі і коласаўскі, усходні — у Разанава); таксама ж і з кантактамі, і з перакладам… Кожны раз — па-новаму, з новай увагай да спецыфікі дыялогу (палілогу), таму што кожны салідны аб’ект даследавання ў мастацкай літаратуры — унікальны.

Многія і многія старонкі кнігі Е. Лявонавай захапляюць.

Уражвае скрупулёзны разбор літаратурна-крытычных тэкстаў М. Багдановіча, з расчытваннем моўных і сэнсавых гістарызмаў, архаізмаў у іх — беларускаму літаратуразнаўству не заўсёды хапае такой уважлівасці, мы часцей любім цытаваць Багдановіча нібы свайго сучасніка. Раскошна ў культурна-гістарычным сэнсе, з падрабязнымі адсылкамі да многіх даследчыкаў-папярэднікаў, напісаны раздзелы пра вершы Купалы. У тым ліку — пра пераклад Янкам Купалам верша Германа Гесэ «У мгле» : з мноствам фактаў, доказаў высновы пра тое, што Купалаў пераклад — не інтэрпрэтацыя (у традыцыйным для перакладазнаўства сэнсе), а менавіта сумоўе, сугучнасць па светаадчуванні, праблематыцы і паэты-

цы, менавіта тыпалагічная «філасофская супакладзенасць» [4, с. 69] нямецкага і беларускага тэкстаў…

Амаль «кнігай у кнізе» (калі мець на ўвазе глыбіню і цэласнасць разваг) з’яўляюцца раздзелы пра шырэй вядомага ў свеце В. Быкава. Таксама аб’ёмна і ў вышэйшай ступені доказна, яскрава прааналізавана, «разгерметызавана» канцэптуальная творчасць А. Разанава, якую толькі і можна зразумець у палілогу з рознымі кантэкстамі: у Е. Лявонавай гэта поле беларускай традыцыі (Багдановіча, Купалы, Коласа); традыцыі еўрапейскага мадэрнізму і авангардызму з увагай да фонасемантыкі (з французскай, аўстрыйскай, нямецкай паэзіі); сумоўе А. Разанава з усходняй і хрысціянскай філасофіяй і культурай; рэзананс, але і важнейшы дысананс А. Разанава з постмадэрнізмам як парадыгмай.

Прыцягвае ўвагу таксама той ракурс мастацкага ўніверсалізму, у якім прааналізаваны і асобныя, выбраныя творы якога-небудзь аўтара («Паязджане» Я. Купалы, «Мы доўга плылі ў бурным моры…» М. Багдановіча), і феномены цэлай творчасці пісьменніка (У. Жылкі, Я. Юхнаўца). У раздзелах такога плана большае месца, чым у астатніх, займаюць адсылкі да іншакультурнага кантэксту аддаленыя, не відавочныя: агульнакультурныя алюзіі, светапоглядныя рэмінісцэнцыі. Падкрэслім, што «вандраванне» ў літаратурным сусвеце глыбей раскрывае семантыку класікі, якую так і трэба бачыць — не толькі з адназначнымі ці прагматычнымі прывязкамі, што часцей бывае пры яе штудзіраванні. Прыгадаем: філалогія з часоў Бахціна займела законнае права спасцігаць тэкст як праз строгую перакадзіроўку вобразаў з адной сімвалічнай мовы на другую, так і праз маляванне «люстранай» сімволікі, спасціжэнне вобраза праз аналагічны вобраз.

Дарэчы, яшчэ ў двух раздзелах кнігі беларускія і замежныя творы (Гарэцкага і Кафкі, Адамовіча і Мёрля) суадносяцца хутчэй рэмінісцэнтна, асацыятыўна, чым тыпалагічна. Праўда, у загалоўках творы глядзяцца нібы зусім парытэтна: («Апавяданне Максіма Гарэцкага «Рускі» і навела Франца Кафкі «Ператварэнне»: дзве гісторыі душэўнай метамарфозы» — з увагай да экзістэнцыйнага светаадчування абодвух аўтараў; «Антыўтопіі Алеся Адамовіча «Апошняя пастараль» і Рабэра Мёрля «Мальвіль» — з увагай да жанравай аналогіі ў абодвух). На справе ж у гэтых парах беларускія творы карэлююць з замежнымі больш фрагментарна, чым сістэмна, таму раздзелы і вызначаюцца акцэнтам на светапоглядным, універсальным, і на маляўнічых дэталях. (Хацелася б яшчэ дадаць, што паэтыкай экспрэсіянізму, звязанага з імем Кафкі, вызначаюцца перадусім выдатныя «Скарбы жыцця» М. Гарэцкага і яго «зашыфраваныя» дзённікавыя запісы ад імя Лявоніуса Задумекуса.)

Ёсць яшчэ адна важная рыса раздзелаў, арыентаваных на фіксацыю стылёвай поліфаніі ў творах любога аўтара: патрэба не выпусціць з-пад увагі стылёвую ж дамінанту. Гэтая дамінанта ў творах мастака можа эвалюцыянаваць ці проста змяняцца (напрыклад, ад рамантычнай да неарамантычнай і сімвалісцкай у Жылкі), але твор заўсёды мусіць мець стылёвую пэўнасць і цэласнасць, большы акцэнт на нейкім адным, прыярытэтным складніку (бо якасны завершаны тэкст заўсёды не «бесстылёвы», не эклектычны).

Так, паўторымся, надзвычай багатым, разгалінаваным атрымаўся гісторыка-культурны кантэкст у раздзеле пра біблейскае ў рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» У. Караткевіча. Чытачу прадстаўлена ўся сур’ёзнасць, увесь дыяпазон тэмы, розныя яе ўзроўні, з асацыятыўнымі адсылкамі ўключна. Мы бачым, як «размахнуўся» беларускі класік, на што ён па-рамантычнаму смела наважыўся (раздзел займае 27 старонак, бібліяграфічны спіс да яго — 37 пазіцый). У выніку, дзякуючы такой кантэкстуальнай прэзентацыі, чытач не толькі пераконваецца, што раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» — гэта менавіта «разгорнутая алюзія на біблейскі сюжэт» [4, с. 118], а не штосьці іншае (напрыклад, не філасофска-эстэтычная міфарэстаўрацыя, рэцэпцыя біблейскага сюжэта або фрагментарная апеляцыя да яго). У дадатак чытач яшчэ атрымлівае адэкватнае разуменне раманнага тэксту і не галаслоўнае сцверджанне значнасці плёну Караткевіча; бачыць

рэальнае месца беларускага аўтара ў пачэсным шэрагу тых выбітных творцаў свету, якія звярталіся да біблейскіх вобразаў і матываў…

Такім чынам, паводле прааналізаванай мадэлі даследавання, якая сфарміравалася ў працах Е. Лявонавай і сістэмна выявілася ў яе манаграфіі «Беларускае мастацтва слова ХХ ст. у еўрапейскім літаратурным кантэксце: тыпалогія, рэцэпцыя, пераклад», неабходна заключыць наступнае.

У названай манаграфіі, па-першае, спраўдзілася прынцыповая рэабілітацыя (пасля савецкіх часоў) нацыянальнага кантэксту як зыходнага пункта для параўнальнага разгляду літаратур — на любым аналітычным узроўні. У кампаратывістыцы савецкіх часоў, як вядома, літаратурныя з'явы для параўнання разглядаліся максімальна элімінавана, з мінімалізацыяй нацыянальных кантэкстаў, з абсалютызацыяй тыпалагічных, найперш ідэалагічных, прыкмет савецкай гісторыка-культурнай эпохі. У манаграфіі ж Е. Лявонавай за аснову ўзятая тэорыя А. Гугніна пра развіццё і ўзаемадзеянне літаратур у нацыянальных і рэгіянальных кантэкстах. Аб'екты для параўнання выбраны з нацыянальнага беларускага кантэксту і кантэкстаў літаратур еўрапейскага рэгіёна.

Па-другое, важнейшай умовай для кампаратыўных працэдур у працах Е. Лявонавай з'яўляецца камплементарнасць нацыянальнага і рэгіянальнага кантэкстаў. На гэтай аснове ў манаграфіі «Беларускае мастацтва слова ХХ ст. у еўрапейскім літаратурным кантэксце…» праведзена даследаванне творчасці М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Гарэцкага, У. Жылкі, У. Караткевіча, А. Адамовіча, В. Быкава, Я. Юхнаўца, А. Разанава, А. Асташонка, інш. у параўнанні з камплементарнымі выбітнымі з'явамі з літаратур еўрапейскага рэгіёна (французскай, нямецкай, аўстрыйскай, рускай, англійскай, інш.), а таксама з літаратур краін Усходу (з кітайскай, японскай паэзіі) і Амерыкі (найперш — са спадчыны Э. Хемінгуэя).

Манаграфія «Беларускае мастацтва слова ХХ ст. у еўрапейскім літаратурным кантэксце…» — гэта стратэгічная заваёва айчыннага літаратуразнаўства. Чаму менавіта стратэгічная? Таму, што праца Е. Лявонавай падводзіць пэўную рысу пад цэлым выразным этапам у беларускай савецкай і паслясавецкай кампаратывістыцы (працы В. Каваленкі, А. Лойкі, У. Гніламёдава, М. Тычыны, Я. Чыквіна, І. Шаблоўскай, Л. Тарасюк, П. Васючэнкі, І. Багдановіч, Г. Тычко, інш.), які зрабіўся своеасаблівай хронікай пошуку метадалогіі для вывучэння беларускай літаратуры ў параўнанні з іншымі еўрапейскімі і з сусветнай.

## Спіс літаратуры:

1. Гугнин, А. А. Основные этапы развития серболужицкой литературы в славяно-германском контексте: научн. доклад … дис. докт. филол. наук: 10.01.05 / А. А.Гугнин; РАН, Ин-т славяноведения. — М., 1998. — 78 с.

2. Лявонава, Е. А. Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў ХХ стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры / Е. А. Лявонава. — Мінск: БДУ, 2003. — 198 с.

3. Лявонава, Е. А. Беларуская літаратура ХХ стагоддзя і еўрапейскі літаратурны вопыт: дапам.для студэнтаў філал.фак. / Е. А. Лявонава. — Мінск: БДУ, 2002. — 128 с.

4. Лявонава, Е. А. Беларускае мастацтва слова ХХ ст. у еўрапейскім літаратурным кантэксце: тыпалогія, рэцэпцыя, пераклад / Е. А. Лявонава. — Мінск: БДУ, 2014. — 319 с.

5. Лявонава, Е. А. Плыні і постаці: З гісторыі сусвет. літ. другой паловы XIX—XX стст.: Дапам. для настаўнікаў. — Мінск: Рэд. часоп.» Крыніца», 1998. — 336 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 25 лютага 2016 года.

## Рэзюмэ

Людміла СІНЬКОВА

### Метадалогія параўнальнага літаратуразнаўства ў працах Евы Лявонавай

У артыкуле прааналізавана метадалогія, якая сфарміравалася ў працах Е. Лявонавай. У аснове гэтай метадалогіі ляжыць прынцыповая рэабілітацыя (пасля савецкіх часоў) нацыянальнага кантэксту як зыходнага пункта для параўнальнага разгляду літаратур. Беларуская літаратура параўноўваецца з іншымі еўрапейскімі на ўзроўнях тыпалогіі, рэцэпцыі, дыскурсу, перакладу. У кампаратывістыцы савецкіх часоў літаратурныя з'явы для параўнання разглядаліся элімінавана адносна нацыянальных кантэкстаў. У працах Е. Лявонавай перадумовай усіх разваг з'яўляецца камплементарнасць кантэкстаў. Дзякуючы новаму падыходу працы Е. Лявонавай завяршаюць цэлы этап у беларускай паслясавецкай кампаратывістыцы.

**Ключавыя словы:** метадалогія, кампаратывістыка, беларуская літаратура XX стагоддзя, еўрапейская літаратура, нацыянальны і рэгіянальны кантэкст, камплементарны кантэкст, тыпалогія, рэцэпцыя, дыскурс, пераклад, рэмінісцэнцыя, алюзія, дыскрэтнасць, сістэмнасць.

## Summary

Ludmila SINKOVA

### Methodology of comparative literary critism in the works of Eva Lyavonava

This article analizes the methodology formed in the works of E. Lyavonava. In the centre of this methodology is princippal rehabiliation (afer the Soviet era) of the national context as a starting point of comparative consideration of literatures. The Belarusian literature is compared with other European ones concerning: typology, reception, discourse, translation. In comparativistics of the Sovient era, literary phenomena for comparison were under consieration in an eliminated way according to the national contexts. The precondition of all reasonings in the works of E. Lyavonava is complementarity of contexts. Thanks to the new approach the works of E. Lyavonava complete the whole era in Belarusian postwar comprotivistics.

**Keywords:** methodology, comparative, Belarusian literature of the twentieth century, European literature, national and regional context, complementary context, typology, reception, discourse, translation, reminiscence, allusion, discreteness, consistency.

**Рыгор САМОЙЛЕНКА**

# ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ НА ЧАРНІГАЎСКАЙ ЗЯМЛІ

Чарнігаўшчына багата на літаратурныя здабыткі. З гэтым прыдзяснянска-прыасцёрскім краем павязаны лёсы многіх пісьменнікаў, і не толькі ўкраінскіх, але і расійскіх, беларускіх, польскіх, яўрэйскіх ды іншых. Сярод іх яскрава свеціцца постаць пачынальніка новай рэалістычнай літаратуры Францішка Багушэвіча (9 (21) сакавіка 1840—18 (28) красавіка 1900).

Менавіта ў Нежыне, Чарнігаве, Канатопе і іншых месцах Чарнігаўшчыны прайшла значная частка яго жыцця. На жаль, гэты перыяд жыццёвай і творчай біяграфіі Багушэвіча найменш вывучаны як беларускімі, так і ўкраінскімі даследчыкамі. У 60—80-х гг. мінулага стагоддзя звярталіся да аналізу яго творчай спадчыны навукоўцы Нежынскага педагагічнага інстытута імя М. В. Гогаля — Г. Васількоўскі і Г. Нядзелька. Былі апублікаваны ў 90-х гг. і невялікія вышукі аўтара гэтых радкоў [1]. Аднак апошнім часам намі выяўлены ў архівах Чарнігаўшчыны новыя дакументы, якія праліваюць святло на невядомыя раней старонкі жыцця Багушэвіча.

Як вядома, будучы класік беларускай літаратуры нарадзіўся ў вёсцы Свіраны Віленскай губерні ў сям'і дробнага шляхціца. Праз год бацькі перабраліся ў блізкія Кушляны — радавы маёнтак маці паэта. У 1861 г. пасля заканчэння Віленскай гімназіі Францішак паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта, з якога ўсяго праз два месяцы быў выключаны за ўдзел у студэнцкіх «беспарадках». Вярнуўшыся на бацькаўшчыну, пэўны час настаўнічаў, а ў 1863—1864 гг. стаў удзельнікам паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Падчас задушэння паўстання ў 1864 г. у адной з баявых сутычак быў паранены, і гэта недалечаная рана доўга давалася ў знакі. Кіраўніка паўстання царскі ўрад пакараў смерцю, а многіх удзельнікаў адправілі ў казематы ды ў ссылку. У Сібір быў высланы і брат Францішка —Уладзімір. У гэты складаны час Ф. Багушэвіч вымушаны быў ратавацца на Украіне.

Нежынскі юрыдычны ліцэй кн. Безбародзькі як вышэйшая навучальная ўстанова знаходзіўся далёка ад рэгіёна паўстання. Акрамя таго, тут працаваў старшым лектарам сваяк па маці Аляксандр Галаўня. Багушэвіч разлічваў на тое, што жандары не дазнаюцца пра яго ўдзел у паўстанні і ён зможа не проста перахавацца, але і здабыць асвету.

Нежын быў вядомы беларусам яшчэ з казацкіх часоў, калі на Украіне ў 1648—1654 гг. ішла народна-вызваленчая вайна супраць польскай шляхты. Полымя вайны перакінулася і на беларускія землі. Нежынскі палкоўнік Іван Залатарэнка, на той час наказны гетман, дапамагаў у 1654—1655 гг. вызваляць беларускія гарады і фартэцыі ад палякаў. Ён схіляў прадстаўнікоў беларускіх вайскова-палітычных вярхоў да таго, каб і на іх тэрыторыі ўвесці гетманскае праўленне і аб'яднацца не з Расіяй, а з Украінай. Смяротнае раненне Івана Залатарэнкі пад беларускай фартэцыяй Новы Быхаў у 1655 г. зашкодзіла ажыццяўленню гэтых намераў, хаця наказны гетман ужо меў падтрымку сваім задумам у Беларусі, у прыватнасці, з боку Канстанціна Паклонскага. І. Залатарэнка нямала зрабіў у



*Корпус Нежынскага юрыдычнага ліцэя.*

напрамку «паказачання» Беларусі [2, с. 107—110]. Аднак гэтыя ўзаемаадносіны не былі простымі. Беларускія кіраўнікі вярнуліся пад уладу Польшчы[1].

Нежын у XVII — першай палове XIX ст. з'яўляўся адным з самых вядомых месцаў на левабярэжнай Украіне, прычым не толькі як вайскова-палкавы і гандлёвы, але і як культурны цэнтр, у якім квітнелі архітэктурныя стылі, як візантыйскі, старажытнарускі, украінскае барока, класіцызм. Пра культурнае значэнне сведчаць 25 храмаў горада, яго манументальнае, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, а таксама асвета [3].

Адкрыццё ў 1820 г. Гімназіі вышэйшых навук, другой пасля Харкаўскага ўніверсітэта (1805) вышэйшай свецкай навучальнай установы ва Украіне, зрабіла Нежын вядомым далёка за яго межамі. Нежынскі юрыдычны ліцэй як спадкаемца Гімназіі вышэйшых навук князя Безбародзькі [4] таксама набыў вядомасць, бо даў Расіі «некалькі сотняў годных і адукаваных людзей, адданых слуг айчыны, выдатна падрыхтаваных і дасведчаных чыноўнікаў, якія не гандлявалі сумленнем і законам» [5, с. 123].

Такім чынам, і Багушэвіч у 1865 г. дабраўся сюды, каб паступіць у Юрыдычны ліцэй кн. Безбародзькі. У Нежынскім архіве захаваліся дакументы, якія даюць магчымасць больш падрабязна раскрыць некаторыя эпізоды жыцця і навучання паэта.

7 траўня 1865 г. Багушэвіч падаў заяву ў ліцэй і прыклаў адпаведныя дакументы: пасведчанне пра навучанне ў Пецярбургскім універсітэце, копію ўказа пра зацвярджэнне ў дваранстве ды метрычнае пасведчанне. Прымаючы дакументы, дырэкцыя зацікавілася паводзінамі ва ўніверсітэце і зрабіла туды свой запыт [6, арк. 64].

29 траўня 1865 г. Багушэвіч быў залічаны студэнтам. Навучаўся паспяхова, але стыпендыі не атрымліваў. Таму, каб харчавацца, аплачваць кватэру (пражываў у будынку мясцовай мяшчанкі Мукінай), трэба было ў вольны ад навучання час зарабляць грошы. І Ф. Багушэвіч заняўся рэпетытарствам. Аднак гэта не палепшыла сітуацыю і змусіла юнака зноў падаць на імя дырэктара Е. Гудзімы заяву аб прызначэнні стыпендыі [6, арк. 68]. Але і на гэты раз яму адмовілі з-за «адсутнасці вакансіі».

[1] Беларуская гістарыяграфія не ацэньвае дзейнасць украінскіх казакаў на Беларусі ў 1648—1667 гг. як нацыянальна-вызваленчую вайну. Згаданыя аўтарам падзеі і персоны звязаны са складанай ваеннай і палітычнай барацьбой гетманскай дзяржавы Б. Хмяльніцкага і Расіі пры цару Аляксею Міхайлавічу за пашырэнне ўласных межаў за кошт у т. л. беларускага Падняпроўя і Палесся. Эліта беларускіх абшараў была прыхільнікам ВКЛ і Рэчы Паспалітай.

Францішак Багушэвіч апынуўся ў цяжкім становішчы. Ён вымушаны быў 10 снежня 1865 г. звярнуцца з заявай да маршалка Нежынскага дваранства Я. Пачэкі, у якой адзначаў: «Не маючы ніякіх сродкаў да жыцця, я зусім не ў стане працягваць навучанне за ўласны кошт; маё скрушнае становішча прымушае мяне прасіць начальства, каб атрымліваць стыпендыю, аднак для гэтага неабходна сведчанне Вашай высокасці аб беднасці, а таму наважыўся патурбаваць сваёй просьбай аб наданні мне такога» [7, арк. 43].

Каб яго прашэнне было больш пераканаўчым, Багушэвіч прыклаў да яго яшчэ і сведчанні трох дваран, памешчыкаў Нежынскага павета: штабс-ротмістра Міколы Міларадавіча, паручніка коннай артылерыі Міхала Фалькоўскага і адстаўнога паручніка Кіеўскага гусарскага палка Канстанціна (яго прозвішча не ўдалося разабраць) ад 30 лістапада 1865 г., у якім яны пацвердзілі, што студэнт Нежынскага ліцэя дваранін Франц Казіміравіч Багушэвіч сапраўды не ў стане не толькі ўносіць законную плату за права слухаць лекцыі, але не можа і пражыць за свой кошт [7, арк. 44]. На гэта ўказваў таксама і маршалак нежынскага дваранства Я. Пачэка [8, арк. 10].

Аднак і гэта не дапамагло. А трэба ж было плаціць за навучанне, за жыллё (на гэты час Францішак перайшоў жыць у дом Вакуленкі), харчавацца і апранацца, таму Багушэвіч зноў шукаў сродкаў для падпрацоўкі. У такіх цяжкіх умовах яго не пакідала жаданне таксама набыць добрыя веды, бо было пераканальнае разуменне, што толькі яны дадуць магчымасць палепшыць жыццё. 11 снежня 1867 г. Багушэвіч зноў падаў заяву на імя дырэктара, у якой пісаў: «Калі я вучыўся на І курсе ліцэя, то звярнуўся да начальства аб прызначэнні мне стыпендыі на другое паўгоддзе; але ў сувязі з тым, што вакансіі не з'явілася, атрымаў адмову. Перайшоўшы на 2-гі курс, я знайшоў магчымасць неяк утрымліваць сябе шляхам рэпетытарства і таму лічыў недарэчным турбаваць начальства сваім прашэннем пра стыпендыю; на будучыню, жадаючы прысвяціць больш часу ўласнай адукацыі, я не бачу ніякай магчымасці забяспечыць сваё існаванне працай, бо занадта мізэрная яе аплата, а вымагае большага, чым я магу прысвяціць ёй, часу. Ад родных я не атрымліваю ніякай дапамогі праз іх незабяспечанасць. Дарэчы, акрамя звычайных выдаткаў на пражыццё, я, хворы, павінен несці траты яшчэ і на лекаванне. Усе гэтыя абставіны змушваюць мяне зноў турбаваць Вашу годнасць пра прызначэнне мне стыпендыі ў будучым.

м. Нежын, 1867 г., траўня 11 дня» [8, арк. 9].

На гэты раз прашэнне было задаволена, што дало Багушэвічу паспяхова завяршыць навучанне ў ліцэі [8, арк.70].

Навучаўся добра, дый асяродак тагачасных студэнтаў быў досыць стараннам. З 36 студэнтаў-выпускнікоў яго групы 26 атрымалі чын XII класа[1] [16, C. CLXXI—CLXXII].

У сярэдзіне 60-х гг. XIX ст. Нежынскі ліцэй як установа для падрыхтоўкі юрыстаў працаваў даволі паспяхова. Багушэвіч паступіў у ліцэй у той год, калі яго яшчэ ўзначальваў вядомы педагог Ягор Стэблін-Камінскі, які шмат зрабіў для росквіту Юрыдычнага ліцэя. Гэта быў высокаадукаваны, шляхетны кіраўнік, які здолеў згуртаваць калектыў, падтрымаць інтэлектуальныя інтарэсы сваіх калег, накіраваць і стымуляваць іх дзейнасць. «У сувязі з гэтымі прычынамі, — пісаў у 1881 г. прафесар І. Срэбніцкі, — ліцэй пры Стэбліне быў у поўным разуменні слова цэнтрам грамадскага і інтэлектуальнага жыцця Нежына і нават яго павета. Эпоха Стэбліна і да сённяшняга часу згадваецца нежынскімі старажыламі як найбольш бліскучая пара грамадскага значэння ліцэя» [9, с. 16.]. Як адзначалі

---

[1] Чын «губернскага сакратара» — 12 з 14 грамадзянскіх чыноў у Расійскай імперыі. Даваў права займаць пасады ў сістэме дзяржаўных установаў. Выпускнікі ліцэя атрымалі права на прысваенне такога чына. Зацвярджэнне ў чыне Ф. Багушэвіча адбылося ў 1869 г.

сучаснікі, Стэблін-Камінскі быў перадусім сумленным чалавекам, а пасля гэтага ўжо — адміністратарам і вучоным.

Праз год пасля паступлення Багушэвіча яго змяніў чацвёрты дырэктар Ліцэя і Нежынскай гімназіі Гудзіма. Ён узначальваў установу нядоўга, з 1866 па 1869 г., але гэта быў асноўны перыяд навучання Багушэвіча. Гудзіма сам з'яўляўся выпускніком Нежынскай гімназіі вышэйшых навук (1832). Ён меў добры жыццёвы досвед як дзяржаўнага чыноўніка, так і педагога, бо займаў пасаду дырэктара вучылішч Чарнігаўскай губерні. У ліцэі ён намагаўся падтрымаць традыцыі свайго папярэдніка, хаця па складзе характару быў іншым. Срэбніцкі падкрэсліваў, што новы дырэктар не вылучаўся «самавітасцю і ўплывам свайго папярэдніка, а яго мяккасардэчнасць межавала са слабасцю і адбівалася перш за ўсё на ім самім» [5, с. 222]. І ўсё ж надаваў значную ўвагу падрыхтоўцы студэнтаў да юрыдычнай справы, дбаў і пра будучых студэнтаў ліцэя — навучэнцаў гімназіі, якая ўваходзіла ў структуру вышэйшай навучальнай установы.

Інспектарам Ліцэя і Нежынскай гімназіі з 1863 па 1875 г. працаваў Амяльян Бялобраў, прафесар расійскай славеснасці. Яго добрая падрыхтоўка, захапленне літаратурай, службовая адказнасць, уменне зацікавіць студэнтаў прадметам давалі свае пазітыўныя вынікі. Як вучонага яго цікавілі пытанні фальклору, а таксама тэарэтыка-эстэтычныя праблемы. Свае працы ён друкаваў у «Вестнике Юго-Западного края России», «Циркулярах» Кіеўскай навучальнай акругі. Падчас выканання абавязкаў інспектара ліцэя Бялобраў часта чытаў студэнтам лекцыі замест іншых выкладчыкаў-філолагаў, якія часам адсутнічалі на працягу нават цэлага года.

З 1864 па 1872 г. расійскую філалогію выкладаў прафесар Феадосій Вараны, выпускнік Кіеўскага ўніверсітэта св. Уладзіміра, які ў Пецярбургу здаў экзамены на ступень магістра і атрымаў ухвальныя водгукі на сваю навуковую працу ад акадэміка Сразнеўскага, вядомага вучонага-славіста, які цікавіўся ўкраінскай літаратурай, фальклорам, вымагаў ад сваіх студэнтаў самастойнага мыслення, аналізу фактаў і крытычных адносін да навуковых даследаванняў папярэднікаў. Такія рысы пазычыў у свайго навуковага настаўніка і Ф. Вараны і перадаваў іх сваім вучням.

Курс расійскай гісторыі і статыстыкі ў ліцэі з 1853 па 1868 г. чытаў прафесар Іван Лашнюкоў, вучоны, які скончыў Нежынскі юрыдычны ліцэй і ўніверсітэт св. Уладзіміра, меў добрую тэарэтычную падрыхтоўку, любіў гісторыю і гэту любоў перадаваў сваім студэнтам. Прафесар Вараны, згадваючы пра яго, адзначаў, што як выкладчык апошні меў права займаць месца сярод лепшых дзеячаў свайго часу ў сувязі з велізарным выхавальным уплывам, які ён рабіў на моладзь. Ён быў адораны сілаю абуджаць да мыслення нават лянівых студэнтаў. Ва ўмовах панавання казарменнага рэжыму Лашнюкоў спрыяў адраджэнню высокага духу навучальнай установы як характарам выкладання свайго прадмета, так і яшчэ больш сваёй непараўнальнай крытыкай вульгарнасці і самадурства, якія былі так уласцівы правінцыйнаму жыццю. Яго падтрымкай заўсёды карысталіся адораныя, але бедныя студэнты, да якіх належаў і Багушэвіч.

Кафедру законаў казённага права з 1862 па 1873 г. узначальваў прафесар Леў Ждановіч, таленавіты юрыст, які слухаў лекцыі вядомых вучоных Нямеччыны, Францыі ды іншых краін, а таксама меў высокую кваліфікацыю ў галіне фінансавага права і дзяржаўнага добраўпарадкавання.

Прафесар Міхайла Заціркевіч з 1859 па 1875 г. узначальваў кафедру энцыклапедыі правазнаўства і дзяржаўных законаў. Ён скончыў універсітэт св. Уладзіміра, абараніў магістарскую дысертацыю «Пра ўплыў барацьбы паміж народамі і станамі на ўтварэнне ладу рускай дзяржавы ў дамангольскі перыяд». У прадмет «Энцыклапедыя законазнаўства» ўключаў як матэрыялы энцыклапедыі, так і гісторыі філасофіі права, гісторыі дзяржаўнага права вядучых старадаўніх і

новых народаў. Асабліва шмат увагі надаваў гістарычным працэсам, якія былі звязаны з заканадаўствам. Ён сфармуляваў адмысловую тэорыю фарміравання палітычнага ладу ўсіх дзяржаў — ад далёкага мінулага да новага часу — як канцавога выніку барацьбы паміж рознымі нацыямі альбо станамі. Заціркевіч быў добра падрыхтаваным выкладчыкам з шырокай эрудыцыяй не толькі ў галіне права, але і гісторыі.

Іван Максімовіч у 1842—1869 гг. займаў пасаду прафесара крымінальных і паліцэйскіх законаў. У чытанні лекцый трымаўся гістарычных метадаў, распрацаваных нямецкай юрыдычнай школай і перанятых некаторымі выкладчыкамі ўніверсітэта св. Уладзіміра, які закончыў Максімовіч. Менавіта гэты метад даў магчымасць даследчыку растлумачыць многія з'явы тагачаснага жыцця. У сваёй практычнай дзейнасці ён абапіраўся на навуковыя распрацоўкі Мантэск'е, Феербаха, Канта, Шэлінга, Фіхтэ, Гегеля ды іншых, а таксама на сістэму «Свода законов» і выклаў даволі дэтальна гістарычнае развіццё расійскага крымінальнага заканадаўства.

Менавіта гэтыя прафесары права, гісторыі і расійскай філалогіі адыгралі значную ролю ў набыцці Багушэвічам прафесійнай адукацыі, фарміраванні яго грамадскага светапогляду ды эстэтычнага густу.

Калі ў 1863 г. міністр народнай асветы Галаўны запатрабаваў спіскі навуковых прац кожнага выкладчыка ліцэя, то яму прадставілі ведамасці, якія засведчылі, што кожны з прафесараў меў навуковыя артыкулы і навучальныя дапаможнікі па сваіх курсах. На жаль, некаторыя з іх засталіся ненадрукаванымі праз адсутнасць сродкаў.

У ліцэі былі створаны ўсе ўмовы для навучання: кабінеты, багатая бібліятэка з фондам у 12 450 тамоў. Дырэктар ліцэя Я. Стэблін-Камінскі прыклаў намаганні да папаўнення новым абсталяваннем кабінетаў фізікі, хіміі, прыродазнаўчай гісторыі. У апошнім налічвалася 4 600 экспанатаў мінералаў, чучал жывёл і птушак, мінц-кабінет, дзе зберагаліся нумізматычныя калекцыі (441 адзінка). Навучальны працэс праходзіў у даволі спрыяльных умовах. Кантынгент студэнтаў быў невялікім, пераважную іх большасць складалі дзеці з дваранскіх сем'яў, астатнія — дзеці вайскоўцаў, купцоў, духавенства, мяшчан, у цэлым — усіх, хто мог плаціць за навучанне.

Апошні год у ліцэі быў спрыяльным для Багушэвіча. Ён змог надаць больш увагі навучанню, кантактам з аднакурснікамі, асабістым захапленням.

У 1845 г. у сувязі з 25-годдзем Нежынскай вышэйшай школы папячыцель установы А. Р. Кушалёў-Безбародзька[1] падарыў ліцэю 176 мастацкіх палотнаў розных еўрапейскіх школ XIV—XIX стст. Тут былі найкаштоўнейшыя творы — Агасціна Каррача, Т'епола, Тыцыяна, Рафаэля, Караджыа, Мікеланджэла, Перуджына, Вазары, Брэйгеля, Ван-Дэйка, Ван дэр Неўра, Рубенса, Рэйсдаля, Ван-Лаара, К. Брулова, А. Макрыцкага і інш.

Гэтая калекцыя твораў дазваляла Багушэвічу, як і іншым студэнтам, фарміраваць высокі эстэтычны густ. Ён з цікавасцю знаёміўся і з калекцыяй Нежынскага скарбу, знойдзенага ў 1852 г. у нежынскім прадмесці Магеркі ў колькасці 100 срэбных старажытнарускіх манет, значная частка якіх сёння зберагаецца ў Музеі гісторыі Украіны ў Кіеве ды пецярбургскім Эрмітажы. Прафесар М. Тулаў, які быў прычынны да гэтай знаходкі, пісаў дырэктару ліцэя: «Да гэтага ў нас панавала думка, што не было расійскіх грошай да навалы Залатой татарскай Арды, а былі толькі медалі, якія рабіліся на Русі грэкамі. У «Слове пра паход Ігараў» слова «срэбла» — гэта не злітак срэбра, а манета, што і пацвярджаецца надпісамі на іх» [10].

---

[1] Кушалёў-Безбародзька Рыгор Аляксандравіч – літаратар, выдавец, мецэнат. У 1856—1860 гг. выдаваў часопіс «Русское слово».



Общiй протоколъ студентовъ II-го курса 18 66/67 учебного года.

| № | Фамилiи и имена. | Гражданск. Зак. | Философiя | Государств. Зак. | Статистика |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Агасовскiй Михаилъ | 3 | 2.5 | 3 | 3 |
| 2. | Базилевичъ Димитрiй | 3 | 3.5 | 3 | 3.5 |
| 3. | Барвинскiй Ананiй | 3.5 | 3.5 | 3.5 | 3.5 |
| 4. | Барвинскiй Павелъ | 3.5 | 4 | 4 | 4 |
| 5. | Боголюбовъ Михаилъ | 3 | 3.7 | 3 | 2.5 |
| 6. | Богушевичъ Францъ | 3.5 | 3.5 | 3 | 3.5 |
| 7. | Галенковскiй Александръ | 3.5 | 3.5 | 3 | 3.5 |
| 8. | Громеко Григорiй | 4 | 3.5 | 3.5 | 3.5 |
| 9. | Дейкунъ Иванъ | 3 | 2.5 | 3 | 3 |
| 10. | Еленицкiй Григорiй | 3.5 | 2.5 | 2.5 | 2.5 |

*Фрагмент выпускной экзаменацыйнай ведамасці Нежынскага юрыдычнага ліцэя з адзнакамі Францішка Багушэвіча.*

Дэмакратычная атмасфера, якая панавала ў ліцэі, спрыяла не толькі грунтоўнаму засваенню студэнтамі спецыяльных ведаў, а і іх агульнакультурнаму развіццю.

Дыскусіі па розных пытаннях адбываліся не толькі ў аўдыторыях, а і ў ліцэйскім парку. «З асаблівым пачуццём згадваецца гэта месца.., парк.., дзе мы спрачаліся ў філасофіі, праве, літаратуры, — пісаў выпускнік ліцэя К. Трацына. — Сад быў нашай акадэміяй, дзе мы вольна аддаваліся нашым заняткам, куды кожны з нас прыходзіў павучыцца альбо з кнігі, альбо з бяседы, альбо проста з назірання прыроды» [16, с. 409]. А выпускнік ліцэя М. Гербель згадваў, што ў ліцэі «веяла добрым здаровым духам, і моладзь вучылася, развівалася... Добры і дружны гурток таварышаў, адсутнасць педантызму... Пры такіх спрыяльных умовах унутраннага жыцця ліцэя між ліцэістамі моцна адчувалася прага да заняткаў літаратурай, і гэтыя заняткі пацягнулі потым шмат каго на літаратурнае і навуковае поле» [16, с. 350.]. Паводле Статута ліцэя студэнты штогод пісалі літаратурныя творы, лепшыя з якіх адзначаліся прэміямі. Гэта, безумоўна, спрыяла развіццю літаратурных здольнасцей моладзі.

Студэнт ліцэя Багушэвіч не мог не ведаць, што з Нежынскай вышэйшай школай звязаны імёны вядомых пісьменнікаў Мікалая Гогаля, Нестара Кукальніка, Яўгена Грэбінкі, Міколы Гербеля, Леаніда Глебава ды іншых, якія сфарміраваліся як літаратары менавіта ў гэтых сценах.

У час навучання тут на высланні і пад наглядам паліцыі з 1863 па 1867 г. знаходзіўся выпускнік ліцэя, вядомы ўкраінскі байкапісец Леанід Глебаў. Але пра гэта Ф. Багушэвіч мог і не ведаць.

Неўзабаве ён сам стаў спрабаваць сілы ў літаратуры. Вершы пісаў пад відавочным уплывам Т. Шаўчэнкі, творы якога ў той час хадзілі па руках, перапісваліся. Нежынцы яшчэ памяталі, як у 1861 г. падчас перапахавання праха Кабзара адбылася паніхіда ля Спаса-Праабражэнскай царквы. Пісаў Багушэвіч вершы па-ўкраінску і па-беларуску. На жаль, усё знішчыў, бо палічыў, што яго спробы «нічога не вартыя». Але, мабыць, былі таксама і нейкія іншыя прычыны.

Нарэшце навучанне падышло да канца, і здадзены апошнія экзамены.

У Нежынскім архіве зберагласяя зводная ведамасць экзаменацыйных адзнак, атрыманых падчас навучання Ф. Багушэвічам. Пры знаёмстве з дакументам трэба ўлічваць, што ў ліцэі традыцыйна захоўвалася чатырохбальная сістэма ацэньвання ведаў студэнтаў:

Багаслоўе — каталік[1]
Энцыклапедыя заканазнаўства — 3,5
Дзяржаўныя законы — 3
Законы пра фінансы — 4
Грамадзянскія законы — 3
Законы дзяржаўнага добраўпарадкавання — 3,5
Крымінальныя законы — 3,5
Паліцэйскія законы — 3
Расійская гісторыя — 3,5
Статыстыка — 3,5
Расійская славеснасць — 3,5
Практычная расійская славеснасць — 3,5
Французская мова — не вывучаў
Нямецкая мова — 4
Гадавы твор — 4
Сума — 45,5
Сярэдні бал — 3,5
Паводзіны — выдатна
Класны чын — XII [11, арк. 151].

26 ліпеня 1868 г. у Блакітнай актавай зале ліцэя адбылося ўрачыстае ўручэнне атэстатаў. Развіталіся паміж сабой ды з прафесарамі 36 выпускнікоў і раз’ехаліся па сваіх прызначэннях у розныя куточкі краіны. Значная частка іх засталася ва Украіне. Большасць з іх даслужылася да пасады судовых следчых.

У 42-м выпуску Нежынскай вышэйшай школы і 26-м выпуску Юрыдычнага ліцэя асабліва не вызначаўся сярод іншых. Выпуск Багушэвіча ўяўляў сабой плеяду працаўнікоў сярэдняга ўзроўню юрыдычнай сістэмы, якія сумленна ставіліся да выканання сваіх абавязкаў. Сярод іх варта адзначыць І. Дзейкуна — члена Нежынскага акруговага суда, П. Кулжынскага — участковага міравога суддзю ў Палтаўскім павеце, сына выкладчыка і інспектара Нежынскай вышэйшай школы пісьменніка І. Кулжынскага, І. Раманчанку — сакратара Нежынскага акруговага суда, Г. Грамыку — чыноўніка Віленскага акруговага інтэнданцтва, В. Малюгу — члена Віцебскай палаты Казённага і цывільнага суда, М. Проніна — справавода канцылярыі чарнігаўскага губернатара і іншых. Гэта прозвішчы толькі асобных аднакурснікаў Багушэвіча, з якімі ён мог кантактаваць у Нежыне, Чарнігаве і Вільні, калі працаваў у юрыдычных установах.

[1] Каталіцкае багаслоўе выкладалася і здавалася ў расійскіх універсітэтах нараўне з праваслаўным да 1863 г. Надалей каталікі маглі не наведваць лекцыі па праваслаўным багаслоўі і не здаваць экзамена, але толькі па заяве, якая рабілася ўжо пры прыёме ва ўніверсітэт.

Скончыўшы ліцей з правам на чын XII класа, Багушэвіч з 18 снежня 1868 г. пачаў працаваць канцылярскім чыноўнікам Чарнігаўскага губернскага праўлення[1]. На гэтай пасадзе знаходзіўся нядоўга, бо пастановай губернскага праўлення 22 студзеня 1869 г. быў прызначаны на пасаду выконваючага абавязкі памочніка справавода гэтага ж праўлення [6, арк. 65, 79, 86, 88]. Указам Урадавага Сената ад 10 красавіка 1869 г. за №7450 Багушэвіча зацвердзілі ў чыне губернскага сакратара з далейшай выслугай.

Як сведчыць асабісты фармулярны спіс, ён звяртаўся да чарнігаўскага губернатара з прашэннем перавесці яго ў палату крымінальнага і цывільнага суда з залічэннем кандыдатам на пасаду судовага следчага. Зварот быў задаволены, і з 16 чэрвеня 1869 г. Багушэвіч займаўся судовымі справамі. У сувязі з тым, што ён не быў замацаваны за нейкім канкрэтным участкам, яго пасылалі на пэўны час у камандзіроўкі. Так, выконваў абавязкі судовага следчага Кралевецкага павета (з 30 чэрвеня па 25 кастрычніка 1869 г.), Старадубскага павета (з 4 лістапада 1869 г. па 15 верасня 1870 г.), а 1 снежня 1870 г. адкамандзіравалі памочнікам судовага следчага 2-га ўчастка Чарнігаўскага павета [12, арк. 3—5].

У сувязі з абвастрэннем хваробы вымушаны быў 4 сакавіка 1871 г. падаць у адстаўку. Раненне нагадвала пра сябе. Трохі паправіўшы здароўе, зноў звярнуўся ў Міністэрства юстыцыі з прашэннем аднавіць на працы. Загадам па ведамстве ад 21 ліпеня 1871 г. за № 51 быў прызначаны выконваючым абавязкі судовага следчага 2-га ўчастка Гразавецкага павета Валагодскай губерні, але ўжо 7 траўня 1872 г. міністэрства пераводзіць яго на такую ж пасаду ў Барзнянскі павет Чарнігаўскай губерні.

На ўсіх свах пасадах Багушэвіч добрасумленна ставіўся да выканання службовых абавязкаў, таму праз 5 год дзейнасці Дэпартамент герольдыі Урадавага Сената ад 18 кастрычніка 1873 г. перавёў яго за выслугу гадоў у чын калежскага сакратара.

17 чэрвеня 1874 г. загадам № 30 па ведамстве Міністэрства юстыцыі Багушэвіча прызначылі выконваючым абавязкі, а з 6 студзеня 1882 г. — судовым следчым 1-га ўчастка Канатопскага павета Нежынскага акруговага суда, дзе ён прапрацаваў 10 год.

У Канатопе, дзе жыў, у 1866 г. налічвалася 2 177 двароў, у якіх пражывала 8 976 чал. Знешнім выглядам мястэчка мала чым адрознівалася ад іншых навакольных пасяленняў. Вуліцы — вузкія і крывыя, жылыя і гаспадарчыя пабудовы туліліся адна да адной і былі крыты саломай, што было даволі частай прычынай спусташальных пажараў. Прамысловасць — нязначная. Працавалі толькі два заводы: медаварны ды васкабойны, якія давалі гадавых прыбыткаў 2 тыс. руб., ды чыгуначныя майстэрні (1869 р.). У мястэчку праходзілі тры сямідзённыя кірмашы. Канатоп з’яўляўся адным з цэнтраў хлебнага гандлю. Унутрыгарадскі гандаль традыцыйна знаходзіўся ў руках яўрэяў. Гандлёвых крамаў і лавак было 80, харчэвень — 11 (і ўсе яны адчыненыя ў 1862 г.), пастаялых двароў — 3. Акрамя гэтага, у мястэчку існавалі дзве навучальныя ўстановы — павятовае і парафіяльнае вучылішчы, а таксама шпіталь на 25 ложкаў. Для паліцэйскага ўпраўлення горад падзялілі на 3 кварталы.

15 верасня 1874 г. Багушэвіч ўзяў шлюб з дваранкай Габрыэлай Шклённік. У Нежыне ў гэты час быў касцёл св. Пятра і Паўла, але вянчанне хутчэй за ўсё адбылося ў Беларусі. Для шлюбу атрымаў адпачынак на 21 дзень з 1 верасня 1874 г. Маладыя пабывалі у родзічаў у Віленскай і Кіеўскай губернях.

2 кастрычніка 1875 г. у Багушэвічаў нарадзілася дачка Канстанцыя, а 29 снежня 1881 г. — сын Тамаш [12, арк. 13,14, 28].

---

[1] Губернскае праўленне — орган кіравання, падпарадкаваны губернатару. Мела пастаянны штат і адказвала за кіраванне губерняй у шырокім сэнсе. Практычна займалася пераважна разборам скаргаў на іншыя органы кіравання.

Сям'я жыла ў Канатопе ў наёмнай кватэры. Жонка клапацілася пра здароўе мужа, займалася выхаваннем дзяцей. Сам ён засяроджваў увагу на адказным выкананні сваіх абавязкаў, разбіраўся ў разнастайных пабытовых справах жыхароў горада.

У Нежынскім архіве захаваліся два цікавыя лісты, якія мелі канфідэнцыяльны характар і датычылі службовай біяграфіі Багушэвіча [12, арк. 21, 22]. 30 чэрвеня 1875 г. выконваючы абавязкі кіраўніка канцылярыі Міністэрства юстыцыі звярнуўся да кіраўніка Нежынскага акруговага суда Э. Ф. Бострам з лістом, у якім прасіў даць характарыстыку службовай дзейнасці і маральных якасцей Багушэвіча, а таксама выкласці меркаванне, ці зможа ён з карысцю для службы па сваіх здольнасцях і скіраванасці працы заняць пасаду члена Акруговага суда. На што Бострам даў станоўчы адказ. Пасля гэтага паміж Міністэрствам юстыцыі і Нежынскім акруговым судом завязалася афіцыйнае ліставанне, якое цягнулася доўгі час. Бострам афыцыйна звярнуўся да Багушэвіча з прапановай падрыхтаваць дакладную запіску пра сябе. Адсылаючы яе старшыні Нежынскага акруговага суда 2 студзеня 1879 г., Багушэвіч заўважыў: «Надаючы Вашай годнасці ў адпаведнасці з цыркулярам Міністэрства юстыцыі ад 28 красавіка 1876 года за № 7034 дакладную запіску на імя пана міністра юстыцыі пра наданне мне пасады члена акруговага суда, маю гонар шчыра прасіць спрыяння Вашай годнасці ў задавальненні майго прашэння, на выпадак, калі яно будзе прызнана годным». На рэзалюцыі дакумента чытаем: «Багушэвіч са сваімі здольнасцямі і дбайнасцю да службы з'яўляецца цалкам годным пасады, якую ён просіць» [12, арк. 28, 36].

Тым не менш, нейкая невядомая нам прычына не дазволіла Багушэвічу заняць пасаду ў акруговым судзе і ён працягваў выконваць абавязкі судовага следчага 1-га ўчастка Канатопскага павета.

Жыхары Канатопа ацанілі плённую працу Багушэвіча. Канатопская гарадская ўправа накіравала ў Нежынскі акруговы суд 10 студзеня 1876 г. зварот, у якім зазначалася: «Галосныя гарадской думы на пасяджэнні яе 9 лістапада 1875 года заявілі, што большасць жыхароў горада Канатопа даволі добразычліва ставіцца да карыснай дзейнасці выконваючага службовыя абавязкі судовага следчага Нежынскага акруговага суда пана Багушэвіча, дбайнай працы якога, без сумніву, абавязаны ўсталяванню з пэўнага часу бяспекі і спакою адносна крамолы, якая так часта праяўляла сябе да прыбыцця пана Багушэвіча ў горад Канатоп, калі жыхары знаходзіліся ў поўнай небяспецы. Такая беззаганная добрасумленнасць і карысная дзейнасць пана Багушэвіча, на іхнюю думку, заслугоўвае выказвання глыбокай удзячнасці жыхароў горада Канатопа. Выслухаўшы ўсё гэта, дума пастанаўляе: выказаць шчырую падзяку горада Канатопа выконваючаму службовыя абавязкі судовага следчага п. Багушэвічу праз Нежынскі акруговы суд за яго беззаганную і карысную дзейнасць на службе следчага ў горадзе Канатопе, про што гарадская ўправа мела гонар паведаміць Акруговаму суду на яго распараджэнне для давядзення да ведама начальства і шчыра просіць у будучым паведаміць гарадскую ўправу.

Гарадскі галава Гаравы.

Сакратар

№ 28.

1876 года студзеня 10 дня». [12, арк. 20].

Гэты ліст меў пэўны ўплыў на кар'еру Багушэвіча. 31 снежня 1876 г. за выключна дбайную службу яму надалі званне кавалера ордэна св. Станіслава 3-й ступені. А 6 студзеня 1882 г. ён нарэшце быў прызначаны загадам міністра юстыцыі судовым следчым у той самай акрузе і таго ж самага суда [12, арк. 37]. Калі да гэтага толькі выконваў абавязкі, то з абвяшчэннем загада паўнавартасна атрымоўваў пасаду, адпаведную званню. 15 траўня 1883 г. Багушэвіча зноў узнагародзілі ордэнам — на гэты раз Ганны 3-й ступені.



*Канатоп. Пачатак. XX ст.*

На жаль, у 1880 г. Багушэвіч захварэў і не змог своечасова вярнуцца з водпуску. Доктар г. Ашмяны Л. Волчанскі ў сваім пасведчанні зазначаў, што хвароба органаў дыхання знаходзілася ў настолькі сур'ёзнай форме, што не магло быць і размовы пра перамяшчэнне хворага [12, арк. 43].

Пасля лячэння, працягваў працаваць у Канатопе. Аднак 3 красавіка 1882 г. папрасіў старшыню Нежынскага акруговага суда паспрыяць аб прызначэнні яго членам Сувалкскага акружнога суда. І на гэты раз старшыня падтрымаў Багушэвіча, адзначаючы яго станоўчыя якасці [12, арк. 49]. Але ж прашэнне не мела станоўчага вырашэння.

Тым часам здароўе пагоршвалася. 25 лістапада 1883 г. Багушэвіч быў вымушаны прасіць Нежынскі акруговы суд звольніць яго ад службы і даць водпуск для медычнага абследавання і лячэння, для чаго дазволіць выехаць у Вільню. А 23 сакавіка 1884 г. напісаў прашэнне ў суд выдаць яму найхутчэй атэстат пра службу і копію фармулярнага спіска, а таксама іншыя дакументы, выслаўшы іх у горад Вільню ў акруговы суд, бо ён звальняўся канчаткова з працы і пакідаў Украіну [12, арк. 60, 61, 66, 67].

Загадам па Міністэрстве юстыцыі ад 14 сакавіка за № 17 быў звольнены са службы з наданнем права насіць у адстаўцы мундзір, адпаведны пасадзе. Акрамя гэтага, указам Урадавага Сената за № 79 11 жніўня 1884 г. Багушэвіча павысілі за выслугу гадоў у надворныя раднікі са старшынствам [12, арк. 68,73].

Так завяршылася кар'ера Багушэвіча-юрыста на Чарнігаўшчыне, а таксама і перыяд яго жыцця ва Украіне. Даследчыкам яшчэ неабходна прыкласці нямала высілкаў, каб больш поўна раскрыць жыццё і творчасць вядомага беларускага пісьменніка ў Чарнігаўскім краі.

Службовая дзейнасць яго ва Украіне адзначалася грамадзянскай прынцыповасцю, добрасумленнасцю, увагай да простых людзей, у тым ліку да прадстаўнікоў бяднейшага сялянства. У парэформенны час даволі часта ўзнікалі зямельныя канфлікты паміж памешчыкамі і сялянамі. Архіўныя дакументы сведчаць, што Багушэвіч быў свядомым абаронцам інтарэсаў украінскіх сялян [13].

У свой украінскі перыяд жыцця таксама даволі актыўна займаўся літаратурнай дзейнасцю — не толькі ў студэнцкія гады, а і пазней. У сувязі з тым, што пісьменнік не пазначаў дат напісання свах твораў, то цяжка ўстанавіць, якія з іх адносяцца да часу знаходжання на Чарнігаўшчыне, і гэтыя творы не выяўлены да нашага часу.

Адметна, што дзяржаўны чыноўнік пісаў па-беларуску, а беларуская мова была ў той час, як і ўкраінская, забаронена. Пад псеўданімам «Мацей Бурачок» Багушэвіч выпусціў вершаваны зборнік «Дудка беларуская» (1891), а пад псеўданімам «Сымон Рэўка з-пад Барысава» надрукаваў «Смык беларускі» (1894). Вершы паэта забараняліся, бо яны рэвалюцыянізавалі сялянскія масы і будзілі да барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызвалення. Амаль усе празаічныя творы яго загінулі. Паэт з болем казаў пра немагчымасць данесці да народа праўду:

Ой, нашто-ж мне дана тая мая мова,
Як я не умею сказаць тое слова,
Каб яго пачулі, как яго пазналі,
Каб яго, то слова, ды праўдай назвалі;
Каб і разышлося то слова па свеце,
Як праменне сонца цёплага у леце;
Каб на тое слова ды людцы зрадзелі
Так, як тыя дзеткі на святой нядзелі;
Каб-жа тое слова ды людцоў з’яднала,
Каб на тое слова ворагаў не стала;
Каб людцы прызналі братоў ды братамі —
Дзяліліся-б доляй і хлебам шматамі,
А без таго слова я — нямы калека!
Хоць-бы занямець мне і да канца века!

(*«Праўда»*).

Францішак Багушэвіч выступае як народны паэт, абаронца інтарэсаў простага люду. Ён паважае народную працу і чалавека працы, асуджае тых, хто нажываўся, эксплуатуючы іх. Ён марыць пра волю для народа.

Сорак гадоў б’юся,
Ніяк не звярнуся,
Ніяк не натраплю
Вадзіцы хоць каплю,
Ды такой вадзіцы,
Ды з такой крыніцы,
Што, як хто нап’ецца,
Дык вольным стаецца.
Грай, вясёла-ж грай,
Або долю дай!..

(*«Мая дудка»*)

Галоўны герой твораў Багушэвіча — народ, які не толькі пакутаваў, але і ненавідзеў сваіх прыгнятальнікаў, намагаўся весці з імі барацьбу.

Паэт у сваёй творчасці выкарыстоўвае элементы фальклору, а таксама лепшыя традыцыі дэмакратычнай расійскай літаратуры. Ідэйна-тэматычная скіраванасць паэзіі Ф. Багушэвіча блізкая да твораў М. Някрасава і Т. Шаўчэнкі, мастакоў слова, якіх ён так любіў і паважаў і ў творчасці якіх знаходзіў мноства палкіх слоў пра народ і яго жыццё. Выкрываючы пануючыя класы, Багушэвіч, выкарыстоўвае сатырычныя прыёмы. Тут неабходна заўважыць, што падчас навучання ў Нежынскім юрыдычным ліцэі ён пазнаёміўся і з паэзіяй Т. Шаўчэнкі, «Кабзар» якога распаўсюджваўся сярод мясцовых студэнтаў ды дэмакратычнай інтэлігенцыі. Знаёмства з творамі Шаўчэнкі тлумачыць агульнасць тэматыкі твораў абодвух паэтаў.

Як юрыст, Багушэвіч добра ведаў, у якіх цяжкіх умовах знаходзіліся сяляне пасля адмены прыгону, калі паны, абакраўшы іх, пакінулі толькі пакуты ды цяжкае расчараванне. І ніхто іх не хацеў абараніць:

Судоў нарабілі, начальстваў ці мала:
Пасрэднік і воласць, сінод і сенаты,
Прысуцтвы і вокруг, управы, палаты;
А найбольш міравых, участковых і з’ездаў,
Што ў полі камення, што гвездаў!
Затое-ж жыцце цяпер труднае стала

(*«Як праўду шукаюць»*)

У вершы «У судзе» Багушэвіч дэтальна апісвае сістэму судаводства, выкрываючы крывадушнасць пракурора і адваката, якія менш за ўсё турбуюцца пра безабароннага селяніна Пантурку, якога ні за што пасадзілі ў вязніцу. Паэт рэзка крытыкуе суд, выкрывае яго несправядлівасць у вершах «Кепска будзе!» і «У астрозе». У аснову гэтых твораў паэт паклаў судовыя выпадкі, якія часта сустракаліся ў яго паўсядзённай практыцы судовага следчага.

У вершы «У астрозе» распавёў пра тое, як мужык адлупцаваў урадніка, за што яго і пасадзілі «ў астрог». У чым жа прычына, за што ён яго біў:

— За тое, мы кажам, што надта ён ласы:
Што любе яешню, курэй і каўбасы;
Унадзіўся надта ён лазіць па хатах
Ды нюхаць, каторай муж служа ў салдатах.

Словамі аднага з герояў верша «Ахвяра» Багушэвіч раскрывае сваю грамадзянскую пазіцыю:

Каб я панам ніколі не быў:
Не жадаў бы ніколі чужога,
Сваё дзела як трэба рабіў.
Каб прад меншым я носу не драў,
А прад большым ня корчыў спіны,
Каб грэх свой прад сабой я пазнаў,
У другіх каб ня відзеў віны;
Чужых жон каб ня вёў да граху,
А сваю каб як трэба любіў,
Каб мне дзеці былі у слуху,
Каб я бацькам для іх век дажыў,
Каб людзей прызнаваў за братоў,
А багацтва сваё меў за іх;
Каб за край быў умерці гатоў,
Каб не прагнуў айчызны чужых...

Цяжка прабівалася да чытача слова Багушэвіча, бо на бацькаўшчыне яно забаранялася. Адзін з віленскіх цэнзараў у сувязі з намаганнем паэта выдаць зборнік вершаў «Беларуская скрыпачка» пісаў: «Не кроется ли в такого рода произведениях тенденция, кроме «малорусской», создать ещё и белорусскую литературу... Указанная рукопись не может быть разрешена к печати» [15, с. 7.]. А Багушэвіч прагнуў, каб беларуская мова гучала і развівалася. У прадмове да зборніка «Дудка беларуская» ён сцвярджаў: «...трэба знаць суседскую мову, але найперш трэба знаць сваю», «язык і ёсць адзежа душы» і заклікаў: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» [14, с. 26].

Сваёй творчасцю Багушэвіч адгарнуў новую старонку ў гісторыі беларускай літаратуры. Акадэмік Я. Карскі — яшчэ адзін геній Беларусі, які адукацыю атрымаў у Нежыне, — адзначаў, што паэт «даў сапраўдны штуршок і беларускаму нацыянальнаму руху, і развіццю беларускай літаратуры».

Як бачым, жыццёвы лёс Багушэвіча цесна павязаны з двума братнімі народамі — беларускім і ўкраінскім, іх культурамі, звычаямі, мовамі. Прыналежнасць

да дзяржаўнага чынавенства царскай Расіі не замінала яму заставацца патрыётам і выразнікам інтарэсаў гэтых народаў. Па-іншаму не магло быць, бо ён стаяў на пазіцыях патрыятызму і абароны простога люду, верыў у роднасць і ўзаемападтрымку нашых народаў, спадзяваўся, што іх мова будзе гучаць вольна ў садружнасці з іншымі. Гэты запавет ён пакінуў і на сёння — развіваць і надалей слаўныя традыцыі нашых вялікіх продкаў.

## Спіс літаратуры:

1. Неділько Г. Я. Франтішек Багушэвіч на Україні // II навукова конферэнція па вівченню беларуско-украінскіх зв'язків. Тезі доп. — Львів. 1972. — С. 23—25; Неділько Г. Я. Шевченківскі традіції у творчості Ф. Багушэвіча // Т. Шевченко в інтернаціональніх літаратурніх зв'язках. — К., 1981. — С. 43—57; Васільківскій Г. П. Францішек Казіміровіч Багушэвіч // Навукові запіскі: Нежын. держ. пед. ін-ту ім. М. В. Гогаля. — Т. XI; віп.1. — Нежын, 1960. — С. 157—167; Самойленко Г. В. Нежынская філологіческая школа. 1820—1990. — Нежын, 1993. — С. 105—107 Самойленко Г. В. Нарісі культурі Нежына. Ч. 1: Літаратура. — Нежын, 1995. — С. 44—45 Самойленко Г. В. Літаратурне жыття Чернігівщіні в XII—XX ст. — Нежын, 2003. — С. 80—82.

2. Эйнгорн В. Очерки из истории Малороссии в XVII веке. Сношения малороссийского духовенства в царствование Алексея Михайловича — М, 1899.

3. Самойленко Г. В., Самойленко О. Г., Самойленко С. Г. Нарісі культурі Нежына XVII—XX ст. : У 5 ч. — Нежын, 1995—1998.

4. Самойленко Г. В., Самойленко О. Г. Нежынска вішча школа: сторінкі історії. — Нежын, 2005. — 420 с.

5. Сребницкий И. А. Лицей князя Безбородко // Гимназия высших наук и Лицей кн. Безбородко. — СПб., 1881.

6. Аддзел Чарнігаўскага абласнога архіва ў Нежыне (далей — АЧААН). Ф. 1359, воп. 1, адз. зах. 662.

7. АЧААН, фонд 343, воп. 1, адз. зах. 955. Прошения дворян Нежинского уезда Нежинскому уездному предводителю дворянства о выдаче им свидетельств, подтверждающих их происхождение. 1865 год.

8. АЧААН, фонд 1359, оп. 1, адз. зах. 701.

9. Сребницкий И. А. Из истории Лицея кн. Безбородко (1832—1875). — Нежин, 1895. — С. 16.

10. АЧААН, ф. 1359, воп. 1, адз. зах. 437.

11. АЧААН, ф. 1359, воп. 1, адз. зах. 649, арк. 151.

12. АЧААН, ф. 358, воп. 1, адз. зах. 327, арк. 3—5. Дело председателя Нежин. окружного суда.

13. АЧААН, ф. 358, воп. 1, адз. зах. 22881. Нежинский окружной суд; ф. 242, воп. 1, адз. зах. 676. Черниг. окруж. суд. 1820—1919.

14. Багушэвіч Францішак. Выбраныя творы. — Мінск, 1952.

15. Багушэвіч Ф. Избранное: Пер. с белорус. — М. : Гослитиздат, 1953.

16. Гимназия высших наук и Лицей кн. Безбородко. — СПб., 1881. — С. CLXXI-CLXXII.

***Пераклад і каментарыі Валянціны ЛЕБЕДЗЕВАЙ.***

**Ірада МУСАЕВА**

# ЛІТАРАТУРА ЖАНЧЫНЫ ВАЙНЫ

***А мужчыны забыліся пра сваіх баявых сябровак, здрадзілі ім. Укралі ў іх Перамогу. Не раздзялілі...***

«...У нашых вёсках у Дзень Перамогі не радуюцца, а плачуць. Шмат плачуць...»

«...Мы гэтулькі гадоў маўчалі, нават дома маўчалі. Дзясяткі гадоў. Першы год, калі я вярнулася з вайны, я гаварыла-гаварыла. Ніхто не слухаў. І я замоўкла... Добра, што ты прыйшла. Я ўвесь час некага чакала, ведала, што нехта прыйдзе. Павінен прыйсці...»

Беларуская пісьменніца, Нобелеўскі лаўрэат Святлана Алексіевіч пачынае свой твор «У вайны не жаночае аблічча» простым сказам: «Пішу кнігу пра вайну... Я, тая, хто не любіла чытаць ваенныя кнігі...»

Святлана Алексіевіч пісала свой раман не ў кабінеце. Яна пабывала ў многіх дамах, перагарнула сотні дакументаў, гісторый, пісьмаў, памятных запісаў, ваенных альбомаў. Выслухала аповеды дзясяткаў жанчын, паміралa і ўваскрасала разам з імі, плакала на іх плячах, перажыла тое, што выпала на іх долю. Здрыганулася ад пачутага, а затым узялася за напісанне гэтага летапісу цяжкіх пакут жанчын вайны.

Выклікае цікавасць год напісання рамана. Вяртанне да гісторыі вайны праз 40 гадоў — гэта значыць з'яўленне новага, зусім іншага погляду на падзеі таго часу. Значыць, напісанае раней не задавальняла аўтара. Святлана Алексіевіч, якая не любіла чытаць і пісаць пра вайну, была вымушана адлюстраваць сапраўдны твар вайны, выкласці ўсю праўду пра яе. Аднак доўгі час яе рукапіс адвяргаўся выдавецтвамі, ніхто не хацеў друкаваць гэты раман. А прычына ў тым, што вайна ў яе творы жахлівая і страшная. Шмат у яе апісаннях таго, што пужае, шмат натуралізму, не паказана кіруючая роля Камуністычнай партыі і г. д.

«Адным словам, не тая вайна... Якая ж яна — тая? З генераламі і мудрым генералісімусам? Без крыві і вошай?»

Прачытаўшы раман, я зразумела, што вайна, якая апісана ў розных творах, гэта не вайна «41-га». Святлана Алексіевіч паказала іншы твар вайны, расказаўшы не пра перамогу «дзяўчынак 41-га», а пра страчаныя імі шчасце, жаноцкасць і мары... Тут я ўсвядоміла, што парад перамогі, майскія кветкі, прымацаваныя да танкаў, салдацкіх касак, кадры, на якіх людзі кідаюцца на шыі ветэранам, палымяныя сачыненні пра Дзень Перамогі (раздуты вобраз вайны), знаёмы нам з дзяцінства — усё гэта, як аказалася, зусім не так весела, як нам хацелі паказаць... Вайна завяршылася, усе павінны былі радавацца, пранікнуцца настроем перамогі, павінны былі пісаць лозунгі, складаць песні, вершы ў гонар Вялікай Перамогі, аднак у дзяцей засталіся пытанні, па іх дзіцячай логіцы вайна яшчэ не завяршылася, бо на іх пытанні яшчэ не былі атрыманы адказы. Хлопчык суседзяў аднойчы спытаў мяне: «А што людзі робяць пад зямлёй? Як яны там жывуць?» Нам таксама хацелася разгадаць таямніцу вайны.

Вясковыя падлеткі доўга яшчэ гулялі ў «немцаў» і «рускіх». Крычалі нямецкія словы: «Хендэ хох!», «Цурук!», «Гітлер капут!»

Мы не ведалі свету без вайны, свет вайны быў адзіна знаёмым нам светам, а людзі вайны — адзіна знаёмымі нам людзьмі. Я і зараз не ведаю іншага свету і іншых людзей. А ці былі яны калі-небудзь?

«У школе нас вучылі любіць смерць. Мы пісалі сачыненні пра тое, як хацелі б памерці ў імя... Марылі...»

Да Святланы Алексіевіч у вайны быў толькі мужчынскі твар, яна ўяўлялася праявай «мужчынскага гераізму». Жанчыны былі адсунуты на другі план. У лепшым выпадку яны паўставалі ў вобразах «памагатых тылу», гэтакай дапаможнай сілай... «Пісалі мужчыны пра мужчын — гэта стала зразумела адразу. Усё, што нам вядома пра вайну, мы ведаем з “мужчынскага голасу”. Мы ўсе ў палоне “мужчынскіх” уяўленняў і “мужчынскіх” адчуванняў вайны. “Мужчынскіх” слоў. А жанчыны маўчаць. Ніхто ж, акрамя мяне, не распытваў маю бабулю. Маю маму. Маўчаць нават тыя, хто быў на фронце. Калі раптам пачнуць успамінаць, то расказваюць не “жаночую” вайну, а “мужчынскую”...»

Святлана Алексіевіч вывела жанчын з ценю мужчын. Тут успомнілася мне думка, выказаная турэцкай пісьменніцай Эліф Шафак: «Мужчыны пішуць, а жанчыны чытаюць». «...Пісьменнікамі, рэдактарамі, крытыкамі, выдаўцамі з’яўляюцца, у бальшыні сваёй, мужчыны, яны займаюць вядучыя службовыя пасады. Гэта яшчэ раз пераконвае, што мужчыны пішуць, а жанчыны чытаюць, таму што жанчыны складаюць большую частку чытацкай аўдыторыі. У прыватнасці, так складваюцца справы ў мастацкай літаратуры. Я сказала б, што 85 працэнтаў чытачоў складаюць жанчыны. Гэта зноў пацвярджае, што жанчыны чытаюць, а мужчыны пішуць. Я хачу ўбачыць, як зменіцца гэта становішча».

Пачынаючы пісаць свой раман, Святлана Алексіевіч хацела толькі аднаго: «Хачу напісаць гісторыю гэтай вайны. Жаночую гісторыю».

Гэтыя словы належаць не феміністцы, пісьменніцы, якая лічыцца «ворагам мужчын». Гэта шчырае адлюстраванне пражытага, рэальнай, праўдзівай карціны. Галоўнымі героямі рамана Святланы Алексіевіч з’яўляюцца жанчыны, якія больш за ўсіх пацярпелі ў час вайны, і пра якіх забыліся на свяце Перамогі, жанчыны, вядомыя ў ваеннай літаратуры па эпізадычных вобразах. Аўтар выступае ў ролі адваката жанчын, абражаных па прыкмеце пола, адзначаных за праяўленыя на вайне гераізм і адвагу, а пасля вайны крывадушна забытых, абыдзеных увагай, прадстае ў ролі адваката маралі. У выніку мы становімся сведкамі перамогі аўтара-адваката на «судзе». Гэтым жанчынам выдаецца «кампенсацыя» за панесеныя маральныя страты... Чытачы, гісторыкі, літаратары, прадстаўнікі ўсіх маральнадухоўных галін, вымушана схіляюць галовы перад раструшчаным духам, знішчаным жыццём, страчаным каханнем, і самае галоўнае, адабранымі правамі гэтых жанчын. Хутчэй за ўсё, гэтых жанчын ужо няма сярод жывых, яны завяршылі сваё ваеннае і зямное жыццё. І ўжо немагчыма вымаліць у іх дараванне. Аднак войны не заканчваюцца, аблічча вайны не змяняецца, зноў і зноў жанчын будуць прыгнятаць, крыўдзіць на вайне, болей усіх, менавіта яны будуць галасіць і пакутаваць, застаўшыся сам-насам з болем і крыўдай...

Нам, як грамадзянам краіны, якія жывуць у стане вайны, гэтыя пачуцці выдатна знаёмыя, мы параднiліся з імі. На працягу 25 гадоў мы спрабуем распазнаць палітычнае, грамадскае, ваеннае і нават эстэтычнае аблічча вайны, лепш разгледзець яе. У нашай маўклівай вайне ёсць свой асаблівы вобраз, але гэта ўжо зусім іншая тэма...

З любога ракурсу вайна — гэта зло, пакуты, гора, цемра, дзікунства і жахі. Вайна супраць усяго светлага і добрага... На вайне пакутуе не толькі чалавек, яна разбурае гнёзды птушак, жытлы іншых жывых істот. Вайна спальвае траву, робіць мёртвымі кветкі, зямля бывае акрываўленай, гараць у полымі хаты, разбураюцца агароджы, дахі, жонкі становяцца ўдовамі, дзеці — сіротамі, маці атрымліваюць статус «маці героя», бацькі ходзяць са згорбленай ад гора спінай, гісторыя спальваецца, карціны, помнікі па-дзікунску знішчаюцца. Але самае жахлівае — нараджэнне ў людскіх сэрцах сіндрому «вайны пасля вайны», наступствы і пастаянны тупы боль...

Нядаўна ў сацыяльных сетках былі распаўсюджаны фрагменты баёў «красавіцкай вайны». Сцягі, радасць, сумныя здымкі, звязаныя са смерцю салдат, якія сталі шахідамі, статусы — усё тое, што здаецца абсурдным і заканамерным, і складае аблічча вайны. Сярод усяго ўбачанага і прачытанага маю ўвагу прыцягнула адна нататка і фотаздымак: маці, апранутая ў чорнае, жалобнае, падставіла плячо пад труну сына. Трэба ведаць законы веры, каб асэнсаваць, як, чаму адважылася яна на гэты ўчынак. Гэта, можа быць, першае такое парушэнне ісламскіх традыцый. На самай справе такі ўчынак стварыў новы вобраз жанчыны вайны — вобраз маці з рэвалюцыйнай душою. Відаць, нішто не змагло і ніхто не змог спыніць маці, у якой сэрца разрывалася на часткі. Яна несла перад натоўпам труну сына з гонарам, быццам салдат, які трымае пераможны сцяг.

Па мусульманскай традыцыі маці павінна была сядзець каля мулы ў жалобнай палатцы і гараваць па сыне, плакаць па ім, аднак тут вобраз маці вылучаецца на першы план, уяўляючы сабой вобраз жанчыны вайны, трагедыі. Тым самым выяўляецца пратэст, паўстанне, барацьба, воля і рашучасць. Яна — не проста маці, а маці сына, які загінуў на вайне ў імя Радзімы. У гэты дзень мужчыны прысвоілі ёй званне «маці героя», дазволіўшы падставіць плячо пад труну сына і працесці яе, правесці яго ў апошні шлях... Гэта — гісторыя, вобраз адной з жанчын нашай вайны... Пакуль не літаратурны вобраз...

У час вайны гераіні кнігі «У вайны не жаночае аблічча» засвоілі зусім не жаночыя прафесіі — санітар, інструктар, снайпер, кулямётчык, камандзір зенітных гармат, мінашукальнік, а пасля вайны яны працавалі лабарантамі, экскурсаводамі, бухгалтарамі, настаўнікамі... Гэтыя жанчыны, распавядаючы пра сваё баявое мінулае, быццам расказваюць не пра свой лёс, а пра нейкіх іншых людзей, аддаючыся рамантыцы. Раздваенне асоб (ангел і забойца) гэтых жанчын часта пакідае ў ценю іх сапраўдную сутнасць. «Мы бралі палонных, прыводзілі ў атрад... Іх не расстрэльвалі, дужа лёгкая смерць для іх, мы заколвалі іх, як свінней, шомпаламі, рэзалі па кавалачках. Я хадзіла на гэта глядзець... Чакала! Доўга чакала таго моманту, калі ад болю ў іх пачнуць лопацца вочы... Зрэнкі... Што вы пра гэта ведаеце?! Яны маю маму з сястрычкамі спалілі на вогнішчы пасярод вёскі...»

«Чалавек больш чым вайна», — сцвярджае аўтар, даказваючы сваім творам, што характар, ход, пачатак, канец, палітыка, стратэгія вайны вядомыя, чалавек жа непрадказальны... Чалавек больш чым вайна, ён складанейшы: складана гаварыць, складана пісаць пра яго, складана апісваць яго. Аўтар прагна ўслухоўваецца ў маналогі сталых жанчын, некалі маладых дзяўчат, якія выраслі і пасівелі на вайне, і жадаюць забыцца на сваё мінулае, забыць успаміны мінулых ваенных гадоў. «Я слухаю... Усё больш ператвараюся ў адно вялікае вуха, увесь час павернутае да іншага чалавека. Я “чытаю” голас... Магчыма, “Раман галасоў”, напісаны Святланай Алексіевіч пазней, стаў удалай знаходкай тонкасцей гэтых “галасоў”...»

Пісьменніца разглядае вайну ўдалечыні ад пафасных, палымяных выказванняў «агонь», «стральба», «крык», «перамога», «паражэнне», «танк», «гармата», «аўтамат» і інш., называючы вайну «інтымным перажываннем», бачыць у гэтым перажыванні пакуты чалавека, яго здратаваны, згвалтаваны лёс.

Яна знайшла новую форму, стыль, сродак выкладання і сюжэт для свайго рамана. У яе твор па-майстэрску ўплецены гістарычныя матэрыялы, літаратурныя сюжэты, аўтарскія вобразы, падыходы і нават крытычны аналіз. Аўтар тлумачыць кожную ідэю, падзею і апісанне, прытрымліваючыся агульнай гармоніі, інтанацыі тэксту. Задумваешся: чаму гэта ўсё не дазваляе выказаць крытыку твора? Няўжо ўсё так бездакорна? Аднак літаратурна-мастацкія, часам выразна публіцыстычныя апісанні і аналіз бездакорныя, моцныя і лагічныя, усё, як роўныя цаглінкі ў канструкцыі сцяны, — да месца, усё — неад’емныя часткі, элементы сюжэта.

«Аднаго разу жанчына (лётчыца) адмовілася са мной сустрэцца. Патлумачыла па тэлефоне: «Не магу... Не хачу ўспамінаць. Я была тры гады на вайне...

І тры гады я не адчувала сябе жанчынай. Мой арганізм амярцвеў. Менструацыі не было, амаль ніякіх жаночых жаданняў. А я была прыгожая... Калі мой будучы муж зрабіў мне прапанову... Гэта ўжо ў Берліне, ля рэйхстага... Ён сказаў: “Вайна скончылася. Мы засталіся жывыя. Нам пашчасціла. Выходзь за мяне замуж”. Я хацела заплакаць. Закрычаць. Ударыць яго! Як гэта замуж? Зараз? Сярод усяго гэтага — замуж? Сярод чорнага курава і чорнай цэглы... Ты паглядзі на мяне... паглядзі, якая я! Ты спачатку зрабі з мяне жанчыну: дары кветкі, заляцайся да мяне, гавары прыгожыя словы. Я так гэтага хачу! Так чакаю!” Я ледзьве не стукнула яго... Хацела ўдарыць... А ў яго была абпаленая, барвовая адна шчака, і я бачу: ён усё зразумеў, у яго цякуць слёзы па гэтай шчацэ. Па яшчэ свежых рубцах.. І сама не веру гэтаму, што гавару: “Так, я выйду за цябе замуж”. Але расказваць не магу. Няма сіл... Гэта трэба яшчэ раз усё перажыць...»

Гэтыя жанчыны не жадаюць дзяліцца сваім мінулым, успамінамі ні з кім, нават з пісьменніцай, але аўтар настойлівая. «Я яе зразумела. Але гэта таксама старонка ці паўстаронкі кнігі, якую я пішу», — адказвае аўтар, але, у сапраўднасці, яна не столькі збірае матэрыял для свайго рамана, колькі наважваецца, жадае аднавіць страчаныя, прыніжаныя правы гэтых жанчын, усталяваць помнік на магіле іх знішчаных, адмерлых пачуццяў, перажыванняў і мар. Святлана Алексіевіч задаецца пытаннем Дастаеўскага: «Колькі чалавека ў чалавеку, і як гэтага чалавека ў сабе абараніць? Несумненна, што зло спакушальнае. Яно шматаблічнейшае за дабро. Прыцягальнейшае».

Аўтар уважліва слухае ўспаміны жанчын, якія прыйшлі на дапамогу на вайне, у крывавых баях, у думках вяртаюцца ў мінулыя гады баявой славы. Разам з імі аўтар слухае адгалоскі тых гадоў, крыкі, перажывае ўзрушэнні. Яна грукаецца ў дзверы іх адзінокага свету, бязвыплатна прапаноўваючы ім свае клопат і ласку: «Раскажыце мне ўсё, я вас разумею». Часам жанчыны, якія прайшлі вайну, выяўлялі занепакоенасць настойлівасцю маладой пісьменніцы, не разумеючы прычыны глыбокай цікаўнасці да іх лёсаў. Быццам іранічна заяўлялі ўслых: «Навошта гэткі інтарэс, галоўнае перамога, і мы яе дасягнулі», пазбягалі гутарак і інтэрв’ю...

Ніхто не мог цалкам зразумець аўтара, не толькі, дарэчы, будучыя вобразы, персанажы рамана, але і паплечнікі па пяры, цэнзары, якія следам за жанчынамі з вайны паўтаралі, пісалі: «Пра дробязі не трэба... Пішы пра нашу Вялікую Перамогу». Аднак Святлана Алексіевіч паглыбілася менавіта ў «дробязі», пачала лічыць страты гэтых яшчэ нядаўна маладых дзяўчат, якія абрэзалі свае косы, якія трацілі прытомнасць, калі ўпершыню сутыкаліся з крывёю і смерцю, якія шылі сабе сукенкі з мешкавіны. Яна вызначае галасы і колер болю, гвалтоўна ўціснутых у жыццё чалавека. А «дробязі» — гэта тое, што для мяне галоўнае — цеплыня і яснасць жыцця; пакінутая чупрынка замест кос, гарачыя катлы кашы і супу, якія няма каму есці — з сотні чалавек вярнулася з бою сем; ці тое, як яны не маглі хадзіць пасля вайны на базар і глядзець на чырвоныя мясныя рады... Нават на чырвоную тканіну...

Адна з гераінь Святланы гаворыць ёй: «Ах, мая харошая, ужо сорак гадоў мінулася, а ў маім доме ты не знойдзеш нічога чырвонага. Я ненавіджу пасля вайны чырвоны колер!» Гэта не проста выбар колеру і падыход да яго выбару, гэтыя жанчыны страцілі любоў да чырвонага колеру, увасабляючага лепшыя дні ў жыцці, для іх ён асацыіруецца з крывёю... Самае дзіўнае, што пазней яны самі жадалі пабачыць маладую пісьменніцу, якая сваімі пытаннямі прымусіла іх зазірнуць у мінулае. «Так, яны шмат плачуць. Крычаць. Пасля майго сыходу глытаюць сардэчныя таблеткі. Выклікаюць “хуткую”. Але ўсё адно просяць: “Ты прыходзь. Абавязкова прыходзь. Мы так доўга маўчалі...”» Аўтар піша: «Слухаю, калі яны гавораць... Слухаю, калі яны маўчаць... Усё ў іх: і словы, і маўчанне — для мяне тэкст».

«Я да Берліна з арміяй дайшла. Вярнулася ў сваю вёску з двума ордэнамі Славы і медалямі. Пажыла тры дні, а на чацвёрты мама падымае мяне з ложка

і гаворыць: “Дачушка, я табе сабрала вузельчык. Сыходзь... Сыходзь... У цябе яшчэ дзве малодшыя сястры растуць. Хто іх замуж возьме? Усе ведаюць, што ты чатыры гады была на фронце, з мужчынамі...” Не чапайце маю душу. Напішыце, як іншыя, пра мае ўзнагароды...»

Ці можна сустрэць большую няспраўядлівасць у жыцці? Апісанне гэтага эпізоду пераварочвае чалавечы дух. Пакінуўшы ў баку дзяржаву, грамадства і палітыку, калі твае бацька, маці, любімыя і родныя людзі ўшчамляюць твае правы, адвяргаючы твае ісціны, «клапатліва» выправаджваюць цябе, не саромеючыся развітацца з табою пад прычынай «вайна закончылася, выйшаў час твайго геройства і самаахвярнасці», тады фізічная смерць, забойства, садызм не павінны лічыцца праявай жорсткасці. У час вайны адзін з камандзіраў гаварыў:

— Эх, дзеўкі! Усім вы добрыя, але пасля вайны пабаяцца на вас жаніцца. Рука трапная, талеркай заспусціш у лоб і заб’еш.

Нават франтавыя сябры, якія бачылі праўду сваімі вачыма, тыя самыя, якім гэтыя дзяўчынкі перавязвалі раны, выцягвалі пад градам куль з поля бою, аказвалі дапамогу ў бяспечных месцах, пасля заканчэння вайны не ўсталі на іх абарону, растапталі іх правы... Толькі ва ўспамінах: «Закончылася вайна, яны аказаліся страшэнна неабароненымі. Вось мая жонка. Яна — разумная жанчына, і яна да ваенных дзяўчат дрэнна адносіцца. Лічыць, што яны ехалі на вайну за жаніхамі, што ўсе круцілі там раманы. Хаця на самай справе, у нас жа шчырая размова, гэта часцей за ўсё былі сумленныя дзяўчаты. Чыстыя. Але пасля вайны... Пасля бруду, пасля вошай, пасля смерцяў... Хацелася нечага прыгожага. Яркага. Прыгожых жанчын... У мяне быў сябра, яго на фронце любіла адна выдатная, як я разумею зараз, дзяўчына. Медсястра. Але ён на ёй не ажаніўся, дэмабілізаваўся і знайшоў сабе другую, больш прыгожую. І ён нешчаслівы са сваёй жонкаю. Цяпер успамінае тое, сваё ваеннае каханне, яна была б яму сябрам. А пасля фронту ён жаніцца на ёй не захацеў, таму што ўсе чатыры гады бачыў яе толькі ў стаптаных ботах і мужчынскім ватніку. Мы імкнуліся забыць вайну. І на дзяўчатак сваіх таксама забыліся...»

Так, каб забыць вайну, мужчыны павінны былі забыць і тых жанчын, якіх на працягу чатырох гадоў бачылі ў стаптаных ботах і мужчынскіх ватніках, яны хацелі акуратных, усмешлівых жанчын. А тыя, з фронту, жанчыны забыліся, што такое плакаць і смяяцца. А слёзы ж — адзін з элементаў жаночай прыгажосці, жаночай таямніцы... «Канешне, калі я ўбачыла абгарэлыя камбінезоны, абгарэлыя рукі, абгарэлыя твары... Я... Гэта дзіўна... Я згубіла слёзы... Дар слёз, жаночы дар...»

«Не чапайце маю душу. Напішыце, як другія, пра мае ўзнагароды...» — гаворыць жанчына, якая прайшла вайну, але аўтар цаляе менавіта ў яе душу, піша пра перажытыя ёю пачуцці.

Пасля вайны адносіны да гэтых дзяўчат рэзка пагоршыліся, іх сталі называць сапсаванымі, якія бачылі салдат на вайне «41-га». Ад іх адварочваліся сябры, жаніхі і нават родныя маці... Балюча, ці не праўда? У самым пяшчотным, прыгожым узросце — у 17—18 гадоў з самымі светлымі пачуццямі, шчыра і па ўласным жаданні кінуліся яны ў эпіцэнтр ваенных дзеянняў, у гэтую крывавую, брудную стыхію, страціўшы там усё, а вярнуўшыся дадому героямі — сутыкнуліся яны з папрокамі, абыякавасцю. Вайна перамяніла іх разуменне шчасця: «Спытаецеся ў мяне: што такое шчасце? Я адкажу... раптоўна знайсці сярод забітых жывога чалавека...» (Ганна Іванаўна Бяляй, медсястра). Альбомы, якія захоўваюць іх успаміны і каханне, змянілі свой змест, яны былі напоўнены фотаздымкамі франтавых таварышаў, якія загінулі.

Успаміны гэтых дзяўчат, якія захоўваюць у сабе бясконцую колькасць дэталяў, выклікаюць спачуванне ў нашых сэрцах. Аўтар акцэнтуе ўвагу на некаторых аспектах іх успамінаў, перадаючы настрой, з якім яны адпраўляліся на фронт. Яны не ведаюць пра нізасць, подласць, жорсткасць, сілу, грубасць, смерць, кроў. Дарожныя сумкі гэтых дзяўчынак былі запоўнены ўсемагчымымі ўпрыгожваннямі, цукеркамі, абуткам на абцасах, спадніцамі, бігудзямі....

«Ваенкам пытаецца: “Куды вас накіраваць?” Я яму кажу: “А сяброўка мая куды пойдзе? Мы з ёю разам у Ленінградскую вобласць прыехалі, яна працавала ў суседняй вёсцы”. — Ён смяецца: “Яна тое ж самае спыталася”. Узяў мой чамадан, каб паднесці да паўтаратонкі, якая везла нас да станцыі: “Што ў вас там такое цяжкае?” — “Цукеркі. Цэлы чамадан”. Ён замоўк. Перастаў усміхацца. Я бачыла, што яму неяк не па сабе, нават неяк сорамна зрабілася. Гэта быў немалады чалавек... Ён ведаў, куды мяне праважае...» (Марыя Васільеўна Ціхамірава, фельчар).

«...але я помню, як мы забеглі ў краму, і я купіла там сабе яшчэ адны туфлі на высокіх абцасах. Вось помню, што адступаем, усё чорнае, дымнае (але крама адчынена — цуд!), і мне чамусьці захацелася купіць туфлі. Як зараз памятаю, такія вытанчаныя туфелькі... І духі яшчэ купіла...

Цяжка адразу адмовіцца ад жыцця, якое было дагэтуль. Не толькі сэрца, а ўвесь арганізм супраціўляўся. Памятаю, што радасная выбегла з крамы з гэтымі туфелькамі. Натхнёная. А ўсюды дым... Грыміць паўсюль... Я ўжо была на вайне, але пра вайну яшчэ думаць не хацела. Не верыла. А навокал усё грымела, грукатала...»

«Дзяўчынкі падстрыгалі косы і плакалі. А Ліля Літвак, у будучым праслаўленая лётчыца, ніяк не хацела са сваёй касой развітвацца».

«Днём мы хадзілі ў ботах, а вечарам хоць крышачку ў туфельках перад люстэркам».

Аўтар не губляе з поля зроку і барацьбу гэтых жанчын у пасляваенным жыцці: «Пасля вайны ў жанчын была яшчэ адна вайна. Яны хавалі свае ваенныя кніжкі, свае даведкі аб раненнях — таму што трэба было зноў навучыцца ўсміхацца, хадзіць на высокіх абцасах і выходзіць замуж. А мужчыны забыліся пра сваіх баявых сяброваk, здрадзілі ім. Укралі ў іх Перамогу. Не раздзялілі...»

Пісьменніца разглядае не падзеі самі па сабе, яна аналізуе дух таго, што адбываецца, сочыць за сюжэтам пачуццяў. У рамане вырашаецца пытанне пра тое, ні як здзейснілася нешта, а што адчувалі ў гэты момант жанчыны... Пісьменніца будуе царкву з раскіданых цаглін светлай памяці гераінь вайны. Імёны гэтых жанчын можна было б увекавечыць і без гэтага рамана. Аднак, калі б не было яго, не атрымалася б нагэтулькі шчыра і рэальна адлюстраваць карціну пражытага імі. Раскрываючы сутнасць патрапіўшых на іх долю пакут, выпрабаванняў, гэтыя напаўзабытыя асобы гавораць: «Нам, старым, цяжка жыць... Але не з-за маленькіх і прыніжаючых нас пенсій пакутуем мы. Больш за ўсё баліць тое, што мы выкінуты з вялікага мінулага ў невыносна маленькую сапраўднасць. Ужо ніхто не кліча нас выступаць у школы, у музеі, ужо мы не патрэбныя. Нас ужо няма, а мы яшчэ жывыя. Страшна пражыць свой час...»

На першы погляд, адчуваецца некаторая фрагментарнасць у рамане, быццам ён уяўляе сабой збор успамінаў. Аднак у падтэксце падзеі разварочваюцца ўсё ж на аснове моцнага сюжэта. Аўтар выбудоўвае ланцужок ад рэпрэсій 1941-га (а яшчэ згадвае і даваенны 1937-ы) да рэпрэсій 1947—1948 гадоў. Вайна — бясконцы шлях чалавечых узрушэнняў...

Сталін выслаў бацькоў, братоў, іншых блізкіх людзей гэтых жанчын. Адчуванне болю ад гэтай крывавай раны яны адсунулі на пасля, «пасля вайны», а самі кінуліся ў бой, атрымалі перамогу. Вайна завяршаецца, але праследаваннямі катаваннямі ні канца ні краю. Сталін, які ставіў эксперыменты на маральна-псіхалагічным стане грамадзян, нягледзячы на атрыманую перамогу, зламаў іх маральны дух, стварыўшы велізарную армію маральна падаўленых людзей, якія жылі ў пастаянным страху...

У момант, калі драматызуюцца развагі пра герояў рамана, аўтар узнаўляе грамадска-палітычную карціну той эпохі ў дыялогу пад назвай «З размовы з цэнзарам». Хто пойдзе пасля такіх кніг ваяваць? Вы прыніжаеце жанчыну прымітыўным натуралізмам. Жанчыну-гераіню. Развенчваеце. Робіце яе звычайнай жанчынай. Самкай. А яны ў нас — святыя. Адкуль у вас гэтыя думкі? Чужыя думкі.

Не савецкія. Вы смяецеся з тых, хто ў брацкіх магілах. Рэмарка начыталіся... У нас рэмаркізм не пройдзе. Савецкая жанчына — не жывёла...

У гэтым месцы рамана тэма вайны ўжо разглядаецца на фоне ідэйнай барацьбы. Пісьменніца да канца адсочвае лёсы людзей, якія прайшлі вайну. І становіцца відавочным, што яны, ахвяраваўшы сабою дзеля ідэі, падаюцца пад ярлыком ворагаў той самай ідэі. А пісьменніцу папракаюць у «рэмаркізме»... Яны і яе гістарычныя героі сутыкаюцца твар у твар з абвінавачваннямі, пагрозамі, запужваннем. Святлана Алексіевіч у цяжкіх умовах мірнага часу, «дабрабыту сацыялізму», адкрыта гаворыць жудасную праўду, кідаючы выклік генералам вайны, якія шпацыруюць на парадзе, ідэалогіі, падманнай літаратуры, якая стаіць на службе ў гэтай ідэалогіі, патрыярхам той самай згаданай літаратуры. Пісьменніца праявіла гераізм, напісаўшы сапраўдную гісторыю вайны і жанчыны, якая прайшла праз яе. Выдуманы гістарычны вобраз пачуццяў, душы і перажыванняў, прайшоўшы праз суд літаратурнага, боскага слова, быў апраўданы і літаратуралізаваны... Атрымалася, што гісторыя, якая абапіраецца на факты, прайграла гісторыі, заснаванай на выдумцы. Літаратурна-боскае слова ўпарадкавала аповед выдуманай гісторыі велізарнай трагедыі. Калі выкладаць гісторыю, як ёсць, не будзе літаратуры. Кожны штрых у ваенным лёсе гэтых жанчын з'яўляецца асобнай тэмай літаратурнага тэксту...

Атрымаўшы перамогу на вайне, савецкія людзі, у ліку якіх і гэтыя жанчыны, верылі, што «пасля вайны ўсё зменіцца. Сталін паверыць свайму народу. Але яшчэ вайна не закончылася, а эшалоны ўжо пайшлі ў Магадан. Эшалоны з пераможцамі... Арыштавалі тых, хто быў у палоне, выжыў у нямецкіх лагерах, каго забіралі немцы на работу — усіх, хто бачыў Еўропу. Мог расказаць, як там жыве народ. Без камуністаў. Якія там дамы і якія дарогі. Пра тое, што нідзе няма калгасаў...» Хаця свой зварот да народа ў сувязі з пачаткам вайны Сталін пачаў са слоў: «Браты і сёстры!..» А пасля вайны гэтыя браты і сётры былі пакараны, як ворагі...

Так, гэта праўда: людзі, якія выйгралі вайну, зноў патрапілі пад каток націску і абвінавачванняў. Людзі замоўклі ад страху. Яны маўчалі і баяліся, як у 37-м годзе.

Як відаць са зместу рамана, аўтар не замкнулася на падзеях пяці гадоў (1941—1945). Напісаны ёю твор не ведае часавых межаў, таму што яна піша не пра падзеі і людзей, а — пра гісторыю, працэс душэўных перажыванняў людзей, іх боль і страты. Галоўнымі яе героямі з'яўляюцца пакрыўджаныя, задушаныя пачуцці... Канешне, гэта можа падацца дзіўным. Пішучы гэтыя радкі, я задумалася над думкай С. Алексіевіч, выказанай у адным з інтэрв'ю. Яна казала пра тое, што напісаны ёю «Раман галасоў» увабраў у сябе галасы, якія даносяцца з вуліцы, тэма кнігі раскідана па вуліцах... Пасля вайны ў гэтых дзяўчат пыталіся: «Колькі фашыстаў вы забілі?» А яны крыўдзіліся, не хацелі адказваць на такія пытанні, таму што ў свой час забіць ім было шмат цяжэй, чым памерці. Камандзір гаварыў аб праявах міласэрнасці да ворага: «Спярша фрыцаў трэба выгнаць, а пасля перажываць будзем. Шкадаваць будзем. Пасля... Разумееш, пасля...» Але, на жаль, гэта пачуццё не ўдалося вярнуць... Гэтыя жанчыны ачарсцвелі, сталі бязлітаснымі. Вайна пазбавіла іх самых светлых пачуццяў, у тым ліку і спачування. Усё вымяралася па законах ваеннага часу, як у чорна-белых фільмах: ці белае, ці чорнае, трэцяга не дадзена. «Вось паслухайце. Колькі была вайна? Чатыры гады. Вельмі доўга... Ні птушак, ні кветак не помню. Яны, канешне, былі, але я іх не помню. Так-так... Дзіўна, праўда? Хіба могуць быць каляровымі фільмы пра вайну? Там усё чорнае. Толькі ў крыві іншы колер... Адна кроў чырвоная...» У рамане прысутнічаюць шматлікія вобразы «жанчын, якія расказваюць пра сваю вайну». Розныя інтанацыі, эмоцыі, перажыванні, страхі і слёзы на шчаках... Жанчыны хацелі прадстаць у вобразе герояў, пераможцаў, бо ўсе, хто апытваў іх раней, чакалі ад іх якраз гэтага, але заканчвалі гутарку ў слязах, называлі сябе пераможнымі, зрыну-

тымі, няшчаснымі... Наколькі аўтар перажываў, слухаючы іх гісторыі, настолькі ж быў абыякавым у сваім выкладанні. Нават у самых шчымлівых момантах пісьменніца праяўляе вытрымку. Напрыклад: «...самым невыносным былі для для мяне ампутацыі... Часта такія высокія ампутацыі рабілі, што адрэжуць нагу, і я яе ледзьве трымаю, але нясу, каб пакласці ў таз. Памятаю, што яны вельмі цяжкія. Возьмеш ціхенька, каб паранены не чуў, і нясеш, як дзіця... Маленькае дзіця... Асабліва, калі высокая ампутацыя, далёка за калена. Я не магла прызвычаіцца. Параненыя пад наркозам стогнуць ці крычаць матам. Трохпавярховым рускім матам. Я заўсёды была ў крыві... Яна вішнёвая... Чорная...»

Гэтым дзяўчынкам забаранялася плакаць, «нельга было так шкадаваць, плакаць, як я. Выб'юся з сіл, а параненых многа», — гаварылі яны. Сапраўды, наперадзе іх чакалі доўгія, бяссонныя ночы, бясконцая адзінота, час, калі можна было выплакацца...

У творах пра вайну, якіх хапала ў літаратуры народаў СССР, абавязкова прысутнічалі бакі канфлікту — нападаючы, агрэсар, жорсткі, дзікі, і абаронца — прыгнечаны, справядлівы... Так было і ў фільмах...

А ў рамане «У вайны не жаночы твар» ёсць проста вайна і яе ахвяры — маральныя і фізічныя... Ахвярамі прадстаюць забітыя, параненыя пачуцці, каханне, якое пераўтварылася ў нянавісць...

Святлана Алексіевіч, уганараваная Нобелеўскай прэміяй з адзнакай «За шматгалосую творчасць — помнік пакутам і мужнасці ў наш час». У працэсе чытання на дзіва рэалістычна напісаных ёю твораў быццам пераносішся ў мясціны, апісаных ёю падзей. І здаецца, быццам пралітая кроў і слёзы цякуць па тваіх руках, пэцкаючы тваё цела... Адчуваеш сябе ў цэнтры падзей... І здаецца, што аўтар адсочвае гэтыя мукі і ўзрушэнні паўсюль. У рамане «У вайны не жаночае аблічча» і «ўсталяваны помнік пакутам».

У адным з прыведзеных у творы ўспамінаў прысутнічае цікавае хваляванне: жанчына расказвае варожым салдатам пра дзікунствы, зверствы фашыстаў, а плача зусім на іншай прычыне — як маглі немцы зрабіць гэта на вачах у коней, не саромеючыся іх? Так, на вайне мы прайграём усім — і каню, і птушцы, і траве, і сонцу, і вадзе, і дню, і ночы... У іх прысутнасці мы адкрыта прайграём д'яблу, спрабуючы зрабіць так, каб і Бог здаўся яму, заяўляючы: «...гаварыце... Нельга маўчаць. Д'яблу трэба паказваць люстэрка, каб ён не думаў, што ён нябачны і што не застаецца яго слядоў. Пераконваю іх...» Для апісання праўдзівай карціны вайны пісьменніца не прыбягае да пафасу і выдумкі, перад намі рэальнасць ва ўсёй яе прыгажосці, паэтычнай гармоніі. Створаная ў імя любові, нянавісць чалавека асуджана на заняпад і знішчэнне. «Шлях толькі адзін — палюбіць чалавека. Зразумець яго любоўю. Для мяне адзін чалавек — гэта так шмат». Гаворачы пра жанр, стыль свайго рамана, пісьменніца выкарыстоўвае цікавую фармуліроўку: «Я доўга шукала жанр, які б адказваў таму, як я бачу свет. Таму, як уладкаваны мае вочы, мае вушы... Спрабавала сябе... І выбрала жанр чалавечых галасоў...»

І сапраўды, нават адрываючыся ад чытання рамана, чуеш гэтыя словы, яны асядаюць у душы, думках, марах пра мінулае і сапраўднае... Пісьменніцы ўдалося прадставіць гэтыя галасы ў вобразах. Яна данесла да нас колер, лёс, мары і смерць гэтых галасоў...

Зараз і я, як чытач, буду шукаць вобразы, партрэты галасоў у літаратуры. Незалежна ад таго, ці будуць сярод гэтых галасоў тыя, хто распавядае пра сваю вайну, хто расказвае пра перажытае каханне. Цяпер мне хацелася б пачуць галасы жанчын нашай — Карабахскай вайны з вуснаў сапраўднага майстра... Як гаварыў Лукан Марк Анней: «У час вайны законы маўчаць». Літаратура ж, па сутнасці, — голас маўчання, голас бязмоўнасці...

***З азербайджанскай. Пераклад Сяргея ШЫЧКО.***

# ПАКЛАЎШЫ РУКУ НА ПУЛЬС ЧАЛАВЕКА

***Ірада Мусаева — азербайджанскі літаратуразнаўца. Прапануючы чытачам яе артыкул пра кнігу Святланы Алексіевіч «У вайны не жаночае аблічча», з якой яна пазнаёмілася ў перакладзе на азербайджанскую мову, мы вырашылі задаць некалькі пытанняў даследчыцы. Дарэчы, пераклад кнігі здзейснены таленавітым празаікам Камранам Назірлі і пакуль што існуе толькі ў рукапісе. Такія ўжо метамарфозы сённяшняга часу.***

**— Глыбокапаважаная Ірада, артыкул, прысвечаны кнізе Святланы Алексіевіч «У вайны не жаночае аблічча», — ваш першы зварот да разгляду творчасці беларускай пісьменніцы... Як даўно вам вядома яе імя ў літаратуры?**

— Так, работа «Літаратура жанчыны вайны» з’яўляецца першым маім артыкулам, прысвечаным беларускай літаратуры.

Маё дзяцінства і студэнцтва прыйшлося на савецкі час. Беларускую літаратуру мы чыталі ў зборніках, хрэстаматыях, прысвечаных літаратурам народаў СССР. У гэтых кнігах усё было падобнае, аднатыпнае. Аднагучнае, аднакаляровае. Адна ідэя і ледзьве ці не аднолькавы змест... У час здачы экзаменаў ці залікаў па літаратуры народаў СССР, ведучы размову пра таго ці іншага савецкага пісьменніка, мы выкарыстоўвалі амаль што адны і тыя ж сказы. Вызначэнні кшталту «мір», «інтэрнацыяналізм», «наша вялікая радзіма — СССР» і інш. сталі шаблоннымі. А пасля нам была незразумелая савецка-афганская вайна, а затым мы не ведалі праўды пра Чарнобыль...

Стварэнне вялікай літаратуры магчыма пры наяўнасці адрозных адзін ад другога філасофска-ідэалагаічных поглядаў, сацыяльна-палітычных даследаванняў, калі глядзіш на рэчаіснасць іначай, чым бачаць яе іншыя. Пасля разбурэння Савецкай улады мы забыліся аб гэтым, але не Святлана Алексіевіч. Цярпліва і ўпарта дабіралася яна да самых вытокаў, да самай сутнасці... Як сапраўдны публіцыст і пісьменнік... Дзіўна, але большасць лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі — пісьменнікі-публіцысты. Нядаўна, дарэчы, я напісала пра гэта артыкул пад назвай «Літаратуры, якія праглынулі публіцыстыку». На сарака старонках я паспрабавала ўсё ж такі адказаць на такое важнае, на мой погляд, пытанне: у якой галіне мацнейшыя Джордж Аруэл і Габрыэль Гарсія Маркес — у літаратуры ці журналістыцы. Доўгі і карпатлівы шлях у журналістыцы прывёў іх у вялікую літаратуру. І такіх пісьменнікаў сярод Нобелеўскіх лаўрэатаў даволі шмат. Аналітычная журналістыка наблізіла і Святлану Алексіевіч да ісціны — літаратурнай ісціны. Яшчэ да знаёмства з раманам «У вайны не жаночае аблічча» я ведала яе па творах, прысвечаных згаданаму «саветызму». Не магу забыць яе шчымлівае пакаянне. Гэтае прызнанне якраз і стала пачаткам яе ўласнага шляху да ісціны. «Да Афганістана я верыла ў сацыялізм з чалавечым тварам. Адтуль вярнулася свабоднай ад усіх ілюзій. “Прабач мяне, бацька, — сказала я пры сустрэчы, — ты выхаваў мяне з верай у камуністычныя ідэалы, але дастаткова

адзін раз убачыць, як учарашнія савецкія школьнікі, якіх вы з мамай вучыце, (мае бацькі былі сельскімі настаўнікамі), на чужой зямлі забіваюць невядомых ім людзей, каб усе твае словы пераўтварыліся ў тлен. Мы — забойцы, тата, разумееш!?" Бацька заплакаў».

**— Адкрываючы чытачу сваё ўласнае бачанне творчасці Святланы Алексіевіч ўсё ж такі вы паставілі б яе ў шэраг імён пэўных савецкіх ці з другіх літаратур творцаў, якія пісалі ці пішуць пра вайну?**

— Зразумела, што ваенная тэма далёка не новая. У гісторыі сусветнай літаратуры, нават у антычнай літаратуры тэма вайны заўсёды была актуальнай. У «Іліядзе», «Адысеі» Гамера раскрываецца сутнасць ваеннай філасофіі, яе анатомія. Але ў кожнай вайны, пагадзіцеся, свой твар, сваё аблічча, як і ў людзей... Цяжка назваць другі такі твор, дзе гэтак тонка і кранальна, як у Святланы Алексіевіч, раскрывалася б сапраўднае аблічча Другой сусветнай вайны, характар яе дзеянняў супраць СССР. С. Алексіевіч, калі хочаце, «адрэдагавала» ідэю ўсіх аўтараў, якія пісалі пра вайну ў іншым ракурсе. У другіх творах і фільмах пра вайну людзі былі «сілай», якая крочыла ўпоравень з тэхнікай. Такой была адна з прычын дасягнення перамогі. Але Святлана Алексіевіч ва ўсёй гэтай сумятні, шуме, крыку, хаосе вылучыла на першы план менавіта Чалавека. Яна паклала руку на пульс Чалавека, настолькі пранікнуўшы ў глыбіні яго душы, з такой выключнай чалавечнасцю адчуўшы ўсё, што адбываецца ў ёй, настолькі, што забылася на сталінскія парады Перамогі. ...У імя Чалавека. Не ў імя вайны людзей, вайны дыктатараў. Стаўшы на бок створанага Богам Чалавека, зрабіўшы «эпітэтам» яго трагедыю, яго страчанае шчасце, перанёсшы ўсё гэта на паперу, у гісторыю... Мы прачыталі неверагоднае мноства кніг пра вайну, адкрылі многіх аўтараў. Часам — досыць таленавітых. Аўтараў, чые кнігі пра вайну былі падзеяй для мільёнаў чытачоў. Я ўбачыла ў Святланы Алексіевіч рэмаркаўскі падыход, але гэта было проста падабенства, усё астатняе ўласціва толькі яе творчасці — творчасці беларускай пісьменніцы, прадстаўніцы народа, які панёс самыя вялікія страты ў Другой сусветнай вайне. Ёсць у яе творчасці і боль за «страчанае пакаленне» — боль, які найболей выразна, чым у іншых, гучыць у У. Фолкнера і Э. Хемінгуэя.

**— А ці знаёмая вам творчасць Васіля Быкава і Алеся Адамовіча? У чым вы асабіста бачыце прамы іх уплыў на кнігі Святланы Алексіевіч?**

— Васіль Быкаў быў не проста празаікам, які піша пра вайну, ён быў чалавекам вайны. Яго інтанацыі, якія гучаць у аповесцях «Пайсці і не вярнуцца», «Трэцяя ракета», не параўнаць са спакойным, змрочным аповедам С. Алексіевіч. Мне здаецца, супярэчлівыя падыходы Васіля Быкава адносна Аляксандра Салжаніцына не супадаюць з адназначнай пазіцыяй С. Алексіевіч.

**— Але ж у «Доўгай дарозе дадому» пісьменнік выказаўся адносна гэтага досыць прама... Я маю на ўвазе Салжаніцына...**

— На жаль, я не чытала. І магу гаварыць толькі пра мастацкую пазіцыю, пазіцыю, якая выкладзена ў яго мастацкіх творах. Хаця мне расказвалі пра выказванні Быкава менавіта ў гэтай кнізе.

А вось што да Алеся Адамовіча, то, на вялікі жаль, яго як празаіка я проста не ведаю... Паспрабую выправіць гэтую сваю правіну.

**— Як вы лічыце: ці будуць у літаратуры і мастацтве паслядоўнікі Святланы Алексіевіч?**

— Немагчыма сказаць пра гэта з пэўнай доляй дакладнасці. Але, як мне падаецца, усё ж павінны быць. Новы погляд, новы стыль, новыя сродкі выяўлення тае ці іншае з'явы якраз да гэтага і падштурхоўваюць. Прафесійныя чытачы, пісьменнікі, уражаныя гэтымі мастацкімі падыходамі Святланы Алексіевіч, і пашыраць яе сродкі, яе вопыт да стварэння, фарміравання школы, шырокага літаратурнага кола. Стыль Святланы Алексіевіч якраз і варты называцца літаратурнай, мастацкай школай. Пісьменніца навучыла чытача адчуваць і пражываць колеры, галасы

падзей, пражываць пачуццямі герояў, спрабаваць на сабе іх кранальныя дотыкі. Нават на іншых мовах. Напрыклад, я ўсё гэта ўбачыла і адчула на нашай азербайджанскай мове. Яе, Святланы Алексіевіч, публіцыстыка рэальная, рэльефная і разам з тым высокамастацкая. Горкая, напоўненая, як само жыццё, «страшнымі» эпітэтамі, вобразамі, сімваламі. Але разам з тым гэта нават не вонкавая публіцыстыка. Ёсць нешта знутры тэкстаў, ёсць у іх нябачная сіла... Вельмі моцным духоўна паўстае сам аўтар, мастацкі летапісец... Сіла ўздзеяння ў выніку атрымліваецца моцнай, магутнай нават... Святлане Алексіевіч удаецца адлюстраваць адценні, колеры смутку і радасці. І зрабіць, здзейсніць гэта — сапраўдны гераізм. Я — азербайджанскі чытач. Наўмысна падкрэсліваю гэта. Чытаючы раман «У вайны не жаночае аблічча», я адчула слёзы і боль іранічнай усмешкі жанчын, незалежна ад таго, якой яны нацыянальнасці — рускія, беларускі, украінкі... Так баліць і азербайджанкам, так баліць і таджыкскім жанчынам, якія атрымалі сваю порцыю выпрабаванняў у час грамадзянскай вайны ў сярэдзіне 1990-х гг. Зразумела, тут важныя майстэрства, чуласць і адказнасць перакладчыка. Наш пісьменнік Камран Назірлі дастойна справіўся з гэтай задачай.

**— Ці не падаецца вам, што сам факт прысуджэння Нобеля беларускай пісьменніцы, прадстаўніцы таго народа, які асабліва пацярпеў у гады Вялікай Айчыннай вайны, у гады Другой сусветнай вайны, з'яўляецца пацвярджэннем таго, што драматычная тэма ваеннай прозы, ваеннай публіцыстыкі ізноў вяртаецца да чытача, ізноў набывае новае дыханне?**

— Ведучы размову пра савецка-афганскі канфлікт і Чарнобыльскую трагедыю, я адзначыла, што С. Алексіевіч уласціва асаблівая мужнасць, яна піша без аглядкі назад, аналізуе сутнасць, у пытаннях, дзе тысячы чалавек паверацъ стэрэатыпу і следам скажуць «так», яна гаворыць «не!». Як вы і заўважылі, страты беларускага народа ў вайне былі велізарнымі. С. Алексіевіч прыбрала, зняла, скінула «пенку» з усіх гісторыка-дакументальных матэрыялаў пра вайну. Яна «адфармаціравала» нашы развагі і ўспаміны... Мы пераасэнсавалі тое, што ведалі пра вайну, ізноў прааналізаваўшы звесткі, якія дагэтуль былі зафіксаваны. Назвала многія рэчы сваімі імёнамі, расставіўшы ўсё па сваіх месцах... Яна па-майстэрску, з ювелірнай дакладнасцю «прыхавала» гоман, гром, лозунгі вайны, ваеннай літаратуры, сілай і магутнасцю слова надала гэтай літаратуры «мастацкі воблік», вобразнасць, выклаўшы ўсю праўду, якую ёй удалося раздабыць.

**— Не так даўно на сайце «Сугучча: літаратура і публіцыстыка краін СНД» вы выступілі з вялікай рэцэнзіяй на аповесць другой беларускай пісьменніцы — «Дараванне» Алены Брава... Як вы лічыце, ці можна гаварыць пра тое, што і беларусам новага пакалення ў літаратуры і сёння падуладны асэнсаванне трагедыйнасці, драматычнасці вайны?**

— І ў аповесці Алены Брава тэма вайны і боль чалавека, які прайшоў праз яе, вылучаецца на першы план. Чуласць прадстаўніцы маладога пакалення (беларускі Ларысы) да гісторыі вайны і кахання сталага веку чалавека (немца Ганса), міласэрнасць і клапатлівыя адносіны да яго ўспамінаў, мінулага, стварае новы від адносін да вайны ў літаратуры. У такім разе чытачы вымушаны азірнуцца вакол. Азірнуцца на старых, закінутых, страціўшых памяць, тых, хто запісвае ўспаміны ў дзённіку, хавае яго пад падушкай, як самую каштоўную «памяць». Алену Брава і Святлану Алексіевіч раздзяляюць дзесяцігоддзі. Іх героі таксама адрозніваюцца па ўзросце. Ларыса значна маладзейшая, яна — прататып героя сучаснасці, які не ведае вайну, але дакладана разумее яе вобраз і характар праз лёс Ганса. Супярэчлівасць у кульмінацыі палемікі пра вайну і мір часта тлумачыцца падобнымі нявызначанасцямі. Патрыятызм, гераізм і нацыяналізм пастаянна ўразаюцца ў межы барацьбы за чалавечнасць. Бясконцае ўжыванне выразу «гераічна загінуў» у кнігах, расповедах пра вайну, у гераічных летапісах, поруч з семантычнай

нагрузкай, нараджае пытанні: цікава, а колькі чалавек забіў гэты персанаж, які праявіў «гераізм»? Д'ябальская раздвоенасць, супрацьстаянне ў нацыяналізіраваным, абмежаваным франтавым нашчадку Адама сфарміравала трагічны лёс для гісторыі чалавека і чалавечнасці... Удзельнік Крымскай вайны і стваральнік самай каштоўнай у свеце эпапеі пра вайну — Леў Талстой быў вымушаны дваяка гаварыць і пісаць пра вайну. «Вайна заўсёды прыцягвала мяне, але не вайна ў сэнсе запланаваных вялікімі генераламі манеўраў... маю ўвагу прыцягвала тое, чым па сутнасці з'яўляюцца вайна і забойства. Я хацеў ведаць не гэтулькі пра рэгуляванне войск пад Аўстэрліцам і Барадзіно, колькі тое, як і з якімі пачуццямі адзін салдат забівае другога». Абедзве пісьменніцы — і Святлана Алексіевіч, і Алена Брава — выконваюць місію, закліканую адказаць на пытанне Талстога пра вайну («Я хацеў ведаць тое, як і з якімі пачуццямі адзін салдат забівае другога»)...

**— Азербайджан знаходзіцца ў няпростай сітуацыі ўзброенага супрацьстаяння ў Карабаху... У вашых сем'ях хапае і болю, і трагедый. Ці магчыма стварэнне кнігі, якая падобная твору Святланы Алексіевіч «У вайны не жаночае аблічча», у азербайджанскай нацыянальнай літаратуры?**

— Дзякуй за пытанне. Я не лічу сябе ніякім стратэгам, але я, паколькі родам паходжу з Карабаха, не маю права маўчаць пра ўбачанае і пачутае на працягу гэтага 25-гадовага канфлікту... Вялікі цюркскі літаратар А. Несін казаў, што людзі ў адказе не толькі за прамоўленае, але і за тое, пра што яны маўчаць. Прабачце, у гэтым звязку згадаю свой артыкул «Наша вайна і сусветная літаратура». Лёс і характар нашай вайны зусім іншыя. Наша вайна не падобная ні на адну іншую. Людзі, якіх мы прытулілі, — выгнаннікі з родных селішчаў. Разграблены нашы дамы. З нас па-жывому садралі скуру, выкалалі вочы, разграбілі нашы родныя мячэці, матэрыяльную і духоўную спадчыну, нас палілі, гвалтоўна выганялі нас з прыгажэйшых гарадоў і раёнаў, заганяючы ў палаткі і інтэрнаты...

У гэтым канфлікце мы сапраўды з'яўляемся бокам, які называюць ахвярай, мы з'яўляемся бязвіннымі людзьмі з парушанымі правамі, мы з'яўляемся прыгнечанымі, якіх падверглі гвалту. Мы засумавалі па родных сценах, родных вуліцах, базарах, дарогах, што вялі ў школу, бібліятэках, мячэцях, лазнях, стадыёнах, тэатрах, чайхане. Апошнія падзеі (красавіцкія баі 2016 года) даказалі, што смутак пераўтварыўся не ў сум, а ў памкненні да барацьбы.

Сябры Антуана дэ Сент Экзюперы, які спазнаў вайну і пісаў пра яе, спрабавалі пераканаць яго ў тым, што ён прынёс бы краіне болей карысці, калі быў бы толькі пісьменнікам, угаворваючы яго падаць прашэнне аб адпраўцы ў запас. Аднак пісьменнік і баявы лётчык Экзюперы адхіліў гэтую просьбу, і ў хуткім часе яго накіравалі ў зону баявых дзеянняў. У адным са сваіх лістоў Экзюперы піша: «Я абавязаны ўдзельнічаць у гэтай вайне. Усё, што я люблю, — пад пагрозай. У Правансе, калі гарыць лес, кожны, хто не з'яўляецца падонкам, хапае вёдры і лапаты. Я не хачу аказацца падонкам. Я хачу біцца, мяне вымушаюць да гэтага любоў і мая ўнутраная рэлігія. Я не магу заставацца ў баку і спакойна глядзець на гэта».

Цікава, ці будзе асуджальна азербайджанскаму салдату, азербайджанскаму мужчыне, які патрапіў у такое ж становішча і жадае змагацца за тое, што блізкае і дарагое яго сэрцу, думаць так, як думаў Экзюперы? І літаратуралізаваць усё гэта. Аднак сёння напісанае намі пра Карабах, хаця і выкладзена эмацыйна, горача, не можа прэтэндаваць на высокую літаратуру. Не хапае майстэрства канцэптуалізаваць і актуалізаваць тэму і ідэю, надаўшы ёй каштоўнасць агульначалавечага маштабу...

**— Вы, відаць, адзін з нямногіх крытыкаў, хто называе «У вайны не жаночае аблічча» раманам... Вы ўпэўнены, што гэты твор — якраз раман?..**

— Я прачытала гэты твор С. Алексіевіч як раман. Я ніяк не магу прыняць разгляд намі ўсіх тэкстаў з пункту гледжання крытэрыяў «класічнага рамана».

Засваенне магчымасцей жанру з'яўляецца няпростай праблемай, якая ўласціва нашаму літаратуразнаўству. У выпадку з творам Святланы Алексіевіч пісьмы, дзённікі, успаміны, гістарычныя дакументы разглядаюцца скрозь прызму раманнага мышлення, якое парадніласся з тэкстам рамана...

**— Вы знаёміліся з творам «У вайны не жаночае аблічча» па азербайджанскім перакладзе згаданага ўжо Камрана Назірлі... Раскажыце, наколькі паспяхова перакладчык перадаў сутнасць, увесь мастацкі боль, усю жыццёвую праўду твора Святланы Алексіевіч?**

— На сённяшні дзень пераклад часта застаецца праблемным участкам азербайджанскай літаратуры. Робіцца дужа шмат перакладаў. 70-гадовая «жалезная заслона» забарон савецкага часу не дазволіла азербайджанскаму чытачу своечасова пазнаёміцца з сусветнай літаратурай. Па сутнасці, мы чытаем запозненую літаратуру. Часамі Фолкнер, Хемінгуэй, Стэйнбек ці хто іншы з пісьменнікаў, адкрытых у Расіі, напрыклад, у 1960-я ці 1970-я гг., успрымаюцца як літаратурная з'ява сённяшняга часу... Часта якасць перакладу не задавальняе чытача. Выданне напоўненых памылкамі тэкстаў — знявага не толькі аўтара, але і азербайджанскага чытача. Мною напісана некалькі артыкулаў з гэтай нагоды. На днях у нашай «Літаратурнай газеце» мы правялі шырокае абмеркаванне дадзенай тэмы з удзелам Камрана Назірлі. Прафесіяналы паспрабавалі патлумачыць прычыны нядасканаласці перакладаў, страты, якія наносяцца падобнымі перакладамі літаратурна-мастацкім густам і ўспрыняццю. Зразумела, у Азербайджане існуе шматвекавая школа перакладу, дастойнымі прадаўжальнікамі якой з'яўляюцца такія майстры справы, як Вілаят Гаджыеў, Вілаят Гуліеў, Камран Назірлі, Месіага Мухамедлі і іншыя.

Камран Назірлі для нас з'яўляецца эталонам мастацтва перакладу. Мае ўласныя назіранні ў час вывучэння тэкстаў аб праблемах перакладу паказваюць, з якімі цяжкасцямі сутыкнуўся К. Назірлі пры перакладзе на азербайджанскую мову кожнага сказа, кожнага слова. Раман Святланы Алексіевіч ён пераклаў на азербайджанскую мову з вялікай любоўю і ўвагай. Зразумела, не толькі з лексічна-семантычнага, але і з літаратурна-эстэтычнага, духоўна-псіхалагічнага аспектаў.

*Гутарыў Сяргей ШЫЧКО.*

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

# МАСТАЦКАЯ І ЖЫЦЦЁВАЯ ПАЎДА



Алесю Марціновічу споўнілася 70 гадоў. Пэўны час — сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі. Працуе ў часопісе «Полымя», вядзе літаратурна-крытычны і публіцыстычны аддзел. Быў першым намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Беларуская думка», працаваў у «Літаратуры і мастацтве», часопісах «Маладосць», «Полымя». Яшчэ раней — у рэдакцыях раённых газет на Міншчыне і Берасцейшчыне. Служыў афіцэрам у войску...

Азіраючыся на гэтую шырокую дарогу чалавека працалюбівага, шчыра зацікаўленага ў творчай рабоце, чалавека, які кіраваўся і кіруецца памкненнямі распавесці чытачу пра беларускую літаратуру, беларускі свет, разумееш, колькі ім пройдзена, пражыта і перажыта. А галоўныя пазнакі гэтага шляху — яго, крытыка і літаратуразнаўца, гістарычнага і краязнаўчага пісьменніка, кнігі. Іх назбіралася на некалькі бібліятэчных паліц.

Адна з першых кніг Алеся Марціновіча — зборнік артыкулаў і рэцэнзій «Далучанасць» (1990). І ў назве, і ў тэматычнай прасторы выдання адбілася, адлюстравалася магістральная лінія зацікаўленняў пісьменніка і крытыка. Першы артыкул ў «Далучанасці» называецца «Каб не парывалася сувязь часоў» і прысвечаны творам, якія былі вернуты з забыцця напрыканцы 1980-х гадоў. «Далейшая дэмакратызацыя грамадства, звязаная з ёю галоснасць, самым плённым чынам уплываюць на ўсе бакі жыцця. На карце гісторыі менее так званых «белых плям», новымі імёнамі папаўняецца літаратура. Толькі на працягу апошніх двух-трох гадоў да чытача прыйшлі творы, пра існаванне якіх ён, у лепшым выпадку, мог здагадвацца. Ці не таму так рэзка ўзраслі тыражы сталічных часопісаў, а выдавецтвы пачалі аператыўна выпускаць кнігі не жывых «класікаў», а пісьменнікаў, чые імёны, здавалася, канулі ў Лету?!» І ў гэтай, і ў наступных кнігах, асабліва ў зборніках артыкулаў «Сувязь», «Дзе ж

ты, храм праўды?», выдадзеных у «Мастацкай літаратуры» у 1994 і 1996 гадах, Алесь Марціновіч якраз шмат пісаў пра вяртанне, пра забытыя на дзесяцігоддзі імёны, пра творы, якія ўплывалі не толькі на свядомасць чытача, а кіравалі памкненнямі ўжо новай плеяды пісьменнікаў, прымушалі і старэйшых літаратараў перагледзець у многім свае погляды на мастацкі свет, на ранейшыя здабыткі, зрабіць пэўныя высновы.

Хаця і з вялікай цікавасцю чытаю зараз многія кнігі Алеся Марціновіча, выдадзеныя ў пазнейшыя ўжо гады і складзеныя з гістарычных нарысаў пра беларусаў, ураджэнцаў Беларусі ў стасунках са светам, прызнаюся, што часам шкадую, што ён у меншай ступені, чым мог бы, займаецца пытаннямі гісторыка-літаратурнага характару. Менавіта яго ўважлівы погляд, узважаная пазіцыя, шырокая эрудыцыя, здольнасць да параўнанняў цячэнняў, плыняў, рухаў мінулага і сённяшняга мастацкіх светаў, паказвалі, што крытык, літаратуразнаўца працуе сістэмна, мэтанакіравана. Стварае своеасаблівы партрэт часу, выкарыстоўваючы ўсемагчымы арсенал гісторыка-літаратурных, літаратурна-крытычных сродкаў. Ёсць і пэўнае шкадаванне, што айчынныя выдавецтвы, спрабуючы дагнаць мастацкія і псеўдамастацкія кан'юктуры, мала думаюць пра адукацыйныя, асветніцкія, выхаваўчыя задачы літаратуры, задачы літаратурнай крытыкі ў самую першую чаргу. Чаму б не перавыдаць кнігі «Сувязь» і «Дзе ж ты, храм праўды?». Між іншым, эпіграфам да апошняй са згаданых кніг сталі словы Уладзіміра Караткевіча:

Можна ўсё: пусціць каханне дымам,
Ўзяць і занядбаць мінулы шлях.
Але толькі — не любіць Радзімы
З чорнаю павязкай на вушах,
З чорнаю павязкаю на вуснах,
З чорнай павязкай на вачах,
Толькі слухаць словы нездрадлівыя,
Толькі не тлуміць яе маной,
Бо адным мы вінны, пакуль жывы,
Перад нашаю вялікай нівай:
Праўдай абавязаны мы ёй.
Ісцінай.
Адзінаю.
Адной.

Мастацкая і жыццёвая праўда... Як яны судакранаюцца, ці не пярэчаць адна другой? Крытык Алесь Марціновіч — у пошуку адказу на гэтае пытанне і ў іншых сваіх кнігах. Шмат ім зроблена дзеля стварэння творчых партрэтаў пісьменнікаў розных пакаленняў. У 1992 годзе «Юнацтва» выдала кнігу Алеся Андрэевіча «Дарога ў запаветнае», дзе разам былі сабраны артыкулы, нарысы, адрасаваныя чытачам сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту. Юныя аматары літаратуры пазнаёміліся з роднымі мясцінамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Цішкі Гартнага. У кнізе таксама развагі пра пісьменнікаў, якія пісалі і для дзяцей: Пімена Панчанку, Максіма Танка, Янку Брыля. Ужо з таго часу крытык быў уважлівым і да творчасці Мікалая Чаргінца. У гэтым і іншым тэкстах (гэта паказальна для творчасці Алеся Марціновіча) аўтар кнігі «Дарога ў запаветнае» імкнецца ажывіць свой аповед, выкарыстоўваючы прыёмы журналісцкага характару. Часта звяртаецца да рэпартажнага стылю, робіць замалёўкі, так бы мовіць, з натуры. Чытаем у тэксце пра празаіка, майстра дэтэктыўнага жанра Мікалая Чаргінца: «...Мікалай Іванавіч разгаварыўся, ён не мог не закрануць у размове і тых прынцыпаў, якімі кіруецца пры напісанні твора.

Імкнуўся падаць факты так, каб кожны чытач адчуў сябе непасрэдным удзельнікам падзей, хоць, вядома, ён не абавязкова павінен з аўтарам пагаджацца.

Ён можа нават з ім паспрачацца, штосьці ў паводзінах персанажаў паспрабаваць вытлумачыць па-свойму. Толькі ён не павінен быць абыякавы, раўнадушны да таго, пра што расказваецца...» Лабараторыя пісьменніка, творчыя памкненні раманіста, аўтара прозы ці паэзіі — вось што цікавіць крытыка. І Алесь Марціновіч не баіцца весці дыялог, тым самым паказвае і свой характар працы. Дарэчы, такія падыходы і метады пазней прывядуць Алеся Марціновіч да актыўных заняткаў публіцыстыкай. Варта пагартаць часопіс «Беларуская думка», дзе пэўны час пісьменнік працаваў першым намеснікам галоўнага рэдактара, ды і ўвогуле іншыя выданні (часопісы «Полымя», «Нёман») — і вы знойдзеце нямала тэкстаў, прывезеных Алесем Марціновічам з далёкіх і блізкіх камандзіровак па Беларусі. У нарысах таленавітага аўтара выявілася яго здольнасць распытваць сваіх герояў альбо тых, хто з'яўляецца сведкам іх жыцця ці проста інфармуе пра пэўнага персанажа ці пэўную з'яву.

І ўсё ж апошнія гады ці нават апошнія два дзесяцігоддзі засведчылі, што Алесь Марціновіч найболей выяўляе сябе як літаратар у галіне гістарычнай дакументалістыкі, гістарычнай прозы. І значная частка напісанага пры гэтым адрасавана юным чытачам. Выразны пачатак гэтаму быў пакладзены кнігай «Зерне да зерня», якая выйшла ў 1996 годзе і за якую ён быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь. Шырокая палітра персанажаў айчыннай гісторыі, якія сталі героямі нарысаў і эсэ даследчыка мінуўшчыны, уражвала. Рагнеда, Усяслаў Чарадзей, Ефрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Войшалак, Ананія, Мікола Гусоўскі, Барбара Радзівіл, Леў Сапега, Спірыдон Собаль, Адам Каменскі-Длужык, Васіль Вашчыла, Сцяпан Міхаіл Аскерка, Саламея Пільштынова-Русецкая, Пелагея і Кацярына Азарэвічы, Міхал Клеафас Агінскі, Зарыян Даленга-Хадакоўскі, Ігнат Дамейка, Аляксандр Казарскі, Іосіф Гузікаў, Напалеон Орда, Станілаў Манюшка, Міхаіл Башылаў, Апалінар Гараўскі, Варвара Кашаварава-Руднева, Іван Чэрскі, Мікалай Судзілоўскі, Якуб Наркевіч-Ёдка, Усевалад Ігнатоўскі, Уладзіслаў Галубок, Міхась Забэйда-Суміцкі... Кніга фактычна стала добрым памагатым у вывучэнні гісторыі роднай краіны. Аўтар здолеў зазірнуць у розныя часіны і пры гэтым сабраную ім памяць пастараўся перадаць вобразна, рэльефна, з добрым мастацкім густам. Дарэчы, час паказаў, што Алесь Марціновіч тады яшчэ толькі ўсталёўваў фундамент, аснову сваёй творчай, мастацкай стратэгіі. Следам прыйшлі проста ўнікальныя кнігі, патрэбныя і школе, і ўвогуле грамадству. Адзін за другім з'явіліся зборнікі яго цікавых, грунтоўных нарысаў пра славутых сыноў і дачок Айчыны: «Хто мы, адкуль мы...» у дзвюх кнігах, «У часе прасветленыя твары», «Элегіі забытых дарог», «Сполахі далёкіх зарніц», «Свечка на золкім ветры», «Птушкі з пакінутых гнёздаў», «Маладзік над заснежаным полем», «Пяшчота апалага лісця», «Успамін пра будучыню»... Спакваля выбудавалася з іх нават асобная выдавецкая серыя з кніг Алеся Марціновіча — «Гісторыя ў асобах».

Дарэчы, пазіцыю сваю як пісьменніка і як грамадзяніна Алесь Марціновіч выклаў у адной з кніг — у нататцы «Замест прадмовы», якая адкрывае кнігу «Свечка на золкім ветры»: «Вам, канешне ж, даводзілася хоць аднойчыназіраць, як палахліва трапеча полымя свечкі, калі яго кранаецца лёгкі продых ветру. Яно то згінаецца, гатовае патухнуць, і ўжо нават чуцен гаркавы пах дыму, то ў апошні момант выпростваецца, набывае ў сабе ўпэўненасць, каб, нягледзячы ні на што, выстаяць. І хоць гэта цяжка яму ўдаецца, але свечка не гасне. Нешта падобнае неаднойчы адбывалася і ў нашай нацыянальнай гісторыі. Міналіся дзесяцігоддзі, стагоддзі, і людзі, некалі вядомыя сваімі справамі, тыя, чые імёны знаходзіліся пастаянна на слыху, пачыналі забывацца. Яны, як свечка на золкім ветры, гатовы былі назаўсёды кануць у нябыт, знікнуць, быццам іх ніколі і не было. Але наступалі больш спрыяльныя часы, і адбывалася вяртанне з гэтай вечнай нямоты. Цяпер, думаецца, акурат такі час. Наша грамадства ўжо зусім не тое, якім

было яно некалькі дзясяткаў гадоў назад. Адсюль — заканамерная цікавасць і да падзей беларускай даўніны, і да людзей, якія, жывучы ў розныя эпохі, любілі сваю зямлю, свой народ, сваю Радзіму. Безумоўна, у гэтым асэнсаванні даўнасці нярэдка не абыходзіцца без крайнасцей, а ў выніку тое, што доўгі час ледзь не цалкам адмаўлялася, сёння празмерна ідэалізуецца, а тое, што не адно дзесяцігоддзе з'яўлялася ідэалам, нярэдка беспадстаўна ганьбуецца, а тым самым адбываецца хістанне ў іншую крайнасць. Многія забываюць, што людскія лёсы на скрыжалях эпохі падобны на тую ж свечку. Полымя само па сабе можа выстаяць, але гэта адбываецца няпроста. Калі кволы агеньчык пачынае гаснуць, яго трэба абавязкова падтрымаць, атуліўшы ад нягоды, і тады ён зноў выпрастаецца. А дзеля гэтага мы і павінны ўсе імкнуцца спасцігаць і саміх сябе. Ва ўсякім разе падобную мэту і ставіў перад сабой аўтар гэтай кнігі. Наколькі задуманае ажыццявілася, меркаваць чытачу».

Пэўна ж, такую мэту перад сабою ставіў аўтар, калі працаваў над кожнай кнігай пра знакамітых нашых прашчураў.

Пазней да кніг нарысаў у гэтую сімпатычную серыю далучыліся яго асобныя кнігі — пра Максіма Гарэцкага («Брама, адчыненая ў вечнасць»), Максіма Багдановіча («Свяці, зорка, свяці»). А яшчэ ў серыі «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры» Алесь Марціновіч выдаў лаканічны і вельмі ёмісты па фактычнаму матэрыялу нарыс пра Алаізу Пашкевіч — «Цётка ўсіх беларусаў».

Алесь Марціновіч зазірае ў мінулыя стагоддзі праз жыццё і дзейнасць яркіх, шматаблічных асоб, тых людзей, без стваральнай працы якіх нельга сабе ўявіць Беларусь, нашу Айчыну, як і нельга, між іншым, уявіць гісторыю іншых краін. Канешне ж, пісьменнік выступае даследчыкам гісторыі ўвогуле, пішучы пра таго ці іншага чалавека-адзінку. Ён імкнецца паказаць час, у якім той ці іншы грамадскі, палітычны, ваенны дзеяч адбыўся. Нарысы Алеся Марціновіча багатыя на дэталі. Як, між іншым, багатыя на аўтарскія высновы, пісьменнік стараецца паказаць сваё асабістае стаўленне да тых ці іншых падзей, аўтар не застаецца шэраговым рэгістратарам вынайдзенай інфармацыі. Ілюструючы, вымалёўваючы асоб, пісьменнік даводзіць свае ўласныя, жыццёвым вопытам пацверджаныя перакананні. І гэтым Алесь Марціновіч мне падаецца вельмі падобным на рускага гістарычнага пісьменніка Валянціна Пікуля. Сапраўды, мала пераказаць чыюсьці няхай сабе і важкую біяграфію, чыйсьці жыццёвы шлях. Важна другое — адкрыць гэты час, паказаць драматычныя падзеі вачыма іх удзельніка, вачыма чалавека, які прама ці ўскосна ўплываў на развіццё гэтых падзей, важна вылучыць у гэтым расповядзе маральныя, духоўныя якасці чалавека. Так імкнуўся расказваць пра гісторыю легендарны руплівец на гістарычнай ніве Валянцін Пікуль, так імкнецца зазіраць у мінуўшчыну і пасля вылучаць яе святло і Алесь Марціновіч.

Увогуле лічу, што літаратурная крытыка яшчэ не сказала сваё важкае слова пра творчасць гэтага пісьменніка ў звязку з яго гістарычнымі зацікаўленнямі. Хаця ведаю, што кнігі Алеся Марціновіча надзвычай запатрабаваны ў школе, што яны з'яўляюцца выдатнай ілюстрацыяй да сухіх часам параграфаў.

Зацікаўленасць пісьменніка гісторыяй выявілася і ў яго руплівасці на краязнаўчай ніве. Да гэтага накірунку яго літаратурнай работы можна аднесці многія публіцыстычныя публікацыі. І перш-наперш — кнігу пра родную старонку, мясціны, што выпеставалі літаратара, «Ля Каменкі бруістай». Прызнаюся, я перачытаў гэты зборнік нарысаў некалькі разоў. Па-першае, мяне захапіў сам расповед. Пісьменнік, публіцыст добра ведае свой Капыльскі край. Шукае тыя тэматычныя абсягі, які павінна выклікаць цікавасць чытачоў. І персанажы Капыльскай гісторыі, і падзеі — усё навідавоку, калі перагортваеш старонкі надзвычай пазнавальнай кнігі «Ля Каменкі бруістай». Пасля, займаючыся гісторыяй, шукаючы краязнаўчыя памяткі крыху ў іншым куточку Міншчыне — на Пухавіччыне, Чэрвеньшчыне, збіраючы ўсё, што толькі можна сабраць пра мае родныя

мясціны, я звяртаўся да працы Алеся Марціновіча ўжо з метадычна-краязнаўчым ухілам. Мяне цікавіў вопыт раскрыцця тэмы, я зазіраў у кнігу, каб зразумець, як працаваць з рознымі крыніцамі па гісторыі пэўнага рэгіёна. Адным словам, чытаючы кнігу, я браў своеасаблівыя ўрокі, што раю зрабіць і іншым аўтарам, хто спрабуе сябе ў гісторыка-краязнаўчай публіцыстыцы, хто марыць стварыць летапіс свайго краю.

Яшчэ адна творчая дзялянка Алеся Марціновіча засталася пакуль што па-за нашай увагай. Размова пойдзе пра дзіцячую літаратуру, якой Алесь Андрэевіч аддае сябе ў апошнія гады з усё большай ахвотай. А пачатак быў закладзены вельмі арыгінальнай кнігай «Віця Неслух у краіне мурашоў» (Мінск, 1995 год), дзе пад адной вокладкай пісьменнік сабраў казкі і апавяданні, адрасаваныя малодшым школьнікам. Пасля была цэлая серыя гістарычных кніг з разлікам на прачытанне іх самымі юнымі. Гэта і нарыс пра Еўфрасінню Полацкую, і кніга пра Кірылу Тураўскага — «Златавуст з Турава», і кнігі «Як Гурка ворагаў граміў», і «Сімяон, сын Полацкі». Але фантазія пісьменніка скіравала шырэй, далей, чым у рабоце з дакументальнай, гістарычнай тэмай. І з’явіліся кнігі казак, апавяданняў для дзяцей «Кот, які сябраваў з камп’ютарам», «Аляня Саша і іншыя казкі».

Сёння, калі гаворка ідзе ў юбілейным фармаце, нельга не сказаць і пра ўзнагароды, адзнакі пісьменніка. Алесь Марціновіч — не толькі лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, але і літаратурных прэмій імя Максіма Багдановіча і імя Уладзіміра Калесніка. У 2006 і 2007 гадах (двойчы запар, што вельмі рэдка ўвогуле здаралася, станавіўся лаўрэатам Рэспубліканскай літаратурнай прэміі «Залаты Купідон». А яшчэ ж — лаўрэат прэміі Беларускага Саюза журналістаў «Залатое пяро». Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Шматгранным сёння з’яўляецца творчы плён крытыка, літаратуразнаўца, краязнаўца, празаіка, гістарычнага пісьменніка, перакладчыка, публіцыста Алеся Марціновіча. І пэўна ж, да зробленага яшчэ шмат што будзе дадзена. Працаздольнасці Алесю Андрэевічу не займаць.

**Ніна КАЛЕНЧЫКАВА**

# ДАМІНАНТЫ ЯЕ ЛЁСУ

*Людміла Кебіч — паэтэса, празаік, старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення Саюз пісьменнікаў Беларусі. Яна аўтар кніг вершаў «Па музычных законах» (1996), «Зялёная рутвіца» (2001), «На беразе белай ракі» (2003, 2010), «Ключы ад Неба» (2005), «Непераможны колер охры» (2008) і іншых. У 1998 годзе выйшаў зборнік песень «Чароўны лістапад», у 2011 — «Словы прызнання». Аповесці для падлеткаў «Дамінанты лёсу» і «Гродно — город королей» пабачылі свет у 2014 годзе. Піша таксама для дзяцей. Але найперш яна — паэт.*

*Калі я ўпершыню прачытала вершы Кебіч, то адкрыла для сябе ўнікальны свет і адчула той паэтычны гіпноз, які мяне паклікаў, зачараваў сваёй адкрытасцю і шчырасцю. Пры паглыбленым знаёмстве з яе творчасцю стала бачна, што гэта самабытны і таленавіты чалавек са сваім мастацкім почыркам і пазнавальным голасам.*

## «Настой журбы на палыне»

Усё ўжо даўно напісана — да нас, за нас. І кожны, хто сабраўся зарыфмаваць свае думкі і свой настрой, павінен гэта разумець. Трэба браць чытача чымсьці іншым. Кебіч бярэ ў палон моваю…

Светла і чыста, ненадакучліва піша пра тое, пра што ўжо казалі іншыя. Яе паэзію ўспрымаеш з адчуваннем навізны, кранальнай чысціні. І разумееш, што перад табою паэзія не розуму і старання, а таленту і моўнай інтуіцыі.

Для мяне асабіста адрозніць паэзію ад штукарства не надта складана. Калі ў тэксце няма сардэчнага хвалявання, шчырасці і цяпла, натуральных перажыванняў,назіранняў і свежых метафар, якія здзіўляюць; калі ён не кранае, не чапляе душу, то гэта і ёсць штучна зроблены выраб.

У Кебіч адмысловая мова, трапная метафорыка, пульсуючая думка… І даволі многа вобразных знаходак. Перад вачыма паўстаюць тыя прыродныя з’явы, якія ты і не дадумаўся б так абазначыць. Гэта і «гусіныя лапкі кляновых лісточкаў», і «жамчужная кіпень букетаў», і «зор начных брыльянтавая хеўра»… Мы бачым, як дзень «стаміўся, і, прылёгшы ў травы, залатую раніцу праспаў»; як «гуллівая маланка парасцвельвала грамы»; як «разліла кісель ружовы вечаровая зара»; як «цяжкі снег павыгінаў галіны, і яны не божкаюць — маўчаць»…

Застываеш у тым дзіўным здранцвенні, якое можна выказаць адным словам: цудоўна!

Я ўважліва стаўлюся да слоў. Мне падабаецца дакопвацца да іх патаемных сэнсаў, да першаасноў. А словы, якія яшчэ і выбудаваны нейкім асаблівым чынам, гэта проста цуд. Такіх слоў у паэзіі Кебіч шмат.

Да прыкладу: «пачуцця *пацьмянелая* медзь», «*усюдыісны* гарэзлівы промнік», «смыліць *з’ялчалым* болем», «вершы льюцца *без адхлання*», «грашу *нечуцём скамянелым*», «цеплыні просіць *сэрца дзюраль*», «самотнай *ляжу друзаю і, нібы скавыш, румзаю*»…

Вершы Кебіч тужліва-светлыя, датклівыя. У іх адчуваецца журботная задуменнасць, а то і філасофскі роздум:

Паўжыцця каханне голаў хмеліць,
паўжыцця — расчараванняў боль.

Мы служым тым,
хто нам аднойчы здрадзіць.

Не спапяляйцеся дарэмна ў знямозе…

Часта душэўны настрой лірычнай гераіні адлюстроўваецца восеньскімі фарбамі. І ў малюнках восені паэтка знаходзіць вось такі адмысловы колер:

Мазкі, як думкі-павуціны, —
настой журбы на палыне…

Такое рэдкае знітаванне душэўна-чалавечага адчаю і самоты («журбы») з прыроднай выявай (горка-невыносным смакам палыну) — уражвае. Гэта незвычайная знаходка аўтара.

Што ж уваходзіць у гэты «настой журбы на палыне» на думку паэткі?

Тут ёсць усё: і шарм асенні,
і сумнасць мройнай цішыні,
туман нязбыўных летуценняў,
што прыляглі на камяні.

Рака, сабраная ў гофры,
пад ветру сцішаны кларнет…
А над усім ад росаў мокры
галоўны вераснеў сакрэт —
непераможны колер охры
і барвы стрыманы імпэт.

*(«Малюе верасень»)*

Гэты верш можна з поўным правам аднесці да лепшых здабыткаў беларускай лірычнай паэзіі.

Людміла Кебіч наўздзіў назіральны і ўражлівы чалавек. Яе паэтычнае слова прыкмячае няўлоўныя зрухі, якія адбываюцца ў прыродзе, прадчуванні, нестыкоўкі… Падгледжаны пераходныя моманты і абазначаны як «учора» і «сягоння»:

Яшчэ ўчора да сутоння
выцвіў восені паркаль.
Яшчэ ўчора… а сягоння
распачаўся снежны баль.

*(«Яшчэ ўчора»)*

А якія цудоўныя метафарычныя вобразы выкарыстаны ў апісанні вясны:

І хоць сонца агледзіны ладзіць —
зачапіла прамень за сасну —
у празрыста-пустым даляглядзе
ні намёку яшчэ на вясну.

(*«Позняя вясна»*)

Сонца велічным грэйпфрутам
каламуціць край лясны
прадчувальнасцю атрутнай
непазбежнасці вясны.

*(«Чэзнуць цені»)*

Прадчуванне парубежнага, непазбежнага ў прыродзе часта звязана з прадчуваннем у чалавечых адносінах:

Плача зіма
веснавымі слязамі
па мне
па сабе
па табе — несустрэтым.

І ўсё ж у адным з вершаў аўтар асэнсоўвае першаснасць прыроды, таму што кожны з нас (мастак, кампазітар, паэт ці народны ўмелец) — «жывой прыроды ўзоры паўтарае»… У вершы «Усё было» — прыгавор усім гэтым творцам і гімн Прыродзе і яе Стваральніку:

Прырода — маці, бацька наш — Сусвет,
адзіныя стваральнікі шэдэўраў.
Што застаецца нам? — Крануць той нерв,
ускалыхнуць, увесці ў захапленне,
ды не адно зямное пакаленне,
але ўвесь свет.

## «У горадзе радзімы не відаць»

Вялікую ўвагу надае паэтка старажытнаму гораду Гродна (вершы «Зімовая вандроўка», «Прывакзальная плошча», «Песні над Нёманам», «Па зімовым горадзе», «На травеньскіх вуліцах Гродна», «Балада пра Давыда Гарадзенскага», «Над Швейцарскай далінай» і інш.), але духоўны свет лірычнай гераіні, яе настальгічны настрой раскрываецца непасрэдна праз яе повязь з усім, што звязана і навеяна малой радзімай.

«У горад трэба ездзіць, каб стаміцца, // у горадзе радзімы не відаць», — піша яна ў вершы «Збягаю ў вёску». Вёска для яе — месца творчага ўзлёту і натхнення. («Деревня же — мой кабинет». А. С. Пушкін).

І далей чытаем адмысловы метафарычны россып — доказ гаючага ўздзеяння вясковых пastораў на паэтычны ўзлёт! Там, і толькі там, на ўлонні роднай прыроды, назапашванне ўражанняў і творчыя набыткі.

У горадзе радзімы не відаць,
таму збягаю ў вёску па натхненне
і падаю ў абдымкі летуценняў,
як падае раса на сенажаць.

Напісаныя ў горадзе радкі,
бы ў конаўцы глыбокай, ціха вянуць.
А ў вёсцы, як па жыце васількі,
бягуць да рэчкі — у люстэрка глянуць.

Які прастор! Які густы блакіт!
Не абхапіць ні розумам, ні сэрцам.
Узгорак вунь — лясісты сіні кіт —
за полем лёг на сонейку пагрэцца.

Стракаты луг сваім жыццём жыве:
брыльянтава, пахуча, галасіста…
Не наступіць бы толькі дзе ў траве
на коніка — скрыпічнага саліста.

Люблю блукаць па ранішнім ляску
ці сесці ў прыдарожнай каляіне
і патануць вачыма ў зяляніне,
нагамі — у падсмажаным пяску.

І ўсё сваё жыццё перагартаць,
услухацца, упіцца, наталіцца…
А ў горад трэба ездзіць, каб стаміцца,
у горадзе радзімы не відаць.

У гэтым вершы — тэма вяртання, або лепш мовіць, тэма вернасці радзіме. Тэма радзімы ў самым паглыбленым і чыстым яе выглядзе! Можна далучыць сюды і тэму страчанага раю, і іншыя, самыя патэтычныя моманты сусветнага мастацтва. І мы не памылімся.

Як заўсёды бывае пры сутыкненні з сапраўдным мастацтвам, мы дадаем да слоў паэта нашы асабістыя здагадкі або пачуцці і за гэтую сутворчасць, за магчымасць яе ўдзячны паэту.

## «Санеты вашы — вечныя скрыжалі»

Неад’емнасць новых пошукаў і адкрыццяў у творчасці Кебіч гарманічна нітуецца з класічнай традыцыяй, якая пульсуе ў яе вершах, як кроў у венах. Па-першае, яна ўзнаўляе так званыя цвёрдыя формы ў паэзіі — трыялеты, тэрцыны, рандэлі…

Вылучаю трыялет з глыбокім сацыяльным падтэкстам нашага бязмоўя, адсутнасці грамадзянскай пазіцыі:

У гэтым свеце кожны за сябе
пакутуе, жыве і паміpae,
і кожны крок, і лёс свой выцінае
ў гэтым свеце кожны за сябе.

Не выжыць у агульнай малацьбе,
калі ў суседзяў хаты толькі з краю.
У гэтым свеце кожны за сябе
пакутуе, жыве і паміpae.

І трыялет з глыбокім філасофскім асэнсаваннем шляхоў-дарог чалавечага жыцця:

Ідзеш, здаецца, — роўныя дарогі.
Зірнеш назад — гаротныя шляхі.
Параздзіраны ў кроў душа і ногі —
ідзеш, здаецца, — роўныя дарогі.

А паабапал — даўкія грахі,
забытыя бацькоўскія парогі…
Ідзеш, здаецца, — роўныя дарогі.
Зірнеш назад — гаротныя шляхі.

Па-другое, мастацкія адкрыцці Кебіч заўсёды нараджаюцца ў дыялогу са сваімі вялікімі сучаснікамі і папярэднікамі.

У паэме «Запалі лучыну, маці», прысвечанай Цётцы, асабліва яскрава прасочваецца гэтая ўзаемасувязь пакаленняў:

Перад Купалам і Коласам Цётка была.
Не падгалоскам, а голасам песню вяла…

*(з часткі «Цётчына песня»)*

Шаноўная Пашкевічанка!
Шкада нам, што не дажыла
да непазбежнага світанку,
доўгачаканага святла…

Лучына сёлета не ў модзе —
зямля ў неонавых агнях,
ды нас вядзе цераз стагоддзі
тваё славутае імя.

*(з часткі «Ліст да Цёткі» —*
*ад моладзі XXI стагоддзя)*

Яе паэтычныя радкі вырастаюць з рускай і беларускай культуры — з Пушкіна, Ясеніна, Багдановіча, Цёткі, Ажэшкі, Міцкевіча… Коцяцца рачным жэмчугам і раптам успыхваюць такой моўнай знаходкай, такім вобразам, якія, напаткаўшы аднойчы, ты ўжо не здолееш забыць…

Паэтка і сама пра гэта гаворыць у вершы «Чытаючы Міцкевіча»:

Санеты вашы — вечныя скрыжалі,
з якіх я крочу ў свой радок і час.

І «свой радок і час» абазначаны ў яе нізкай цудоўна-разважных санетаў («Сняжынак белы рой», «Не спадзявайся», «На пераходзе», «Поўны келіх», «Малюе верасень»), у якіх наліты «поўны келіх журбы і самоты».

Няма сумневу, што Кебіч — паэтэса лірычнага складу. У яе вершах валадараць пачуцці, паглыбленне ў паказе псіхалагічных, душэўных перажыванняў.

«У душы — безагляднасць Ясеніна…», — піша яна. І сапраўды, непадробны, глыбокі лірызм аб’ядноўвае яе з класікам рускай літаратуры, якога называюць магутным рускім лірыкам з выключным дарам пачуцця. Ясенін, як мы ведаем, у сваёй паэзіі прадэманстраваў самы высокі ўзлёт, самую высокую кропку лірызму. У Ясеніна ёсць чаму павучыцца і ёсць што пераняць. Безумоўна, паэзія яго зачароўвае Кебіч сваёй паланяючай метафарычнасцю, якая нараджалася вельмі высокім эмацыянальным станам яго чалавечай натуры.

Ясенінскія матывы і вобразы адчуваюцца ў такіх вершах, як «Іду ў лістапад», «Тры бярозкі», «Усё проста», «Альт», «Можа, дрэвам была я калісьці». Гэта вершы пра незваротнае («Як не збыўся ў жыцці маім ты // як не вернецца ўсё ў гэтым свеце»), пра новы час («Другія песні ў маладых»), пра «утраченную свежесть» («У суладдзі з узростам// я жыву першы раз»)…

Гэта — як рэха Ясеніна, якое заляцела ў новую эпоху.

Неверагодная злітаванасць (я б сказала — ясенінская!) прыродных з’яў з чалавечымі пранізвае многія вершы. Перажыванні лірычнай гераіні прачытваюцца праз вузлавую повязь душы прыроды і душы чалавека.

Вось верш «Склеласць». Склеласць (па тлумачэнні самой Кебіч) — разлезлае, дрэннае надвор’е, з дробным халодным дажджом, ветрам, «раздрай» па-сучаснаму. І мы бачым, што такі ж «раздрай» («сум нечалавечы») і ў душы лірычнай гераіні.

Багаты гісторыка-культурны кантэкст паэзіі Кебіч яшчэ падлягае даследаваць. Ясна адно, што традыцыя жыве ў яе вершах, пульсуе, непазнавальна мяняецца, утойваецца і раптам адкрывае сябе ў выпадковых ці наўмысных супадзеннях.

Напрыклад, верш «Толькі раз». Адразу ўспамінаецца мелодыя знакамітага раманса «Только раз бывает в жизни встреча»… Аўтар павярнула сюжэт па-свойму («Толькі раз захаладала — // Наваколле не пазнаць»). А потым праз пейзажную замалёўку высвятляецца другі план твора — філасофскі («Так і нас: кране бядою — // Не пазнаць былой душы»). Так на класічную выснову накладваецца новае асэнсаванне.

Паэзія для Людмілы Кебіч — своеасаблівая форма ўнутранай эміграцыі. Калі становіцца мутарна і цяжка на душы і «жыць абрыдне ў вечнай мітусні» — тады «пачынаю зоркі ў небе разглядаць // і Максімавыя песні ўспамінаць», — так адзін паэт выратоўвае другога паэта ў час выпрабаванняў. Душа ў цемры шукае святла і знаходзіць яго ў свеце мастацтва.

Трэба адзначыць, што Багдановічу яна прысвяціла некалькі цудоўных вершаў («Максімавы песні», «У вянок Максіму», «Казаў Максім», «Шлях Максіма»…) У іх і прызнанне ў любові да класіка беларускай паэзіі, і замілаванне яго творчасцю, і размова пра галоўнае — родную мову:

Лавіў самотна кожны выраз,
што з Белай Русі далятаў.
У Гродна рос, у Расіі вырас,
на крылы роднай мовы ўстаў.

Максім, пясняр, ты славу Краю
на роднай мове змог прапець.

І ўпэўненасць:
І мы ніколі ёй не здрадзім!

Асобна вылучаю пяціраднкоўе «Шлях Максіма», якое гучыць як песня:

Небам пасланы.
Небам асвячоны.
З небам заручоны.
У неба забраны.
Ой, рана-а-а-а!..

Гэтыя радкі, як мне падаецца, можна спяваць — крычаць — енчыць на розны лад, як прыпеў несканчонай жалобнай народнай песні…

Роздум пра долю паэта, яго прызначэнне і прадвызначэнне працінае многія вершы Кебіч («Слова», «Вясёлка над Кушлянамі», «З усіх дарог», «Паэтам», «Паэт і повар»). Праграмны твор — верш «Прадвызначэнне». Тут даецца не толькі вобраз паэтэсы, у якой «свавольны, мяцежніцкі дух», але і выснова паэтавай долі:

Доля ў кожнага ёсць, а паэтава —
родным словам Радзіме служыць.

Паэт — дзіўная з’ява. І што ні імя, калі яно насамрэч вартае паэзіі, то непаўторны ўзор чалавечай натуры. У Кебіч атрымліваецца вобразна тонка, захаваўшы гонар і годнасць у пластах падтэксту, прадзіраючыся скрозь жаль душэўны і боль фізічны, выказаць тым самым і саму сябе!.. Паэтэсу!

Цудоўны вобраз паэтэсы налічвае шмат складнікаў. Гэта перш за ўсё цікавы, змястоўны, глыбокі, не трывіяльны чалавек. Яна адрозніваецца ад звычайнай жанчыны, але тая і другая — прагнуць кахання. Гэта іх аб’ядноўвае. Жанчынепаэтэсе жывецца цяжэй, таму што яна «імкнецца да волі, вядзе дыялогі з Багамі»…

## «Я жыву па музычных законах»

У аповесці «Дамінанты лёсу» піша: «Менавіта цяпер і менавіта ў гэты момант жанчына да канца зразумела, як шчодра лёс насыціў партытуру яе жыцця багатай гармоніяй. І ў ёй заўсёды панавалі дзве ДАМІНАНТЫ. Адна — **музыка**, без якой яе жыццё было б памылкай. А што тычыцца паэзіі, якая стала ладам яе існавання, святам на кожны дзень, скрынкай на боль і скарбонкай надзей, — дык **мастацтва слова**, як і любое мастацтва, павінна імкнуцца да таго, каб дасягнуць найвышэйшай ступені дасканаласці, а гэта значыць — стаць МУЗЫКАЙ».

Сучасная паэзія працягвае зрастацца з музыкай у адно цэлае. На паэзіі Кебіч гэта можна яскрава прадэманстраваць. Вось рандэль «Мяне не той мужчына

пакахаў…» Тут такі рамансавы адчай і такая невыносная туга лірычнай гераіні, што гэтыя кранальныя радкі так і просяцца ў музычнае афармленне:

Мяне не той мужчына пакахаў,
і раскахаў мяне не той мужчына.
Магчыма, што была ў яго прычына,
магчыма, біў па нервах, як ілгаў.

Мне да таго няма ніякіх спраў,
але шчыміць душа бесперапынна:
мяне не той мужчына пакахаў,
і раскахаў мяне не той мужчына.

Я думала, за грэх які забраў
яго Гасподзь пад веснi крык грачыны,
а Ён зрабіў учынак дабрачынны —
ад небыцця пачуцці ўратаваў.
Мяне не той мужчына пакахаў.

Дарэчы, песні на словы Кебіч гучалі ў тэлевізійных рэспубліканскіх конкурсах «Усе мы родам з дзяцінства» («*Пераборы»)*, «Зорная ростань» («*Кубачак кавы»*), «Славянскі базар у Віцебску» («*Зорны сон», «Раманс», «Птушкі»*). У розныя гады іх выконвалі Аляксандр Звяровіч, Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Аляксандра Гайдук, ансамбль «Бяседа» і іншыя спевакі.

Моцны ўплыў на яе паэзію аказаў такі біяграфічны фактар, як наяўнасць музычнай адукацыі і праца ў каледжы мастацтваў. Яна з поўным правам можа сказаць пра сябе: «Я жыву па музычных законах»:

Я жыву па музычных законах:
развіццё, кульмінацыя, спад.
То хістанне ў бакі на паўтонах,
то шчаслівых кадэнцый каскад.

Я жыву па музычных законах,
дзе бліскучых пасажаў узлёт,
дзе ў канве непарушных канонаў
усё больш недаверлівых нот.

Я не сустракала паэта, у вершах якога было б столькі музычнай тэрміналогіі. То «контрактаўная нота між аблокаў захрасла», «пахіснуўшы душу абертонамі»; то «сякуць па мне жыцця раскрышаныя ноты», быццам хочуць «з душы вытрасці ашмоцце твайго меласу»…

Музыка і музычныя тэрміны арганічна ўплятаюцца ў назву вершаў: «Квартэт арф», «Гітара», «Рачная музыка», «Клавішам», «Вясковая сімфонія», «Музыка» і інш. Ва ўсім навакольным свеце творцы чуецца музыка — такі склад яе паэтычнай душы. Як у вершы «Дзень патух». Тут «чорны лес, непрывабны і строгі — *капельмайстар міражных санат*», а гукі цемры — «*дысанансы магчымай бяды».* Яе хвалюе гэтая «*дысгармонія ночы*», якая ўся ўяўляецца ёй у музычных гуках.

Аўтарка перадае свае ўражанні ад музыкі і выяўляе чалавека трапяткога, уражлівага, натхнёна-ўзнёслага… Арфа як інструмент не рэдка ўсплывае ў творах. Лірычная гераіня «перабірае сонечныя блікі, // што пад нагамі арфаю дрыжаць…» «Сабой не валодаю. // Арфа валодае мною», — прызнаецца яна ў першых радках верша «Квартэт арф». А далей арфісткі паўстаюць як варожкі-ткачыхі, што ткуць музыку:

Цудоўныя кросны!
Чатыры варожкі-ткачыхі
пасажы бліскучыя,
струн пераборы, глісанда

ў тканіну ўплятаюць,
ткуць музыку велічна-проста —
і Жыга бяжыць,
і павольна плыве Алеманда.

Верш пра несупадзенне людзей і тое, як часта яны ў жыцці размінаюцца, пададзены праз несупадзенне музыкі гарачага і халоднага сэрцаў:

Пераблытала музыка сэрцы —
разарвала маё, не тваё,
спудлавала пакутлівым скерца,
падняла на жыцця вастрыё.

І сцішаючы стогн пяцярнёю,
абціраючы з вока слязу,
я сцякаю гарачай крывёю
па халодным, як розум, лязу
твайго сэрца.

Дождж таксама ўспрымаецца паэткай не інакш як музычная стыхія. У адным з трыялетаў чытаем:

Як спеўна дождж б’е па асфальце,
нібы па клавішах раяля,
і кружаць кроплі-ноты ў вальсе —
як спеўна дождж б’е па асфальце!..

Найбольш уразіла мяне «Сюіта дажджавых кропляў». Яна пачута ўражлівай паэтавай душой і запісана, здаецца, на адным дыханні. Дваццаць дзве замалёўкі пра дождж! Метафарычнасць — узрушальная! Паслухайце…

сталёвымі кіпцюрамі
дождж учапіўся за хмары
і цягне
і цягне з іх жылы —
сталёвыя струны душы

выпаў дождж на асфальт
і асфальт ускіпеў
міліярдам абураных
бурбалак

Для паэткі шум дажджу гучыць як сімфанічны аркестр:

шум дажджу — зусім не шум,
а сімфанічны аркестр,
дзе кожны струмень-інструмент
мае сваю вышыню
і свой тэмбр голасу

Іншы раз дождж — паказчык усеагульнай шэрасці:

шэры дождж
шарай гадзінай
над шэрай ракою —
марудны і дробны…
разумею нарэшце:
гэта і ёсць
усеагульная шэрасць

А вось тэкст для слоўнікавай дыктоўкі ці ўзор для творчай работы вучняў:

шамаціць
шалее
шаманіць
шалясціць
шапялявіць
шнарыць
шылаваты
шахрай —
дождж

Даследуецца тэма «Ён і дождж»:

Калі быў са мной —
ён крыштальна-ігрыста
звінеў у бакалах —
тваіх вачах.
Пайшоў… —
як балюча ігліста
біў дождж
па тваіх плячах

І, нарэшце, даецца апошні акорд-вывад — філасофская развага пра музычную сюіту дажджу:

Дождж — музычая сюіта
з міліярдаў частак-кропляў
у якіх, нібы ў архіве —
гукавая памяць сусвету.

## «Ты музыку забраў з майго жыцця»

Паэту недастаткова «выказаць сябе». Тут патрабуецца асабісты трагічны лёс, асабісты трагічны вопыт. Некалі Дастаеўскі сказаў юнаму Меражкоўскаму, які прыйшоў да яго з вершамі: «Страдать надо, молодой человек, а потом стихи писать».

У вершах Кебіч, прысвечаных вечнай тэме кахання, хвалюе ісціна пачуццяў лірычнай гераіні. А ісціна пачуццяў — гэта адзін з найважнейшых пушкінскіх крытэрыяў пры ацэнцы паэзіі. Для чалавека далікатнага, вернага, закаханага здрада блізкага чалавека ўспрымаецца як драма асабістага жыцця. У вершаваных радках паэткі гэтая драма набывае трагічныя матывы:

Аказваецца, некаханай
на белым свеце я жыла,
звычайным восеньскім туманам
па лёсе любага прайшла.
Аказваецца, то не сэрца
ў халодных ёкала грудзях,
а віла ніткі вераценца
на чорны кужаль — здрады жах…

Любоўная паэзія Кебіч вырастае са шчырага адкрытага адчаю. Яе лірычная гераіня часам на раздарожжы:

Белы дзень ператварыўся ў ноч.
А жыццё — суцэльнае чаканне.
Я цябе сама прасіла: «Збоч!»
А цяпер вымольваю вяртанне.

*(«Сумны вечар»)*

Амплітуда перажыванняў лірычнай гераіні такая высокая і ўзрушальная, што, здаецца, невычэрпная:

Заскуголіла ноч
адзінотаю,
контрактаўнаю
нізкаю нотаю,
пахіснула душу
абертонамі,
ёй да гэтай пары
невядомымі.

Стылі думкі
закрытымі стансамі,
гвалтавалі вятры
дысанансамі,
так хацелася плакаць
і каяцца,
і адчуць, як дыханне
вяртаецца…

*(«Ноч»)*

Ёсць вершы, якія ўзрушаюць да глыбіні душы. Міма такіх спакойна не пройдзеш. Некалі вялікі Пушкін геніяльна абазначыў: «Одной любви музыка уступает, но и любовь мелодия». Сапраўды, музыка і каханне пераплецены і ўзаемазвязаны. Сапраўднае каханне — гэта абавязкова палёт і ўзлёт душы, незвычайна прыгожая музыка, якая цябе працінае і гучыць у тваім сэрцы… Таму ў вершы насцярожвае ўжо гэты першы радок: «Ты музыку забраў з майго жыцця…»

Ты музыку забраў з майго жыцця,
а гэта найвялікшая са згубаў.
Я б выплыла з любога небыцця,
а без яе не здолею, мой любы.

Твой нават самы вераломны крок
магу я зразумець, змагу прабачыць,
а музыку згубіць, што страціць зрок,
каб аніколі ўжо цябе не ўбачыць…

Расстанне з музыкай для паэткі — «найвялікшая са згубаў», таму што гэта страта той мелодыі, якая яднала закаханых. У вершы «Засталася адна» лірычная гераіня праз гэтую «згубу» як бы распісалася ў сваёй самоце-адзіноце:

Засталася адна,
і адразу такая самота
агарнула мяне сваім шэрым маўклівым крылом.
І заціхла ў душы
мая самая звонкая нота. (…)

Мне той ноты не ўзяць,
не адолець ужо аніколі.
Голас сеў, абабіўся аб процьму жыццёвых дарог.
Адыграла сваё…

І, нарэшце, катэгарычна-безагляднае асэнсаванне:

Свет распусны,
і здрадны свет…
Што дарэмна падлічваць згубы?
Я прыйшла, каб пакінуць след,
ты прыйшоў наслядзіць, мой любы.

Ёсць у любоўных вершах Кебіч нейкі, што зачароўвае, адчай, словы, якія б’юць наводмаш, замоўчванні, падобныя не на цішыню, а на здаўленыя рыданні. Пры гэтым ніякай жаночай істэрыі і эпатажнасці. Слабая жанчына — моцная!

Ніхто мне нічога
не дасць, не папросіць.
Адна ўсю зіму,
ўсю вясну,
усю восень,
я — гэткая летняя,
цёплая, мяккая…
А тое, што сэрца
знясілена тахкае,
ушчэнт раскрамсана душа
і знявечана, —
не чутна,
не бачна,
нікім не засведчана.

З кожным вершам звязаны свой клубок асацыяцый, якія быццам прашываюць, пранізваюць тваё жыццё і надаюць яму асаблівую незвычайна таемную афарбоўку. Паэтка самадастатковая і ссамотненая недзе там, на сваёй «скале любові»… Вершы ўражваюць, схіляюць да роздуму і душэўнай гармоніі. Бадай, лепшае, што чытала за апошні час.

* * *

Меркаю значнасці паэзіі для майго духоўнага жыцця выступаюць асацыяцыі, якія нябачнымі ніткамі «прывязваюць» цябе да аўтара. Мяркую, што пры актыўным суразмоўі са «сваёй» паэзіяй адбываецца рэдукцыя нашага ўнутранага свету: паэзія як бы ўздымае нас над бытам, уводзіць у іншае вымярэнне жыцця (у катэгорыях агульначалавечага, духоўнага, божаскага) — і набліжае нас да Стваральніка.

І мы дзякуем паэту за тое, што ён падарыў нам свой агромністы, цікавы і невычарпальны сусвет.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# З РАГАЧОЎСКАГА РОГА — УСЯГО МНОГА

*Пройдзе яшчэ некалькі дзён і краіна чарговы, дваццаць трэці раз будзе святкаваць Дзень беларускага пісьменства. Сёлетняй сталіцай яго з'яўляецца горад Рагачоў. Даўні і адначасова малады горад, які знаходзіцца на Гомельшчыне, там, дзе зліваюцца рэкі Друць і Дняпро. Гэта, безумоўна, надае яму своеасаблівую акрасу, але відавочна і тое, што падобнае размяшчэнне было выбрана невыпадкова. Нашы далёкія продкі звычайна сяліліся ў зручных месцах як для гаспадарання, так і для вядзення гандлю, дый каб адчуваць сябе ў бяспецы. Тут жа, дзякуючы Друці і Дняпру, утваралася цяжкадаступная забалочаная пойма. Яна ахоўвала Рагачоў з поўдня, усходу і захаду. З поўначы ж падступалі да паселішча векавыя сасняi. З гэтага ж боку засцерагаў ад нападу і напоўнены вадой роў, што быў пракапаны ад Дняпра. Высокі вал і драўляныя сцены таксама з'яўляліся перашкодай для ворагаў.*

*Па Дняпры без асаблівай цяжкасці наладжваліся зносіны з Кіевам, Чарнігавам, Полацкам, Смаленскам, Ноўгарадам. Зімой жа ў Чарнігаў і навакольныя сёлы наведваўся вялікі князь кіеўскі, каб сабраць даніну. Ятрагаўчане плацілі спраўна, звыкліся з выкананнем такой павіннасці. Чаго не скажаш пра князёў, якія правілі як у самім Рагачове, так і ў суседніх княствах. Паміж імі не спыняліся міжусобныя спрэчкі. Сутыкнуўся з імі, заняўшы ў 1139 годзе вялікакняжацкі прастол у Кіеве, і Усевалад II Ольгавіч. Найперш не задаволенымі былі ягоныя родныя браты князі Ігар і Святаслаў. Усевалад паступіў мудра. Каб не мець праціўнікаў сярод блізкіх яму людзей, прапанаваў братам узяць сабе Гарадзец, Рагачоў, Брэст, Драгічын, Клецк. Адбылося гэта ў 1142 годзе. Тады ж князь Ігар і стаў уладальнікам Рагачова.*

*Пад 1142 годам Рагачоў і ўпамінаецца ўпершыню ў Іпацьеўскім летапісе. Пазней гэты горад адносіўся да Чарнігаўскага княства, потым увайшоў у склад Тураўскага княства, а ўжо ў канцы XII стагоддзя належаў пінскім князям. Новая веха ў жыцці Рагачова пачалася з канца XII стагоддзя, калі ён, з'яўляючыся ўладаннем Даўмонта, разам з Оршай увайшоў у склад Вялікага Княства Літоўскага. Сярод тых, хто валодаў Рагачовам, была і знакамітая Бона Сфорца. Горад разам з усім Пінскім княствам падарыў ёй, тады сваёй нявесце, вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт, які ўвайшоў у гісторыю як Жыгімонт I Стары. Пасля гэтага таксама неаднойчы мяняліся ўладары, адбываліся вялікія і малыя падзеі. У рэшце рэшт, як і паўсюдна на Беларусі.*

*Але чаму гэты горад назвалі менавіта Рагачовам? Па адной версіі ў аснове такой назвы ляжыць слова «рог». Іначай кажучы — мыс, вугал, што і ўказвае на размяшчэнне Рагачова паміж Дняпром і Друццю. Ёсць і іншае меркаванне: заснавальнікам паселішча быў нейкі Рогач. Рогач фігуруе і ў адным з паданняў. Паводле гэтага падання Рогач загінуў у барацьбе з ворагамі. Пахавалі яго разам з іншымі загінулымі, а зверху насыпалі курган. Паколькі ў ім вечны спачын знайшоў Рогаў, то гэты курган сталі называць Рогачаў. Цягам часу назва перайначылася. Быў Рогачаў — стаў Рагачоў. Сумнеўна ў гэтай цікавай гісторыі тое, што, паводле згаданага падання, Рогаў і яго паплечнікі змагаліся з татарскімі заваёўнікамі.*

*Але ж татары пачалі рабіць свае набегі куды пазней, чым быў заснаваны Рагачоў. Нямала прыхільнікаў і ў версіі, што ў аснове назвы Рагачоў ляжыць старажытна-літоўскае слова «рогас». Інакш кажучы — алтар, святое месца, свяцілішча. Маўляў, у даўнія часы непадалёку ад гэтага месца, каля возера Добрага (Святога) знаходзілася язычніцкае капішча. Як быццам, рагачоўцы доўга працівіліся ўвядзенню хрысціянства. Але зноў жа гэта толькі адна з легенд, дакументальнага ж пацвярджэння таму, што гэта і сапраўды было менавіта так, няма.*

*Да рога ў тамашніх мясцінах стаўленне асаблівае. Рог у залатым полі — гэта і выява герба Рагачова. Герб гэты быў зацверджаны яшчэ 16 жніўня 1781 года. Атрымліваецца, што цяперашні год для Рагачова ў нейкім сэнсе — юбілейны. Міжволі напрошваецца і адна добра вядомая прымаўка. Думаю, што здагадаліся, якая. Правільна: «З рога — усяго многа». Калі ж гэта рог рагачоўскі — тым больш. Асабліва, калі гэта тычыцца літаратуры, бо столькі талентаў на Рагачоўшчыне.*

*Дык паглядзем уважлівей на тое адметнае, што сведчыць на карысць таго, што Рагачоў невыпадкова вызначаны сёлетняй сталіцай Дня беларускага пісьменства. Найперш прыгадаем пісьменніка, публіцыста Уладзіміра Кігна. Праўда, ён нярэдка фігуруе толькі пад сваім псеўданімам — Уладзімір Дзедлаў. Калі-нікалі пішуць і Уладзімір Кігн-Дзедлаў. Канешне, з рагачоўскай зямлёй лёсам сваім, дый творчасцю таксама звязаны і куды больш знакамітыя літаратары. Але гаворку пра рагачоўскія таленты ўсё ж пачнём менавіта з яго, бо сёлета споўнілася 160-гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Людвігавіча. Па-другое, на жаль, пра яго ведаюць нямногія, а гэта недаравальна. То як ні пакарыстацца магчымасцю ўспомніць Кігна. Аднак, згадваючы Уладзіміра Людвігавіча, нельга не сказаць і пра яго маці Лізавету Паўлоўскую.*

## Сын і маці — як не згадаці

Нарадзілася Лізавета Паўлоўская ў 1830 годзе ў Магілёве. Там жа скончыла гімназію. Вядомая Лізавета Іванаўна як складальнік зборніка «Беларускія народныя песні», які выдадзены ў 1853 годзе пад крыптанімам Е. П. на рускай мове ў Пецярбургу. Зборнік гэты цікавы тым, што ў ім сабраны творы каляндарна-абрадавай і пасляабрадавай лірыкі, якія Паўлоўская запісала ў Быхаўскім павеце. Яна даволі падрабязна апісала адметнасці мясцовага вясельнага абраду. Прывяла тэксты песень, звязаных з ім. Істотны і такі момант. «Народныя беларускія песні» Паўлоўскай сталі першым асобным выданнем беларускіх фальклорных твораў, надрукаваных кірыліцай. Выхад зборніка не застаўся незаўважаным. На яго станоўча адгукнуліся такія аўтарытэтныя тады выданні, як часопісы «Современник» і «Отечественные записки». Праўда, рэцэнзентаў не задаволіла, што з беларускай мовы рабіўся падрадковы пераклад, а гэта прывяло да значных страт, бо не была захавана ўся адметнасць арыгіналаў.

У тым жа 1853 годзе Лізавета Іванаўна выйшла замуж за юрыста Людвіга Кігна. Людвіг Іванавіч быў калежскім асэсарам, служыў у Магілёве юрыстам. Неўзабаве яго перавялі ў Тамбоў. Туды ён і паехаў з маладой жонкай. 15 студзеня 1856 года ў іх нарадзіўся першынец, якога назвалі Уладзімірам. Потым былі дзеці Аляксей і Вольга. Аднак у Тамбове сям'я не затрымалася. У выніку пажару згарэў іх дом. Новы будаваць не сталі, а вярнуліся на Беларусь.

Валодзю тады споўнілася ўсяго чатыры гады. Прытулак знайшлі ў дзядзькі Лізаветы Іванаўны ў маёнтку Фёдараўка, які неўзабаве выкупілі. Пазней прыдбалі яшчэ адзін, таксама на Рагачоўшчыне — Дзедлава. Гэтая вёска цяпер злілася з суседняй Курганне. Ад Дзедлава і псеўданім, які Уладзімір Кігн узяў сабе, калі стаў пісьменнікам. Пісаць жа ён пачаў вельмі рана, у дзевяцігадовым узросце: апавяданні «Святкі ў Фёдараўцы», «У доме», «У полі», «Таракашка-мурашка»

і іншыя. Зразумела, у іх было яшчэ шмат наіўнага, але нельга было адмовіць хлапчуку ў таленце. Асабліва радавалася за сына маці, якая і стала яго першым крытыкам. Дый Людвіг Іванавіч ухвальна паставіўся да першых спроб пяра свайго сына.

Увогуле, у Людвіга Іванавіча і Лізаветы Іванаўны былі якасці, якія характарызуюць іх як па-сапраўднаму народных інтэлігентаў: высокая маральнасць, паважнае стаўленне да простых людзей, эрудзіраванасць. Да ўсяго Кігн-старэйшы меў добрую гаспадарскую жылку. Вялізны сад, які быў у іх, здаваў у арэнду. У Дзедлаве пабудаваў сыраварню, маслабойку, меў і ўласны спіртзавод — усё для таго, каб жыць не бязбедна. Аднак не адны грошы цікавілі яго. Людвіг Іванавіч разумеў і важнасць адукацыі, у чым ягоным аднадумцам з'яўлялася і жонка. Таму старэйшага сына, калі яму споўнілася дзевяць гадоў, адправілі на вучобу ў адну з маскоўскіх гімназій. Яе Валодзя, праўда, скончыў з цяжкасцю. Прычына, аднак, не ў тым, што вучыўся слаба. Якраз наадварот, ён з'яўляўся прыкладам для іншых гімназістаў. Выхаваны ў сям'і ў духу справядлівасці, пачаў прапагандаваць сярод сялян перадавыя ідэі, пачэрпнутыя з «Отечественных записок». За гэта за ім устанавілі паліцэйскі нагляд, а потым і выключылі з гімназіі. Але паколькі рэвалюцыйнай дзейнасцю не займаўся, праз некаторы час дазволілі вярнуцца да вучобы.

Скончыўшы гімназію, вырашыў, як і бацька, стаць юрыстам: паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Авалодванне сакрэтамі юрыспрудэнцыі аднак не перашкодзіла яму займацца літаратурай. Нараджэннем Кігна як пісьменніка стала 15 красавіка 1876 года, калі газета «Неделя», што з'яўлялася адной з самых папулярных у Расіі, апублікавала яго першае апавяданне «Экзамен сталасці». Праз два гады пачаў супрацоўнічаць з часопісам «Пчела». У ім надрукаваў цыкл нарысаў, назва якіх гаворыць сама за сябе — «Беларускія сілуэты». Гэтыя творы сталі адкрыццём беларусаў і Беларусі для тых, хто пра іх яшчэ слаба ведаў.

Творчыя поспехі, тым не менш, не паслабілі жадання Кігна па-ранейшаму паспяхова авалодваць ведамі па будучай спецыяльнасці. Больш за тое, атрыманнем вышэйшай юрыдычнай адукацыі не абмежаваўся. Скончыўшы ў 1880 годзе ўніверсітэт, быў узяты на дзяржаўную службу ў Міністэрства ўнутраных спраў, дзе яму прысвоілі цывільны чын калежскага сакратара. Нягледзячы на занятасць, працаваў над кандыдацкай дысертацыяй, якую паспяхова абараніў 10 красавіка 1882 года і атрымаў навуковую ступень кандыдата права.

Адначасова рэгулярна друкаваўся ў той жа «Пчеле», а таксама ў іншых папулярных расійскіх выданнях: «Русское богатство», «Наблюдатель», «Дело», «Вестник Европы», «Нива». Выступаў на іх старонках з аповесцямі, замалёўкамі. Паспяхова абжыў і жанр рэцэнзіі, аналізуючы творы Міхаіла Салтыкова-Шчадрына, Дзмітрыя Маміна-Сібірака і ншых пісьменнікаў. Тых, хто яму імпанаваў як літаратар і чыю творчасць высока цаніў. Сяброўскія стасункі склаліся ў яго і з вядомымі мастакамі Міхаілам Несцеравым, Ільёй Рэпіным, Архіпам Куінджы, Іванам Шышкіным, Міхаілам Урубелем, братамі Васняцовымі, паэтам Апалонам Майкавым, скульптарам Маркам Антакольскім, хімікам Дзмітрыем Мендзялеевым. Для іх ён па-ранейшаму заставаўся Валодзем. У друку ж ужо выступаў пад псеўданімам «В. Дедлов».

Хутка ў перыёдцы з'явіліся і яго матэрыялы з-за замежжа. Па абавязку службы пабываў у Італіі, Францыі, Турцыі, Сірыі, Егіпце. Так нарадзіліся падарожныя нататкі пад назвай «Здалёку. Лісты з дарогі», а ў 1888 годзе ў Пецярбургу выйшла яго кніга «Прыгоды і ўражанні ў Італіі і Егіпце. Нататкі аб Турцыі». Нямала паездзіў Уладзімір Людвігавіч і па Расіі. Адна з паездак па лініі Міністэрства ўнутраных спраў адбылася ў Тургайска-Уральскае перасяленчае ўпраўленне. Будучы чыноўнікам па асабовых даручэннях, Кігн, трапіўшы ў Арэнбург, на свае вочы пабачыў усё тое негатыўнае, да чаго прывяло прымусовае накіраванне сялян для асваення Сібіры. Так з'явіліся яго нарысы «Па рускаму ўсходу», «У пера-

сяленчай канторы», а таксама нарысы Сямірэчаньскай, Сырдар'інскай абласцей. Ён выказаў сваё рэзкае непрыняцце такога перасялення. Пра гэта пісаў і ў газеце «Оренбугский край», выступаючы пад псеўданімам Перасяленец. А яшчэ прапагандаваў творчасць Антона Чэхава, якую вельмі любіў. Быццам прадчуваў, што іхнія шляхі-дарогі перасякуцца.

З Антонам Паўлавічам пазнаёміўся па вяртанні ў Пецярбург. Знаёмства хутка перарасло ў сяброўства, што доўжылася больш як дзесяць гадоў. Чэхаў высока цаніў творчасць Кігна, а сам ён жыў марай, што выдатны рускі пісьменнік абавязкова прыедзе на Рагачоўшчыну. Як ні шкада, але гэта так не было ажыццёулена, затое, калі Уладзімір Людвігавіч жыў у Фёдараўцы, яны часта перапісваліся. Чэхаў ведаў, што ёсць у тых краях, дзе жыве яго сябра, паштовае аддзяленне і валаснoе ўпраўленне Рагачоўскага павета Доўск, куды і адпраўляў свае лісты.

Была ў Кігна і яшчэ адна важная камандзіроўка: у 1897 годзе яго камандзіравалі на будаўніцтва Сібірскай чыгуначнай магістралі. Пасля паездкі туды напісаў кнігу «Панарама Сібіры». Нарысавую па сваім змесце, але адразу відавочна, што аўтар яе — пісьменнік. Прытым пісьменнік асаблівага складу. Як зазначыў Віктар Васняцоў, «пісаў кнігу жывы чалавек, а не «літаратурных спраў майстар». Жывасці ў падачы матэрыялу Кігн прытрымліваўся нязменна. Гэта відаць і па кнізе «Кіеўскі Уладзімірскі сабор і яго мастацкія творцы». Творцы — гэта Васняцоў, Андрыян Прахаў (наш зямляк, нарадзіўся ў горадзе Мсціславе), Павел Свядомскі. Даследчыкі сыходзяцца ў тым, што Кігн, тым самым, стаў адным з першых біёграфаў гэтых выдатных майстроў пэндзля.

Крыху нечаканае падобнае сцвярджэнне. Ды толькі на першы погляд, бо за што б ні браўся Уладзімір Людвігавіч, ён рабіў гэта сумленна і з добрым веданнем справы. Так было і тады, калі ў 1902 годзе пачаў рыхтаваць да друку свае «Школьныя ўспаміны». Ад уласнай біяграфіі ішоў, але не толькі… Разважаў і аб нізкім узроўні адукацыі ў гімназіях Расіі. Не як дылетант рабіў гэта, а глыбока пранікаючы ў сутнасць праблемы. І не застаўся не заўважаны. Нават фігурыраваў у спісе кандыдатаў у ганаровыя акадэмікі Расійскай Акадэміі навук.

Пачалася Руска-японская вайна — таксама быў запатрабаваны. У 1904 годзе карэспандэнтам «Нового времени» паехаў у Маньчжурыю, дзе праявіў здзіўляючую творчую працаздольнасць. Напісаў цыкл нарысаў «Мірныя на вайне», якія з 18 сакавіка 1904 года па 7 красвіка 1905-га друкаваліся ці не ў кожным нумары гэтага выдання.

Любіў Уладзімір Людвігавіч падарожнічаць, але не менш любіў і Рагачоўшчыну, якая стала для яго роднай. Звычайна зімой знаходзіўся ў Пецярбургу, а з ранняй вясны да позняй восені жыў у Дзедлаве ці Фёдараўцы. У 1908 годзе гэтую завядзёнку парушыў. У сталіцу не хацелася спяшацца, таму затрымаўся да пачатку чэрвеня. Што стала прычынай таму, ніколі не даведацца. Відаць, усё ж не адпускала родная зямля, хацела больш пабыць тут. Ён паслухаўся гэта ўнутранага імпульса і застаўся на Рагачоўшчыне назаўсёды. Жыццё Кігна-Дзедлава абарвалася недарэчна, пры абставінах, якія загадзя ніколі нельга прадбачыць. Загінуў ён 3 чэрвеня 1908 года ў час перастрэлкі з акцызным кантралёрам, нейкім Кляцецкім. Адбылося гэта ў цывільным клубе ў Рагачове.

Лізавета Іванаўна ў памяць аб любімым сыне пабудавала ў вёсцы Асмаловічы школу. Сама Паўлоўская памерла ў 1915 годзе. Жыве яна ў памяці і як першая беларуская жанчына-фалькларыстка. Аднак не ў апошнюю чаргу дзякуючы і таму, што яе сынам быў пісьменнік, журналіст Уладзімір Кігн-Дзедлаў. Апошнім часам іх усё больш і больш згадваюць, калі ў Рагачове і Рагачоўскім раёне праводзяцца розныя мерапрыемствы, прысвечаныя іх жыццю і творчасці. Калі ж пра што марыцца, дык пра тое, што цягам часу ўсё ж знойдуцца сродкі для выдання аднатомнікам выбраных твораў Кігна-Дзедлава. Магчыма, і ў серыі «Беларускі кнігазбор». У гэты аднатомнік абавязкова трэба ўключыць аповесць «Сашачка» — гэта найбольш значны твор Уладзіміра Людвігавіча.

## «Гэтыя месцы мне да болю знаёмы»

Народны пісьменнік Беларусі Міхась Лынькоў нарадзіўся 30 лістапада 1899 года ў вёсцы Зазыбы колішняга Віцебскага павета, а цяпер гэта Лёзненскі раён. Але сваё маленства Міхась Ціханавіч правёў на Рагачоўшчыне, бо зімой 1907 года сям'я Лыньковых перабралася ў гэтыя мясціны. Пераезд быў звязаны з работай бацькоў. Выхадцы з бедных сялян, яны працавалі на чыгунцы. Бацька рамонтным рабочым, а маці — вартаўніцай на пераездзе. Пасля пераезду пасяліліся на перагоне паміж чыгуначнымі станцыямі Тошчыцы і Рагачоў — гэта непадалёку ад вёскі Старое Сяло, на «250 вярсце» ў так званай будцы. Яе яшчэ называлі казармай. Звычайная прыбудова, што нагадвала сабой сялянскую хату.

Паколькі Міхась сярод дзяцей у сям'і быў старэйшы, то няньчыў малодшых братоў і сяцёр. Меў і іншы занятак — непадалёку ад жытла пасвіў карову. Але, хоць сям'я і жыла ў нястачы, бацька стараўся, каб дзеці дома набылі хоць якія веды. У вольны час, часцей у выхадныя, чытаў ім кніжку «Грамабой», у якой расказвалася пра Салаўя-разбойніка. Знаёміў іх і з казкамі. Дый яшчэ з артыкуламі, што вытлумачвалі розныя з'явы прыроды. А неяк з Рагачова вярнуўся з букваром, пачаў вучыць Міхася грамаце. Праўда, ад гэтага буквара хлопчык быў не ў вялікім захапленні. Пазней прызнаваўся, што яму больш ніколі не траплялася «ніводная кніга, якая магла б быць падобнай да гэтага лемантара па сваёй бязглуздасці і нуднасці». Чаго толькі ні рабіў, каб у хаце не было гэтай кнігі. І пад печ хаваў буквар, і ў зямлю закопваў, і пад старыя шпалы клаў… Ды ўсё адно буквар знаходзіўся. Зноў даводзілася карпець над ім.

Затое вельмі любіў дапамагаць маці. Як і ў Зазыбах, яна была пераезнай вартаўніцай. У яе абавязкі ўваходзіла таксама сустракаць і праводзіць цягнікі. Тут ужо без дапамогі Міхася не абыходзілася. У аўтабіяграфіі Міхася Ціханавіча чытаем: «Маленькія вокны (у будцы. — *А. М.*) спецыяльны былі прызначаны, каб сачыць за надыходзіўшымі цягнікамі. Дадуць табе заданне: пільнуй пасажырскі! — і ты круцішся ля акенца, увесь час пазіраеш удалячынь, а ці не з'явяцца там пакручастыя клубочкі дыму, якія робяцца ўсё большымі і большымі. — Ідзе! — урачыста дакладваеш матцы, і яна, узяўшы флажкі, сігнальны ражок, хуценька ідзе з будкі, закрывае абодва шлагбаўмы і сустракае цягнік».

Неўзабаве бацькі накіравалі старэйшага сына на вучобу ў пачатковую школу ў Старым Сяле. Вучыўся Міхась старанна. Найперш дзякуючы таму, што знайшоў паразуменне з настаўнікам Кірылам Бечыным. Кірыла Іванавіч быў педагогам па прызванні, захапляўся літаратурай. Гэтую любоў перадаў і свайму вучню. Міхась з задавальненнем чытаў кнігі, якія былі ў школьнай бібліятэцы. За добрую вучобу пасля заканчэння вучобы ў падарунак атрымаў кнігу Мікалая Гогаля «Вечары на хутары паблізу Дзіканькі». Бечын настойваў, каб бацькі аддалі сына ў двухкласнае вучылішча пры Рагачоўскай настаўніцкай семінарыі. Яны пайшлі насустрач яго жаданню. А праз два гады, восенню 1913 года Міхась паступіў і ў саму семінарыю. Ягоная стараннасць, добрыя веды пры паступленні таксама былі заўважаны: М. Лынькову прызачылі казённую стыпендыю, 15 рублёў у месяц. Сума — немалая. Яго бацька, працуючы рамонтным рабочым, атрымліваў толькі 12 рублёў 20 капеек. Праўда, стыпендыю давалі нядоўга. Праз некаторы час яе аддалі сыну нейкага ўплывовага чыноўніка, які якраз прыехаў у Рагачоў. Хутка давялося Міхасю развітацца і з інтэрнатам. Здымаў кватэру на ўскраіне гарадка, а каб мець нейкую капейку, на чыгуначнай станцыі разгружаў вагоны. Працаваў і на нафтаскладзе. Не цураўся і іншых выпадковых заробкаў. Жыццёвая неўладкаванасць, аднак, не сказвалася на вучобе. Быў лепшым вучнем у класе.

Скончыўшы семінарыю, Лынькоў настаўнічаў у вёсцы Ліпінічы (цяпер у Буда-Кашалёўскім раёне). Але не адной педагагічнай працай жыў. Актыўна ўдзельнічаў у рабоце мясцовага сельсавета, камітэта ўзаемадапамогі, у стварэнні ў гэтай вёсцы першага кааператыва. Калі ж пачалася нямецкая акупацыя, стаў

адным з арганізатараў ліпініцкага партызанскага атрада. А ў 1919—1922 гадах служыў у Чырвонай Арміі. Удзельнічаў у паходзе на Варшаву, разгроме Булак-Булаховіча. Знаходзячыся ў войску, даведаўся пра смерць бацькі. Яго не стала ў 1920 годзе. Правяраючы ноччу чыгунку, на рэйках заўважыў шмат шпалаў. Невядома, хто нацягаў іх: ці то белыя, ці то зялёныя — так называлі тых, хто хаваўся ў лесе ад мабілізацыі. Ды якая розніца. Неўзабаве мусіў прайсці кур'ерскі цягнік. Значыць, крушэнне непазбежнае. Каб прадухіліць бяду, хуценька пачаў сцягваць шпалы. Толькі скінуў апошнюю, як на ўсёй хуткасці пранёсся цягнік. Па вяртанні дамоў бацьку стала кепска. Выкліканы доктар нічым не змог дапамагчы. Відаць, памёр ад перанапружанасці.

Дэмабілізаваўшыся, Міхась Ціханавіч выкладаў гісторыю, рускую мову і літаратуру, маляванне ў Сверханьскай сямігодцы — гэта ў кіламетрах 20-ці ад Старога Сяла. Аднойчы наведванне маці для яго ледзь не скончылася трагічна. Вяртаючыся са Старога Сяла, у лесе напаткаў воўчую зграю. Ратуючыся ад яе, ускочыў на дрэва, на якім мусіў прасядзець да самай раніцы.

У снежні 1923 годзе ў сям'ю прыйшло новае гора. Маці, якая ездзіла ў Магілёў, дамоў вярталася з вялікім клункам. Трэба было выходзіць на Старасельскім прыпынку, але поезд нават мінуты не пастаяў. Давялося выскокваць на хаду. Падножкай пацягнула клунак. З ім Алена Емяльянаўна трапіла пад колы вагона. Цягнік спынілі і на ім параненую жанчыну завезлі ў бальніцу. Дзеці паспелі наведаць яе, спадзяваліся на лепшае. Ды маці не стала. Давялося Лынькову забіраць малодшых братоў і сястру да сябе ў Свержань.

У школе ён не толькі выкладаў тыя ці іншыя прадметы, а і праводзіў з вучнямі вялікую культурна-асветную работу. Прынамсі, стварыў драматычны гурток. Аднойчы рыхтаваўся спектакль па п'есе Максіма Горкага «На дне». Калі не знайшлося жадаючых выконваць ролю татарына, за яе ўзяўся сам. Справіўся паспяхова. Гэта ў многім прадвызначыла і поспех усяго спектакля. Паколькі на прагляд прадаваліся білеты, то ўсю выручку аддалі на дапамогу галадаючым Паволжа. Праводзіліся ў школе і іншыя мерапрыемствы. У прыватнасці, урачыста адзначаліся розныя важныя даты, юбілеі пісьменнікаў. Да ўсяго Лынькоў з'яўляўся актыўным селькорам бабруйскай акруговай газеты «Камуніст». Таму ў 1925 годзе яго запрасілі ў рэдакцыю на пасаду сакратара. Пазней быў намеснікам рэдактара, а ў 1928—1930 гадах — рэдактарам. Потым пераехаў у Мінск.

Атрымліваецца, што Рагачоўшчына для М. Лынькова, калі перафразіраваць словы вядомай песні, — тая заводская прахадная, якая ў людзі вывела яго. Таму і захаваў Міхась Ціханавіч назаўсёды ў сваім сэрцы ўдзячнасць рагачоўскай зямлі: «Гэтыя месцы мне да болю знаёмы. З імі звязана маё дзяцінства, юнацтва, першыя гады працы. Тут пройдзены ўсе дарожкі, тут знаёмы быў кожны куст, кожны камень каля дняпроўскіх берагоў, тут з завязанымі вачыма прайшоў бы кожны бугор, кожнае лясное балота». У іншым месцы чытаем: «Горад і яго ваколіцы былі надзычай маляўнічымі. Ён стаяў на крутым беразе Дняпра. З другога боку акраіны горада амывалі імклівыя воды ракі Друць, якая за горадам злучалася з Дняпром». Відавочна і іншае: вытокі лепшага твора Лынькова — аповесці «Міколка-паравоз», несумненна, пачынаюцца ў чыгуначнай будцы, што знаходзілася каля Старога Сяла

У 1909 годзе ў той самай чыгуначнай будцы нарадзіўся малодшы брат Міхася Лынькова — Рыгор. Спачатку ён вучыўся ў мясцовай пачатковай школе, пасля ў Сверханьскай сямігодцы і Бабруйскай сярэдняй школе. Загадваў хатай-чытальняй на вёсцы, адначасова вучыўся на курсах марзістаў пры Бабруйскім гарваенкамаце. Гэтыя веды спатрэбілася яму, калі служыў у арміі. Звольніўшыся ў запас, працаваў у рэдакцыі акруговай газеты «Камуніст». У 1936 — 1941 гадах быў адказным сакратаром газеты «Літаратура і мастацтва». У першы ж дзень Вялікай Айчыннай вайны, не развітаўшыся нават з сям'ёй, накіраваўся ў вайсковую часць, да якой быў прапісаны. У 1941 годзе прапаў без вестак.

Кароткай была ягоная жыццёвая дарога, але яшчэ карацейшым творчы шлях. Тым не менш працаваў плённа. Найперш як паэт, узяўшы сабе лірычны псеўданім Суніца. З першымі вершамі выступіў 1926 годзе. Друкаваўся ў газеце «Камуніст» і літаратурным дадатку «Вясна», зборніку Бабруйскай філіі «Маладняка» — «Уздым», іншых выданнях. На думку Васіля Віткі, творчасці Р. Лынькова «ўласцівы вострае адчуванне часу, глыбокае эмацыянальнае пранікненне ў вобраз, багацце і разнастайнасць паэтычных форм». Зарэкамендаваў сябе і як празаік, публіцыст. Не цураўся і перакладчыцкай нівы, пераўвасабляючы па-беларуску творы грузінскіх, польскіх, рускіх, украінскіх і іншых паэтаў. Разам з Васілём Віткам пераклаў паэму Уладзіміра Маякоўскага «Добра!». П’еса ж Міхаіла Святлова ў ягоным перакладзе была пастаўлена ў 1941 годзе Беларускім тэатрам юнага гледача імя Н. К. Крупскай.

## «У дзедаўскім родным гняздзе»

У народзе кажуць: «Не так важна, дзе нарадзіўся, як тое, дзе прыгадзіўся». Уладзімір Караткевіч, як вядома, нарадзіўся 26 лістапада 1930 года ў горадзе Оршы, а прыгадзіўся, што таксама добра вядома, усёй Беларусі. Аднак, развіваючы думку, што закладзена ў змест вышэй прыведзенай прымаўкі, нельга не адзначыць, што для станаўлення творчай асобы вельмі шмат значаць умовы, у якіх гэта адбывалася. Для пісьменніка — не тое, што ў не меншай ступені, а шмат у чым нават і ў большай. Пацвярджэнне таму і ў біяграфіі Караткевіча.

У ягоным лёсе — як у жыццёвым, так і мастакоўскім — асаблівая роля належыць гораду Рагачову. Той, хто добра знаёмы з творчасцю Уладзіміра Сямёнавіча, не мог не чытаць яго паэму «Зямля дзядоў». Ёсць у ёй і такія радкі, больш за тое, яны — заключныя.

Зямля дзядоў! Любімы мой народзе,
Што моц сваю пазычыў у дубоў,
Дыхтоўна зробленыя на стагоддзі
Нашчадкі бортнікаў і рыбакоў.

Не зверне шлях мой на шляхі чужыя,
Заўсёды будуць дарагія мне
Зарэчча, горад, хвоі залатыя,
Ашыткі на прароўскім мулкім дне.

Гэта адзін з самых ранніх твораў У. Караткевіча. Тым больш, калі мець на ўвазе жанр паэмы. «Зямлю дзядоў» ён і пачаў пісаць у Рагачове. Яшчэ ў 1950 годзе, а завяршыў праз пяць гадоў у Лесавічах, на Украіне. Прызнаючыся ў любові да Рагачоўшчыны, а калі глядзець шырэй, то і да ўсяго Прыдняпроўя, згадваў асобныя моманты з мінулага гэтага кутка Бацькаўшчыны: «над Дняпром шырокія курганы», «руіны замка каралевы Боны», п*а*лі «напалеонаўскіх спаруд старых». Яны загнівалі каля так званага Прарова, гэта крыху вышэй ад горада. Поруч з гэтым у паэме прысутнічала і тое, што мела самае непасрэднае дачыненне да яго ўласнай біяграфіі. Успамінаў «Збароў, дзе некалі мая матуля вясковаю настаўніцаю была», капліцу «над бабчынай магілаю старой». А гэта ўжо тое, што з’яўлялася для Караткевіча самай блізкай сучаснасцю: дом «пад разгатаю таполей», а ў доме гэтым «расце на змену самы меншы брат».

У Збарове маці пісьменніка Надзея Васільеўна некаторы час настаўнічала пасля заканчэння ў 1911 годзе Марыінскай гімназіі ў горадзе Магілёве. Не толькі яна аказала вялікі ўплыў на выхаванне сына, але і яе бацька, а Валодзеў дзед — Васіль Грынкевіч. Васіль Юльнавіч быў павятовым казначэем у Рагачове. Некаторыя моманты ягонага жыцця ўгадваюцца ў старым Данілу Заборскім-Вежы ў рамане «Каласы пад сярпом тваім». Між іншым, адным з кіраўнікоў паўстання

1863 — 1864 гадоў у Прыдняпроўі быў Томаш Грыневіч, сваяк Надзеі Васільеўны. Царскія ўлады расстралялі яго ў Рагачове. Паданне пра яго Караткевіч прывёў у пралогу да свайго рамана «Леаніды не вернуцца да зямлі», што на Беларусі быў выдадзены пад назвай «Нельга маўчаць».

У Рагачове Уладзімір Сямёнавіч пачаў пісаць і раман «Каласы пад сярпом тваім». Вядома і дакладная дата, калі гэта адбылося: 27 красавіка 1962 года. Але збіраць матэрыялы для гэтага твора Караткевіч узяўся раней, калі яшчэ вучыўся ў Кіеўскім дзяржаўным універсітэце. Штуршком жа для таго, каб ад задумы перайсці да яе ўвасаблення, стала ўбачаная ім 7 жніўня 1959 года каля вёскі Азярышча на адхоне высокага правага берага Дняпра груша. Гэтая груша як бы і падказала пачатак рамана, што стаў адным з самых значных твораў пісьменніка. Над ім Уладзімір Сямёнавіч працаваў не толькі ў 1962 годзе, а і ў 1963, 1965 гадах. Таксама ў Рагачове. Балазе тут для гэтага ў яго былі ўсе ўмовы: дзядзька пісьменніка Ігар Грынкевіч у сваім прасторным доме адвёў яму вялікі пакой. Гэты дом некалі быў пабудаваны Васілём Юльянавічам. У Караткевіча з Грынкевічам склаліся самыя прыязныя адносіны. Гэта відаць хоць бы з аўтографа, які ён пакінуў яму 15 мая 1981 года на двухтомніку сваіх выбраных твораў: «Дарагому дзядзьку Ігару, майму другому бацьку».

Там жа, дзе ўмовы спрыяльныя, а стасункі не проста сваяцкія, а сяброўскія, і хораша пішацца. Пісалася яшчэ і да рамана «Каласы пад сярпом тваім». Прынамсі, да дзядзькі Караткевіч паспяшаўся летам 1954 года, скончыўшы ўніверсітэт. Дый як было не паспяшацца, калі з гэтым утульным домам, з ягоным гасцінным гаспадаром часта быў у думках, а сама рагачоўская зямля пастаянна напаміна Уладзіміру Сямёнавічу — адсюль ягоны радавод. Што гэта сапраўды так, відаць з верша «Вагеньчык у яблыневым садзе»:

Тут цягне жыць і кахаць,
Тут добра так, як нідзе,
У старасвецкай хаце,
У дзедаўскім родным гняздзе.
Бо з гэтай няяркай зямліцы,
З абрываў рудых, з лугоў,
З садоў у начной расяніцы
Наш корань у свет пайшоў.

Пісаліся Караткевічам у Рагачове і іншыя вершы. Таксама напоўненыя любасцю да гэтых краявідаў, да прыроды, адчуваць далучанасць да якой — найвялікшае шчасце. Дый не толькі вершы нараджаліся падчас наведвання Рагачова. Гасцюючы ў дзядзькі пасля завяршэння першага навучальнага года на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве, 21 жніўня 1959 года Уладзімір Сямёнавіч спавядаўся ў лісце Янку Брылю: «Амаль месяц быў у Рагачове. Вось і ўвесь адпачынак. Зрабіў другую кнігу вершаў «Вячэрнія ветразі» і заўтра дашлю яе Анатолю Сцяпанавічу (маецца на ўвазе Анатоль Вялюгін, які тады быў рэдактарам аддзела паэзіі часопіса «Полымя». — *А. М.*), напісаў некалькі новых вершаў і, здаецца, не зусім дрэнных. І яшчэ рыбачыў і рыбачыў. Люблю Дняпро, як вершы, нават такі, змялелы, абязрыбелы, з дубамі, якія паспяхова пускаюць на дравішкі. Не бачыў Нёмана, але думаю, што Дняпро ля Рагачова не горшы. Ён, мне здаецца, больш першабытны. Гліністыя, пясчанікавыя, сланцавыя адхоны. Крыніцы выбіваюцца з-пад іх, шастае трава. Так і здаецца, што зараз ўз'явіцца над ракою табун дзікіх каней. І месяц чырвоны, нізкі. А вышэй ад горада лясы ідуць і вёскі над адхонах такія, што сэрца заходзіцца ад замілавання. Адны Кісцяні чаго варты! І мае ён брагі, мыс. Дубы вымывае, старыя, заражскіх часоў. Я напэўна рыбаком стаў бы, каб не пісаў. Падабралася ў нас кампанія: я ды дзядзька, ды два яго сябры, Мікола ды Пятро. І што мы нарагаталіся, што разыгралі адзін аднаго, што юшкі насёрбаліся! І галоўнае, кожны дзень — гэта тысяча адкрыццяў».

Дарэчы, у дзявятым раздзеле рамана «Нельга маўчаць» можна даведацца пра тое, як жылося-працавалася яго аўтару ў доме свайго дзядзькі. Галоўны герой Андрэй Грынкевіч — у пэўнай ступені вобраз аўтабіяграфічны. Гарадок жа Сухадол, які наведаў ён, — па сутнасці Рагачоў. Лёгка пазнаецца і дом, у якім Грынкевіч «атрымаў вялікі пакой (два акны ў сад, два — на вуліцу)». Гэты дом пабудаваў яшчэ ягоны дзед. Грынкевіч жа наведваецца ў Сухадол, як да сябе дамоў: «Расклаў на стале рукапісы, — і пайшлі дні ў чаргаванні працы і адпачынку, вершаў і рыбнай лоўлі…» Хораша адпачывалася, плённа працавалася: «…ён ніколі яшчэ не пісаў так многа і добра, ніколі так пэўна не адпачываў». Душой жа рыбацкай кампаніі з'яўляўся дзядзька галоўнага героя рамана. У яго «быў рэдкі гумар, такі сонечна-вясёлы, такі смачна з'едлівы, што каля яго людзі смяяліся да знямогі з раніцы да вечара».

Моцная сваёй прывязанасцю да рагачоўскіх рэалій навела «Ладдзя роспачы». Зазіраючы ў сярэднявяковыя часы, пісьменнік, па ягоным прызнанні, узяўся «даць абагульнены характар беларуса, якому і чорт не брат, якога і смерць не палохае, які больш за ўсё любіць Радзіму, жыццё і весялосць і ні пры якіх абставінах не ўступіць у барацьбе за іх». Гервасій Выліваха гуляе ў шахматы нават з самой… смерцю. Хто стаў прататыпам гэтага персанажа, адназначна адказаць цяжка. Адно відавочна: Караткевіч пісаў свайго Выліваху з людзей, у якіх бачыў само ўвасабленне духу народнага, нязломнасць, няскоранасць, дый жаданне хоць нечым звярнуць на сябе ўвагу. Бадай, галоўным прататыпам Гарвасія Вылівахі з'яўляецца ўсё ж мясцовы асілак… Ён, як памятаеце, згадваецца ў кнізе «Зямля пад белымі крыламі. Гэты асілак «калісьці ў Рагачове, на спрэчку, пазносіў у адно месца дзесяць дванаццаціпудовых якараў з баржаў і пераблытаў іх лапамі так, што пасля куча людзей з гэтых лайбаў ледзь разблыталі, каб кожнаму забраць свой».

Раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», аповесці «Чазенія», «Сівая легенда», іншыя творы таксама маюць, калі можна так сказаць, рагачоўскую прапіску. Дый некалькі дакументальных фільмаў па сцэнарыях Уладзіміра Сямёнавіча здымаліся ў Рагачове. Так што з поўным на тое правам можна сказаць, што Караткевіч, хоць і нарадзіўся ён у Оршы, рагачоўскі. Наколькі блізкай была яму гэтая зямля, сведчыць і тое, што ў чэрвені 1984 прыязджаў у Рагачоў. Быццам прадчуваў, што нядоўга яму засталося жыць. Як вядома, не стала яго 25 ліпеня 1984 года.

**Ведай нашых!**

Пра народнага пісьменніка Андрэя Макаёнка напісана шмат. Нямала гаварылася пра яго і летась, калі споўнілася 95 гадоў з дня ягонага нараджэння. Ды гэта той выпадак, калі не лішне ў чымсьці і паўтарыцца. Жыццёвая дарога Андрэя Ягоравіча пачалася 12 лістапада 1920 года ў вёсцы Борхаў. Скончыўшы ў 1939 годзе Журавіцкую сярэднюю школу, паступіў у ваеннае вучылішча. Аднак у такім выбары хутка расчараваўся. Вярнуўся дамоў, год працаваў у раённым Доме культуры. Потым паехаў у Маскву паступаць ва Усесаюзны інстытут кінематаграфіі, але гэтым разам не пашанцавала. Праўда, абнадзеілі, што праз год можна падаць дакументы зноў. Ды юнакоў з сярэдняй адукацыяй пачалі прызываць у армію на год раней, чым іншых ваеннаабавязаных.

Служыў Макаёнак на Каўказе, праз некаторы час быў прызначаны намеснікам палітрука роты. А тут пачалася Вялікая Айчынная вайна. Спачатку Макаёнка яна абышла бокам. Іхнюю дывізію перакінулі ў Іран, каб прадухіліць туды наступленне гітлераўскіх захопнікаў. Чарговая дыслакацыя дывізіі — Крым, а гэта жорсткія, крывавыя баі. У адным з іх у канцы красавіка 1942 года Андрэя Ягоравіча цяжка параніла. Дыягназ урачоў нічога добрага не абяцаў: гангрэна. Зразумела, чым скончылася б аперацыя. Аднак да яе, на шчасце, не дайшло. Сваё права «на ногі» Макаёнак адстаяў пры дапамозе трафейнага пісталета. Дый пашанцавала, што

непадалёку ад медсанбата прызямліўся для дазапраўкі самалёт, на якім з варожага тылу вывозілі параненага камандзіра партызанскага атрада. У самалёце аказалася адно свабоднае месца…

У шпіталях Краснадара і Баку малады палітрук лячыўся больш як чатыры месяцы. Як ні рваўся ён на фронт, з гэтых памкненняў нічога не атрымалася, спісалі ў запас. Працаваў выкладчыкам у далечыні ад родных мясцін, а пасля вызвалення іх ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў вярнуўся дамоў. Настаўнічаў у Журавіцкай сярэдняй школе, быў сакратаром райкама камсамола. Давялося працаваць і на іншых работах, пакуль у верасні 1947 года ні стаў слухачом Рэспубліканскай партыйнай школы пры ЦК КП(б)Б. Па заканчэнні яе Макаёнак у 1949 годзе стаў загадчыкам аддзела прозы часопіса «Вожык». Некаторы час працаваў літкансультантам Саюза пісьменнікаў Беларусі. Са студзеня 1966 года ўзначаліў рэдакцыйны калектыў часопіса «Нёман».

Але як чалавек таленавіты, без перабольшання, жыў творчасцю. Замалёўкі, вершы пісаў яшчэ школьнікам. У 1941—1942 гадах свае ўражанні занатоўваў у дзённіку, пасля вайны ўзяўся за апавяданні і драматургічныя творы. Друкаваўся з 1946 года. Яго талент гумарыста і сатырыка першымі сваімі гранямі раскрыўся ў «Вожыку». Выступаў не толькі з гумарэскамі, фельетонамі. Заснаваў пастаянную рубрыку «Выбачайце, калі ласка», нязменным аўтарам якой з'яўляўся сам. Але асноўнае прызванне А. Макаёнка, несумненна, драматургія. Пачынаў з аднаактовак, каб паступова перайсці да буйнамаштабных твораў.

Першынцам стала палітычная драма «На досвітку», пастаўленая тэатрам імя Янкі Купалы ў 1951 годзе. У ёй расказвалася пра барацьбу французскіх рабочых за свае правы. Тэма для свайго часу актуальная, таму спектакль лёгка і хутка знайшоў свайго гледача. Ды малады драматург не збіраўся спачываць на лаўрах. Яго вабілі праблемы, што існавалі ў сваёй краіне. Непрыняцце бюракратызму ва ўсіх яго праяўленнях прывяло да напісання сатырычнай камедыі «Выбачаце, калі ласка!», у якой бязлітасна выкрыты хібы ў тагачасным кіраванні сельскай гаспадаркай. Макаёнак настолькі глыбока пранікнуў у сутнасць стылю адміністрацыйна-бюракратычнай сістэмы, што яна па імені носьбіта яе пачала называцца «калібераўшчынай».

Не сказаць, каб лёс усіх твораў Андрэя Ягоравіча быў аднолькава шчаслівы. Для прыкладу, спектакль «Каб людзі не журыліся» ў рэпертуары пратрымаўся нядоўга, хоць п'еса і напісана на высокім мастакоўскім узроўні. Затое «Лявоніха на арбіце», у якой далёка не ўсё адпавядала дырэктыўным установкам, мела небывалы поспех. У рэшце рэшт, Макаёнак, не зважаючы на тое, каму што падабаецца, а што не падабаецца, пасьпяхова абжываў драматургічную дзялянку, выкарыстоўваючы для гэтага самыя розныя жанры.

З-пад яго пяра з'явіліся палітычны памфлет «Зацюканы апостал», народны лубок «Трыбунал», камедыя-рэпартаж «Таблетку пад язык», сентыментальны фельетон «Верачка», трагікамедыя «Пагарэльцы» і іншыя творы. Поспех спектакляў па ягоных п'есах быў такі вялікі, што іншым драматургам заставалася толькі пазайздросціць. Не толькі беларускім, а і ў тагачасных саюзных рэспубліках. Дый маскоўскім — таксама. Для прыкладу: «Выбачайце, калі ласка!» паставілі 200 тэатраў, «Трыбунал» — 100, «Лявоніху на арбіце» і «Зацюканага апостала» на сцэне ўвасаблялі каля ста тэатраў.

Памёр Макаёнак 16 лістапада 1982 года. Сёння Журавіцкая сярэдняя школа носіць ягонае імя, а ў 1986 годзе быў адкрыты літаратурны музей пісьменніка

## Засталіся на той вайне

Наша асаблівая ўдзячнасць тым, хто ўратаваў чалавецтва ад чумы нямецкага фашызму. У гады Вялікай Айчыннай вайны разам з усімі з гітлераўскімі захопнікамі змагаліся і пісьменнікі. Многія з іх не дажылі да светлага дня Перамогі. У гэтым шэрагу, як ужо гаварылася, Рыгор Лынькоў, а таксама Мікола Сурначоў, Алесь Жаўрук.

Сурначоў нарадзіўся ў 1917 годзе ў вёсцы Слабада. Скончыў Рагачоўскую сямігодку, потым Гомельскі сельскагаспадарчы тэхнікум. Працаваў аграномам, пасля чаго перайшоў у рэдакцыю рагачоўскай раённай газеты «Камуна». У 1937 годзе паступіў у Гомельскі педагагічны інстытут, з яго праз два гады перавёўся ў Мінскі педінстытут. Вучобу сумяшчаў з працай у рэдакцыях газет «Звязда» і «Чырвоная змена». Калі пачалася вайна, Сурначоў ваяваў на Заходнім, Бранскім, Данскім, Паўднёва-Заходнім і іншых франтах. Дайшоў да Берліна. Старшы лейтэнант узвода знішчальнага процітанкавага артылерыйскага палка Сурначоў загінуў у ноч з 19 на 20 красавіка 1945 года ў рукапашным баі.

З 1933 года друкаваўся ў раённай газеце, з 1938-га — у рэспубліканскім друку. Хрэстаматыйным стаў ягоны верш «У стоптаным жыце», які нарадзіўся ў чэрвені сорак першага, калі Сурначоў разам з паэтам Міколам Аўрамчыкам выходзілі з палаючага Мінска. Каля Чырвонага ўрочышча ён і прадэкламаваў свайму сябру радкі, што нарадзіліся па дарозе:

Ніколі не ехаць
Хлапцу маладому
Да блізкага гаю,
Да роднага дому.

Над ім асыпаюцца
Слуцкія краскі,
Абсмалены колас
Схіліўся да каскі.

Ляжыць ён, як віцязь,
У стоптаным жыце.
Маці спаткаеце —
Ёй не кажыце.

Нельга не прыслухацца да меркавання Варлена Бечыка: «Верш “У стоптаным жыце” меў для нашай паэзіі ваеннага часу асаблівае значэнне, бо ўжо на пачатковым перыядзе вайны, калі пераважалі творы агітацыйна-публіцыстычнага кірунку, адкрываў новыя магчымасці лірычнага псіхалагізму. Вобраз у невядомасці загінуўшага воіна, малюнак здратаванага, гвалтоўна парушанага мірнага жыцця, унутраны гістарызм, падтэкставы велічны вобраз Радзімы — усё гэта было вельмі істотным для паглыблення нашай паэзіі ў новыя душэўныя, псіхалагічныя глыбіні чалавека на вайне». Нездарма гэты верш на рускую мову пераклаў Аляксандр Твардоўскі.

Пры жыцці ў Сурначова кнігі не выходзілі. Пасля вайны яго вершы сабралі сябры. Так з’явілася кніжка «На сурмах баравых» (1946), потым быў зборнік «Барвовая зара» (1959). Найбольш поўна мастакоўская спадчына Сурначова прадстаўлена ў кнізе «Акопны спеў» (1986). У ёй змешчаны таксама ягоныя лісты, успаміны пра яго. Пра тое, што жыў такі паэт-воін, нагадвае і вуліца Сурначова ў Рагачове.

Зборнік «Акопны спеў» пабачыў свет у серыі, што выдавалася па ініцыятыве Бечыка. Яна назвы не мела, але сама за сябе гаварыла выява пяра ў полымі, змешчаная на вокладцы. У гэтай жа серыі выйшла і кніжка Алеся Жаўрука «Крывёю сэрца» (1987). Ён (сапраўднае прозвішча Сінічкін) нарадзіўся 19 жніўня 1910 года ў горадзе Сянно Віцебскай вобласці, але сям’я неўзабаве пераехала ў Рагачоў. У школе пасябраваў з Аляксеем Зарыцкім, будучым вядомым беларускім паэтам. Зарыцкі нарадзіўся 22 сакавіка 1911 года ў горадзе Хоцімску, на Магілёўшчыне, але і ў яго біяграфіі прапісалася Рагачоўшчына.

Удвух з Жаўруком яны выпускалі гумарыстычную газету «Смех і слёзы». У 1927 годзе Жаўрук паступіў у Рагачоўскі педагагічны тэхнікум. Закончыўшы яго, настаўнічаў у славутым саўгасе «Сосны» Любанскага раёна. У 1937-м скончыў

Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры, вучыўся ў аспірантуры пры Акадэміі навук Беларусі. У 1937 годзе яго прызвалі ў Чырвоную Армію. У вайну быў карэспандэнтам армейскай газеты «В бой за Родину». Загінуў 23 жніўня 1942 года пад Сталінградам.

У адрозненне ад Сурначова, пры жыцці выдаў нават тры кнігі: «Ручаіны» (1936), «Дняпро выходзіць з берагоў» (1938), асобнае выданне паэмы «Крывёю сэрца», прысвечаную грамадзянскай вайне ў Іспаніі. А яшчэ разам з Андрэем Ушаковым, які таксама загінуў у Вялікую Айчынную вайну, паэмы для дзяцей «Пра майго таварыша» і «Пра слаўных папанінцаў нашага дзетсада» (абедзве 1939). У 1950 годзе выйшаў зборнік вершаў Жаўрука для дзяцей «Пра майго катка», у 1960-м — «Выбранае».

Наколькі дарагой стала для Жаўрука Рагачоўшчына, добра відаць з яго «Рагачоўскага сшытка». Гэта як бы невялікая паэма, напісаная ў 1936 годзе, у якой гучыць прызнанне ў любві гораду маленства і юнацтва.

## «…Чым я раны сэрца забінтую?»

Не магу не згадаць і Уладзіміра Дубоўку, хоць адразу прадбачу недаўменне сапраўдных знаўцаў паэзіі. Маўляў, якое дачыненне ён мае да Рагачоўшчыны? Мала таго, што нарадзіўся ў вёсцы Агароднікі цяперашняга Пастаўскага раёна, дык на Рагачоўшчыне ніколі не бываў. Што праўда, то праўда. Але мог жа не толькі пабываць у гэтых краях, а і нават парадніцца з імі. Пры ўмове, што любоўная лодка яго і той, якую ён кахаў, даплыла б да Друці і Дняпра. Зразумела, час зваротнага кірунку не мае, тым не менш…

Агульнавядома, што Дубоўка з'яўляўся адным з самых апантаных і шчырых прыхільнікаў беларускасці. Марыў пры гэтым і пра «Камуну Свету», што нічога дзіўнага. Усё ж жыў у сваім часе. Аднак Уладзіміру Мікалаевічу стала не па сабе, калі пачалося наступленне на беларускасць. Рабілася гэта пад выглядам барацьбы з «нацдэмаўшчынай». Асабліва такая работа актывізавалася ў канцы 20-х гадоў. На гэты час для Дубоўкі трывожныя «званочкі» паспелі ўжо прагучаць. Відаць, гэта было не толькі па тым, што супраць яго актывізаваліся крытычныя закіды. Цішка Гартны, які тады з'яўляўся дырэктарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР, заявіў: «Пакуль я ўзначальваю яго, кнігі Дубоўкі выходзіць не будуць».

Крыўдным было не толькі тое, што гэта сказаў той Гартны, які некалі ўхвальна ўспрыняў яго першую кнігу «Строма», вітаў «пекныя напевы яго музы». Балюча стала ад усведамлення, што Гартны заявіў гэта тады, калі Уладзімір Мікалаевіч прапанаваў у выдавецтва рукапіс сваёй кнігі «Наля». Такая незвычайная назва — невыпадковая. Свой чарговы зборнік Дубоўка назваў па імені той, якую пакахаў. Гэта была паэтэса Наля Маркава. Па пашпарце Настасся Маркава. Гэта Налі ён прысвяціў у папярэдняй кнізе «Трысцё» верш «Ты руку сваю забінтавала», хоць і не ўказаў гэта:

Ты руку сваю забінтавала,
маладая… як цябе клікаць?
Маё сэрца рвецца на кавалкі
і сціскаецца тугой вялікай.

Вусны пацалую шчыра, моцна,
прытуліся … Хай гавораць людзі:
Словы іх, як палыновы воцат,
звінавацяць і мяне ў блудзе.

Ці ж я буду скардзіцца на крыўду:
у душы паэту — чорт зламае карак.
Плач душою, а часіны прыдуць,
слёзы завіюцца у каралі.

Ты руку сваю забінтавала,
чым я раны сэрца забінтую?
Яно рвецца, рвецца на кавалкі
За сябе, цябе і за другую

«Другой» была іншая дзяўчына, тады студэнтка Акадэміі камуністычнага выхавання ў Маскве Марыя Кляўс. З ёй Дубоўка ў хуткім часе і ажаніўся. Аднак светлае пачуццё ў ягонай душы ўпершыню абудзіла менавіта яна, Наля. Да гэтага ж нават «не верыў, што ёсць каханнне»:

Я шкадую усё ж ткі сябе
і мне сорамна сэрца ганіць.
Але ж праўду кажу цяпер:
я не верыў, што ёсць каханне.
Чуў заўсёды, што гэта жарт,
што і ў попеле золата значна.
А калі запалае ў душы пажар, —
трэба песняй лячыць, не йначай.
І пяяў, калі песні былі,
як на дзікім каменні навальніца.
Узрастаў, бы чабор ля раллі…

Кніга «Наля» ўсё ж у 1927 годзе выйшла. Але не ў Мінску, а Маскве, у Цэнтральным выдавецтве народаў СССР. Дык хто яна, гэтая дзяўчына, імем якой Дубоўка назваў нават кнігу паэзіі?

Нарадзілася Маркава 25 снежня 1906 года ў вёсцы Хатоўня тагачаснага Быхаўскага павета Магілёўскай губерні, цяпер Рагачоўскі раён. Выхоўвалася ў сям'і дзеда, які з'яўляўся шчырым вернікам, як і ўся ягоная сям'я. Але і любіў расказваць розныя дзівосныя гісторыі, што з маленства запалі ў душу яго ўнучцы. Пачатковую школу Маркава скончыла ў Прапойску (сённяшні Слаўгарад), дзе жыла ў цёткі. Вярнуўшыся ў Хатоўню, працягвала вучобу ў школе 2-й ступені, якая неўзабаве была ператворана ў сямігодку. Потым паступіла ў Рагачоўскі педагагічны тэхнікум, з якога ў 1924 годзе перавялася на другі курс Магілёўскага педтэхнікума. Скончыла яго ў 1927 годзе. Загадвала цэнтральным піянерскім клубам пры Магілёўскім абкаме камсамола. Працавала выхавацелем у Магілёўскай дзіцячай камуне.

Як успамінаў Максім Лужанін у гаворцы з Анатолем Вярцінскім (дарэчы, ён некаторы час працаваў у рэдакцыі рагачоўскай раённай газеты «Камунар»), Наля была «не сказаць, каб прыгожая, але мілавідная, светлая, з выразнымі вельмі вачыма. Насіла, як і ўсе тагачасныя студэнткі, кажушок, квяцістую з чырвоным хусціну, якая называлася чамусьці «тараноўкай»… Дый, па словах Аляксандра Амвросьевіча, «Уладзік (так называлі яго ўсе, акрамя маці: яна звала Валодзем) вылучаўся і рабіў ураженне шмат чым — і сваёй яўна паэтычнай знешнасцю (яснавокі, статны, натуральны ў абыходжанні), і незвычайнай дасціпнасцю, і манерай чытаць вершы і пераконваць у спрэчцы. І яшчэ, мабыць, тым, што на маладнякоўскіх сходах, на першым пленуме і з'ездзе «Маладняка» ён з'яўляўся не адзін…» Канешне, з ёю, Наляй Маркавай.

На праяўленне ўзаемных пачуццяў не магло не паўплываць і тое, што абое любілі паэзію. Вершы Маркава пачала пісаць у 1921 годзе ў выніку захаплення містычнай творчасцю Сямёна Надсана. Гэты паэт прывабіў яе невыпадкова. Безумоўна, сказалася выхаванне ў маленстве ў рэлігійнай атмасферы. Але знаёмства з творчасцю Дзям'яна Беднага, Максіма Горкага паспрыяла з'яўленню ў вершах маладой паэтэсы іншых матываў — грамадзянскіх, патрыятычных. Як слушна адзначае Ірына Багдановіч, «яе лірыку напаўняла пачуццё радасці і захаплення, выкліканае рэвалюцыйным абнаўленнем жыцця ў краіне, што было ўласціва ў цэлым маладнякоўскай паэзіі. Яе творчасць сціплай, але арганічнай старонкай

увайшла ў паэтычны летапіс свайго часу, аддаючы пэўную даніну рыторыцы і дэкларацыям. Найбольш натуральна лірычны талент паэтэсы раскрыўся ў вершах інтымнага плана, у якіх яна ідзе ад фальклору, ад асабістых уражанняў і ўзрушанасці пачуццяў. Адзін з найбольш дасканалых узораў яе інтымнай лірыкі верш «У сэрцы аганькі».

Дарэчы, гэты верш быў надрукаваны ў шостым нумары часопіса «Полымя» за 1928 год, хоць напісаўся амаль годам раней, 20 ліпеня 1927-га:

### У сэрцы аганькі…

…Навокал — лес і белыя паляны,
застыгла ў занізі сярэбраная ноч…
А ў сэрцы — мітульга
мяцеліцаю п'янай,
А ў сэрцы — аганькі
смуглявых воч…

Увысь глядзіцца сумная дарога,
І гай заводзіць патаемны вой,
і на палёх — віхураў
буйны рогат…
Я думаю, чарнявы:
што з табой?..

Ці на дарогу выйду — толькі вецер
спагадаю пяе ля гаю…
І расплялісія думкі
доўгім веццем,
нехта сэрца
ціха супыняе…

Калі цягнік за гаем закрычыць,
трывожным гукам закалыша далі,
я усміхаюся,
а далячынь
сціскае сэрца
жалем…

Увысь глядзіцца нудная дарога
і гай заводзе патаемны вой,
і за вакном — віхураў
буйны рогат…
Я думаю, чарнявы:
што з табой?..

Дэбютавала ж Маркава вершам «У вёску» ў 1925 годзе ў газеце «Магілёўскі селянін». Друкавалася таксама ў часопісах «Маладняк», «Чырвоны сейбіт», «Полымя», газетах «Савецкая Беларусь», «Чырвоная змена», літаратурных зборніках «Дняпроўскія ўсплёскі» і «Ранне». Толькі працягвалася гэта нядоўга. Выйшаўшы замуж, стаўшы Настассяй Хмара, яна пераехала да мужа ў Ленінград, дзе працавала выхавацелем дзіцячага сада пры заводзе «Электрык». Скончыўшы ў 1934 годзе Ленінградскі педагагічны інстытут, выкладала рускую мову і літаратуру ў Ваенна-артылерыйскім тэхнічным вучылішчы. У ім жа загадвала агульнаадукацыйным навучальным цыклам. Перад вайной была дырэктарам інтэрната Куйбышаўскага раёна горада Ленінграда. З 200 ягонымі выхаванцамі эвакуіравалася ў Чалябінскую вобласць. Па вяртанні да выхаду на пенсію ў 1962 годзе працягвала займацца педагагічнай дзейнасцю.

Да вершаў больш не вярталася, хоць і пражыла доўгае жыццё: не стала Налі Маркавай у 1994 годзе. А можа, што-небудзь усё ж і пісала для сябе? Хоць, калі гэта і сапраўды так, нешта засталося б.

## «Цудоўны зялёны гарадок…»

Калі бяру ў рукі кнігу лаўрэта Дзяржаўнай прэміі Беларусі Алены Васілевіч «Пачакай, затрымайся…», адразу ж хочацца адгарнуць яе апошнюю старонку. Галоўная гераіня Ганька Гурыновіч праводзіць свайго сябра Ваню Лазоўскага, не ведаючы, не здагадваючыся, што больш яны ніколі не сустрэнуцца: «Світае… Да адпраўлення цягніка трэба яшчэ забегчы ў гасцініцу разлічыцца. На вакзале Ваня прымушае мяне выпіць шклянку чаю. Сам ён закурвае папяросу.

Над ранішнім умытым перонам гучаць чыгунныя ўдары — прыбывае пасажырскі цягнік. Імгненныя сем мінут стаянкі…

Цягнік ужо зноў рухаецца з месца. А мы ўсё яшчэ трымаемся за рукі.

— Пішы!

— Чакай!

* * *

А праз месяц і дванаццаць дзён пачалася вайна».

Тэтралогія Васілевіч «Пачакай, затрымайся…» — на дзіва аўтабіяграфічная. Заключная, чацвёртая аповесць, што і дала назву ўсяму мастацкаму цыклу — не выключэнне. У ёй расказваецца пра вучобу Ганькі ў Рагачоўскім настаўніцкім інстытуце, пра першае каханне. Гэта ўсё тое, што перажыла і сама пісьменніца.

Нарадзілася Алена Васілевіч 22 снежня 1922 года ў колішнім засценку Даманшчына, цяпер вёска Ліпнікі Слуцкага раёна. Рана засталася сіратой. Вучылася ў Слуцкім педвучылішчы, а перад самай вайной скончыла настаўніцкі інстытут у Рагачове. Для яе на ўсё жыццё «гэты цудоўны зялёны гарадок па калена ў белым пяску на беразе Дняпра застаўся самым мілым і дарагім сэрцу ўспамінам».

У вайну эвакуіравалася ў Арэнбургскую вобласць (Расія). Працавала ў калгасе, у бібліятэцы ваеннага шпіталя, пісарам у воінскай часці. У Харкаве (Украіна) была начальнікам бібліятэкі. Пасля вайны скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Працавала літкансультантам у Курскім абласным выдавецтве (Расія). Дваццаць два гады загадвала аддзелам культуры часопіса «Работніца і сялянка» (цяперашняя «Алеся). З 1972-га па 1983 год — загадчык рэдакцыі літаратуры для юнацтва выдавецтва «Мастацкая літаратура», потым «Юнацтва».

## Журналістыка пісьменніку — не перашкода

У горадзе Рагачове 25 сакавіка 1928 года нарадзіўся празаік, нарысіст, кінасцэнарыст лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Мехаў. У 1945 — 1950 гадах ён вучыўся на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Адначасова працаваў у рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва», а таксама ва ўніверсітэцкай шматтыражцы. У 1948 годзе пачаў выступаць у друку з артыкуламі і рэцэнзіямі, а з 1951-га — з нарысамі і апавяданнямі. Тады ўжо споўніўся год, як скончыў універсітэт, працаваў у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена». Аддаў ёй дзесяць гадоў. Спачатку быў літсупрацоўнікам, а потым загадчыкам аддзела. З 1961 па 1975 год зноў звязаў лёс з «ЛіМам»: загадчык аддзела, адказны сакратар. З 1975 года да выхаду на пенсію ў 1988-м

быў старшым рэдактарам, каментатарам літаратурна-драматычнай рэдакцыі на Рэспубліканскім радыё.

Вядомасць Мехаву прынеслі творы гістарычна-рэвалюцыйнай тэматыцы. Да яе звярнуўся, праўда, у чымсці і выпадкова. У аўтабіяграфіі Уладзімір Львовіч так расказвае пра гэта: «Недзе ў кастрыніку 1955 года сядзелі мы, група чырваназменаўцаў, над планам святочнага нумара газеты. І камусьці прыйшло ў галаву расказаць маладым чытачам пра людзей, якія з часоў рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны ўвайшлі на Беларусі ў легенды і чые імёны сталі назвамі вуліц Мінска». Удакладняе: «“Круглыя” юбілейныя даты — саракагоддзе, пяцідзесяцігоддзе Савецкай улады, — якія нарадзілі хвалю новай цікавасці да таго, што адбывалася ў дні Кастрычніка, былі яшчэ наперадзе». Так што Мехаў па сутнасці стаў першапраходцам. Спачатку расказаў пра легендарнага начдзіва Анса Даўмана, потым пра Станіслава Берсана.

Пачынаў з журналістыкі, перайшоў да прозы. Бадай, цікавая яго думка наконт таго — добра гэта ці не, калі пісьменнік працуе газетчыкам ці на радыё: «… наўрад ці я стаў бы літаратарам, членам Саюза пісьменнікаў, калі б за дзясятак гадоў перад гэтым не стаў газетным работнікам. І наогул я глыбока перакананы, што хоць аператыўная журналістыка і вымотвае […], газетная школа дае літаратару вельмі многа». 14 кніг напісана Мехавым: «Сцяг над рэўкомам», «Апошняя яўка», «Станцыя паблізу Тамбова», «Добры вечар, камбат», «Слухаецца справа аб замаху…», «Старадаўняя гравюра» і іншыя. Асобна сярод іх стаіць «Сустрэчы ў радыёстудыі», створаная на аснове цыкла радёперадач. Субяседнікі Уладзіміра Львовіча яшчэ тыя: Заір Азгур, Міхаіл Савіцкі, Стэфанія Станюта і іншыя!

Фільмамі пра Івана Пуліхава, Ота Шміта, Ігната Дамейку, Сямёна Косберга, Мікалая Судзілоўскага, Адама Міцкевіча, Андрэя Грамыку і іншых выдатных дзеячаў Мехаў вядомы і як кінасцэнарыст. З’яўляецца таксама аўтарам дзвюх п’ес, выступае і як перакладчык.

## Прыязджай сюды, прыязджай

Мікола Купрэеў нарадзіўся 25 мая 1937 года ў вёсцы Ямнае, але жыў там нядоўга. Пасля вайны сям’я з Рагачоўшчыны пераехала на Палессе. Пасля заканчэння Івацэвіцкай сярэдняй школы, Купрэеў вучыўся ў Брэсцкім дзяржаўным педагагічным іcтытуце імя А. С. Пушкіна. Атрымаўшы ў 1962 годзе вышэйшую адукацыю, настаўнічаў у вясковых школах, быў супрацоўнікам раённых газет.

Друкавацца пачаў у 1957 годзе. Аўтар паэтычных кніг «Непазбежнасць» (1967) і «Правінцыйныя фантазіі» (1995). Яго паэзія вызначаецца метафарыстычнай насычанасцю, асацыятыўнасцю. Купрэеў быў прыхільнікам свабоднага верша. Пісаў не толькі пра сучаснасць, але закранаў і гістарычную праблематыку. Паспяховыя набыткі яго і ў галіне прозы, пра што засведчылі аповесці «Дзіцячыя гульні пасля вайны», «Імгненне светлае», «На вуліцы Карла Маркса з паэтам», «Палеская элегія», «Рэчкаю плывём, плывём», што склалі кнігу прозы «Палеская элегія» (2007). Яна выйшла ў Рэдакцыйна-выдавецкай установе «Литература и Искусство» ў 2007 годзе. На жаль, сам аўтар не змог патрымаць яе ў руках: Купрэеў памёр 19 верасня 2004 года.

Усе пяць аповесцей маюць аўтабіяграфічны характар. Атрымалася па сутнасці пенталогія, у якой згадкі пра даваеннае і ваеннае маленства, развагі пра цяжкі пасляваенны час суседнічаюць з развагамі пра блізкую пісьменніку сучаснасць. Герой аповесцей знаходзіцца ў пошуку самога сябе ў не заўсёды простым свеце. Ягоныя сумненні, расчараванні — гэта і сумненні, расчараванні некаторых прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, якія не прывыклі жыць, як усе, а ва ўспрыманні пэўных падзей, нават асобных дзеячаў мелі сваё меркаванне, адрознае ад усталяванага ў грамадстве. Безумоўна, гэта прыносіла ім нямала непрыемнасцей, дый не дадавала аптымізму.

Шмат у якіх творах — проза не выключэнне — Купрэеў згадвае сваю родную Рагачоўшчыну. У гэтым сэнсе асабліва прывязана да рагачоўскіх рэалій яго паэма «З сястрой і Уладзімірам Караткевічам на Рагачоўшчыне». Выступаў Купрэеў і як перакладчык, пераўвасабляючы па-беларуску некаторыя творы ўкраінскіх паэтаў.

Пішучы пра гасціннасць, хараство ўсёй Беларусі, ён, несумненна, у думках адштурхоўваўся ад тых пачуццяў, што нязменна перажываў падчас наведвання Рагачоўшчыны. Не абавязкова казаў пра гэта, але ўнутраная повязь, безумоўна, адчуваецца, як у адным з лепшых ягоных вершаў «Калі хочаш наведаць мой край». Гэта — як бы запрашэнне на Рагачоўшчыну, але гэта і запрашэнне і на ўсю блакітнавокую Беларусь, хоць праблематыка твора і падказана палескімі рэаліямі. Тым не менш у вершы апасродкавана прысутнічаюць і ўражанні з часу паэтавага маленства.

Сам улюбёны ў літаратуру, Купрэеў гэтую любоў прывіваў і сваім вучням. Прынамсі, трое з іх сталі паэтамі: Мікола Антаноўскі, Алесь Каско, Анатоль Шушко.

## Вярнуўся туды, дзе нарадзіўся

Дзеля роднай Рагачоўшчыны вельмі шмат зрабіў Міхаіл Расолаў, які нарадзіўся 9 кастрычніка 1948 года ў вёсцы Ціхінічы. Скончыўшы мясцовую сярэднюю школу, паступіў на юрыдычны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пасля завяршэння курса навучання, вучыўся ў аспірантуры, потым у дактарантуры. Доктар юрыдычных навук, прафесар, віцэ-прэзідэнт па навуцы Расійскай прававой акадэміі, Расолаў стаў адным з вядучых спецыялістаў Расійскай Федэрацыі ў галіне дзяржаўнага права. Напісаў шмат манаграфій і падручнікаў па розных накірунках юрыдычнай навукі, працаваў ва Урадзе Расіі.

Плённыя дасягненні Расолава і ў галіне літаратуры — восем раманаў, шматлікія аповесці, апавяданні, вершы. Зацікаўлена ставіўся Міхаіл Міхайлавіч да гісторыі, не абмінаючы і тых старонак, што сведчаць аб агульнасці лёсаў беларускага і рускага народаў. Гэтай праблематыкай прасякнуты кнігі «Ефросиния Полоцкая», «Кирил Туровский», «Канцлер Румянцев-Гомельский», «Франциск Скорина», «Андрей Дерябин, Основатель Ижевска», а таксама «Белорус на Московском Патриаршем престоле». Апошняя з іх цікавая тым, што Расолаў увасобіў у ёй воблік аднаго з самых дастойных патрыётаў Белай Русі, свяціцеля Іаасафа.

На жаль, пра яго ведаюць далёка нямногія, а гэта яму самім Усявышнім было наканавана стаць свайго роду сувязным паміж Белай Руссю і Расіяй. На схіле ягонага жыцця сціплага ігумена Аршанскага манастыра выбралі Патрыярхам Маскоўскім і ўсея Русі. У рамане «Белорус на Московском Патриаршем престоле» праўдзіва адлюстраваны той няпросты час, калі сыну зямлі беларускай давялося прыкласці нямала намаганняў, каб праз Праваслаўную веру было дасягнута паразуменне. Тое, пра што расказваў Міхаіл Міхайлавіч у гэтым творы, з’яўлялася блізкім і яму самому. Шчыры вернік, Расолаў шмат рабіў дзеля таго, каб памкненні людскія былі напоўнены агульначалавечымі каштоўнасцямі, а духоўнасць дапамагала пазбавіцца ад усяго наноснага, выпадковага, што прыніжае чалавека.

Міхаіл Расолаў з’яўляўся ініцыятарам шмат якіх гуманітарных праектаў. Галоўныя ж з іх ажыццяўляў сам і за свае сродкі. У прыватнасці, ён паклапаціўся аб адкрыцці карцінных галерэй у гімназіі Рагачова і Азеранскай сярэдняй школе, а гэта больш за 300 мастацкіх палотнаў. Расолаў аплаціў і пабудову храма ў сваёй роднай вёсцы. Каля гэтай праваслаўнай святыні ён знайшоў і свой вечны спачын. Адпяваў Расолава 15 чэрвеня 2013 года епіскап Гомельскі і Жлобінскі Стэфан.

## Прайшоў праз ГУЛАГ

З Рагачова родам і вядомы яўрэйскі паэт, перакладчык Самуіл Галкін, які пісаў на ідзіш. Нарадзіўся 5 снежня 1897 года, памёр 21 верасня 1960 года. Першыя свае творы стварыў на іўрыце. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі некаторы час жыў у Екацярынаславе. Потым гэты горад называўся Днепрапятроўск, а нядаўна перайменаваны ў Днепр (Украіна). У 1922 годзе Галкін пераехаў у Маскву. На ідыш ён пераклаў «Караля Ліра» Уільяма Шэкспіра. За ўвасабленне галоўнай ролі на сцэне Маскоўскага дзяржаўнага яўрэйскага тэатра Саламон Міхоэлс быў прызнаны лепшым выканаўцам яе ў свеце.

У драмах жа ў вершах «Бар-Кохба» «Суламіф» Галкін звярнуўся да старажытнай гісторыі яўрэяў, хоць і асэнсоўваў яе ў духу свайго часу. У прыватнасці, паводле сюжэта сутыкаюцца … класавыя інтарэсы. Тым не менш, гэтыя творы, пастаўленыя яўрэйскімі тэатрамі Савецкага Саюза, паспрыялі росту самасвядомасці яўрэяў. Трагедыя Галкіна «Гетаград» (рускія назвы «Восстание в гетто» і «За жизнь») расказвае пра паўстанне ў Варшаве ў Другую сусветную вайну, але спектакль па ёй не быў паказаны з-за ліквідацыі Маскоўскага дзяржаўнага яўрэйскага тэатра.

Самуіл Галкін прымаў актыўны ўдзел у рабоце Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта. Па справе яго ў 1949 годзе і быў арыштаваны. Калі іншыя былі расстраляны, дык яго ўратавала тое, што з-за інфаркту апынуўся ў бальніцы. Але калі падлячыўся, трапіў у лагер. У 1955 годзе рэабілітавалі, пасля чаго вярнуўся ў Маскву. Незадоўга да смерці ўдзельнічаў у рабоце рэдакцыі часопіса на ідыш «Советиш геймланд» («Советская Родина»).

Творы Галкіна на рускую мову перакладалі Анна Ахматава, Леў Гінзбург, Іосіф Гурэвіч, Марыя Пятровых.

## Два пісьменнікі — два лёсы

Па пашпарце ён Міхаіл Кавалёў, нарадзіўся 31 ліпеня 1950 года ў вёсцы Каменка. Аднак як пісьменнік вядомы пад псеўданімам Міхась Сліва. На выбар псеўданіма яго падштурхнула рэдакцыя часопіса «Вожык», з якой супрацоўнічаў яшчэ студэнтам. Выступаў у розных жанрах. Цягам часу ў некаторых нумарах друкавалася нават па некалькі ягоных матэрыялаў. У аўтабіяграфіі прызнаецца: «Адразу я прапанаваў «М. Кавальскі», але ён не прыжыўся. А калі быў дома, у бацькоў, пайшоў у сад. Погляд мой спыніўся на вялізнай спелай сліве. І тут жа мільганула думка: што, калі — Сліва?.. На Украіне ж ёсць Астап Вішня (у той час яго творы ў перакладзе на беларускую мову часта друкаваліся ў «Вожыку», а ў маладыя гады хочацца на каго-небудзь са знакамітых быць хоць чым падобным), хай будзе ў Беларусі свой «плод» — Сліва! На смак яна бывае і кіславатая, і саладкаватая, вось табе сатыра і гумар. І прапанаваў псеўданім рэдакцыі. Там пасмяяліся і адобрылі».

Скончыўшы Гарадзецкую сярэднюю школу, Міхась вучыўся на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Атрымаўшы дыплом аб вышэйшай адукацыі, у 1973 годзе працаваў літсупрацоўнікам сельскагаспадарчага аддзела быхаўскай раённай газеты «Маяк Прыдняпроўя», дзесяць гадоў быў галоўным рэдактарам рэдакцыйна-выдавецкай групы Беларускага навукова-даследчага інстытута жывёлагадоўлі ў Жодзіне. З 1986 года — інструктар, потым галоўны спецыяліст арганізацыйна-кадравай работы Рагачоўскага райвыканкама. У 1999 годзе перайшоў у рэдакцыю рагачоўскай раённай газеты «Свабоднае слова».

Дзе б ні працаваў, гэта не перашкаджала яму (дый па сённяшні дзень не перашкаджае) пісаць апавяданні, казкі, гумарэскі, мініяцюры, літаратурна-крытычныя артыкулы, рэцэнзіі, займацца перакладам. Выдаў каля дзясяці кніг.

Лаўрэат прэміі «Залаты Купідон», дыпламант першага і другога Усебеларускага фестываляў народнага гумару ў Аўцюках.

Вёска Гута — радзіма празаіка, драматурга, публіцыста, перакладчыка Васіля Ткачова. Нарадзіўся ён 1 студзеня 1948 года. Скончыў Ільічоўскую сярэднюю школу, працаваў у рэдакцыях раённых газет у Івацэвічах і Карме. У 1967 годзе быў прызваны ў армію. Скончыўшы факультэт журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча, з'яўляўся ваенным карэспандэнтам. З 1980 года — карэспандэнт шматтыражкі «Сельмашавец» у Гомелі. Потым быў стылістам, спецыяльным карэспандэнтам «Гомельскай праўды», сакратаром Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў. Дэбютаваў апавяданнем у 1966 годзе ў часопісе «Вясёлка», выдаў шмат кніг для дзяцей, а таксама «дарослай» прозы, публіцыстыкі, напісаў нямала п'ес, якія ставіліся не толькі ў Беларусі, а і за яе межамі. Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, літаратурнай прэміі імя Васіля Віткі, а таксама абласной літаратурнай прэміі імя Аляксандра Капусціна, літаратурнай прэміі імя М. Доўнар-Запольскага і расійскай прэміі Баяна, прэміі Беларускага Саюза журналістаў і міжнароднай прэміі «Дружба» за лепшы публістычны твор.

## Для талентаў сапраўдны рай

Яшчэ колькі пра тое, што можна «знайсці» ў рагачоўскім рагу.

Адна з вуліц Рагачова невыпадкова носіць імя Янкі Купалы. Народны пясняр Беларусі прыязджаў сюды на сустрэчу з воінамі кавалерыйскага палка. Чытаў ім свае вершы. Адзначыў, што яго радуе, як рагачоўцы ўважліва сочаць за парадкам у сваім горадзе, клапоцяцца аб яго чысціні. Іван Дамінікавіч з цікасцю агледзеў Рагачоў, наведаў замчышча, дзе некалі стаяў палац Боны Сфорцы.

З маёнтка Добасня колішняга Рагачоўскага павета родам Ядвігін Ш., адзін з пачынальнікаў беларускай прозы. Яго раман «Золата», што застаўся незавершаным, падступы да стварэння ў нацыянальнай прозе першага эпічнага твора.

27 студзеня 1937 года ў Рагачове нарадзіўся празаік Эдуард Карпачоў. Піша як для дарослых, так і для дзяцей, па-беларуску і па-руску. У вёсцы Папоўцы 15 мая 1942 года пачалася жыццёвая дарога крытыка, аўтара манаграфіі «Васіль Вітка» (1985) Святланы Марчанкі.

Мікола Чарняўскі, ураджэнец вёскі Буда-Лютаўская Буда-Кашалёўскага раёна, у 1960 годзе скончыў Беліцкую сярэднюю школу.

Лёс наканаваў Яфіму Гаварушку не кароткае жыццё — нарадзіўся 15 кастрычніка 1911 года ў вёсцы Востраў, памёр 3 чэрвеня 1992 года ў гарадскім пасёлку Смалявічы. Але ставала яму і нягод, выпрабаванняў. Рана страціўшы бацькоў, выхоўваўся ў дзіцячым доме № 5 у горадзе Бабруйску. Скончыўшы ў 1935 годзе Мінскі вышэйшы педагагічны істытут, настаўнічаў, аднак праз некаторы час арыштавалі. 2 кастрычніка 1937 года асудзілі на шэсць гадоў турмы і на пяць гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў. У 1955 годзе быў рэабілітаваны. Выступаў у друку з апавяданнямі, нарысамі, рэцэнзіямі. Адзін з аўтараў калектыўных зборнікаў «Праўда гісторыі. Памяць і боль» (1991), «Бацькаўшчына» (1992).

Ураджэнец вёскі Кулакі цяперашняга Салігорскага раёна вядомы празаік Аляксей Кулакоўскі ў 1929 годзе вучыўся ў Рагачоўскай прафесіянальна-тэхнічнай школе бондараў.

Паэт-сатырык Міхась Скрыпка — ён родам з вёскі Месціна, сёння гэта Бярэзінскі раён, у 1930 годзе скончыў Рагачоўскі педагагічны тэхнікум, да вайны настаўнічаў на Рагачоўшчыне.

Рагачоўскі педтэхнікум таксама скончыў, толькі ў 1936 годзе, празаік і мовазнаўца Фёдар Янкоўскі, які нарадзіўся ў вёсцы Клетнае, па цяперашнім адміністрацыйным дзяленні Глускага раёна.

Васіль Гарбацэвіч (19.4.1893—17.9.1985), які нарадзіўся ў вёсцы Дукорка, якая пазней увайшла ў склад вёскі Дукора цяперашняга Пухавіцкага раёна, — адзін з пачынальнікаў беларускай драматургіі. Ён у 1913 годзе скончыў Рагачоўскую настаўніцкую семінарыю.

З вёскі Вялікія Стралкі родам літаратуразнаўца, крытык Фёдар Куляшоў (18.61913—29.12.1993), з Кісцянёў — таксама літаратуразнаўца, крытык, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы Юльян Пшыркоў (31.10.1912—23.12.1980).

Літаратурная карта Рагачоўшчыны будзе няпоўнай, калі не згадаць Юрыя Арэстава, Навума Гублера, Міколу Гроднева, Валерыя Гапеева, Насту Кудасаву, Андрэя Паўлухіна, Міколу Старчанку, Уладзіміра Шпадарука, Міколу Янчанку і іншых. Многія рагачоўскія аўтары выступаюць і ў перыёдыцы, у калектыўных зборніках — як у тых, што выходзяць у Гомелі, так і ў самім Рагачове.

З Рагачова родам і дзеячы нацыянальнай культуры: кінааператар і рэжысёр Аляксандр Гінцбург, акцёр Уладзімір Говар-Бандарэнка, жывапісцы Ілья Гуцін, Канстанцін Завіша, Анатоль Каплан; рэжысёр, акцёр і педагог Канстанцін Саннікаў, вядомая савецкая актрыса Людміла Шагалава… Дый далёка не кожны горад можа пахваліцца тым, што ў ім выступаў Фёдар Шаляпін. У Рагачоў жа знакаміты бас Расіі наведаўся ў 1914 годзе. Фёдар Іванавіч даў дабрачынны канцэрт у памяшканні тэатра Мадэрн. Наяўнасць яго ў горадзе сведчыць аб даўніх тэатральных традыцыях у Рагачове. Сёлета, у Год культуры, пра гэта таксама нельга не сказаць. Як і пра тое, што перад Вялікай Айчыннай вайной працаваў Рагачоўскі калгасна-саўгасны тэатр. Творчы ўзровень артыстаў быў высокі, што дазволіла на яго базе стварыць Баранавіцкі абласны драматычны тэатр. Пра тое, што цікавасць да сцэнічнага мастацтва не знікае, засведчыў Рагачоўскі народны тэатр. Шаляпін жа ў Рагачоў прыехаў невыпадкова: ён завітаў у госці да свайго сябра, спевака Марыінскага тэатра Фёдарава, які з’яўляўся ўраджэнцам гэтага горада.

Сапраўды ўжо Рагачоўскі край — для талентаў сапраўдны рай. Святкаванне Дня беларускага пісьменства, несумненна, падкажа творцам тэмы для новых твораў. Усім жа наведвальнікам і гасцям гэтае свята прынясе радасць далейшага далучэння да невычэрпнай крыніцы прыгажосці і натхнення.

З вёскі Вялікія Стралкі родам літаратуразнаўца, крытык Фёдар Куляшоў (18.61913—29.12.1993), з Кісцянёў — таксама літаратуразнаўца, крытык, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы Юльян Пшыркоў (31.10.1912—23.12.1980).

Літаратурная карта Рагачоўшчыны будзе няпоўнай, калі не згадаць Юрыя Арэстава, Навума Гублера, Міколу Гроднева, Валерыя Гапеева, Насту Кудасаву, Андрэя Паўлухіна, Міколу Старчанку, Уладзіміра Шпадарука, Міколу Янчанку і іншых. Многія рагачоўскія аўтары выступаюць і ў перыёдыцы, у калектыўных зборніках — як у тых, што выходзяць у Гомелі, так і ў самім Рагачове.

З Рагачова родам і дзеячы нацыянальнай культуры: кінааператар і рэжысёр Аляксандр Гінцбург, акцёр Уладзімір Говар-Бандарэнка, жывапісцы Ілья Гуцін, Канстанцін Завіша, Анатоль Каплан; рэжысёр, акцёр і педагог Канстанцін Саннікаў, вядомая савецкая актрыса Людміла Шагалава… Дый далёка не кожны горад можа пахваліцца тым, што ў ім выступаў Фёдар Шаляпін. У Рагачоў жа знакаміты бас Расіі наведаўся ў 1914 годзе. Фёдар Іванавіч даў дабрачынны канцэрт у памяшканні тэатра Мадэрн. Наяўнасць яго ў горадзе сведчыць аб даўніх тэатральных традыцыях у Рагачове. Сёлета, у Год культуры, пра гэта таксама нельга не сказаць. Як і пра тое, што перад Вялікай Айчыннай вайной працаваў Рагачоўскі калгасна-саўгасны тэатр. Творчы ўзровень артыстаў быў высокі, што дазволіла на яго базе стварыць Баранавіцкі абласны драматычны тэатр. Пра тое, што цікавасць да сцэнічнага мастацтва не знікае, засведчыў Рагачоўскі народны тэатр. Шаляпін жа ў Рагачоў прыехаў невыпадкова: ён завітаў у госці да свайго сябра, спевака Марыінскага тэатра Фёдарава, які з’яўляўся ўраджэнцам гэтага горада.

Сапраўды ўжо Рагачоўскі край — для талентаў сапраўдны рай.

# ЛЕПШЫЯ ЎЗОРЫ СЕРБСКАЙ САТЫРЫЧНАЙ АФАРЫСТЫКІ

## Аляксандар БАЛЯК (1954 г.н.)

❍ Кароль мёртвы, але гэта сказаць яму ніхто не асмельваецца.

❍ Я вельмі заклапочаны. А чым вы займаецеся?

❍ Я за дыялог. І кропка!

❍ Адчуваю згрызоты сумлення. Значыць, унутраны вораг не дрэмле.

❍ Трэба аб'ектыўна добра пісаць пра нас.

❍ Нашы нястачы не прыходзяць неўспадзеў. Мы — добра арганізаванае грамадства.

❍ Ён усяго сябе прысвяціў іншым. Зусім не валодаў сам сабою.

❍ Ну і здольны чалавек! Яшчэ не паспеў стаць на свае ногі, а на ім ужо ездзяць.

❍ Усе памыляюцца: хто больш, а хто нязменна.

❍ Калі плюём адзін на аднаго, маем больш пунктаў сутыкнення.

❍ Тыя, хто цяпер хоча таго, чаго вы хацелі калісьці,— усяго толькі рэшткі змрочнай мінуўшчыны.

❍ Усё, чаго мы дасягнулі дагэтуль, ахвяравана дзеля будучага прагрэсу.

❍ Аб'ядноўвае нас агульны праціўнік, але і ён доўга не вытрывае.

❍ Наша найлепшая сатыра ўзнікла ў найгоршыя часы, а сатыры сучаснай трэба дачакацца сваёй пары.

❍ Хамелеоны — зоркі пераходнага перыяду.

❍ Пры такой колькасці цудоўных слоў у роднай мове нашы рабочыя «бастуюць»!

❍ Я аднойчы паверыў. І гэтага мне дастаткова на ўсё жыццё.

❍ Вялікія адышлі. Пасля іх засталася вялікая пустата.

❍ Гісторык — той, хто сочыць за сучасным развіццём у мінулым.

❍ Я прыхільнік дыялогу раўнапраўных. Вока за вока, зуб за зуб.

❍ Згодзен, вёў вас я, аднак заблукалі мы разам.

❍ Увесь час вяртаемся на зыходнае, але асноўны напрамак у нас добры.

❍ Не магу быць вашай ахвяраю. Забіце, не магу!

❍ Я не зневажаў гэтай асобы. Мне нават падумаць пра яе гідка.

❍ Аплявуха — інфармацыя з першай рукі.

❍ Вучымся на памылках. Недахоп розуму ў нас мае асветную функцыю.

❍ Пісьменнік, які знішчае сэнс аповеду, на гэтым не спыніцца. Ён і чытача задушыць.

❍ Сярод пісьменнікаў заўсёды было нямала пацыентаў, але становішча стала крытычным, калі і дактары ўзяліся за пяро.

❍ Трэба надрукаваць маю першую кнігу. Нядобра, каб чытачы мяне доўга чакалі.

***Укладанне і пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ.***

АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 284-84-61,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74,
аддзела паэзіі — 284-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны*
*для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар
*М. М. ГІЛЕВІЧ*

Падпісана да друку 15.08.2016 г. Фармат 70×108 $^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,8. Ул.-выд. арк. 16,79. Тыраж 1471 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.